№ 1-2

# КАМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ

ОРГАН НАРКАМАСЬВЕТЫ І САЮЗУ ПРАЦАСЬВЕТЫ БССР

БЕЛДЗЯРЖВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК — 1932

ЗЬМЕСТ



Хроніка



Бібліографія

ПРАЛЕТАРЫ УСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

ШТОМЕСЯЧНАЯ ПАЛІТЫЧНАЯ, ПЭДАЛЁГА-ПЭДАГАГІЧНАЯ
І ПАЛІТЫКА-АСЬВЕТНАЯ ЧАСОПІСЬ

# КАМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ

ОРГАН НАРОДНАГА КАМІСАРЫЯТУ АСЬВЕТЫ
І САЮЗУ ПРАЦАЎНІКОЎ АСЬВЕТЫ







№ 1-2 СТУДЗЕНЬ-ЛЮТЫ № 1-2

МЕНСК ▪ ▪ БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА ▪ ▪ 1932

# Аб узмацненьні барацьбы з ухіламі ў нацыянальным пытаньні.

## Пастанова бюро ЦК і прэзыдыуму ЦКК КП(б)Б

1. КП(б)Б на аснове няўхільнага ажыцьцяўленьня генэральнай лініі партыі і яе неадрыўнай часткі, ленінскай нацыянальнай політыкі, у барацьбе супроць вялікадзяржаўнага шовінізму, як галоўнай небясьпекі на даным этапе, супроць беларускага контр-рэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму, шовінізмаў іншых нацыянальнасьцяй і нацыянал-опортуністычнай агентуры ў радох партыі, дасягнула вялізарных посьпехаў на ўсіх вучастках соцыялістычнага будаўніцтва. Дзякуючы брацкай дапамозе пролетарыяту СССР, шырокімі тэмпамі (перавышаючымі агульнасаюзныя) разгортваецца прамысловасьць БССР (пабудован рад новых буйных прадпрыемстваў: Гомсельмаш, Асінбуд, ф-ка штучнага валакна і інш.), што значна павялічыла рады пролетарыяту і павысіла вядучую ролю прамысловасьці ў народнай гаспадарцы БССР. КП(б)Б дасягнула рашаючых посьпехаў у справе соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі (колектывізацыя 50 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, павялічэньне пасеўных плошчаў, асабліва пад тэхнічнымі культурамі, узмацненьне і рост саўгасаў, асабліва спэцыялізаваных жывёлагадоўчых і інш.)

Вялізарны размах культурнай рэволюцыі, увядзеньне ўсеагульнага абавязковага навучаньня, посьпехі ў ліквідацыі няпісьменнасьці, буйны рост сярэдніх і вышэйшых навучальных устаноў, значнае павялічэньне пролетарскай праслойкі ў гэтых установах, посьпехі мастацтва БССР, абслугоўваньне нацменшасьцяй на роднай мове—усё гэта сьведчыць аб тым, што КП(б)Б з посьпехам выконвае задачу ліквідацыі экономічнай і культурнай адсталасьці БССР.

2. ЦК констатуе, што ня гледзячы на неаднаразовыя ўказаньні ЦК КП(б)Б па ўзмацненьні барацьбы з ухіламі ў бок вялікадзяржаўнага шовінізму ў радзе зьвеньняў партыйнай організацыі гэта задача не знайшла неабходнага адлюстраваньня, і нават ў радзе месц ёсьць выпадкі аслабленьня барацьбы з вялікадзяржаўным шовінізмам. Рад вылазак вялікадзяржаўнага шовінізму не сустракаюць патрэбнага адпору з боку асобных, нізавых парторганізацый. Не пастаўлена сыстэматычная барацьба з прымірэнчымі адносінамі да ўхілу ў бок вялікадзяржаўнага шовінізму. Навуковыя таварыствы і гурткі праявілі пасыўныя адносіны да задачы мобілізацыі тэорытычнай думкі партыі на барацьбу з вялікадзяржаўным шовінізмам.

3. Актывізацыя ўхілу ў бок вялікадзяржаўнага шовінізму за апошні час праявілася ў радзе вылазак. Аднэй з такіх вылазак зьявіліся выступленьні групы вучоных і літаратараў (Вальфсон, Выдра і інш.), якія выходзілі ў сваёй крытыцы нацыянал-дэмократызму не з марксысцка-ленінскай пастаноўкі нацыянальнага пытаньня, а з позыцый вялікадзяржаўных ухілістаў (процістаўленьне нацыянальнай формы культуры яе пролетарскаму зьместу, разважаньні аб перапавялічэньні „асаблівасьцяй“ беларускай нацыі, насьмешлівыя і пагардлівыя адносіны да раду „дробязяй“ нацыянальнай культуры, быту і г. д.).

Праяўленьнем вялікадзяржаўнага ўхілу зьяўляўся падзел асобнымі гісторыкамі марксыстамі (Югаў) комуністаў на вялі-

карускіх, з аднаго боку, і беларускіх, украінскіх і г. д., з другога боку, што стварала антагонізм і прывяло да пагардлівых, нетаварыскіх адносін да паасобных беларускіх работнікаў.

Аслабленьне работы па беларусізацыі, якое наглядаецца то ў аднэй. то ў другой партыйнай арганізацыі, на што ЦК КП(б)Б прыходзілася ня раз паказваць (Віцебск і інш.), зьяўлялася вынікам недаацэнкі нацыянальнага пытаньня і прымірэнчых адносін да ўхілу ў бок вялікадзяржаўнага шовінізму.

Выходзячы з гэтага, ЦК КП(б)Б лічыць першачарговай задачай ўсёй КП(б)Б павысіць пільнасьць да вылазак і праяўленьняў вялікадзяржаўнага ўхілу, як галоўнай небясьпекі на даным этапе, і організаваць яшчэ больш актыўную барацьбу з ім, наносячы рашучы ўдар па апортуністычным і абывательскім прымірэнцтве да вялікадзяржаўнага ўхілу.

4. Барацьба супроць беларускага нацыянал-дэмократызму і нацыянал-опортунізму вялася, вядзецца і будзе праводзіцца ўсёй КП(б)Б з бальшавіцкай цьвёрдасьцю і настойлівасьцю. Разгортваньне бальшавіцкіх тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва і значныя посьпехі дасягнутыя КП(б)Б у індустрыялізацыі і соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, было немагчыма без рашучай барацьбы КП(б)Б з ўсімі праяўленьнямі опортунізму і шовінізму, у тым ліку без пасьпяховай барацьбы з беларускім нацыянал-дэмократызмам і яго нацыянал-опортуністычнай агентурай у радох партыі.

Адначасова ЦК лічыць, што прыняты ў радзе кіруючых артыкулаў, зацьверджаных ЦК у 1929 г. і пачатку 1930 г., а таксама прыняты у пастановах XIII зьезду КП(б)Б па дакладу аб профсаюзах лёзунг аб тым, што нацыянал-дэмократызм зьяўляецца галоўнай небясьпекай на даным этапе, зьяўляўся памылковым лёзунгам. Такая пастаноўка пытаньня супярэчыла пастановам XII зьезду РКП(б) і XVI зьезду УсеКП(б).. У пэўнай суадпаведнасьці з пастановамі і ўказаньнямі XVI зьезду УсеКП(б), КП(б)Б неадкладна пасьля зьезду прыняла установку аб тым, што галоўную небясьпеку на даным этапе прадстаўляе вялікадзяржаўны ўхіл, „які імкнецца рэвізаваць асновы ленінскай нацполітыкі і пад сьцягам інтэрнацыяналізму, прыкрываючы імкненьні аджываючых клясаў панаваўшай раней вялікадзяржаўнай нацыі, вярнуць сабе страчаныя прывілеі“ (XVI зьезд УсеКП(б).

5. Наяўнасьць на вызначаным этапе няправільнага лёзунгу аб тым, што нацыянал-дэмократызм зьяўляецца галоўнай небясьпекай, не дае ніякіх падстаў рэвізаваць праведзеную КП(б)Б барацьбу з нацыянал-дэмократызмам і нацыянал-опортунізмам. Выкрыцьцё і барацьба супроць нацыянал-дэмократызму і яго агентуры ў радох партыі—нацыянал-опортунізму—была праведзена компартыяй Беларусі зусім правільна.

ЦК заклікае ўсе парторганізацыі КПбБ даць бязьлітасны адпор усялякім спробам перагледзець, або ахаяць політыку партыі ў барацьбе з нацыянал-дэмократызмам і нацыянал-опортунізмам. Пасьлядоўная і непрымірымая барацьба супроць нацыянал-дэмократызму і нацыянал-опортунізму складае і надалей важнейшую задачу ўсёй КП(б)Б.

Памылковасьць лёзунгу аб нацыянал-дэмократызьме, як галоўнай небясьпецы на даным этапе, заключалася ў тым, што гэты лёзунг не концэнтраваў галоўнага агню супроць вялікадзяржаўнага ўхілу і тым самым не садзейнічаў неабходнай мобілізацыі партыйных сіл на барацьбу з ім.

6. ЦК КП(б)Б заклікае мясцовыя парторганізацыі да большай пільнасьці і ў адносінах ухілу ў бок мясцовага (беларускага, польскага, яўрэйскага, і інш.) шовінізмаў. Нацыянал-дэмократызм і нацыянал опортунізм у выніку пасьлядоўнай барацьбы КП(б)Б пацярпелі жорсткае паражэньне, але ня зьнішчаны. Работа нацыянал-дэмократычных элемэнтаў і цяпер працягваецца.

Разьбіты і скомпрамэтаваны ў вачох шырокіх мас працоўных, контр-рэволюцыйны нацыянал-дэмократызм будзе выяўляцца як у старых, так і ў новых некалькі іншых формах. Гэта патрабуе далейшага ўзмацненьня пільнасьці з боку ўсёй КП(б)Б да ўсялякіх праяўленьняў у радох партыі ўхілу ў бок мясцовага беларускага шовінізму.

„Сутнасьць ухілу да мясцовага нацыяналізму заключаецца ў імкненьні абасобіцца і замкнуцца ў рамках сваёй нацыянальнай шкарлупы, у імкненьні затушаваць клясавыя супярэчнасьці унутры сваёй нацыі, у імкненьні абараніцца ад вялікарускага шовінізму, шляхам адыходу ад агульнага патоку соцыялістычнага будаўніцтва, у імкненьні ня бачыць таго, што зьбліжае і злучае працоўныя масы нацыянальнасьцяй СССР і бачыць только тое, што можа іх аддаліць адну ад другой“ (Сталін).

Аднэй з форм праяўленьняў ухілу ў бок мясцовага шовінізму зьяўляецца падыход да нацыянальных кадраў бяз уліку ідэолёгічнай вытрыманасьці і соцыяльнага складу гэтых кадраў, забываючы і затушоўваючы тое, што адзіным крытэрыем для ацэнкі комуніста зьяўляецца ступень яго партыйнай вытрыманасьці і здольнасьць на справе ажыцьцяўляць генэральную лінію партыі.

7. ЦК зварачае сур'ёзную ўвагу ўсёй КП(б)Б на неабходнасьць значнага ўзмацненьня справы падбору і ўцягненьня ў кіруючую партработу партыйна-вытрыманых кадраў беларускіх работнікаў і іх выхаваньне ў духу бальшавіцкай няпрымірлівасьці да ўхілаў ад генэральнай лініі партыі. „Апіраючыся на посьпехі прамысловага будаўніцтва, партыя павінна шырока разгарнуць вылучэньне рабочых на партыйную, савецкую і гаспадарчую работу, аб'яднаючы гэта вылучэньне з выхаваньнем і падрыхтоўкай новых кадраў“ (кастрычніцкі пленум ЦК КП(б)Б, 1930 г.) Пры гэтым неабходна, разам з уважлівымі, беражлівымі адносінамі да комуністычных кадраў КП(б)Б, разгортваць бальшавіцкую самакрытыку, рашуча выцягваючы памылкі і скажэньні генэральнай лініі партыі, а таксама вядучы барацьбу супроць конкрэтных носьбітаў вялікадзяржаўнага і мясцовага шовінізмаў.

8. КП(б)Б і далей будзе бязьлітасна змагацца супроць недаацэнкі работы сярод нацыянальных меншасьцяй (палякаў, яўрэяў і інш.), супроць антысэмітызму і ігнараваньня работы сярод працоўных палякаў. Разгортваньне і далейшае ўзмацненьне работы сярод нацыянальных меншасьцяй БССР зьяўляецца неадрыўнай часткай барацьбы за ленінскае вырашэньне нацыянальнага пытаньня. ЦК патрабуе ад усіх парторганізацый сапраўднага паляпшэньня культурна-экономічнага абслугоўваньня працоўных нацменшасьцяй, даючы бязьлітасны адпор імкненьням клерыкальных і шовіністычных элемэнтаў разбурыць адзінства працоўных розных нацыянальнасьцяй, памятаючы, што толькі ўважлівымі адносінамі да штодзённых патрэб нацыянальных меншасьцяй можна яшчэ ў большай ступені актывізаваць іх удзел у агульным соцыялістычным будаўніцтве.

9. Выходзячы з вышэйадзначанага, ЦК ставіць перад усёй КП(б)Б наступныя практычныя задачы:

а) неаслабна праводзіць політыку беларусізацыі, прымаючы рашучыя меры ўзьдзеяньня ў адносінах да тых кіруючых нізавых раённых і цэнтральных работнікаў, якія ігнорують беларусізацыю і асабліва не вывучаюць беларускай мовы;

б) далейшае растлумачэньне шырокім масам працоўных, у першую чаргу пролетарскім масам, значэньня правадзімай КП(б)Б беларусізацыі, разгортваючы ўпартую сыстэматычную работу па беларусізацыі рабочай клясы з улікам усіх умоў, адзначаных пастановай кастрычніцкага (1930) пленуму ЦК КП(б)Б;

в) правядзеньне неаслабнага змаганьня з антыленінскай тэорыяй барацьбы дзьвёх культур, як у яе вялікадзяржаўна-расійскай, так і беларускай рознавіднасьці; ЦК папярэджвае, што абмежаваньне задач па беларусізацыі адным толькі вывучэньнем беларускае мовы зьяўляецца недаацэнкай нацыянальнага пытаньня і што справа сапраўднага ажыцьцяўленьня ленінскай нацыянальнай політыкі заключаецца ў аўладаньні парторганізацыяй і рабочай клясай усімі процэсамі нацыянальна-культурнага будаўніцтва (тэорытычны фронт, мастацкая літаратура і творчасьць, агульны фронт мастацтва); толькі пры гэтых умовах можа быць забясьпечана сапраўднае пралетарскае кіраўніцтва нацыянальна-культурным будаўніцтвам;

г) узмацненьне ўвагі да пытаньняў разьвіцця вышэйшых форм беларускай

культуры—нацыянальнай па форме, пролетарскай па зьмесьце (літаратура, тэатр, кіно, музыка), дасканалае вывучэньне процэсаў, якія адбываюцца ў гэтай галіне з мэтай далейшага ўзмацненьня пролетарскага кіраўніцтва гэтымі процэсамі і больш поўнага адлюстраваньня сучаснага этапу соцыялістычнага будаўніцтва ў розных галінах мастацтва, паказ ударнікаў у літаратуры, тэатры, кіно і г. д.

д) узмацненьне спэцыяльнай увагі да сярэдніх і вышэйшых навучальных устаноў БССР з мэтай паляпшэньня справы падрыхтоўкі маладых кадраў пролетарскай нацыянальнай інтэлігенцыі ужыўшы таксама захады да правільнага падбору і ўзмацненьня падрыхтоўкі выкладчыцкага пэрсоналу, здольнага выканаць акрэсьленыя задачы. ЦК даручае культпропу ЦК і Наркомасьветы прыняць неабходныя мерапрыемствы да паляпшэньня работы Комвузу імя Леніна, Інстытуту гісторыі партыі і Акадэміі навук БССР і ўзмацненьня іх ролі ў справе падрыхтоўкі клясава-вытрыманых навуковых кадраў;

е) даручыць нацкамісіі ЦВК і культпропу ЦК распрацаваць практычныя мерапрыемствы па ўзмацненьні работы ў галіне беларусізацыі сярод рабочых і ва ўсіх установах, ужыўшы крокі да самай шырокай популярызацыі чарговых задач нацыянальнай політыкі КП(б)Б (на сходах, у гуртках, партшколах і г. д.).

10. ЦК падкрэсьлівае, што правільнае змаганьне за практычнае ажыццяўленьне ленінскай нацыянальнай політыкі можа з посьпехам праводзіцца толькі на основе далейшага разгортваньня бязьлітаснай барацьбы супроць вялікадзяржаўнага ўхілу, як галоўнай небясьпекі на даным этапе, супроць беларускага шовінізму і контр-рэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму, шовінізмаў розных колераў і адценьняў і нацыянал-опортуністычнай агентуры ў радох партыі; толькі ня основе аўладаньня і кіраўніцтва з боку партыі і пролетарыяту ўсімі процэсамі нацыянальна-культурнага будаўніцтва ў БССР, няўхільна змагаючыся за чыстату генэральнай лініі партыі, даючы рашучы адпор праваму ўхілу, найбольш небясьпечнаму на даным этапе, яго „левым“ саюзьнікам і прымірэнцтву да ўхілаў,—БССР пад кіраўніцтвам КП(б)Б і УсеКП(б) і пры брацкай дапамозе пролетарыяту ўсяго Савецкага саюзу дасягае новых, яшчэ большых посьпехаў у справе соцылістычнага будаўніцтва.

---

**ХВ. Сьцепанюк.**

## Прамова т. Леніна на II зьезьдзе працаўнікоў палітасьветы і задачы палітасьветработы.

У 1921 годзе 13-га кастрычніка на II зьезьдзе працаўнікоў палітасьветы У. І. Ленін прысьвечыў сваю прамову аб новай эканамічнай палітыцы і задачах палітасьвет работы.

У той час пытаньне новай эканамічнай палітыкі зьўлялася асноўным рашаючым пытаньнем. Новая эканамічная палітыка зьяўлялася неабходнай умовай для замацаваньня кастрычніцкіх заваёў і далейшага разгортваньня пралетарскай рэвалюцыі.

Палітыка вайсковага камунізму, з пераходам да мірнага гаспадарчага будаўніцтва, прадразьвёрстка ў вёсцы, зьявілася асноўнай перашкодай уздыму вытворчых сіл краіны і аказалася асноўнай прычынай глыбокага эканамічнага крызісу вясны 1921 г.

Новая эканамічная палітыка азначае замену разьвёрсткі падаткам, азначае пераход да аднаўленьня капіталізму ў значнай меры. У якой меры—мы гэтага ня ведаем. Канцэсіі з замежнымі

капіталістамі, арэнда прыватных капіталістаў—гэта і ёсьць прамоеаднаўленьне капіталізму, і гэта зьвязана з карэньнямі новай эканамічнай палітыкі. Таму, што зьнішчэньне разьвёрсткі азначае для сялян вольны гандаль сельскагаспадарчымі рэшткамі, ня ўзятымі падаткам, а падатак бярэ толькі невялікую частку прадуктаў. Сяляне складаюць гіганцкую частку ўсяго насельніцтва і ўсёй эканомікі, і пагэтаму на глебе гэтага вольнага гандлю капіталізм ня можа не расьці". (Ленін, т. XXVII, ст. 40,3 выд.).

Ленін і партыя бачылі ў новай эканамічнай палітыцы, пераход ад „штурмавой атакі" расійскага капіталізму, да працяжнай яго асады, як адступленьне назад у цэлым шэрагу галін эканомікі дзеля таго, „каб спачатку адступіць, а потым разьбегчыся і мацней скокнуць уперад".

На гэтым зьезьдзе Ленін з усёй рашучасьцю паставіў пытаньне „хто каго", хто хутчэй выкарыстае гэтае новае становішча. „Усё пытаньне, за кім пойдзе сялянства. За пролетарыятам, які імкнецца пабудаваць сацыялістычнае грамадзтва, альбо за капіталістым, які кажа: „павярнем назад, бо яно бясьпечней, а то яшчэ якойсьці сацыялізм выдумалі".

Гэта сапраўдны быў адзіны правідловы стратэгічны плян партыі для ўздыму вытворчых сіл краіны і гэтым самым падвядзеньня эканамічнай базы пад будаўніцтвам фундаманту сацыялістычнай эканомікі.

Партыя Леніна, ідучы па ленінскаму шляху, адкідаючы панікёраў, ныцікаў, апартуністаў усіх колераў, адносна ў кароткі час ад адступленьня перайшла да разгорнутага наступленьня па ўсяму фронту, заваёўваючы адну пазыцыю за другой.

Ужо XI зьезд партыі па дакладу Цэнтральнага камітэту заявіў, што „усёй сумай праведзеных і вызначаных за апошні год мер вычэрпваюцца прызнаныя партыяй неабходныя ўступкі прыватна-гаспадарчаму капіталізму прызнае ў гэтым сэнсе адступленьне закончаным і лічыць чарговай задачай перагрупіроўку партыйных сіл". А праз год XII зьезд партыі адзначыў, што „Першыя прызнакі пачынаючага гаспадарчага адраджэньня краіны ў наяўнасьці." „А 14-ы зьезд партыі выходзіць з таго, што „наша краіна, краіна дыктатуры пралетарыяту, мае „ўсё неабходнае для пабудовы поўнага сацыялістычнага грамадзтва" (Ленін); у наяўнасьці эканамічнае наступленьне пралетарыяту, на базе новай эканамічнай палітыкі, і прасоўваньне эканомікі ў бок сацыялізму, дзяржаўная сацыялістычная прамысловасьць становіцца авангардам народнай гаспадаркі, вядучым за сабой народную гаспадарку ў цэлым".

Далей—15 зьезд партыі паказвае, што „аднаўленчы пэрыяд у агульных рысах магчыма лічыць закончаным; народная гаспадарка ўваходзіць у новы пэрыяд свайго разьвіцьця, пэрыяд перабудовы гаспадаркі на аснове больш высокай тэхнікі; галоўнейшымі вынікамі аднаўленчага працэсу зьяўляюцца: забесьпячэньне кіруючай ролі камандных эканамічных вышынь, знаходзячыхся ў руках пралетарыяту".

Да часу 16-га зьезду партыі ў нашай краіне вызначыліся новыя сацыяльна-эканамічныя зрухі. Партыя дабілася рашаючых посьпехаў у галіне сацыялістычнай рэканструкцыі ўсяе народнае гаспадаркі: індустрыялізацыі краіны і калектывізацыі сельскае гаспадаркі. Мы мелі каранны паварот бядняцка-серадняцкіх мас сялянства ў бок калгаснага будаўніцтва. І на аснове калгаснага і саўгаснага будаўніцтва краіна атрымала магчымасьць ня толькі замяніць кулацкую вытворчасьць, вытворчасьцю калгасаў і саўгасаў, але перакрыць яе ў некалькі разоў, гэтым самым вырашыць у асноўным збожжавую праблему і накапіць некаторыя рэзэрвы.

Гэтыя посьпехі далі поўную магчымасьць партыі перайсьці ў разгорнутае наступленьне сацыялізму па ўсяму фронту, перайсьці ад палітыкі абмяжаваньня і выцясьненьня кулацтва да палітыкі „ліквідацыі кулацтва як клясы, на базе суцэльнай калектывізацыі".

Тав. Сталін на 16 зьезьдзе партыі, гаворачы аб наступленьні сацыялізму па ўсяму фронту адзначыў, што, „пера-

ходзячы ў наступленьне па ўсяму фронту, мы яшчэ не адмяняем НЭПУ, таму што прыватны гандаль і капіталістычныя элемэнты яшчэ застаюцца, таваразварот і грашовая гаспадарка яшчэ застаюцца,— але мы напэўна адмяняем пачатковую стадыю нэпу, разгортваючы наступную яго стадыю, сучасную стадыю нэпу, якая ёсьць апошняя стадыя нэпу."

За пройдзены адносна кароткі гістарычны шлях, ад другога зьезду палітасьветных працаўнікоў да сучаснага пэрыяду, рабочая кляса Савецкага саюзу, пад кіраўніцтвам ленінскай комуністычнай партыі, дабілася сусьветна-гістарычных перамог. Мы ня толькі аднавілі разбураную і імпэрыялістычнай і грамадзянскай вайной народную гаспадарку, ня толькі рэканструявалі старыя фабрыкі і заводы, але пабудавалі новую прамысловасьць, сотні новых буйнейшых міравых гігантаў: Волхаўбуд, Днепрабуд, Магнітагорскі камбінат, Кульзьнецкбуд, Сталінградзкі і Харкаўскі трактарныя заводы, Маскоўскі аўтазавод імя Сталіна, Ніжагародзкі аўтазавод, Саратаўскі завод камбайнаў і шэраг іншых. Падвялі магутную энэргетычна-тэхнічную базу пад усю народную гаспадарку.

СССР з краіны „нэпаўскай" аграрнай, як казаў т. Ленін, ператварылася ў краіну самага буйнага ў сьвеце зямляробства, дзе цяжкая прамысловасьць пастаўлена цьвёрда на ногі, чым утворана ўласная база для правядзеньня рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі. Асабліва непамерна вялікія посьпехі атрыманы ў 1931 3-м рашаючым годзе пяцігодкі.

Трэці, рашаючы, год пяцігодкі быў годам вялізарнейшых перамог рабочае клясы Савецкага саюзу на ўсіх вучастках сацыялістычнага будаўніцтва. „У 1931 г. СССР завяршыў пабудову фундаманту сацыялістычнай эканомікі" („Праўда" ад 1/1—32 г.).

Пастаўленае Леніным пытаньне „хто каго" канчаткова вырашана супроць капіталізму на карысьць сацыялізму ня толькі ў прамысловасьці, але і ў сельскай гаспадарцы. Сацыялістычны сэктар зараз зьяўляецца пераможным і вядучым ва ўсёй народнай гаспадарцы краіны. Так, у БССР удзельная вага сацыялістычнага сэктару ў народным прыбытку дасягнула 75-80 проц. Прычым, на аснове індустрыялізацыі краіны, удзельная вага прамысловасьці заняла пераважнае месца. дасягнула 51,7% ва ўсёй прадукцыі народнае гаспадаркі 1931 г. Гэта сьведчыць аб пасьпяховым ператварэньні БССР з краіны аграрнаадсталай у краіну індустрыяльна-калгасную.

На аснове гэтых перамог пралетарыят СССР і БССР узмацніў свае клясавыя пазыцыі, павялічыў значна сваю ўдзельную вагу і кіруючую ролю ва ўсім сацыялістычным будаўніцтве, дабіўся значнага павышэньня свайго матар'яльна-культурнага ўзроўню (рост рабочае клясы толькі за 1931 г. у СССР на 2 міл. чал., БССР—на 11 тыс. чал., рост зарплаты па СССР 16 проц. к 1930 г. і па БССР на 23,3 проц. і г. д., пры поўным зьнішчэньні беспрацоўя.).

Рабочая кляса на аснове індустрыялізацыі краіны дасягнула вялізарных і рашаючых посьпехаў у справе сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі. Трэці год пяцігодкі быў годам завяршэньня ў асноўным суцэльнай калектывізацыі збожжавых раёнаў. З посьпехам ажыцьцяўляецца лёзунг—ліквідацыя кулацтва як клясы на аснове суцэльнай калектывізацыі. Сацыялістычны сэктар заняў пераважную ролю ў сельска гаспадарчай эканоміцы. Узровень калектывізацыі сельскай гаспадаркі па становішчу на 1/І 32 г. па СССР дасягнуў звыш 62 проц. і па БССР—звыш 50 проц. Калгасьнік ператварыўся ў цэнтральную фігуру земляробства і ў моцную і надзейную апору партыі і савецкае ўлады на вёсцы.

Такавы ў асноўным перамогі разгорнутага сацыялістычнага будаўніцтва. Такавы ў асноўным сацыяльна-эканамічныя зрухі сучаснага пэрыяду сацыялізму.

На фоне агульных посьпехаў сацыялістычнага будаўніцтва мы дабіліся вялізарных посьпехаў і ў галіне культурнага будаўніцтва. Індустрыялізацыя краіны, сацыялістычная рэканструкцыя сельскае

гаспадаркі стварылі нябачаныя магчымасьці, падвялі вялізарную матар'яльную базу культурнай рэвалюцыі. Ленін на 2-м зьезьдзе палітасьвет працаўнікоў сказаў, што „пры нашай някультурнасьці мы ня можам вырашыць лабавой атакай гібель капіталізму“ і далей Ленін падкрэсьліў, што „пакуль ёсьць у краіне такое зьявішча, як няпісьменнасьць, аб палітычным выхаваньні надзвычайна цяжка казаць“. Ленін на гэтым зьезьдзе высунуў задачу ўздыму культуры, барацьбы з няпісьменнасьцю, як адну з самых чарговых задач у першую чаргу палітасьветаў.

„Нам патрэбна вялізарнае павышэньне культуры. Нам патрэбна, каб чалавек на справе карыстаўся ўменьнем чытаць і пісаць, каб ён меў газэты і прапагандысцкія брашуры, каб яны правільна разьмяркоўваліся і дахадзілі да народу. Патрэбна навучыцца карыстацца тым мізэрным, што ў нас маецца. Вось чаму ў сувязі з новай эканамічнай палітыкай трэба бязупынна высоўваць думку, што палітычная асьвета патрабуе павышэньня культуры. Патрэбна дабіцца, каб уменьне чытаць і пісаць служыла падвышэньнем культуры, каб селянін атрымаў магчымасьць прымяняць гэтае ўменьне чытаць і пісаць да палепшаньня сваёй гаспадаркі, сваёй дзяржавы“.

Зусім бясспрэчным і зразумелым будзе тое, што У. І. Ленін так шмат надаваў увагі справе барацьбы з няпісьменнасьцю, падвышэньню культуры, калі зьвярнуцца нам да мінулага

Мы атрымалі ў спадчыну ад памешчыцка-капіталістычнага царскага ладу, разам з тэхнічна-эканамічнай адсталасьцю вялікую культурную адсталасьць, амаль што пагалоўную няпісьменнасьць працоўнага насельніцтва БССР. У 1921 г. у БССР было 68,5 проц. няпісьменных пры зусім малай колькасьці пачатковых школ і некалькі сярэдніх навучальных устаноў, ня кажучы аб палітасьветнай сетцы, якая была ў той час зусім мізэрнай.

Пад сьцягам Леніна, змагаючыся за ленінскія наказы, за марксысцка-ленінскую тэорыю і навуку—за гэтыя дзесяць год з часу 2-га зьезду палітасьветаў БССР дабілася вялізарных посьпехаў у барацьбе за пралетарскую па зьместу і нацыянальную па форме культуру.

Гэтыя посьпехі ў асноўным заключаюцца ў наступным:

1) У 1931-32 навучальным годзе да 1 мая 1932 г. БССР ператвараецца ў краіну суцэльнай пісьменнасьці. Падвышэньнем агульнай і палітэхнічнай адукацыі малапісьменных, ахоплена звыш 500 тысяч чалавек,

2) Ужо на працягу 2 год ажыцьцяўляецца ўсеагульнае пачатковае навучаньне дзяцей 8-11 год, якіх ахоплена каля 650 тысяч чалавек.

3) Зроблен пераход да 7-гадовага навучаньня, ахоплена звыш 100 тысяч чалавек.

4) Уводзіцца ўсеагульнае дашкольнае выхаваньне, а таксама ўсеагульнаетэхнічнае навучаньне.

Рашуча адбываецца перабудова школы ў сапраўдную савецкую палітэхнічную школу на падставе ажыцьцяўленьня гістарычных пастаноў ЦК УсеКП і ЦК КП(б)Б аб сярэдняй і масавай школе.

6) Дасягнуты вялікія посьпехі ў галіне падрыхтоўкі пралетарскіх кадраў: разгорнута вялікая сетка сярэдніх навучальных устаноў—88 тэхнікумаў, у якіх навучаецца звыш 22 тысяч чалавек, адчынена 26 вышэйшых навучальных устаноў, у якіх навучаецца 10.500 чалавек і г. д.

Значна разгорнута сетка палітасьветных устаноў: клюбаў, дамоў, культуры, бібліятэк, тэатраў, кіно радыё і г. д.

Вялізарныя посьпехі ў галіне культурнай рэвалюцыі дасягнуты, выключна дзякуючы няўхільнаму правядзеньню генэральнай лініі партыі, ажыцьцяўленьню ленінскай нацпалітыкі партыі, у рашучай барацьбе супроць ухілаў, як у бок вялікадзяржаўнага шавінізму, галоўнай небясьпекі на дадзеным этапе, так і разгрому і далейшай барацьбы з контррэвалюцыйным беларускім нацыянал-дэмакратызмам і з іншымі колерамі шавінізму.

Аднак, сучаснае разгорнутае сацыялістычнае будаўніцтва асабліва ў 1932 г.— 4-м і заключным годзе пяцігодкі – пры ўсё ўзрастаючых вялізарных патрабаваньнях з боку рабочае клясы, калгасьнікаў і працоўных мас з усёй вастратой і настойлівасьцю патрабуюць далейшага ўзьняцьця тэмпаў культурнага будаўніцтва на ўзровень агульнагаспадарчых тэмпаў і новых задач.

Асабліва гэтае запатрабаваньне прад'яўляецца да масавай культурна-палітасьветнай работы, якая найбольш адстала і найбольш закінута ў сучасны пэрыяд.

ЦК КП(б)Б па дакладу НКА аб становішчы работы палітасьветных устаноў на вёсцы канстатаваў, што „сучаснае становішча палітасьветнай і культурна-масавай работы на вёсцы, асабліва ў сацсэктары, зьяўляецца яўна нездавальняючым, значна адстаючым ад задач рэканструкцыйнага пэрыяду і ад узросту запатрабаваньняў працоўных мас (зусім слаба разгорнута сетка, і дрэннае матар,-яльнае забесьпячэньне палітасьветустаноў, недастатковая забясьпечанасьць кадрамі і мерапрыемствамі па іх падрыхтоўцы, непрыстасаванасьць работы палітасьвет устаноў на выкананьне асноўных задач партыі і ўлады)“.

Дадзеная характарыстыка ў пастанове ЦК КП(б)Б у 1931 г. застаецца поўнасьцю ў сіле і па становішчу на сучасны пэрыяд. З часу гэтай пастановы мы маем ня толькі палепшаньне палітасьветработы, а нават пагоршаньне яе ў паасобных раёнах (Бабруйск, Быхаў і інш.).

Такое становішча зьяўляецца вынікам „палітычнай недаацэнкі, зусім слабага кіраўніцтва гэтай адказьнейшай галінай культурнага будаўніцтва, як з боку органаў Нарасьветы, так і з боку мясцовых партыйных, савецкіх, прафэсійных і іншых арганізацый“.

Такое становішча патрабуе безадкладнага „ўзьняцьця палітасьветнае работы на належную палітычную вышыню, рашуча забясьпечыўшы штодзённае кіраўніцтва ёю ў напрамку мабілізацыі актыўнасьці рабочых, батрацкіх, калгасных, бядняцка-серадняцкіх мас на ажыцьцяўленьне генэральнай лініі партыі і выкананьне чарговых палітычна-гаспадарчых задач і кампаній. (З той-жа пастановы ЦК).

Каранным чынам перабудаваць усю масавую, культурную, палітасьветную работу ў адпаведнасьці да новых умоў і новых задач сацыялістычнага будаўніцтва. Першачарговай задачай у разгортваньні культурна-палітасьветнай работы павінны стаць асноўныя,вядучыя галіны: прадпрыемствы, новабудоўлі, транспарт, торфараспрацоўкі, МТС, саўгасы, калгасы. Перанесьці палітасьветную работу непасрэдна ў цэх, агрэгат, групу і брыгаду, вылучыць спэцыяльна ў галіне абслугоўваньня ўдарнікаў, кваліфікаваных рабочых і г. д.

Рашаючай умовай, забясьпечваючай перабудову ўсёй масавай, культурнай, палітасьветнай работы, зьяўляецца безадкладнае і поўнае ажыцьцяўленьне ў працы ўсіх культпалітасьветных устаноў 6 гістарычных умоў т. Сталіна, сказаных на нарадзе гаспадарнікаў.

Пара ўжо ўпарадачыць культурную палітасьветную работу, зьнішчыць паралелізм, адсутнасьць плянавай увязкі, пануючую абязьлічку і адсутнасьць адказнасьці за масавую, культурную палітасьветную работу.

Неабходна безадкладна прыступіць да складаньня і правядзеньня ўсёй работы на прадпрыемствах, новабуоўлях, транспарце, у саўгасах, МТС і калгасах па адзінаму культпляну, які павінен ахапляць усе асноўныя мерапрыемствы, зьвязаныя з вырашэньнем задач культурнае рэвалюцыі і ўключаючых усе арганізацыі, усе сілы прадпрыемства, цэху, саўгасу, калгасу, фрафсаюзныя, грамадзкія, каапэрацыйныя і дабраахвотныя арганізацыі, з мэтаю правільнай і найбольш мэтазгоднай іх расстаноўкі на рашаючых вучастках барацьбы за выкананьне прамфінпляну, за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў.

Поўнасьцю зьнішчыць пануючую абязьлічку ў палітасьветнай рабоце, устанавіць для кожнай установы, для кожнага працаўніка канкрэтны круг—аб'ём абавязкаў, даць заданьне, прымацаваць да пэўнага вучастку, да пэўнай брыгады. Устанавіць сталы кантроль праверкі іх выкананьня, павысіць адказнасьць ва ўсёй сыстэме палітасьветнай работы.

Мабілізаваць і прыцягнуць да работы ўвесь культ-актыў, найбольш актыўных рабочых, калгасьнікаў у якасьці культарганізатараў, культармейцаў. Вылучыць на кожным вучастку, у цэху, брыгадзе сталых культарганізатараў, па пэўных галінах культработы. Арганізаваць пры культпалітасьвет установах сталыя сэктары, брыгады, групы па асобных галінах работы. Наладзіць пэрыядычную прапрацоўку асноўных пытаньняў работы з культактывам. Арганізаваць сыстэматычнае падвышэньне агульна-палітычных і спэцыяльных ведаў культармейцаў, з тым, каб замацаваць і спэцыялізаваць культармейцаў на пэўных галінах культработы.

Асабліва і ў першую чаргу неабходна ўкамплектаваць сталымі працаўнікамі ўсе культпалітасьветныя ўстановы. Поўнасьцю выканаць пастанову ЦК партыі і СНК аб звароце па палітасьветную работу ўсіх працаўнікоў, якія скончылі палітасьветныя тэхнікумы і спэцыяльныя курсы.

Новыя ўмовы, новыя задачы сацыялістычнага будаўніцтва патрабуюць новых форм, мэтадаў і прыёмаў масавай культурнай палітасьветнай работы.

Патрэбна ўжыць такія формы і мэтады работы, праз якія б магчыма было мабілізаваць і прыцягнуць шырокія масы рабочых, калгасьнікаў, бядняцка-серадняцкія колы на вырашэньне задач культурнай рэвалюцыі.

Такімі мэтадамі масавага руху за пралетарскую культуру зьяўляюцца культпаход і вышэйшая яго форма, культэстафэта, культштурмы, грамадзкі буксір і інш.

Гэтыя найбольш масавыя формы і мэтады мабілізацыі мас на разгорнутае наступленьне па ўсяму фронту культурнага будаўніцтва разьлічаны на пэўныя ўдарныя вучасткі па маршрутах (паход па ўсенавучу, лікбезу, кадрах, тэхпаход, аграпаход, бібпаход і інш.) па пэўных пэрыядах па этапах з стала акрэсьленымі канкрэтнымі задачамі і заданьнямі дзейнічаньня.

Разгортваньне масавага руху, правядзеньне культпаходу зьяўляецца адным з сродкаў сацыялістычнага мэтаду працы— сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, якое (сацспаборніцтва і ўдарніцтва) надзвычайна шырока разгарнулася на прадпрыемствах і мае за сабою багаты правераны вопыт.

Лепшы вопыт перадавых фабрык, заводаў, калгасаў, саўгасаў перанесьці на ўсе вучасткі культурнага будаўніцтва. Зрабіць сацыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва асноўным, штодзённым мэтадам працы ўсіх культурна-асьветных устаноў.

Разгарнуць паўсямесна сацыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва паміж гарадамі, раёнамі, сельсаветамі, прадпрыемствамі, калгасамі, саўгасамі, культустановамі, культбрыгадамі.

Культасьветныя ўстановы: клюбы, дамы, культуры, бібліятэкі, чырвоныя куткі—як масавыя цэнтры прапаганды камунізму, выхаваньня шырокіх (працоўных мас і мабілізацыі іх (працоўных мас) на выкананьне правадзімых партыяй і ўрадам задач і мерапрыемстваў павінны зараз, як ніколі, рашуча змагацца за генэральную лінію партыі за марксысцка-ленінскую тэорыю і навуку.

Ліст тав. Сталіна ў часопіс „Пралетарская Рэвалюцыя“ мае вялізарнае палітычнае значэньне ня толькі для гістарычна - тэарытычнага фронту, але і для штодзённай практычнай работы, для кожнага адданага працаўніка сацыялістычнага будаўніцтва.

Змаганьне за генэральную лінію партыі, правядзеньне правільнага марксысцка-ленінскага выхаваньня працоўных мас, правядзеньне рашучай і пасьлядоўнай барацьбы з „правым, як галоўнай небясьпекай, і „левым апартунізмам, вылазкамі трацкісцкіх кантрабандыстаў і „з гнілым лібэралізмам“ з усёй сілай патрабуе ад усіх працаўнікоў культурнага фронту, у прыватнасьці ад працаўнікоў палітасьветных устаноў, аўладаньня марксысцка-ленінскай тэорыяй і навукай.

У БССР, ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы, патрабуецца ад усіх культасьветных устаноў і працаўнікоў

нясупыннае змаганьне за правільнае ажыцьцяўленьне ленінскай нацыянальнай палітыкі партыі, за правядзеньне пасьлядоўнай і рашучай барацьбы з адхіленьнямі ў бок вялікадзяржаўнага расійскага шавінізму, як галоўнай небясьпекі на данным этапе, узмацненьне барацьбы з контррэвалюцыйным беларускім нацдэмакратызмам і шавінізмамі розных колераў,

Неабходна ўзмацніць інтэрнацыянальна-клясавае выхаваньне, неаслабнае правядзеньне беларусізацыі, далейшага разгортваньня і палепшаньня культурна-бытавога абслугоўваньня нацыянальных меншасьцей (яўрэяў, латышоў, палякоў і інш.), поўнасьцю ажыцьцяўляючы ленінскі лёзунг партыі „Культура нацыянальная па форме і пралетарская па зьместу“.

Разам з гэтым неабходна арганізаваць сыстэматычную ўпартую работу кожнага працаўніка культурнага фронту над глыбокай прапрацоўкай і вывучэньнем марксызму-ленінізму, важнейшых дакумантаў—пастаноў партыйных зьездаў—канфэрэнцый, пленумаў і г. д.

Таму, што тэорыя плюс рэволюцыйная практыка дае руху ўпэўненасьць, сілу арыентыроўкі і разуменьня ўнутранай сувязі акаляючых падзей“ (І. Сталін).

Павысіць палітычную пісьменнасьць, змагацца за партыйнасьць навукі і ўсяго культурнага будаўніцтва.

Неабходна прасякнуць усю масавую культасьветную работу, усе яе формы клясавым, партыйным зьместам.

Адначасова неабходна павесьці рашучую барацьбу з праваапартуністычнай недаацэнкай з боку гаспадарчых нізавых савецкіх, грамадзкіх арганізацый, у тым ліку і органаў нарасьветы, таго вялізарнага палітычнага і гаспадарчага значаньня, тэй аграмаднай выхаваўчай і арганізуючай ролі працоўных мас, якую адыгрываюць і павінны яшчэ ў большай меры адыгрываць масавыя культасьветныя ўстановы: клюбы, дамы, культуры, бібліятэкі і інш. у сучасны пэрыяд будаўніцтва сацыялізму.

Безадкладна рэалізаваць пастановы ЦК КП(б)Б і СНК аб перабудове работы культ-палітасьветных устаноў на вёсцы ў сацыялістычным сэктары сельскай гаспадаркі.

Узмацніць кіраўніцтва савецкіх арганізацый, у першую чаргу органаў нарасьветы культ-палітасьветнымі ўстановамі.

Поўнасьцю ажыцьцёвіць наказы Леніна і шасьці сталінскіх умоў.

Па-новаму арганізаваць, наладзіць кіраўніцтва, зьверху да нізу. А гэта значыць „зразумець новыя абставіны, вывучыць канкрэтна новыя ўмовы разьвіцьця прамысловасьці (разьвіцьця народнай гаспадаркі ў цэлым, выцякаючы адсюль складаныя і адказныя задачы культурнага будаўніцтва.—Х. С.) і перабудаваць сваю работу адпаведна з запатрабаваньнямі новых абставін“.

„Для гэтага патрэбна далей, каб нашы кіраўнікі не „наогул“, не з „паветру“, а канкрэтна, прадметна, каб яны падыходзілі да кожнага пытаньня ня з пункту гледжаньня агульнай „баўтаўні“, а сурова практычным чынам, каб яны не абмяжоўваліся папернай адпіскай, або агульнымі развжаньнямі і лёзунгамі, а ўваходзілі ў тэхніку справы, уваходзілі ў дэталі справы, уваходзілі ў „дробязі“, таму, што з дробязяй „будуецца зараз вялікая справа“ (І. Сталін. з прамовы на нарадзе гаспадарнікаў).

У гадавіну 10-годзьдзя прамовы У. І. Леніна на зьезьдзе палітасьветаў і 8 гадавіну сьмерці Леніна палітасьветныя працаўнікі ў першую чаргу павінны ведаць наказы, якія заставіў нам Ленін, задачы, якія ўсклдаў на палітасьветаў Ленін.

„Палітычная асьвета—у гэтай назьве многа заключаецца,“—казаў Ленін.

Бяз Леніна, пад кіраўніцтвам ленінскай партыі палітасьветнікі і далей будуць змагацца за генэральную лінію партыі, за марксысцка-ленінскае выхаваньне.

Я. Завадзкі.

# За рашучую непрымірымую барацьбу з вылазкамі вялікадзяржаўнага шавінізму.

Камуністычная партыя (б) Беларусі вядзе няўхільную пасьлядоўную барацьбу за ажыцьцяўленьне ленінскай нацпалітыкі. Гэтая барацьба сустракае шалёнае супраціўленьне з боку вялікадзяржаўнага шавінізму, як галоўнай небясьпекі на даным этапе, контррэвалюцыйнага нацдэмакратызму, антысэмітызму і мясцовых шавінізмаў розных колераў. Барацьба за ажыцьцяўленьне ленінскай нацпалітыкі зьяўляецца неадлучнай часткай барацьбы за ажыцьцяўленьне генэральнай лініі партыі.

Вось чаму клясавы вораг так упарта змагаецца з нацпалітыкай партыі. Ён імкнецца аказаць і на гэтым фронце апошняе супраціўленьне, сарваць ажыцьцяўленьне пралетарскай па зьместу і нацыянальнай па форме культуры. Праявы гэтага супраціўленьня мы назіраем і сярод асьветнікаў (справы Чудзіна, Засімавай, Увядзенскага і г. д.), аб чым паведамлялася раней ў папярэдніх нумарох нашай часопісі. Шырокія асьветніцкія масы павінны ведаць аб гэтых праявах, навучыцца сваячасова распазнаваць канкрэтных носьбітаў ухілу ад ленінскай нацпалітыкі, выкрываць і біць іх вылазкі.

За апошні час мы мелі ў Магілеве шэраг характэрных вылазак супроць ленінскай нацыянальнай палітыкі з боку асобных выкладчыкаў вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў. Усе гэтыя вылазкі адбываліся пад сьцягам ваяўнічага вялікадзяржаўнага шавінізму, які ня можа мірыцца з беларусізацыяй, ажыцьцяўленьнем нацыянальнай па форме і пралетарскай па зьместу культуры.

Выкладчык Магілеўскага пэдінстытуту Свадкоўскі, сам па нацыянальнасьці зьяўляецца беларусам і жыве ў Беларусі каля 2 год без перапынку. Здавалася-б, што ён павінен быў здавальняюча ўладаць беларускай мовай, ва ўсякім разе імкнуцца вывучыць яе, карыстацца ёю. Але на самай справе за ўвесь час выкладаньня ў інстытуце, ён упарта ігнаруе белмову, не карыстаецца ёю і ня ўжывае ніякіх крокаў да яе вывучэньня.

У сьнежні мінулага году па ўсіх навучальных установах Магілеву праводзілася праверка ажыцьцяўленьня нацпалітыкі. Свадкоўскі сустрэў яе варожа, адмовіўся нават адказваць праверачнай камісіі, якая цікавілася яго ведамі па белмове. „—Я не ученик, чтоб отвечать Вам на вопросы и давать об'яснения“,—кажа ён.

Але прыпёрты да сьценкі грамадзкасьцю інстытуту, якая рашуча запатрабавала ад яго адказу, ён прымушаны быў яго даць. На запытаньне, якое адлюстраваньне знайшла ў яго праграмах ленінская нацпалітыка, Свадкоўскі адказвае: „Мне по моему предмету“ (расійская літаратура Я. З.) не приходится иметь дело и встречаться с национальным вопросом“.

Такім чынам, па думцы вялікадзяржаўнага шавініста Свадкоўскага, дарэвалюцыйная літаратура расійскага дваранства, буржуазіі і памешчыцтва (махровы русіфікатар Карамзін, антысэміт Гогаль, упартыя славянафілы, і прыхільнікі „единой—неделимой“ Аксакаў, Тютчаў і многія іншыя) ня мае ніякай сувязі з нацыянальным пытаньнем . Каму не зразумела, што мы тут маем справу са шкодніцкай спробай ідэалізацыі, затушоўваньня клясавай сутнасьці расійскіх пісьменьнікаў—рэакцыянэраў, ідэалёгаў дваранства, буржуазіі і памешчыцтва,—усяго тагочаснага ладу, які трымаўся на нячуваным клясавым уціску і прыгнечаньні нацый.

У якасьці падручнікаў па сваёй дысцыпліне Свадкоўскі не рэкамэндуе студэнтам карыстацца марксысцкай літаратурай (Ленін ды інш.). Ён раіць і вядзе выкладаньне па кнігах вядомага рэакцыянэра-эклектыка проф. Сакуліна і Назарэнка, падручнікі якога, як піша „Літаратурная газэта“, ня маюць у сябе „ні граму марксызму.“ Калі дадаць, што Свадкоўскі ўпарта ўхіляецца ад усякай

грамадзкай працы, ігнаруе яе,—дык яго сацыяльна клясавы твар стане перад намі ва ўсёй нагаце.

Трэба адзначыць, што грамдзкасьць інстытуту—калектыў выкладчыкаў і студэнтаў—далі бязьлітасны бой гэтаму заядламу вялікадзяржаўнаму шавіністу, вымусілі яго зрабіць шчырае признаньне: „Я не могу стать идеальным советским педагогом“. За сваю шкодніцкую работу і актыўнае супраціўленьне беларусізацыі выкладчык Свадкоўскі зьняты з працы.

* * *

Наступным носьбітам вялікадзяржаўнага шавінізму, які таксама зрабіў некалькі вылазак супроць ленінскай нацпалітыкі, зьявіўся выкладчык гісторыі клясавай барацьбы ў Пэдінстытуце і Палітасьветінстытуце Зэйгман. Прыехаўшы ў БССР у мінулым годзе, ён не прыступіў да вывучэньня беларускае мовы, зрабіўшы на сходзе наступную заяву: „Мне, как обществоведу, чрезвычайно трудно белоруссизироваться, вот если бы я был преподавателем химии или математики, тогда другое дело“...

Зразумела, што такую заяву нельга было інакш расцаніць, як вылазку вялікадзяржаўнага шавініста, які імкнецца пад прыкрыцьцём „аб'ектыўных прычын“ ухіліцца ад вувучэньня і аўладаньня беларускай мовай, аказаць супраціўленьне беларусізацыі. Гэтай вылазцы быў таксама дадзен належны адпор на сходах, у мясцовым і цэнтральным друку.

Замест шчырага прызнаньня сваёй памылкі і абяцаньня заняцца вывучэньнем беларускай мовы, каб ёю аўладаць у хутчэйшы тэрмін,—Зэйгман пайшоў далей. Ён імкнуўся зацiснуць крытыку, якая была разгорнута ў сувязі з яго „заявай“, пачаў скардзіцца на тое, што навуковых працаўнікоў у Магілеве,—у параўнаньні з РСФСР, дзе ён раней працаваў,—ставяць у „невозможные условия“, пры якіх нямысьліма прадукцыйная праца, выявіў жаданьне зноў паехаць у РСФСР і г. д. Студэнцтва і самі выкладчыкі далі належны адпор гэтай паўторнай вылазцы, давялі, што лямэнты Зэйгмана аб „нячулых адносінах да навуковых працаўнікоў“ і перагібе ў пастаноўцы пытаньня беларусізацыі ня маюць пад сабою ніякіх падстаў.

У той час, калі грамадзкасьць пэдінстытуту выкрыла сапраўдны твар Зэйгмана і ўдарыла па яго вялікадзяржаўных вылазках, Палітасьветінстытут на чале з дырэктарам т. Капаевічам, дзе Зэйгман зьяўляецца асноўным працаўнікам, гэтага не зрабіў. Ён прайшоў міма гэтых вылазак, ня даў ім належнай ацэнкі і па сутнасьці праявіў гнілы лібэралізм.

Трэба адзначыць, што за апошні час, пад уплывам грамадзкай крытыкі ў Пэдінстытуце, Зэйгман стаў на шлях прызнаньня і выпраўленьня сваіх памылак. Ён заняўся вывучэньнем беларускай мовы, абавязаўся аўладаць ёю не пазьней красавіка гэтага году і выклікаў пасьледваць свайму прыкладу іншых навуковых працаўнікоў Магілева.

* * *

Аднэй з характэрных рыс у нас для ўсіх вялікадзяржаўных шавіністаў зьяўляецца супраціўленьне правядзеньню палітыкі партыі у галіне беларусізацыі, супрацьстаўленьне нацыянальнай формы культуры яе пралетарскаму зьместу, адкіданьне нацыянальнай формы культуры, адмаўленьне ад нацыянальных асаблівасьцяй і г. д.

Іменна такой выявіла сябе выкладчыца расійскай літаратуры школы ФЗВ шоўкавай фабрыкі Сайкоўская.

За сваё двухгадовае прабываньне ў БССР. Сайкоўская нічога не прадпрыняла, каб вывучыць беларускую мову, эканоміку, гісторыю і культуру. Выкліканая на паседжаньне камісіі па праверцы ажыцьцяўленьня нацпалітыкі ў навучальных установах, яна нават не змагла... назваць хаця-б аднаго беларускага пісьменьніка ці паэта.

Замест адказу на запытаньні камісіі, Сайкоўская прызналася: „За все время я ничего не читала из белорусской литературы и не знакома с нею“.

Здаецца такі адказ асаблівых камэнтарыяў не патрабуе. Можна сабе ўявіць, як адлюстравана ў праграмах Сайкоўскай інтэрнацыянальнае выхаваньне і ленінская нацпалітыка, калі выкладчыца так нахабна ігнаруе беларусізацыю, пагардліва адносіцца да яе.

Як аднесьліся да гэтага факту грамадзкія арганізацыі і адміністрацыя школы, дзе Сайкоўская зьяўляецца выкладчыцай?—Загадчык ФЗВ Азарэвіч праявіў гнілы лібэралізм прымірэнцтва, адмовіўшыся прызнаць у Сайкоўскай праяўленьне вялікадзяржаўнага шавінізму.—„Гэта ня шавінізм, а несьвядомасьць“,—заявіў ён.

* * *

Клясавы вораг, вялікадзяржаўныя і іншыя шавіністы і антысэміты імкнуцца пралезьці ў шэрагі настаўніцтва, каб сеяць сярод яго і дзяцей, падрастаючага пакаленьня, нацыянальную варожасьць і весьці сваю шкодніцкую, разлагаючую работу на нацыянальным культурным фронце. Характэрныя факты гэтае работы мы мелі нядаўна ў Магілеўскім пэдтэхнікуме.

Студэнтка Казлова на працягу ўсяго навучальнага году катэгарычна адмаўлялася ад вывучэньня белмовы, выяўляючы да яе свае нахабныя, пагардныя адносіны.—„Беларускую мову,—заяўляе яна,—ня трэба вывучаць, бо яна цяжкая і нязграбная, выдумалі нейкую агідную, брыдкую мову і навязваюць нам“...

Не адсталі ад разьюшанай вялікадзяржаўнай шавіністкі Казловай студэнты Дазорцаў і Стаўроў. Апошнія аказаліся носьбітамі махровага контррэвалюцыйнага антысэмітызму, абзывалі студэнтаў-яўрэяў „жыдамі“, сьцьвярджалі, што „яўрэі—гандлярская нацыя“.

Грамадзкасьць тэхнікуму, камсамол, прафарганізацыя і інш., дала бязьлітасны бой гэтым контррэвалюцыйным вылазкам, запатрабавала рашучага ачышчэньня студэнцкіх шэрагаў ад гэтых выяўнічых носьбітаў вялікадзяржаўнага шавінізму і махровага, чорнасоценнага антысэмітызму. Але адміністрацыя тэхнікуму, у асобе дырэктара т. Макарэвіча, не пайшла насустрач здаровым запатрабаваньням арганізацый. Антысэміты Дазорцаў і Стаўроў былі застаўлены ў тэхнікуме.

Гэты факт паказвае, што некаторым навучальным установам далёка не хапае тэй клясавай пільнасьці і непрымірымасьці, якія зараз патрэбны. Трэба рашуча ўзмацніць барацьбу з усякімі плынямі, варожымі ленінскай нацпалітыцы і рознымі ўхіламі ад яе. Трэба даць рашучы, бязьлітасны адпор усякім праявам вялікадзяржаўнага шавінізму, які зьяўляецца галоўнай небясьпекай на даным этапе, нацдэмакратызму, контррэвалюцыйнаму антысэмітызму і шавінізму іншых колераў.

Адначасова мы зьвяртаем увагу органаў нарасьветы, навучальных устаноў, асьветнікаў на неабходнасьць зараз-жа рашуча заняцца пераглядам навучальных праграм пад кутом погляду адлюстраваньня ў іх ленінскай нацпалітыкі, барацьбы з ухіламі ад яе, з разгортваньнем шырокай работы па інтэрнацыянальнаму выхаваньню.

А. С. Бубноў.

# Школа на павароце[1])

## 1) Буржуазная школа і палітэхнічная школа пралетарскай рэвалюцыі

Пастанова цэнтральнага камітэту партыі „Аб пачатковай і сярэдняй школе“[2]) кладзе пачатак новаму пэрыяду перабудовы масавай школы на палітэхнічных пачатках. Гэтая пастанова дае разгорнутую праграму барацьбы за палітэхнічную школу ў пэрыяд сацыялізму. Яна дае праграму наступленьня на гэтым важнейшым вучастку культурнай рэвалюцыі. Пралетарская дзяржава зьяўляецца адзінай ў сьвеце дзяржавай, якая можа пабудаваць сапраўды палітэхнічную школу. Капіталістычная эксплёатацыя зусім выключае магчымасьць існаваньня „да веданьня праз працу“, выключае магчымасьць арганізацыі такой школы,

[1]) Пераапрацаваны і скарочаны даклад аб пастанове ЦК партыі аб пачатковай і сярэдняй школе на маскоўскім сходзе асьветнікаў-камуністаў і Ленінградзкім аульна-гарадзкім сходзе партыйнага, савецкага прафсаюзнага і камсамольскага актыву.

[2]) „Праўда“ 5 верасьня 1931 г.

якая-б злучыла навучаньне з вытвойчай працай. Нават перадавыя буржуазныя школы ня могуць перашагнуць праз гэтую мяжу.

Будаўніцтва палітэхнічнай школы пачата намі не са ўчорашняга дня: пасьля Кастрычнікавай рэвалюцыі мы неадкладна прыступілі да рэвалюцыйнага перетварэньня школы.

Мы атрымалі агідную спадчыну ад царызму. Мы каменя на камені не пакінулі ад зьместу і мэтавай устаноўкі старой царскай школы. Была праароблена вялізарная і надзвычайна цяжкая работа.

Наша школа прынцыпова адрозьніваецца ад любой буржуазнай, хоць бы самай перадавой, школы. Пастанова цэнтральнага камітэту гаворыць, што „прынцыпова іншым стаў зьмест усёй работы школы".

У цяперашні час ёсьць дзьве сыстэмы школы: адна сыстэма народнае асьветы, якая зьяўляецца параджэньнем капіталізму, другая сыстэма—наша сыстэма народнае асьветы, якая сваёй неад'емнай часткай мае палітэхнізм і сваёй асноўнай мэтай ставіць выхаваньне „усебакова разьвітых членаў камуністычнага грамадства".

Ленін гаварыў аб тым, што буржуазія „старалася школьную справу зьвесьці да таго, каб натаскаць для буржуазіі пакорных і растаропных прыслужнікаў". Пралетарыят „арганізаваны ў пануючую клясу", практычна будуе палітэхнічную школу, якая „павінна быць ня толькі,—як сказана ў праграме УсеКП(б) — праваднікам прынцыпаў камунізму наогул, але і праваднікам ідэйнага, арганізацыйнага, выхаваўчага ўплыву пралетарыяту на паўпралетарскія і непралетарскія слаі працоўных мас у мэтах выхаваньня пакаленьня, здольнага канчаткова ўстанавіць камунізм".

Вось дзьве школьныя сыстэмы, вось дзьве школы, якія існуюць у сьвеце.

### Буржуазная школа ў эпоху імпэрыялізму

Эпоха імпэрыялізму не магла ўнесьці і ня ўнесла зьмен у асноўныя ўстаноўкі школы буржуазнага грамадства. У цяперашнюю эпоху буржуазія мае школу якая цалкам і поўнасьцю адлюстроўвае твар імпэрыялізму, як „загніваючага і паміраючага капіталізму". Той эканамічны крызіс, які на працягу апошніх год патрасае асновы сусьветнага імпэрыялізму, ня мог не адбіцца і на буржуазнай школе: ён дзейнічае ў тым напрамку, што яшчэ з большай рэзкасьцю высоўвае, падкрэсьлівае, умацоўвае тыя рысы, якія ўласьцівы школе ў буржуазным грамадзтве.

Калі знаёмішся з пэдагагічнай літаратурай галоўнейшых сучасных буржуаных дзяржаў, дык бачыш, што, ня гледзячы на рознастайнасьць плыняў, якія маюць месца у буржуазна-пэдагагічнай літаратуры, усё-ж можна сказаць, што мы вельмі мала можам дадаць да тэй характарыстыкі, якая да гэтага часу *давалася* буржуазнай школе, у марксысцкай пэдагагічнай літаратуры.

Два настроі характэрны для сьветапогляду буржуазных пэдагагічных колаў. Гэта, з аднаго боку, імкненьне падпарадкаваць школу інтарэсам імпэрыялістычнай буржуазіі і фашызму, і, з другога боку, стан замяшаньня, які нярэдка характэрны нават для лепшай часткі буржуазных пэдагогаў.

Вось як вызначае асноўныя мэты выхаваньня адзін з дзеячоў нямецкага нацыянал-фашызму Шэм:

„Горшы шлях выхаваньня—гэта выхаваньне праз розум. Уся наша праграма выхаваньня заключаецца ў чатырох паняцьцях: раса, абарона, важак і рэлігія." Вось афіцыйная праграма сучаснага фашызму. Яна цясьнейшым чынам зьвязана з чорнасоценным папоўскім ідэялізмам. Яна бяз усякіх „прыкрыцьцяў" уводзіць у школу заалёгічны нацыяналізм, антысэмітызм, папоўшчыну і мілітарызм. Побач з гэтым для дробна-буржуазных пэдагагічных колаў характэрны настрой замяшаньня. На пэдагагічным конгрэсе ў 1928 г. у Рыме прадстаўнік Швэйцарыі Фэрэр гаварыў: „мы таму лічым неабходным „выходзіць з дзіцяці", што ня можам ведаць, да чаго мы яго рыхтуем; няхай дзеці растуць, няхай разьвіваюцца, можа быць яны сумеюць вырашыць супярэчнасьці, з якімі мы, дарослыя, ня ўмеем справіцца". Гэтая прамова сьведчыць аб поўным замя-

шаньні дробна-буржуазных пэдагагічных колаў перад тварам таго складанага клубка супярэчнасьцяй, у якім б'ецца імпэрыялізм. За апошнія гады гэтыя настроі не маглі не паглыбіцца, бо сусьветны эканамічны крызіс жорстка б'е па шырачайшых колах буржуазнай пэдагагічнай інтэлігенцыі.

Культурная рэакцыя, „духоўны крызіс", крызіс буржуазнай культуры знаходзіць свае яркае адлюстраваньне ў тэорыі і практыцы сучаснай буржуазнай пэдагогікі.

Фашысцкая сацыял-дэмакратыя (калі ўзяць для прыкладу Германію) выкідвае за борт клясава-пралетарскі характар выхаваньня, выкідвае з сваёй школьнай праграмы сьвецкае выхаваньне, дапускаючы ў школу рэлігію, адмаўляючы ўцягненьне дзяцей у палітыку, клясавую барацьбу і г. д.

Адзін з перадавых амэрыканскіх пэдагогаў, прафэсар Дж. Каунтс выпусьціў кнігу „Тэорыя выхаваньня ў Амэрыцы". Гэтая кніга зьяўляецца фатаграфіяй твару буржуазнай амэрыканскай школы. Трэба сказаць, што Каунтс у радзе месц сваёй кнігі з гонарам піша аб амэрыканскай дэмакратыі і амерыканскай школе, але гэта не перашкаджае яму прадстаўляць амэрыканскую школу ў сваёй кнізе такімі фарбамі, што мы бачым сапраўдны твар гэтай школы, цалкам і поўнасьцю пастаўленую на службу амэрыканскаму імпэрыялізму.

Аб асноўных прынцыпах, на якіх будуецца амэрыканская буржуазная школа, Каунтс гаворыць: „Няма ніводнага прынцыпу, які быў-бы больш характэрным для амэрыканскай тэорыі і ўклад у жыцьцё і які адыграў бы большую ролю ў вызначэньні формы і разьвіцьця амэрыканскай сыстэмы асьветы, чым прынцып індывідуальнага посьпеху". І тут-жа дадае, што для „амэрыканцаў сьвет— гэта арэна, а жыцьцё—скачкі". Гаворачы далей аб новых мэтодах „іспытаў і адзнак", Каунтс падкрэсьлівае: „падобнага роду прыёмы, канечна, зьяўляюцца крайнім выражэньнем агульнай тэндэнцыі амэрыканскага выхаваньня—заахвочваньне індывіда ў адносінах захаваньня сваіх уласных інтарэсаў, супроцьстаўляючы іх інтарэсам яго бліжніх".

Каунтс адзначае ў сваёй кнізе адну важную абставіну, а іменна, што амэрыканская школа працуе пад кантролем „дзелавых людзей". Ён гаворыць, што „з ростам індустрыялізму" кантроль гэты „перайшоў у рукі маючых уплыў прамысловых, фінансавых і гандлёвых колаў" і што „арбітрам у пэдагагічных пачынаньнях зьяўляецца ў Злучаных штатах маючы посьпех „бізнэсмэн". Гэты бізнэсмэн у цяперашні час ужо не „мае посьпехі" бо пэрыяд слыннага Гувэраўскага „працьвітаньня" ў Амэрыцы скончыўся, і крызіс вырывае асновы з-пад эканамічнай сыстэмы амэрыканскіх бізнэсмэнаў, але яны яшчэ ў поўнай меры зьяўляюцца „арбітрамі і ў пэдагагічных „пачынаньнях". Гэтыя капіталістычныя арбітры" падпарадкуюць сваім інтэрэсам школы, дабіваюцца таго, каб школа фабрыкавала „выканаўцаў волі і рабоў капіталу", і Каунс адзначае, што „арбітр"—капіталістычны дзялец сучаснай Амэрыкі—вызначае зьверху донізу ўсю сыстэму народнае асьветы: і становішча настаўніка, і характар падручнікаў, і ўвесь дух амэрыканскай буржуазнай школы. Прычым ён даволі такі адкрыта заяўляе, што „адным з натуральных рэзультатаў кіраваньня дзелавога чалавека зьяўляецца тая адносна малая павага, якая сустракае ў Амэрыцы бескарысныя інтэлектуальныя дасягненьні".

Каунтс гаворыць, што амэрыканская „народная школа зьяўляецца школай рэлігійнай. Ён называе „тэорэтычным адлучэньнем школы ад царквы ў Амэрыцы.

У школе знаходзіць сваё адлюстраваньне „нацыянальная" палітыка амэрыканскага імпэрыялізму. Каунтс гаворыць, што „у былых рабаўласьніцкіх паўднёвых штатах" існуе дуалістычная сыстэма асьветы. Яна заключаецца ў тым, што існуюць „дзьве паралельныя школьныя сыстэмы": адна для белых і другая—для нэграў." Каунтс заяўляе, што нэгр „зьяўляецца аб'ектам найвялікшай антыпатыі і несправядлівасьці", і тут-жа ілюструе палітыку нацыянальнай розьні ў Амэрыцы, прыкладам з нэграмі. Ва многіх прывет-

ных школах,—піша ён,— нават такіх, якія вытрымліваюць стыль прагрэсыўных, прыём яўрэяў абмежаваны да некалькіх процантаў агульнай колькасьці вучняў. І зусім яшчэ нядаўна старэйшыя і маючыя ўплыў унівэрсытэты ў краіне публічна абмяркоўвалі пытаньне аб дапасаваньні „прынцыпу абмежаваньня“.

Вось сапраўдны твар амэрыканскай дэмакратыі. Нельга яшчэ, нарэшце, ня прывесьці вельмі выразных характарыстык, якія дае ў сваёй кнізе Каунтс амэрыканскаму падручніку і становішчу настаўніцтва ў Амэрыцы.

Выданьне падручнікаў знаходзіцца ў руках прыватных фірм, якія, канечна, зацікаўлены ў тым, каб свайму выданьню забясьпечыць магчыма больш шырокае распаўсюджваньне. Для гэтага яны, па словах Каунтса, „звычайна аказваюць на аўтараў адпаведнае даўленьне, прымушаючы іх выкідваць усё, што можа быць няпрымальна для якой-небудзь аўтарытэтнай групы ў краіне,“ г. зн. для такога капіталістычнага дзяльца, які ў Амэрыцы зьяўляецца „арбітрам у пэдагагічных пачынаньнях“. „І ў сілу гэтага,—дадае Каунтс,—ва многіх выпадках развага бязумоўна вымушае і саміх аўтараў выкідваць з сваіх твораў спрэчныя моманты.“

Якія-ж спрэчныя моманты выкідваюцца з амэрыканскіх падручнікаў? Каунтс пералічвае іх пад рубрыкай—каго нельга „абражаць“ у падручніках. Сюды пападае „мноства“ арганізацый, у тым ліку і разбойніцкая фашысцкая арганізацыя Ку-клукс-клан.

Аб амэрыканскім настаўніку Каунтс гаворыць, што ён „не прадстаўляе актыўную сілу ў грамадзтве“. Гэта ацэнка прыкрывае такія факты, якія сьведчаць аб зусім ня вынасімым становішчы настаўніка у Амэрыцы. Вось што піша сам Каунтс аб гэтым: „... на сярэднім захадзе і на поўдні настаўнік не павінен курыць, танцаваць і гуляць у карты, а калі ён рэдка бывае ў царкве, дык да яго ствараюцца падазроныя адносіны. Здаралася, што нават такія дробязі, як кароткая сукенка, стрыжаныя валасы і ўжываньне губной памады былі прычынай пазбаўленьня жанчыны званьня настаўніка“.

Вось фатаграфія амэрыканскай „дэмакратычнай школы. Мы паказалі яе для таго, каб ілюстраваць тое становішча, у якім знаходзіцца школа ў важнейшых капіталістычных краінах,бо тое, што мае месца у Амэрыцы, у поўнай меры характарызуе становішча школы ў любой капіталістычнай краіне.

**Палітэхнічная школа ў пралетарскай дзяржаве.**

Пралетарская дзяжава будуе прынцыпова іншую, новую, школу. Гэта прызнаюць і буржуазныя пэдагогі. Цэлы рад пэдагогаў, якія былі ў Савецкім саюзе, пішуць парознаму аб савецкай школе. Але вялізарная большасьць з іх уводзіць адсюль прадстаўленьне аб тым, што на тэрыторыі Савецкага саюзу будуецца школа, якая прынцыпова зусім адрозьніваецца і па зьместу сваёй работы, і па мэтавых устаноўках, і па мэтадах работы, ад той школы, якая існуе ў буржуазных дзяржавах.

Мы будуем прынцыпова іншую школу. Мы імкнемся ў нашай школе, ўстанавіць цясьнейшую сувязь паміж школай і жыцьцём, паміж тэорыяй і практыкай, паміж навучаньнем і прадукцыйнай працай. Наша школа мае асноўнай мэтай падрыхтаваць сьвядомых ведаючых будаўнікоў сацыялізму. Мы—адзіная ў сьвеце дзяржава, якая да гэтага ня толькі імкнецца, але якая на справе, фактычна, у штодзённай рабоце стварае іменна такую школу.

Вядома, што перадавая школа ў буржуазным грамадзтве спрабуе ліквідаваць разрыў паміж тэорыяй і практыкай, паміж школай і жыцьцём, і як ёй гэта не ўдаецца. Да і ня можа гэта ёй ўдасца, таму што асноўнай перашкодай на гэтым шляху зьяўляецца сам капіталізм, з яго супярэчнасьцямі, эксплёатацыяй, якія перашкаджаюць стварэньню такой школы, якая цясьнейшым чынам зьвязвала-б навучаньне з працай, школу—з жыцьцём, тэорыю—з практыкай.

Мы будуем школу супольнага выхаваньня, школу, якая працуе на роднай мове, антырэлігійную школу, якая выхоўвае нянавісьць да эксплёатацыі і сацыялістычныя адносіны да працы;

мы будуем школу інтэрнацыянальную, школу палітэхнічную. Наша праграма ставіць задачай „поўнае ажыцьцяўленьне *прынцыпаў* адзінай працоўнай школы з выкладаньнем на роднай мове, з супольным навучаньнем дзяцей абодвага полу, бязумоўна сьвецкай, г. зн. свабоднай ад якога-небудзь рэлігійнага ўплыву, якая праводзіць цясьнейшую сувязь навучаньня з грамадзка-прадукцыйнай працай, падрыхтоўвае усебакова разьвітых членаў камуністычнага грамадзтва". Мы маем перадавую рэвалюцыйную пэдагагічную тэорыю, асновы якой закладзены Марксам, Энгельсам і Леніным. І калі мы, хоць бы ў цяперашні пэрыяд, прасоўваемся наперад па шляху будаўніцтва школы, дык мы напружваем усе сілы ня толькі для таго, каб у практыцы нашай работы закласьці трывалыя асновы сапраўдна палітэхнічнай школы, але мы імкнемся таксама і да таго, каб у цясьнейшай сувязі з гэтай пэдагагічнай практыкай рухаць далей распрацоўку нашай пэдагагічнай тэорыі. І мы гэта робім таму, што ведаем, што без перадавой рэвалюцыйнай пралетарскай пэдагагічнай тэорыі ня можа пасьпяхова разгортвацца будаўніцтва перадавой пралетарскай палітэхнічнай школы.

Перадавыя буржуазныя пэдагогі, якія прыяжджаюць да нас і знаёмяцца з нашым школьным будаўніцтвам, выносяць уражаньне, што мы будуем прынцыпова іншую школу, якая адрозьніваецца ад тэй школы, якая працуе і калечыць падрастаючае пакаленьне ў краінах імпэрыялізму.

Напрыклад, прафэсар Дзьюі пісаў аб тым, што „самым характэрным у савецкім выхаваньні зьяўляецца ня тое, што школьная дзейнасьць цесна зьвязана з грамадзкім жыцьцём, а тое, што ўпяршыню ў гісторыі выхавальная сыстэма афіцыйна арганізавана на базе гэтага прынцыпу".

А вось што пісаў аб савецкай школе амэрыканскі пэдагог, інспэктар школ у Вінэтцы Уошбэрн: „ніводная краіна ў сьвеце не адносіцца да пытаньня выхаваньня так сур'ёзна, і не сазнае так ясна, што дзяржава будучага залежыць ад таго, якія школы сёньня". І далей ён дадае: „ніводная абшырная краіна не стварыла цэльнай школьнай сыстэмы, якая бы ўвасабляла ў сабе столькі перадавых элемэнтаў, як Расія". А вось вам думка загадчыцы адной з Філадэльфійскіх школ, Вільсон: „У іх школе,— піша яна,—многае, заслугоўвае захапленьня, як у нашых школах ёсьць многае, што заслугоўвае сажаленьня. Мы ня можам згаджацца са многімі з іх сацыяльных прадпасылак, але мы павінны прызнаць, што адукацыйная праграма савецкай школы надзвычайна значная, ніводзін пэдагог ня можа ігнараваць яе існаваньня". Так ацэньваюць нашу савецкую школу перадавыя пэдагагічныя колы капіталістычных дзяржаў.

Можна сказаць, што, будуючы палітэхнічную школу ва ўмовах пралетарскай дыктатуры, мы пракладаем новую дарогу ў сусьветнай пэдагогіцы. Мы пачынаем зусім новы разьдзел пэдагагічнай гісторыі, бо наша школа зьяўляецца прынцыпова новай, бо мы зараз— адзіная ў сьвеце дзяржава, якая можа пабудаваць палітэхнічную школу і якая ў адпаведнасьці з марксысцка-ленінскай тэорыяй, практычна рашае задачу выхаваньня пакаленьня, „здольнага канчаткова ўстанавіць камунізм".

## II. „Цаньнейшыя заваёвы буржуазнае эпохі" і будаўніцтва палітэхнічнай школы.

Вырашэньне вялізарнай задачы пабудовы палітэхнічнай школы сустракае на сваім шляху значныя цяжкасьці. Узяць хоць бы даны пэрыяд. Мы ўжо сустрэліся з цэлым радам буйных цяжкасьцяй у справе школьнага будаўніцтва, але не таму, што мы тут перажываем занапад. Такое сьцьверджаньне было-б дастойна школьных рэакцыянэраў і правых апартуністаў. Мы сустрэліся з гэтымі цяжкасьцямі, мы выявілі ў сваёй рабоце буйнейшыя недахопы іменна таму, што дабіліся ўжо пэўных посьпехаў у справе правядзеньня ўсеагульнага навучаньня і палітэхнізацыі школы. Гэтыя недахопы б'юць у вочы асабліва сільна іменна таму, што мы маем вялізарныя посьпехі ў будаўніцтве сацыялізму, якія прад'яўляюць да школы ўсё больш і больш павышаныя запатрабаваньні. І нарэшце

(над чым мы павінны сканцэнтраваць у цяперашні час максымальную ўвагу), за апошнія гады ў працэсе разгортваньня будаўніцтва школы меў месца рад недаглядаў, памылак і нават антыленінскіх „лявацкіх“ скрыўленьняў, якія зрабілі гэтыя недахопы яўна нецярпімымі.

І вось у сувязі з нашай цяперашняй школьнай практыкай нам трэба старанна разгледзець цэлы рад такіх пытаньняў, якія можа быць і ня новыя для пэдагогаў, якія не прадстаўляюць якой-небудзь асаблівай навізны і для любога члена нашай бальшавіцкай партыі, але якія набываюць з пункту погляду школьнай палітыкі, з пункту погляду важнейшых пытаньняў будаўніцтва палітэхнічнай школы ў цяперашні пэрыяд асаблівы інтарэс.

## Аб старой і новай школе.

Мы разбурылі старую школу. Мы за апошнія гады правялі рашучую барацьбу з элемэнтамі „славеснасьці“ ў школе, павярнулі яе на шлях палітэхнізму. Гэтую барацьбу мы будзем працягваць і разгортваць. У працэсе яе мы павінны бязьлітасна разграміць усякія спробы рэакцыянэраў і правых апартуністаў цягнуць школу назад, да буржуазнай школы. Але іменна ў даны момант, калі мы зрабілі значныя посьпехі на шляху будаўніцтва новай палітэхнічнай школы, іменна зараз, на даным павароце ў школьнай рабоце, нам трэба паглядзець, што новая пралетарская палітэхнічная школа можа крытычна ўзяць з „цаньнейшых заваёў“ старой культуры, з пэдагогікі перадавой буржуазнай школы і паставіць гэта на службу будаўніцтву палітэхнічных школ у пэрыяд сацыялізму.

У сувязі з гэтым, мы дазволім сабе напомніць гэты бок ленінскага вучэньня, бо ён мае практычны інтарэс з пункту гледжаньня будаўніцтва савецкай школы на даным гістарычным этапе.

Ленін, як вядома, гаварыў аб тым, што марксызм „зусім не адкінуў цэньнейшых заваёў буржуазнай эпохі, а наадварот, усвоіў і перапрацаваў усё, што было цэннага ў больш чым двухтысячагадовым разьвіцьці чалавечай думкі і культуры“. Ленін асабліва падкрэсьлівае, што „толькі далейшая работа на гэтай аснове і ў гэтым напрамку, адухатвораная практычным вопытам дыктатуры пралетарыяту...“, прывядзе нас да разьвіцьця „сапраўдна пралетарскай культуры“.

Гэтая ўстаноўка цалкам і поўнасьцю можа быць ужыта да пытаньня школьнага будаўніцтва. Ленін пісаў: „Нам непатрэбна зуброжка, але нам трэба разьвіць і ўдасканаліць памяць кожнага з тых, хто навучаецца веданьнем асноўных фактаў.“

Ленін падкрэсьлівае, што мы не павінны „заграмаджаць рабячага розуму тых хламам, якім была набіта школа ў царскай Расіі, і тым хламам, якім набіта любая буржуазная школа ў любой капіталістычнай краіне; і тут-жа ён указаў, што нам трэба „узбагаціць яго веданьнем усіх фактаў, без якіх ня можа быць сучаснага адукаванага чалавека“.

Значаньне прыведзеных ленінскіх цытат з пункту гледжаньня школьнай работы ў цяперашні пэрыяд асабліва вялікае. Іменна ў цяперашні момант (у далейшым я скажу, чаму гэта атрымалася) мы выявілі адно слабае месца ў нашай школе, якое цясьнейшым чынам зьвязана якраз з работай па ўзбагачэньню памяці кожнага вучня „веданьнем асноўных фактаў“. Іменна тут, у галіне агульнай адукацыі, і выявіўся ў нашай школе прарыў.

Ленін перасьцерагаў нас ад такіх верхаглядзкіх адносін, якія і зараз выяўляюцца ў адносінах усваеньня вучнем ў нашых школах „асноў навук“.

Мы маем прыклады няправільных адносін і няправільных тлумачэньняў усёй сумы гэтых пытаньняў як сярод пэдагогаў-практыкаў, так у асаблівасьці і сярод нашых пэдагагічных тэарэтыкаў. Трэба даць рашучы адпор тым, хто спрабуе цягнуць назад, да буржуазнай школы з яе „муштрай“, „зуброжкай“ і „мёртвымі ведамі“.

Але Ленін зрываў маску з тых гэрояў „левай фразы“, якія разам са старым буржуазным хламам (г. зн. з тым, што „зьяўлялася неабходным для капіталізму“) выкідвалі і „уменьне ўзяць сабе ўсю суму чалавечых ведаў“ (г. зн, тое,

што „зьяўляецца неабходным для камунізму“). Ён гаварыў, што „камуніст будзе толькі простым хвастуном, калі ня будуць перапрацаваны ў яго сазнаньні ўсе атрыманыя веды“.

Фронт школьнага будаўніцтва, фронт практычнага будаўніцтва палітэхнічнай школы ёсьць фронт клясавай барацьбы. А там, дзе ёсьць клясавая барацьба, нам, бальшавікам, трэба асабліва блюсьці за тым, каб мы ніколі ня зьбіваліся ў нашай рабоце з правільнай партыйнай лініі. Таму барацьба з няправільнымі тлумачэньнямі, з ухіламі, са скажэньнямі лініі партыі ў школьнай палітыцы зьяўляецца важнейшай справай у цяперашні гістарычны пэрыяд у пэдагагічнай практыцы. І тут нам трэба разгарнуць няпрымірлівую барацьбу на два франты.

У пастанове ЦК аб школе ўказваецца, што посьпех барацьбы з правым апартунізмам у школьнай палітыцы, які зьяўляецца „галоўнай небясьпекай“, мяркуе „ўзмацненьне барацьбы з „левапартуністычнымі скажэньнямі“...

Мы разбурылі старую школу, мы зараз павінны бязьлітасна выгнаць з нашай школы ўсе рэцыдывы гэтага старога, але мы павінны ўзяць „усё тое, што было накоплена чалавецтвам неабходнага для людзей“. І мы павінны разграміць „лявацкія“ перагібы, якія перашкаджаюць гэтаму.

### Што трэба пакласьці ў аснову ўсёй работы школы?

Цэнтральны камітэт у сваёй пастанове гаворыць аб тым, што „у аснову ўсёй далейшай работы школы“ мы павінны пакласьці ўказаньні т. Леніна, даныя ім у 1920 г. у заметках на тэзісы Н. К. Крупскай. Ленін у гэтых заметках, у пачатку іх, асабліва падкрэсьліваў недапушчальнасьць абстрактных адносін да такога важнага пытаньня, як палітэхнічная адукацыя. „Выходзіць абстрактна,—пісаў Ленін,—для далёкай будучыні“, ня ўлічваецца „насушчная“, „цяперашняя“ сапраўднасьць. Трэба ставіць гэтае пытаньне канкрэтна, з пункту погляду ўсіх асаблівасьцяй данага гістарычнага пэрыяду, работы партыі і тых задач, якія яна ставіць іменна на даным гістарычным этапе.

Гэту заўвагу Леніна мы павінны ўлічыць і ў сучаснай школьнай рабоце, бо ў нас ёсьць нямала людзей, якія ня ўмеюць, няздольны, а часам і ня хочуць паставіць практычныя пытаньні барацьбы за палітэхнічную школу ў канкрэтных умовах іменна цяперашняга гістарычнага пэрыяду. А з прычыны гэтага яны альбо цьвярдзяць зады, паўтараючы лёзунгі ўчарашняга дню, г. зн. па сутнасьці кажучы, часам, можа быць, і не жадаючы гэтага, цягнуць нас назад; або-ж, наадварот, перапрыгваюць праз „насушчную“ „цяперашнюю“ сапраўднасьць, ня ўлічваючы ўсёй сваясаблівасьці гэтай канкрэтнай цяперашняй сапраўднасьці і тым самым робяць памылкі „лявацкага“—парадку, прычым сваё фантазёрства і свае пражэкцёрскія пляны прымаюць за лёзунгі, якія могуць быць практычна рэалізаваны.

Іменна ў цяперашняй абстаноўцы, калі мы ўступілі ў пэрыяд сацыялізму, калі мы ажыцьцяўляем разгорнутае сацыялістычнае наступленьне, калі маем абвастрэньне клясавай барацьбы,—іменна ў гэты момант, як ніколі, нам трэба такія важнейшыя пытаньні, як пытаньні практыкі будаўніцтва палітэхнічнай школы, ставіць у канкрэтнай, жывой, непасрэднай сувязі з усёй канкрэтнай сваясаблівасьцю сучаснага этапу разьвіцьця пралетарскай рэвалюцыі.

Канечна, 1931 г.—гэта ня 1920 г. За гэтыя дзесяць год краіна прарабіла вялізарную работу па сацыялістычнаму будаўніцтву. За гэтыя дзесяць год мы сумелі будаўніцтва сацыялізму падняць на гіганцкую вышыню, дабіліся нябывалага ўмацаваньня дыктатуры пралетарыяту і дабіліся таго, што іменна сацыялістычны сэктар у цяперашні час, як гаварыў т. Сталін, „трымае ў сваіх руках усе вагары народнае гаспадаркі ў нашай краіне“. Канечна, абстаноўка цяперашняга пэрыяду зусім іншая, чым яна была дзесяць год таму назад, але калі ўзяць тую групу пытаньняў, якую ставіў Ленін дзесяць год таму назад, дык мы ўбачым, што ёсьць многа сходнага ў агульнай пастаноўцы пытаньняў у 1920 г. і ў 1931 г.

Ленін у канцы 1920 г. высунуў плян электрыфікацыі і пісаў, што электры-

фікацыя „нам патрэбна, як першы накід, які перад усёй Расіяй ўстане, як вялікі гаспадарчы плян, разьлічаны ня менш чым на дзесяць год і паказваючы, як перавесьці Расію на сапраўдную гаспадарчую базу, неабходную для камунізму“.

Якія-ж пытаньні ён ставіў у той час? Тады ён ставіў пытаньні—аб вытворча-тэхнічнай прапагандзе, аб уменьні кіраваць, аб пралетарскіх спэцыялістах, аб камуністычнай працы, аб пераробцы мас і аб пралетарскай культуры. І тут-жа, у гэтай-жа сувязі ён ставіў пытаньне аб палітэхнізьме і палітэхнічнай школе. І вось зараз, калі мы маем ня „першы накід“ вялікага гаспадарчага пляну, а маем ужо вялікі гаспадарчы плян, калі мы ажыцьцяўляем пяцігодку ў чатыры гады,—мы на новай базе, а значыць, па-новаму высоўваем, па сутнасьці кажучы, тую-ж самую груду пытаньняў.

Мы маем лёзунг Сталіна аб ауладаньні тэхнікай, адыграўшы ўжо такую вялізарную ролю ў будаўніцтве сацыялістычнай індустрыі 1931 г. Пытаньне аб пралетарскіх спэцыялістах, аб падрыхтоўцы нашых пралетарскіх кадраў для народнай гаспадаркі, зараз пастаўлена так востра, як ня ставілася яно ніколі да гэтага часу. Далей, пытаньне аб камуністычнай працы, аб пераробцы мас і рад іншых такіх пытаньняў стаяць на цяперашнім этапе, як практычныя чарговыя пытаньні сёньнешняга дню, прычым стаяць у маштабе, адпавядаючым цяперашняму ўздыму сацыялістычнага будаўніцтва.

І ў сувязі з гэтым уздымам зноў з надзвычайнай вастрынёю высунулася пытаньне аб палітэхнічнай адукацыі. Пытаньні палітэхнічнай школы высунуты зараз намі так, як ніколі ня высоўваліся: ужо каля двух год органы народнае асьветы пад кіраўніцтвам партыі і яе ЦК вядуць упартую барацьбу за стварэньне палітэхнічнай школы.

Абстаноўка 1920—1931 гг. розная, адлегласьць, якая аддзяляе пэрыяд самай жорсткай разрухі пасьля грамадзянскай вайны ад пэрыяду вялізарнага эканамічнага ўздыму цяперашняга часу, пэрыяду сацыялізму, вымяраецца дзесяцігодзьдзем, а праграма, якую мы ажыцьцяўляем, ёсьць разьвіцьцё тых геніяльных установак, якія даны Леніным у 1920—21 г. І, канечна, пытаньне палітэхнізму трэба ставіць не „абстрактна“ а ўлічваючы“ канкрэтныя задачы, якія стаяць перад партыяй“, улічваючы канкрэтныя ўмовы цяперашняга гістарычнага пэрыяду з усёй іх своеасаблівасьцю, з вялізарнымі перамогамі на фронце будаўніцтва сацыялізму, з найвялікшым энтузыязмам рабочых і калгасных мас, з вялікімі цяжкасьцямі, якія рабочыя і калгасьнікі пераможна перадольваюць пад кіраўніцтвам нашай партыі і яе Ленінскага ЦК.

Ленінская цытата, якая дана ў пастанове ЦК аб школе і якую мы павінны пакласьці ў аснову ўсёй нашай далейшай школьнай работы, мае для нашай работы ў галіне палітэхнічнай асьветы выключнае значэньне. Ня спыняючыся падрабязна на аналізе гэтай цытаты, трэба перш за ўсё адзначыць, што Ленін у гэтых „заметках“ ужо тады, у 1920 г., гаварыў аб тым, што „бязумоўным заданьнем“ трэба паставіць“ неадкладнае ажыцьцяўленьне раду даступных зараз-жа **крокаў да палітэхнічнай асьветы**... „Гэтым самым ён гаварыў аб тым, што правядзеньне ідэй палітэхнізму патрабуе аднак сыстэматычна разгорнутай і напружанай барацьбы, патрабуе ад нас баявой работы. Гэтым самым ён адкідваў у бок ліквідатарскія адносіны да палітэхнізму, патрабаваў барацьбы за палітэхнізм у самых цяжкіх умовах і той-жа час у дакладнай адпаведнасьці з данай абстаноўкай. Ён даваў практычную праграму барацьбы за палітэхнічную асьвету. Ленін тут-жа зусім канкрэтна ставіў пэўную задачу перад другой ступеньню нашай школы. Ён гаварыў аб тым, што нам трэба падрыхтоўваць у гэтых школах „рамесьніка“, дадаючы, каб гэты „рамесьнік“ меў шырокую агульную асьвету (ведаў мінімум асновы такіх-та і такіх-та навук: указаць дакладна якіх); быў бы камуністам (дакладна ўказаць, што павінен ведаць), меў палітэхнічны кругавід і пачаткі асноў палітэхнічнай асьветы“.

І вось, калі мы будзем па дырэктыве ЦК пераглядаць нашы праграмы, мы абавязаны ў нашых праграмах правесьці

тую генэральную лінію, якая дана ў гэтых ленінскіх указаньнях. Нам трэба сумець пры пераглядзе нашых навучальных праграм забясьпечыць у іх „дакладна акрэсьленае кола сыстэматычных ведаў“, забясьпечыць цьвёрдае ўсваеньне вучнямі „мінімум асновы такіх-та і такіх-та навук, і трэба пабудаваць так праграмы, каб гэта былі праграмы палітэхнічнай школы, каб яны давалі магчымасьць ажыцьцяўленьня злучэньня навучаньня з прадукцыйнай працай, каб яны ўвязвалі цясьнейшым чынам тэорыю і практыку, каб яны рабілі нашых школьнікаў удзельнікамі сацыялістычнага будаўніцтва.

Гэтая Ленінская праграма, даная ў 1920 г., якую мы павінны па дырэктыве ЦК пакласьці ў аснову ўсёй нашай далейшай школьнай работы, павінна быць праведзена намі ў кожнай дэталі нашай школьнай работы, і асабліва ў такім важным баку яе, як навучальная праграма, падручнік, навучальны дапаможнік.

Нам трэба сумець ускрыць і перашкоды на гэтым шляху і тыя адхіленьні ад асноўнай лініі нашай школьнай палітыкі, скажэньні яе, якія ўжо зараз выяўляюцца ў справе разуменьня палітэхнізму і практычнай рэалізацыі палітэхнічнай школы. Тут трэба разгарнуць рашучую, няпрымірлівую барацьбу на два франты — супроць правага апартунізму, які ліквідатарскі адносіцца да палітэхнізму, і супроць „лявацкага“ пражэкцёрства ў пэдагогіцы, якое выступае з антыленінскай тэорыяй „адміраньня школы“, разбурае палітэхнічную школу і тым самым змыкаецца з правай небясьпекай. Трэба разграміць і прымірэнцкі „нэйтралізм“ у школьнай палітыцы „пагарджоную партыю сярэдзіны“ у пэдагогіцы.

**Тры бакі ў пытаньні аб палітэхнізьме**

У верасьні 1920 г. на III сэсіі УсеЦВК 7-га скліку Ленін у сувязі з дакладам Наркамасьветы зрабіў запіс, які з важнейшых бакоў асьвятляе пытаньне аб палітэхнізьме.

Як Ленінскія „заметкі“, так і гэты запіс мы возьмем для разгляду тых трох бакоў пытаньня аб палітэхнізьме, якія маюць выключнае значэньне для практыкі будаўніцтва палітэхнічнай школы на сучасным этапе.

Спынімся перш та ўсё на першым з гэтых пытаньняў — аб палітэхнізьме і спэцыялізацыі.

Ленін у гэтым запісе піша наступнае;

„Палітэхнічны прынцып“ не патрабуе навучаньне гэтаму (гэта Ленін падкрэсьліў. — А. Б.), але патрабуе навучаньня асновам (зноў падкрэсьліў. — А. Б.) сучаснай індустрыі наогул (зноў падкрэсьліў. — А. Б. )

Гэта палажэньне накіравана перш за ўсё супроць такога скажэньня „палітэхнічнага прынцыпу“, калі палітэхнізм падмяняецца ўнівэрсалізмам і схэматызмам, г. зн. калі пачынаюць навучаць „усяму“, звальваюць у кучу азнаямленьне з рознымі галінамі вытворчасьці, або ж навучаюць „асновам сучаснай індустрыі наогул“, так што адрываюць гэтыя „асновы“ ад тых канкрэтных вытворчасьцяй, у якіх яны закладзены і ў якіх яны маюць сваё спэцыфічнае канкрэтнае выражэньне.

Бывае так, што лічаць, што палітэхнізм і спэцыялізацыя нечым узаемна адзін аднаму супярэчаць. Гэта — няправільнае разуменьне. Палітэхнізм не адмаўляе спэцыялізацыі. Мы дабіваемся падрыхтоўкі іменна такіх „рамесьнікаў“ і спэцыялістаў, якія-б мелі палітэхнічную падрыхтоўку. З другога боку, палітэхнічна падрыхтоўваючы падрастаючае пакаленьне, мы тым самым палегчым яму магчымасьць аўладаць любым „рамяством“, любой самай складанай спэцыяльнасьцю. Такая пастаноўка пытаньня вынікае з таго, што палітэхнічны прынцып, па Леніну, „не патрабуе навучаньня ўсяму, але патрабуе навучаньня асновам сучаснай індустрыі наогул“ і адкідае ў бок усякія спробы падмены палітэхнізму ўнівэрсалізмам і схэматызмам.

Другое, зьвязанае з палітэхнізмам, пытаньне аб палітэхнізьме і агульнай адукацыі. Гэтае пытаньне набывае для нас зараз асаблівы інтарэс, бо зараз у нашай школе мы маем прарыў іменна на гэтым вучастку барацьбы за палітэхнічную школу.

„Камуністам, гаворыць Ленін,—можна стаць толькі тады, калі ўзбагаціш сваю памяць веданьнем ўсіх тых багацьцяў, якія выпрацавала чалавецтва.“

Трэба ўдарыць па руках тых людзей якія адрываюць палітэхнізм ад усваеньня „асновы такіх-та і такіх-та навук“, якія не разумеюць, або ня хочуць зразумець таго, што палітэхнічная школа без нясупыннага ўздыму агульнаадукацыйнага ўзроўню ёсьць поўнае скажэньне, сугуба фармальнае, антыленінскае тлумачэньне палітэхнізму. У рэзалюцыі Цэнтральнага Камітэту сказана: „спроба адарваць палітэхнізацыю школы ад сыстэматычнага і грунтоўнага ўсваеньня навук, асабліва фізыкі, хэміі і матэматыкі... прадстаўляе сабой грубейшае скажэньне ідэі палітэхнічнай школы“

А мы маем, што грэх хаваць наплявацельскія адносіны да гэтага боку школьнай работы. З гэтым трэба павесьці зараз самую рашучую барацьбу. Нам зараз трэба ня толькі сыстэматычна змагацца за падвышэньне якасьці работы нашай школы наогул, але нам трэба ўхапіцца за тое асноўнае для данага моманту зьвяно, дзе выявіўся яўны прарыў, г. зн. у час агульнай адукацыі. І недарма ў пастанове ЦК сказана, што „карэнны недахоп школы ў даны момант заключаецца ў тым, што навучаньне ў школе не дае дастатковага аб'ёму агульнаадукацыйных ведаў і нездавальняюча вырашае задачу падрыхтоўкі для тэхнікумаў і для вышэйшай школы поўнасьцю пісьменных людзей, добра ўладаючых асновамі навук (фізыка, хэмія, матэматыка, родная мова, гэографія і інш)“.

Возьмем гэты бок школьнай работы яшчэ з пункту гледжаньня лёзунгу „аўладаньня тэхнікай“. Аб якім „аўладаньні тэхнікай“ можна гаварыць без „шырокай агульнай адукацыі“? Гэта будзе пустышка, нікчэмнае верхаглядзтва. Ленін прама казаў, што камуніст, які ня ўзяў, ня ўсвоіў, не прапрацаваў у сваім сазнаньні „усей сумы чалавечых ведаў“, будзе толькі „простым хвастуном“.

Не разумець цясьнейшай арганічнай сувязі палітэхнізму і агульнай адукацыі, адрываць палітэхнізацыю школы „ад сыстэматычнага і грунтоўнага ўсваеньня навук“,—гэта значыць грубейшым чынам скажаць марксыцка-ленінскае разуменьне палітэхнізму.

За апошні пэрыяд у школьным будаўніцтве з боку органаў народнай асьветы мы мелі ня толькі недаацэнку значэньня агульнай адукацыі, але ў радзе выпадкаў мелі спробы адарваць палітэхнізм ад „усваеньня навук“, што змыкалася з тэорыяй „адміраньня школы“. Аб гэтым трэба сказаць з усей рэзкасьцю. Трэба ўсвоіць сабе, што „карэнны недахоп школы ў даны момант“ набыў настолькі буйныя разьмеры іменна таму, што ў тэорыі і на практыцы пэдагагічнай работы мелі месца гэтыя памылкі і скрыўленьні.

У той жа час за апошнія гады школай дасягнуты настолькі значныя посьпехі, што яны даюць магчымасьць па-бальшавіцку выкрыўшы ўсе недахопы, памылкі і скрыўленьні ў школьнай рабоце дабіцца ў карацейшы тэрмін пералому ў справе ліквідацыі „карэннага недахопу“, адзначанага ў пастанове Цэнтральнага Камітэту.

У трэці бок—трэцяе агульнае пытаньне, якое зьвязана з разуменьнем палітэхнізму,—гэта палітэхнізм і вытворчае навучаньне. Я невялікі прыхільнік гэтага тэрміну—і не таму, што гэты тэрмін быў няправільны, а таму, што ён не адпавядае цяперашняй стадыі ў злучэньні навучаньня з грамадзка-вытворчай працай. Трэба сказаць, што арганізацыя злучэньня навучаньня з вытворчай працай наладжана яшчэ вельмі недастаткова, бо прымацаваньне школы да прадпрыемства носіць часта фармальны характар. З прычыны гэтага гаварыць зараз аб вытворчым навучаньні ў адносінах рабят нашай масавай школы было-бы раней часу, па меншай меры.

Пасьля гэтых заўваг пяройдзем да сутнасьці пытаньня аб палітэхнізьме і вытворчым навучаньні. Мы маем да гэтага часу яшчэ значныя няўвязкі паміж тэарытычным навучаньнем і практыкай. Яны выражаюцца ў тым, што мы маем даволі стракаты і яшчэ дрэнна арганізаваны навучальны плян школы. Дзеці і падлеткі ў школе ў цяперашні час ужо ня толькі сядзяць у клясе за партай, але яны адначасова працуюць

у рабочым пакоі, або ў школьнай майстэрпраходзяць вытворчае навучаньне на фабрыцы або заводзе, наведваюць выстаўкі, музэі, прамысловыя прадпрыемствы ў парадку арганізаваных экскурсій і г. д. З прычыны гэтага мы зараз маем у школе складаны навучальны плян і ён дрэнна арганізаваны, у ім няма ящчэ належнага адзінства, усе яго часткі нярэдка слаба зьвязаны адна з аднэй. Апрача гэтага, навучальны плян адлюстроўвае на сабе тыя скрыўленьні, якія маюць месца ў арганізацыі вытворчай працы вучняў, у няправільных суадносінах паміж агульнай адукацыяй, з аднаго боку, прадукцыйнай працай і грамадзкакарыснай работай - з другога.

Тут мы маем у першую чаргу скрыўленьні праваапартуністычнага парадку, якія выражаюцца ў адмаўленьні (у тэй ці іншай форме) ад злучэньня школьнага навучаньня з вытворчай працай. Адным з канкрэтных выражэньняў гэтага зьяўляецца недаацэнка вялізарнага значэньня прымацаваньня школ да фабрык, заводаў, МТС, саўгасаў і калгасаў. Ёсьць людзі, якія яўна або скрыта супроцьдзейнічаюць перабудове школы на палітэхнічных пачатках, яны цягнуць назад, да старой славеснай школы. У гэтым напрамку мы павінны нанесьці галоўны ўдар.

Падобным-жа скажэньнем палітэхнізму зьяўляецца падмена яго рамесьніцтвам (у тым ці іншым выглядзе), які суправаджаецца адрывам тэхнікі ад палітыкі і эканомікі.

У Леніна ёсьць ужо ў цытыраваным намі дакуманце (на III сэсіі УсеЦВК) такі запіс: „Злучэньне з вытворчай працай“ і тут жа ў дужках запісана „(не—дробна-буржуазнай рамеснай школе)“.

У цяперашні час асобая ўвага павінна быць сканцэнтравана на барацьбе са скажэньнямі палітэхнізму, якія ідуць па лініі „лявацкіх“ перагібаў. У пастанове ЦК сказана, што „злучэньне навучаньня з вытворчай працай неабходна праводзіць на такой аснове, каб уся грамадзка-вытворчая праца вучня была падпарадкавана навучальным і выхаваўчым мэтам школы“. Па гэтай жа лініі ідзе і патрабаваньне забесьпячэньня школе „дакладна акрэсьленага кола сыстэматызаваных ведаў“. У школьнай тэорыі і практыцы ёсьць таксама і такія скажэньні, калі ўказаныя вышэй суадносіны перавёртваюцца, г. зн. калі навучальныя і выхаваўчыя мэты школы падпарадкуюцца грамадзка-вытворчай працы вучня, калі грамадзка-карысная работа школы (скажам барацьба за прамфінпляны данага прадпрыемства, да якога прымацавана школа) настолькі выпячваецца наперад, што гэта зьмінае і калечыць навучальныя праграмы і ўвесь навучальны плян школы. Гэтыя скажэньні знаходзяць сваё адлюстраваньне ў недаацэнцы (іншы раз і простым ігнараваньні) значэньня школьных майстэрняў і рабочых пакояў.

Бывае так, што гэтыя перагібы змыкаюцца са спробамі, якія выцякаюць з антыленінскай тэорыі адміраньня „школы“ спробамі „пакласьці ў аснову ўсёй школьнай работы так званы мэтад праектаў“.

З гэтымі „лева“-апартуністычнымі скажэньнямі палітэхнізму трэба разгарнуць рашучую барацьбу, да канца выкрыць, што „лявацкія“ перагібы і „лявацкія“ пэдагагічныя „тэорыі“ змыкаюцца з правым апартунізмам у пэдагогіцы, наносяць вялізарную шкоду палітэхнічнай перабудове школы і дапамагаюць школьнай рэакцыі, якая вядзе барацьбу супроць палітэхнізму і камуністычнага выхаваньня. Барацьба на два франты зьяўляецца нашай важнейшай задачай, ад якой цалкам залежыць посьпех барацьбы за палітэхнічную школу.

Вось тыя тры бакі ў пытаньні аб палітэхнізьме на якіх мы хацелі тут спыніцца.

Палітэхнізм—частка камуністычнага выхаваньня

Мы працуем над тым, каб выхаваць пакаленьне, здольнае канчаткова ўстанавіць камунізм“.

Пастанова ЦК аб школе ёсьць канкрэтная праграма сацыялістычнага наступленьня ў справе будаўніцтва палітэхнічнай школы. Наша савецкая школа, якая перабудоўваецца на палітэхнічных пачатках, павінна даваць „усебакова разьвітых будаўнікоў сацыялізму, увязваючых тэорыю з практыкай і ўладаючых тэхнікай“.

## III. Карэнны недахоп школы і асноўнае зьвяно яе перабудовы на цяперашнім этапе.

Мы маем у цяперашні час ужо значныя посьпехі ў справе барацьбы за палітэхнічную школу. ЦК у сваёй пастанове піша, што „побач з рашаючымі крокамі па ажыцьцяўленьню абавязковага навучаньня дзяцей школьнага ўзросту, школа значна пасунулася наперад па шляху злучэньня школьнага навучаньня з прадукцыйнай працай і грамадзкай работай дзякуючы чаму закладзены асновы перабудовы школы на базе палітэхнізму“.

У 1930-31 г. быў зроблен першы паварот школьнага руля. Ён заключаўся ў тым, што мы крута павярнулі нашу ўвагу да школы, а самую школу крута павярнулі тварам да вытворчасьці. Зараз засталося вельмі нямнога школ, якія не прымацаваны да сацыялістычных прадпрыемстваў. Мы дабіліся павароту школы ў бок палітэхнізму. Але іменна ў рэзультаце гэтага павароту з вялічайшай рэзкасьцю выявіліся важнейшыя недахопы ў рабоце савецкай школы.

У рапарце, які калегія Наркамасьветы РСФСР падала ў ліпені гэтага году ЦК партыі т. Сталіну, канстатуецца, што „дабіўшыся значнага зруху ў справе палітэхнізацыі школы за мінулы год, мы ўсёж далёка яшчэ не ажыцьцёвілі дырэктывы партыі аб карэнным і ўсебаковым палепшаньні якасьці работы школы, аб належнай пастаноўцы вытворчага навучаньня, аб падвышэньні ўзроўню вучняў і ўсямернага ўмацаваньня марксысцка-ленінскай і спэцыяльна пэдагагічнай падрыхтоўкі настаўніцкіх кадраў“.

І далей рапарт дадае: „гэтая задача зьяўляецца галоўнай і рашаючай на бліжэйшы пэрыяд дзейнасьці Наркамасьветы РСФСР“.

### Карэнны недахоп школы.

Ва ўмовах уздыму ўсёй школьнай работы з усіх маючыхся недахопаў школ асабліва рэзка выявілася адставаньне аб'ёму агульна-адукацыйных ведаў, якія даюцца масавай школай.

За апошні пэрыяд гэтай справе з боку органаў народнай асьветы было ўдзелена зусім недастаткова ўвагі, апрача гэтага, у ходзе палітэхнічнай перабудовы школы быў зроблен рад памылак, дапушчаны скрыўленьні ў галіне мэтадаў навучаньня, і нарэшце „лявацкае“ мэтадычнае пражэкцерства нанесла значную шкоду іменна гэтаму боку школьнай работы.

З гэтым зьвязаны другі паварот школьнага руля, які мы павінны зрабіць на працягу 1931-32 г. навучальнага году. Гэты год будзе вельмі напружаным годам таму, што ў сувязі з неабходнасьцю ўсямернага забесьпячэньня ў школе належнага аб'ёму агульна-адукацыйных ведаў, трэба ўзьняць агульны парадак у школе, умацаваць школьную арганізацыю, наладзіць аднаасобнае кіраўніцтва школай і дабіцца правільнага штодзённага мэтадычнага кіраўніцтва школай.

Усе гэтыя задачы прыдзецца практычна вырашаць ва ўмовах палітэхнічнай перабудовы школы і далейшага разгортваньня аб'ёму школьнай сеткі (завяршэньне ўсенавуча чатырохгадовага і паскоранае правядзеньне ўсенавуча сямігадовага), і ад гэтага будзе залежыць, наколькі пасьпяхова мы справімся з тэй вялізарнай задачай, якая пастаўлена перад намі дырэктывай ЦК ад 5 верасьня гэтага году.

Мы павінны разгарнуць няпрымірлівую барацьбу на два франты—супроць правых апартуністаў і супроць „левакоў“ у пэдагогіцы. Мы павінны выкрыць і ліквідаваць малейшыя спробы супраціўленьняў „павароту ў рабоце школы“, якімі-бы „лёзунгамі“ яны ні прыкрываліся „лявацкай“ фразай, або праваапартуністычнымі ўвёрткамі, якія вядуць да адмаўленьня ад палітэхнізму.

Як вызначае пастанова ЦК карэнны недахоп школы ў даны момант?

ЦК перш за ўсё канстатуе, што „савецкая школа далёка яшчэ не адпавядае тым вялізарным патрабаваньням, якія прад'яўляюцца да яе сучасным этапам сацыялістычнага будаўніцтва“. І далей, ЦК указвае, што „карэнны недахоп школы ў даны момант заключаецца ў тым што навучаньне ў школе не дае дастатковага аб'ёму агульна-адукацыйных ведаў і нездавальняюча вырашае задачы

падрыхтоўкі да тэхнікумаў і да вышэйшай школы поўнасьцю пісьменных людзей, якія добра ўладаюць асновамі навук (фізыка, хэмія, матэматыка, родная мова, геаграфія і інш.)".

Вось карэнны недахоп, які мы маем у школе, вось той прарыў, які ёсьць у школьнай рабоце: нам трэба дабіцца таго, каб яго ліквідаваць як мага хутчэй.

Для гэтага трэба дабіцца, каб усе сілы мясцовых партыйных арганізацый, усе сілы органаў народнае асьветы, усе сілы культурнай арміі, усе сілы масавага культурнага руху, усе сілы новай арміі пэдагагічнага пэрсаналу былі пад кіраўніцтвам партыі накіраваны на ліквідацыю гэтага карэннага недахопу.

Зусім нясумненна, што посьпехі ў гэтай галіне створаць трывалую базу для новага ўздыму школы ў напрамку перабудовы яе на аснове пэдагагічных прынцыпаў Маркса і Леніна.

Ліквідацыя карэннага недахопу школы ў даны момант зьяўляецца важнейшай чарговай задачай, без вырашэньня якой зусім не магчыма пабудова палітэхнічнай школы, без вырашэньня якой і сама палітэхнізацыя школы набывае фармальны характар.

З гэтым пытаньнем цясьнейшым чынам зьвязана цэлая група праблем, якія датычуцца навучальных праграм і навучальных плянаў масавай школы.

### Мэтады навучаньня ў палітэхнічнай школе

У цяперашні час з усёй вострасьцю паўстае пытаньне аб мэтадах навучаньня ў масавай школе. Пытаньне аб мэтадах навучаньня зьяўляецца важнейшым пытаньнем.

Мы будуем палітэхнічную школу. Мы маем новы зьмест школьнай работы, новыя мэтавыя ўстаноўкі, а значыць, павінны мець і новыя мэтады работы. Нельга думаць так, што можна мэтавую ўстаноўку школы і зьмест школьнай работы зьмяніць і застацца пры старых мэтадах навучаньня. Гэта—глыбокае заблуджэньне. З гэтага нічога добрага ня выйдзе. Але, з другога боку, ні ў якай ступені нельга сказаць і так, што ёсьць новая школа, новыя мэтавыя устаноўкі, новы зьмест, і таму выкідвай цалкам усе старыя мэтады навучаньня. Гэта—няправільная ўстаноўка. Мы павінны ўмець цэнныя мэтады навучаньня старой школы ўжыць у практыцы работы нашай новай школы, школы з новай мэтавай ўстаноўкай, з новым зьместам работы і з новымі мэтадамі навучаньня. І тут трэба гаварыць ня толькі аб агульнай мэтодыцы, аб мэтодыцы навучаньня, але і аб прыватных мэтодыках, і аб асобных практычных прыёмах навучальна-мэтадычнага парадку. Вазьмеце хоць-бы „паказальныя лекцыі" або „спэцыяльныя практыкаваньні па навыках", або „кантрольныя заданьні".

Няўжо ўсё гэта ня можа быць ужыта ў нашай савецкай школе? Можа быць ужыта: трэба толькі ўмець так гэтыя прыёмы прапрацаваць, каб яны адпавядалі мэтавым устаноўкам зьместу і мэтадам навучаньня нашай палітэхнічнай школы, вярней казаць,—школы, якая перабудоўваецца на палітэхнічнай аснове. У нас вопытных спэцыялістаў пэдагогаў, якія ўладаюць пэдагагічным майстэрствам, ня так ужо шмат.

У нас, як вядома, вельмі шмат пэдагагічнай моладзі, і паглядзець такому маладому пэдагогу на тое, як працуе вопытны пэдагог у клясе, у рабочым пакоі, у школьнай майстэрні, як ён вядзе экскурсію работ у музэй, на фабрыку, на завод, як арганізуе работу старэйшых груп на прадпрыемстве,—усё гэта для такога пэдагога будзе вялічайшай справай. Ён будзе на практыцы знаходзіць вырашэньне цэлага раду недаўменьняў, якія ў яго, як у недастаткова вопытнага спэцыяліста, бязумоўна ёсьць. Тут трэба разгарнуць належную работу, трэба як належыць папрацаваць над цэлым радам падобных практычных навучальных прыёмаў у адпаведнасьці з задачымі палітэхнічнай школы.

Нядаўна на аднэй настаўніцкай нарадзе (у г. Саратаве) мне давялося чуць аб „спэцыяльных практыкаваньнях" і „канкрэтных заданьнях" у аднэй, як відаць, добрай апорнай школе. Што тут дрэннага, калі ад гэтага веды замацоўваюцца, а школьнае навучаньне ня толькі не адрываецца ад практыкі, грамадзкай работы і прадукцыйнай працы, а, наадварот, апошнія ад гэтага выйграюць. Нічога,

акрамя добрага. І трэба даць рашучы адпор людзям, якія, прыкрываючыся „левай“ фразай, задумаюць пашкодзіць у такога роду мэтадычнай рабоце. Трэба бязьлітасна разграміць і тых, хто хоча працягнуць тут „зуброжку“, „муштру“, „мёртвыя веды“, скажаць мэтавыя ўстаноўкі і новы зьмест палітэхнічнай школы, школы камуністычнага выхаваньня, хто захоча дапамагаць школьнай рэакцыі, цягнуць назад—да буржуазнай школы.

**Аб ужываньні новых мэтадаў навучаньня.**

Перабудова школы на палітэхнічнай аснове патрабуе сыстэматычнай работы над новай мэтодыкай масавай школы, якая знаходзілася б у поўнай адпаведнасьці з задачамі палітэхнізацыі школы і камуністычнага выхаваньня падрастаючых пакаленьняў.

Гэтую работу неабходна весьці на аснове мэтадычнага вопыту, накопленага органамі народнай асьветы за апошняе дзесяцігодзьдзе, у цясьнейшай сувязі з тым практычным пэдагагічным вопытам, які цяпер сканцэнтроўваецца ў нашай масавай школе ў працэсе яе перабудовы на палітэхнічнай аснове, і, нарэшце, у гэтай галіне мы можам і павінны выкарыстаць мэтадычны вопыт перадовой буржуазнай пэдагогікі, пры тэй абавязковай умове, што ўстаноўчыя заваёвы буржуазнай школы мы будзем перапрацоўваць у адпаведнасьці з задачамі палітэхнічнай школы ў пралетарскай дзяржаве, выкідваючы з іх тое, што „зьяўлялася неабходным для капіталізму“ і ўкараняючы ў нашу практыку тое, што „зьяўляецца неабходным для камунізму“.

Школа, якая перабудоўваецца на палітэхнічнай аснове, патрабуе новых мэтадаў выкладаньня. У пастанове ЦК мы чытаем: „ужываючы ў савецкай школе розныя мэтады навучаньня, якія могуць садзейнічаць выхаваньню ініцыятыўных і дзейных удзельнікаў сацыялістычнага будаўніцтва, неабходна разгарнуць рашучую барацьбу супроць лёгкадумнага мэтадычнага пражакцёрства“...

Дырэктыва ЦК, гаворачы аб ужываньні новых мэтадаў навучаньня, абумоўлівае гэта перш за ўсё тым, каб гэтыя новыя мэтады маглі „спрыяць выхаваньню ініцыятыўных і дзейных удзельнікаў сацыялістычнага будаўніцтва“. Крытэры дан зусім дакладны, трэба толькі ўмець яго правільна ўжыць на практыцы.

Але ў дырэктыве ЦК таксама ўказана: „Неабходна разгарнуць рашучую барацьбу супроць лёгкадумнага мэтадычнага пражакцёрства. насаджэньня ў масавым маштабе мэтадаў, загадзя на практыцы не праверaных, што асабліва ярка за апошні час выявілася ва ўжываньні так званага „мэтаду праектаў“.

Мы павінны зараз разгарнуць рашучую барацьбу супроць „лёгкадумнага мэтадычнага пражакцёрства“. Мы павінны самым рашучым чынам ліквідаваць практыку „насаджэньняў у масавым маштабе мэтадаў, загадзя на практыцы не праверaных“. Мы павінны правесьці гэта асабліва ў адносінах мэтаду праектаў, бо ва ўжываньні яго ў школе „асабліва ярка“ выявілася і „мэтадычнае пражакцёрства“ і „насаджэньне ў масавым маштабе не праверaных мэтадаў“.

Вось як павінна быць зразумета намі гэтая частка дырэктывы ЦК аб новых мэтадах і мэтадзе праектаў.

Мы маем такія выпадкі, калі, скажам, за той-жа „мэтад праектаў“ хапаюцца ўсе, хто толькі можа, зусім ня ўсвоіўшы, што такое мэтад праектаў, не праверыўшы яго загадзя на практыцы, не падрыхтаваўшы да гэтага як належыць школу, не прадумаўшы старанна ні мэтадычнага, ні арганізацыйнага боку гэтай справы. І канечна, ад гэтага атрымліваюцца самыя згубныя рэзультаты.

Мне, напрыклад, давялося ў Саратаве сабраць мэтадычную нараду кваліфікаваных пэдагогаў і інструктараў працы. Што там выясьнілася? Там выясьнілася, што некаторыя школы на мэтад праектаў пераходзілі адразу, усёй школай, бяз усякай падрыхтоўкі, і, па заяўленьні саміх гэтых людзей, у іх атрымаўся поўны беспарадак і хаос у школе. Ствараліся скразныя брыгады, ламалася ўся школьная арганізацыя, папярэдняга вопыту ва ўжываньні гэтага мэтаду ніякага, кіраўніцтва ніякага, пэдагагічная падрыхтоўка настаўніцтва ў школе яўна недастатковая, і ў выніку атрымаліся надзвычайна сумныя рэзультаты, якія урэшце, прыводзілі

да рэзкага зьніжэньня якасьці ўсёй школьнай работы, а ў горшых выпадках—да поўнага развалу школы.

На саратаўскай нарадзе прыводзілі і іншыя прыклады калі досьлед з ужываньнем мэтаду праектаў удаўся (у дасьледча-паказальнай школе—у ФЗС № 5).

Але гэта толькі падкрэсьлівала ўсю шкоду „легкадумнага мэтадычнага пражэкцёрства“ і ўсю недапушчальнасьць „насаджэньня ў масавым маштабе“ неправераных мэтадаў (асабліва такіх, як „мэтад праектаў“). Гэта мэтадычнае пражэкцёрства выражалася і ў іншых формах. Напрыклад, у маі была склікана нарада ў акадэміі Камуністычнага Выхаваньня ўсіх нашых пэдвну, і там знайшліся такія людзі, якія гаварылі аб тым, што можна дыялектычны матэрыялізм цалкам і поўнасьцю перавесьці на мэтад праектаў Вось—пэрлы мэтадычнага пражэкцёрства! З імі трэба павесьці рашучую барацьбу, іх трэба выгнаць з нашай школы, таму што ад іх нічога, апрача шкоды для ўсёй школьнай работы, мы не атрымаем.

Але было-б няправільным уяўляць сабе справу так, што „пражэкцёры“ сядзелі толькі ў школах. Нічога падобнага. Ініцыятыва гэтага мэтадычнага пражэкцёрства шла зьверху з цяпер расфарміраванага Інстытуту марксысцка-ленінскай пэдагогікі

Іменна адтуль шла такая прапаганда мэтаду праектаў,якая сама была ня чым інш., як „лёгкадумным мэтадычным пражэкцёрствам“, і якая жывіла і мэтадычнае пражэкцерства ў школе і масавае „насаджэньне“ мэтадаў, „на практыцы не правераных“. Тым больш,—гэта неабходна асоба падкрэсьліць,—што гэтая прапаганда ў самім-жа Інстытуце базавалася на ліквідатарскай тэорыі „адміраньня школы“.

І вось тут мы падыходзім да апошняй часткі дырэктывы ЦК аб ужываньні ў савецкай школе новых мэтадаў навучаньня.

„Выцякаўшыя,—чытаем мы ў пастанове ЦК,—з антыленінскай тэорыі „адміраньня школы“ спробы пакласьці ў аснову ўсёй школьнай работы так званы „мэтад праектаў“ вялі фактычна да „разбурэньня школы“.

І ў гэтых выпадках мы мелі ўжо ня проста памылкі, а прамое грубейшае скажэньне бальшавіцкай школьнай палітыкі, ліквідатарскую школьную практыку, якая выцякала з антыленінскай, „левацкай“ тэорыі„ адміраньня школы“.

Калі ў такім агульным выглядзе ўжываўся мэтад праектаў, дык гэта ёсьць ня што іншае, як тэорыя „адміраньня школы“, якая прыводзіла да разбурэньня школы. Мне ўжо даводзілася гаварыць аб „лявацкай“ тэорыі „адміраньня школы“,—на другой партыйнай нарадзе па народнай асьвеце ў красавіку 1930 г., і на пленуме навукова-пэдагагічнай сэсіі ДВС у 1931 г. (і за апошнія месяцы на жнівеньскай нарадзе заг. АНА, і на канфэрэнцыі ФЗС).

Гэтая тэорыя даволі ўедлівая. Мы бачым, як цэлы рад спроб ужываньня мэтаду праектаў, па сутнасьці кажучы, былі такімі спробамі, якія выцякалі з „лявацкай“ тэорыі „адміраньня школы“. Канечна, яны ня прыводзілі ні да чаго іншага, як да разбурэньня школы—гэтай важнейшай зброі пралетарскай дзяржавы ў справе „выхаваньня пакаленьня, здольнага канчаткова ўстанавіць камунізм“.

У адносінах новых мэтадаў навучаньня можна сказаць, што гісторыя паўтараецца. Але „гісторыя“ з мэтадам праектаў паўтарае падобныя-жа „гісторыі“, якія ўжо былі і прайшлі, але, на жаль, яны іх паўтараюць у горшым выглядзе. Наркамасьветы РСФСР было падведзена падсумаваньне таго, як ажыцьцяўлялася комплекснасьць у нашай масавай школе. Што мы тут бачым? Даклад па гэтым пытаньні адзначае, што „комплекс ператвараецца ў фэтыш, які засланяе мэту, сэнс і сутнасьць пэдагагічнай работы“, і што ў ахвяру гэтаму фэтышызаванаму комплексу прыносілася „элементарная пісьменнасьць“. Даклад асоба адзначае спробу „бязутрымнага камплексаваньня“ навучальнага матар'ялу, прычым „камплексавалася“ тое, што камплексаваньню зусім не паддавалася. Мелі месца яўныя кур'ёзы. У дакладзе ёсьць агульны вывад, які мае значэньне і для нашага часу. Там гаворыцца наступнае: „лёгіка арганізацыі і мэтодыкі работы па комплексных тэмах сустрэлася з лёгікай

арганізацыі і мэтодыкай работы па мове і матэматыцы“.

У дакладзе ўказвалася, што ў 1925-26 г. пытаньне аб увязцы комплексных заняткаў і навыкаў па мове і матэматыцы „было надзвычайна вострым пытаньнем“. Чаму?—Таму, што настаўнік або зусім адмаўляўся ад работы па комплекснай сыстэме, аддаючы амаль увесь час навучаньню дзяцей ведам і навыкам па роднай мове, матэматыцы і інш. і, такім чынам, пераходзіў да старой прадметнай сыстэмы навучаньня, або, наадварот, у спробах усе зьвязаць даходзіў да кур'ёзаў.

Тое-ж самае, прыкладна, мы мелі з Дальтон плянам Тое-ж самае, толькі ў значна горшай форме, мы маем і з „мэтадам праектау“. Гісторыя паўтараецца. Трэба ўсё-ж такі сказаць, што ў адносінах „мэтаду праектаў“ значна больш дрэнных рэчаў нагаворана і наблытана, чым нароблена, хоць нароблена і наблытана таксама парадкам.

Пастанова Цэнтральнага камітэту дае нам у рукі магутную зброю для барацьбы за генэральную бальшавіцкую лінію ў школьнай палітыцы, забясьпечвае нам посьпех у барацьбе з памылкамі і са скажэньнямі ў галіне мэтодыкі масавай школы. Яна адыграе вялізарную ролю і ў выпраўленьні тых памылак і скрыўленьняў, якія маюць месца і ў вышэйшай школе, у першую чаргу—у нашых пэдагагічных ВНУ.

У адносінах масавай школы мэтадычная лінія зусім ясная.

Мы павінны, ужываючы „розныя новыя мэтады навучаньня“, рашуча адмовіцца ад масавага ўжываньня мэтаду праектаў, абмежаваўшыся захаваньнем яго толькі ў тых асобных школах, дзе ён даў бязумоўна станоўчыя рэзультаты з пункту погляду тых задач, якія пастаўлены пастановай ЦК партыі, арганізаваўшыя дасьледчае вывучэньне ўжываньня гэтага мэтаду ва ўмовах савецкай школы.

Дасьледчае вывучэньне належыць арганізаваць у цяперашні час і ў адносінах іншых мэтадаў навучаньня, дапасавальна да ўмоў школы, якая перабудоўваецца на палітэхнічнай аснове. Гэта дасьць нам магчымасьць ня толькі карэнным чынам выправіць памылкі, перагібы і скрыўленьні, якія маюцца ў школьнай практыцы ва ўжываньні розных новых мэтадаў навучаньня, але і, праверыўшы на вопыце розныя мэтады выкладаньня, тым самым забясьпечыць неабходныя ўмовы для разгортваньня новай мэтодыкі ва ўмовах палітэхнічнай школы.

У цясьнейшай сувязі з гэтымі мэтадычнымі задачамі павінна быць разгорнута мэтадычная работа нашых Навукова Дасьледчых Інстытутаў.

У гэтай галіне нам прадстаіць прарабіць вялікую работу, бо яна крайне засьмечана „пражэкцёрамі“ і „левакамі“. Гэтым людзям помнік трэба было-б паставіць і на помніку напісаць: „Вось людзі, якія шлі ў адну дзьвер, а трапілі ў зусім іншую“, хацелі аб'явіць архірэвалюцыйную пэдагогіку, а на самай справе самым цясьнейшым чынам самкнуліся з лібэральнай меншавіцкай палітыкай. Гэтыя мэтадычныя пражэкцёры, „левакі“, аўтары і распаўсюджвацелі антыленінскай тэорыі „адміраньня школы“ зрабілі цяжкім нам зараз правядзеньне ў школе новых мэтадаў навучаньня. Яны абураюча нашкодзілі ў справе правядзеньня новай мэтодыкі. Дзякуючы ім мэтадычнае поле крайне засьмечана. І нам прыдзецца зараз узяцца ўсутыч за тое, каб па бальшавіцку ачысьціць яго ад усяго гэтага „лявацкага“ хламу. Гэтую барацьбу мы будзем весьці пад сьцягам тэорыі Маркса і Леніна.

### Адзін з прыкладаў някрытычнага ўсваеньня мэтодыкі буржуазнай школы.

Чым больш удумваешся ва ўсю гэтую „гісторыю„ з мэтадам праектаў, галоўнымі дзеячамі якой былі т. т. Шульгін і Крупеніна, узначальваўшыя былы інстут мэтадаў школьнай работы, тым ясьней разумееш, што, па сутнасьці кажучы, у Шульгінскім „левым“ пражэкцёрстве з мэтадам праектаў мы маем тыповы прыклад някрытычнага ўсваеньня мэтодыкі буржуазных школ, маем узор прамога някрытычнага перанясеньня такога мэтаду, які характэрны для амэрыканскай школы. Ці можам мы запазычваць мэтады навучаньня передавых буржуазных школ?—Бязумоўна можам. Але як?—Перапрацоўваючы іх, выкідваючы

і выкрываючы ўсё, што зьяўляецца „неабходным для капіталізму“, бяручы і крытычна ўсвайваючы тое, што зьяўляецца неабходным для камунізму. Такім чынам павінны мы дзейнічаць у адносінах ужываньня мэтадаў выкладаньня, якія практыкуюцца ў буржуазнай школе.

У адносінах амэрыканскага мэтаду праектаў „левакі“ зрабілі зусім адваротнае.

Для таго, каб навочна паказаць гэта, прыйдзецца, раней за ўсё, заняцца амэрыканскімі тэарэтыкамі і практыкамі мэтаду праектаў.

Перш за ўсё спынімся на тым, якія асноўныя прынцыповыя ўстаноўкі ёсьць у тэарэтыкаў амэрыканскага мэтаду праектаў, а затым возьмем прыклад таго, як гэты мэтад праектаў на практыцы ўжывае прафэсар Колінгс у сваей дасьледчай школе. Тэарэтык перадавой амэрыканскай пэдагагічнай думкі Кільпатрык выходзіць з „ідэалу дэмакратычнай грамадзянственнасьці“. Мы ведаем, што з сабе гэты „ідэал“ прадстаўляе. Мы ўжо цытыравалі кнігу прафэсара Каунтса, які паказвае, канечна, далёка няпоўна і далёка не ў сапраўдным выглядзе, гэтую амэрыканскую „дэмакратычную грамадзянственнасьць“. Кільпатрык гаворыць так: „Раз мы ўстанавілі, што мэтавы акт ёсьць тыповая рыса, годная жыцьця дэмакратычнага грамадства, дык яго належала-б зрабіць тыповай рысай пэдагагічнай практыкі“.

Тут ужо закладаецца аснова мэтаду праектаў. „Мэтавы акт“ („праект“) трэба пакласьці ў аснову, зрабіць яго тыповай рысай „пэдагагічнай практыкі“, г. з. работы школы. І тут-жа Кільпатрык заяўляе: „Увесь мой філёсофскі погляд прышчапіў мне недавер'е да ўсякіх агульных прынцыпаў“. Гэта сапраўдная філёсофія бязпрынцыпнага дзяляцтва, так характэрная для эпохі імпэрыялізму. І, нарэшце, вось трэці тэзіс прафэсара Кільпатрыка, які трэба ведаць, каб зразумець і яго пэдагагічныя погляды: „мы пагарджаем чалавека,—піша Кільпатрык, які пасыўна ўжывае тое, што навязвае лёс, або просты выпадак. Мы схіляемся перад чалавекам, які зьяўляецца гаспадаром свайго лёсу, які ўважліва і агляднчыва, прымаючы пад увагу агульнае становішча, складае пэўныя, далёка хапаючыя задачы, хто клапатліва распрацоўвае і выконвае праекты ім самім складзеныя“

Тут мы маем зусім дакладнае адлюстраваньне амэрыканскага імпэрыялізму, з яго шалёнай канкурэнцыяй, з яго бессаромным рвацтвам, з яго вузкім практыцызмам і з бяспрынцыпным дзялядцтвам. Пэдагагічная філёсофія Кільпатрыка ёсьць ня што іншае, як адлюстраваньне сутнасьці амэрыканскага імпэрыялізму. Буржуазія разглядае школу як сродак „натаскаць“ для сябе „пакорных і растаропных слуг“, „выканаўцаў волі і рабоў капіталу“. Для гэтага яна ліцамерна аб'яўляе яе па-за палітыкай і тым самым робіць яе зброяй сваёй палітыкі, палітыкі капіталістычнай эксплёатацыі і капіталістычнага ўціску. Для гэтага яна „заграмаджае“ яе сярэдняковым і буржуазным хламам, будуе школу „зуброжкі,“ „муштры“ і „мёртвых ведаў„. Гэта—адзіны шлях, якім буржуазія імкнецца дасягнуць сваіх мэтаў, г. зн. „натаскаць“ у школе „пакорных і растаропных прыслужнікаў“. Але ёсьць і другі шлях, які вядзе да тэйжа мэты-гэта шлях Кільпатрыкаў і Кольнігсаў, якія па сутнасьці справы гавораць сапраўднай імпэрыялістычнай прозай, бо школа, пабудаваная па іх рацэнту, дае людзей, якія іменна патрэбны буржуазіі. Іх школа мае адну задачу—даць магчымасьць дзецям і падлеткам „практыкавацца ў выбары і пасьпяховым ажыцьцяўленьні мэтаў“, г. зн. „натаскаць“ узкалобых практыкаў капіталістычнай справы. Школа Кільпатрыкаў і Кольнігсаў—гэта ня школа „зуброжкі“, „муштры“ і „мёртвых ведаў“, гэта—перадавая буржуазная школа; яна іншым шляхам, але выконвае тую-ж самую задачу, г. зн. задачу, пастаўленую школе амэрыканскім імпэрыялізмам.

Кільпатрык гаворыць, што ён адчувае „недавер'е да ўсякіх агульных прынцыпаў“. Школа Кільпатрыкаў і Колінгсаў пабудавана на гэтым „прынцыпе“, яна пранікнута вузкім практыцызмам, яна не дае месца „агульным прынцыпам“ і тым самым выхоўвае людзей, якія бяспрынцыпнасьць узводзяць у прынцып, г. зн., з такім „сьветапоглядам“, які якраз і патрэбен капіталізму. Недарма прафэсар Каунтс гаворыць, што „прынцып індыві-

дуальнага посьпеху“ адыгрывае такую азначаючую ролю ў разьвіцьця „амэрыканскай сыстэмы асьветы“. Калі спытацца,—што-ж можам мы ўзяць з такой буржуазнай школы? Само сабой зразумела, ня тое, што мы падвергглі тут крытыцы і выкрыцьцю. І нават далёка ня ўсё тое, што зьяўляецца ў гэтай школе цэнным, скажам, новыя мэтады навучаньня, бо гэта было-б узорам някрытычнага ўсваеньня буржуазных дасягненьняў. Цэннае ў мэтодыцы такой школы трэба ўзяць такім чынам, каб перапрацаваць яго з пункту погляду інтарэсаў пралетарскай дыктатуры і сацыялізму, адкінуўшы ўсё, што „зьяўляецца неабходным для капіталізму“, і ўсвоіўшы тое, што „зьяўляецца неабходным для камунізму“.

Практык амэрыканскага мэтаду праектаў прафэсар Колінгс у 1917г. арганізаваў дасьледчую школу. Пры гэтым ён узяў дзьве традыцыйныя амэрыканскія школы ў якасьці кантрольных школ. У працягу чатырох год ужываў ён у сваёй школе вопыт мэтаду праектаў. У выданай ім кніжцы („Вопыт работы амэрыканскай школы па мэтаду праектаў“) ён падводзіць вынікі ўсёй работы і дае аналіз усёй арганізацыі школы і школьнай работы.

„Мэтад праектаў,—гаворыць Колінгс — па сваёй сутнасьці мяркуе вялізарную рознастайнасьць праектаў, якія ствараюцца самімі дзяцьмі ў працэсе работы, а значыць, зусім выключае магчымасьць ужываньня якога-б то ні было загадзя выпрацаванага курсу“. Колінгс адзначае, што „амаль усе праекты насілі індывідуальны характар“.

Мы ўжо тут цытавалі Каунтса, які гаворыць, што ў аснову амэрыканскага мэтаду выхаваньня пакладзен прынцып крайняга індывідуалізму. У школе Колінгса амэрыканскія рабяты практыкуюцца ў „справах“. Адзін робіць прасавальную дошку для сваёй мамашы, другі займаецца тым, што вывучае, як варыць каву і г. д. Аб праграме такой школы Колінгс гаворыць наступнае: праграма дасьледчай школы „была выбрана непасрэдна з мэтаў, пастаўленых сабе дзецьмі, і бесьперарыўна перабудоўвалася ў залежнасьці ад далейшага разьвіцьця вопыту сумеснымі намаганьнямі інспэктара, настаўнікаў і вучняў школы“.

Аб раскладзе заняткаў у школе ён паведамляе такія зьвесткі: „дзённы расклад заняткаў быў надзвычайна гібкім, часам ён дазваляў усёй школе ў цэлым адначасова аддацца аднаму і таму жа праекту, часам прадастаўляў кожнаму вучню, або групе вучняў, або камбінацыі вучнёўскіх груп працаваць асобна“.

Месца вучня ў дасьледчай школе ён характырызуе так: „ніякіх падручнікаў, як такавых, у даследчай школе ня ўжывалася, хоць некаторыя мэліся ў бібліятэцы ў якасьці даведачных матар'ялаў“.

Калі спытацца: вось гэты мэтад, які так філёсофскі абгрунтоўваецца і так ужываецца практычна,—ён падыходзіць да нашай савецкай школы, ці не?

Калі я ў Саратаве гутарыў з групай настаўнікаў, між іншым з настаўнікамі з школы, у якой уся работа шла па мэтаду праектаў, дык адна настаўніца гэтай школы, вельмі добры і вопытны пэдагог, на маё пытаньне:—„як вы адносіцеся да амэрыканскага мэтаду праектаў“ – адказала: „Амэрыканскі мэтад праектаў няпрымальны на 80%.“ У процантах тут усяго ня вызначыш, але адказ павінен быць прызнан бязумоўна правільным, бо ў ім закладзена правільная ацэнка амэрыканскага мэтаду праектаў.

Амэрыканская школа, якая працуе па мэтаду праектаў, па сутнасьці кажучы, зусім выкідае тэарытычную асьвету, выкідае элемэнты сьветапоглядзкія. „Асновы навук“ яна цалкам і поўнасьцю зьвязвае з „праектамі“. Яна ліквідуе звычайныя навучальныя праграмы, расклады, падручнікі і г. д. Такой арганізацыяй школ у поўнай меры вырашаецца задача—даць магчымасьць вучням „практыкавацца ў выбары і пасьпяховым ажыцьцяўленьні мэтаў“. Усякая спроба без адпаведнай крытычнай перапрацоўкі перанесьці гэты мэтад у савецкую школу будзе азначаць пранікненьне ўплыву буржуазнай пэдагогікі. „Левакі“ у савецкай пэдагогіцы змыкаюцца з гэтымі архібуржуазнымі філёзофамі і практыкамі школы, якая працуе па мэтаду праектаў, калі яны не крытычна пераносяць вопыт амэрыканскай школы да нас.

Гэта прыводзіць іх нават і да „агульных прынцыпаў“, яўна амэрыканскага паходжаньня.

Што гаворыць аб выхаваньні т. Шульгін? Прывядзем вельмі кароткую, але выразную цытату. „Нам трэба з нашых рабят, — піша т. Шульгін, — зрабіць такіх людзей, якія, як гаворыць Джэк Лондон, глядзелі бы на перашкоды як на спорт: трэба перамагчы“. Вось вам „мэта“ выхаваньня падрастаючых пакаленьняў у пралетарскай дзяржаве ў фармулёўцы „архі-левага“ т. Шульгіна. Камэнтары залішні! Але ў таварыша Шульгіна можна знайсьці і яўнае аллюстраваньне ідэй дробна-буржуазнай пэдагогікі „свабоднага выхаваньня“. Аб школе ён нярэдка гаворыць, як аб арганізацыі „самавыхаваньня“ дзяцей. Так „левакі“ у савецкай пэдагогіцы адлюстроўваюць у сваёй тэорыі і на практыцы ўплыў буржуазнай пэдагогікі, прыкрываемы „рэвалюцыйнай“ фразай. І трэба зьдзіўляцца, што такая дылетанцкая, эклектычная афарбоўка, парадкам здобраная „лявацкім“ пражэкцёрствам, настолькі доўгі час магла мець хаджэньне ў якасьці „тэорыі“ рэвалюцыйнай пэдагогікі! У цяперашні час трэба яе выкрыць да канца перад усім настаўніцтвам, бо яна зьяўляецца аднэй з найбольш цяжкіх „спадчын“, атрыманых намі, зьяўляецца тормазам у барацьбе за палітэхнічную школу, барацьбе, якая патрабуе напружаньня ўсіх сіл і пасьлядоўнага правядзеньня ленінскай лініі ў школьнай палітыцы пралетарскай дзяржавы.

Дзе корані гэтых „лявацкіх“ тэорый? Гэтыя корані ляжаць у няправільным, антыленінскім разуменьні суадносін паміж палітыкай і пэдагогікай, гэтыя корані ляжаць у зусім няправільнай трактоўцы суадносін паміж „стыхійным“ і „арганізаваным“ пэдагагічным працэсам. І тут і там нашы тэарэтыкі „лявацкай“ пэдагогікі скатваюцца да меншавізму. І невыпадкова іменна з інстытуту, на чале якога стаяў т. Шульгін, выйшла ня толькі ліквідатарская тэорыя „адміраньня школы“, ня толькі агульная прапаведзь амэрыканскага мэтаду праектаў, як „сыстэмы“, якая вызначае сабой ўвесь лад школы зьверху донізу, выкідвае з пэдагагічнага працэсу навучальныя праграмы, падручнікі і настаўніка, але і такая праграма дасьледчага мэтаду колізій (інстытут выпусьціў па гэтым пытаньні спэцыяльную кніжку), дзе, вядучы дыскусію па якім-небудзь вострым пытаньні, рэкамэндавалася не кіраваць гэтай дыскусіяй, а яе разьвязваць, г. зн. прадастаўлялася магчымасьць узяць кіраўніцтва ўсёй дыскусіі каму ўгодна, у тым ліку і клясаваму ворагу.

Трэба яшчэ раз спыніцца на адным надзвычайна важным месцы пастановы ЦК аб школе. Там сказана, на якой аснове мы павінны праводзіць злучэньня навучаньня з прадукцыйнай працай. Там сказана аб тым, што „ уся грамадзка-прадукцыйная праца вучняў павінна быць падпарадкавана „навучальным выхаваўчым мэтам школы“. Я зьвяртаю ўвагу на гэта месца пастановы ЦК, бо яно накіравана супроць тэорыі—„школа—культурна-вытворчы цэх заводу“— і мае выключна важнае значэньне для ўсёй нашай школьнай работы.

Нам трэба так устанаўліваць аб'ём і напрамак грамадзка-карыснай работы, так устанаўліваць аб'ём і напрамак заняткаў грамадзка-карыснай працы дзяцей і падлеткаў, каб гэта цалкам і поўнасьцю было падпарадкавана навучальным і выхаваўчым задачам палітэхнічнае школы. У школах бывае так, што рабяты вельмі добра змагаюцца за прамфінплян на заводзе і зусім ня выконваюць „прамфінплян“ школы; бывае так, што навучальны плян школы калечыцца ва ўгоду тэорыі, па якой „школа—цэх заводу“, з прычыны чаго навучальныя праграмы зьнімаюцца, „асновы навук“ праходзяцца адрыўкамі, не сыстэматызавана, ва ўрэзаным аб'ёме, г. зн. адбываецца грубейшае скажэньне ідэі палітэхнічнай школы.

І тэарэтыкам, і практыкам школьнае работы трэба ў гэтым годзе вельмі многа над гэтай справай папрацаваць, кіруючыся дырэктывай ЦК аб тым, што „грамадзка-вытворчая праца вучняў“ павінна быць падпарадкавана „навучальным і выхаваўчым мэтам школы“. Масква ўжо вядзе работу ў гэтым напрамку. Спадзяемся, што і Ленінградзцы не адстануць ад Масквічоў. Трэба разгар-

нуць тут сацспаборніцтва. Гэта будзе ў інтарэсах барацьбы за палітэхнізм і камуністычнае выхаваньне.

Агульныя задачы. Школа на павароце. Нам трэба ўзяцца за важнейшае зьвяно, указанае ў рашэньні ЦК, і пабудаваць палітэхнічную школу, якая так неабходна пралетарыяту.

Барацьба за палітэхнізм ёсьць фронт клясавай барацьбы.

У школе мы мелі антыпралетарскія ўплывы, спробы „прышчапіць дзецям савецкай школы элементы антыпралетарскай ідэолёгіі". Трэба ўсёй масе савецкіх пэдагогаў праявіць пільнасьць, цьвёрдасьць і ўменьне бачыць спробы клясавага ворагу ў школе і жорстка біць па малейшых спробах прышчапіць дзецям „элемэнты антыпралетарскай ідэалёгіі". З гэтага пункту погляду нам неабходна вялічайшая няпрымірлівасьць і гранітная цьвёрдасьць у правядзеньні генэральнай лініі партыі ў галіне школьнай палітыкі.

Нам трэба бязьлітасна наносіць удары, нам трэба ўзмацненьне барацьбы з „лявацка„ апартуністычнымі скажэньнямі ў галіне школьнай палітыкі. Пры гэтай умове мы здолеем павесьці рашучую барацьбу і супроць тых элемэнтаў у органах народнае асьветы, якія будуць супраціўляцца цяперашняму павароту ў школьнай рабоце. Мы павінны разьбіць на галаву прымірэнцтва да апартуністаў.

Гэта—адна з важнейшых умоў у справе пасьпяховай перабудовы школы на палітэхнічных пачатках.

Паставім школу на службу разгорнутаму сацыялістычнаму наступленьню. Пад кіраўніцтвам партыі бальшавікоў і яе ленінскага Цэнтральнага камітэту пабудуем палітэхнічную школу, як магутную арганізацыю пралетарскай дзяржавы па камуністычным выхаваньні ўзрастаючага пакаленьня і тым самым атрымаем рашаючую перамогу на фронце культурнай рэвалюцыі.

---

П. Панкевіч.

# Супроць антыленінскай тэорыі „адміраньня школы".

У сваім пісьме на імя рэдакцыі часопісу „Пралетарская Рэвалюцыя" т. Сталін справядліва падкрэсьлівае неабходнасьць самай рашучай, няпрымірнай бальшавіцкай барацьбы супроць усякіх апартуністычных тэорый, супроць контррэвалюцыйнага трацкізму і гнілога лібэралізму ў адносінах клясавага ворага. Ён адзначае, што „спробы" некаторых „літаратараў" і „гісторыкаў" працягнуць кантрабандай у нашую літаратуру замаскаваны трацкісцкі хлам павінны сустракаць з боку бальшавікоў рашучы адпор, бо „трацкізм ёсьць перадавы атрад контррэвалюцыйнай буржуазіі."

Такія спробы працягнуць у нашую літаратуру замаскаваны трацкісцкі хлам наглядаюцца і на пэдагагічным фронце. Гэта знайшло сваё выяўленьне асабліва ў выступленьнях В. Ваганяна, а таксама Шульгіна з групай работнікаў былога Маскоўскага навукова-дасьледчага інстытуту мэтадаў школьнае работы (пераіменаванага пазьней у інстытут марксысцка-ленінскай пэдагогікі цяпер ужо ліквідаванага). Ваганян і Шульгін выступаюць супроць палітыкі партыі ў галіне школьнага будўніцтва (у даным выпадку мы—гаворым толькі аб школьным будаўніцтве) пад прыкрыцьцём сваёй мнімай барацьбы за марксысцкую пэдагогіку, за палітэхнічную школу, за культурную рэвалюцыю і г. д. Але за гэтай „рэвалюцыйнай" фразай хаваецца антыленінская лева-апартуністычная сутнасьць іх пэдагагічных тэорый і ўстановак. Тут мы маем спробу з боку замаскаванага трацкізму прадпрыняць рэвізію марксызму і ленінізму ў галіне камуністычнага выхаваньня. Выкрыць і разьбіць трацкісцкую кантрабанду на пэдагагічным фронце пад агнём бальшавіцкай крытыкі

і самакрытыкі ёсьць чарговая баявая задача ў барацьбе за ленінскую палітэхнічную школу.

Некаторыя думаюць, што Шульгін і яго аднадумцы, ня гледзячы на свае памылкі, маюць вядомую заслугу перад пралетарскай грамадзкасьцю ў тым, што нібы-та яны пачалі і затым праводзілі больш або менш пасьпяхова пэдагагічную дыскусію, садзейнічаючы выкрыцьцю праваапартуністычных тэорый у пэдагогіцы. Такое сьцьверджаньне зьяўляецца глыбока памылковым. Па-першае, у дыскусіі прымалі ўдзел ня толькі Шульгін і Ваганян з іх прыхільнікамі, але таксама і аўтары, якія сапраўды змагаліся за генэральную лінію партыі і выступалі супроць усякага роду апартунізму пад кіраўніцтвам партыі. І мы наглядаем станоўчыя рэзультаты дыскусіі толькі ў тых выпадках, калі на самой справе была разгорнута няпрымірная бальшавіцкая самакрытыка. І па-другое, Шульгін і Ваганян не маглі пасьпяхова праводзіць дыскусію па тэй простай прычыне, што яны крытыкавалі правых пэдагогаў ня з пункту гледжаньня партыі, а з пункту гледжаньня „лева"-апартуністычных установак.

Той, хто прыпісвае Шульгіну і Ваганяну станоўчую ролю ў дыскусіі, фактычна зьбіваецца на шлях апраўданьня антыленінскіх пазыцый указаных аўтараў. Шульгін і Ваганян, як і наогул усе так званыя „левакі", ня толькі не садзейнічалі выкрыцьцю і зьнішчэньню правай небясьпекі на пэдагагічным фронце, але, наадварот, дапамагалі праваму апартунізму змагацца супроць генэральнай лініі партыі. Вось чаму мы можам праводзіць пасьпяхова барацьбу супроць правага апартунізму, як галоўнай небясьпекі на даным этапе, пры ўмове рашучай няпрымірнай барацьбы з „лева" апартуністычнымі тэорыямі і практычнымі скажэньнямі.

Шульгін выступае на пэдагагічным фронце ў якасьці сваяасаблівага публіцыста, ставячага мімаходам праблему і вырашаючага іх павярхоўна пад вуглом гледжаньня сваёй „лева" апартуністычнай пазыцыі. У яго мы не знаходзім глыбокага тэарытычнага аналізу і філёсофскага абгрунтаваньня пастаўленых праблем. Ён праяўляе ў гэтых адносінах поўную бездапаможнасьць. Аднак, гэтая тэарытычная „галеча" не пашкодзіла яму ў некаторых адсталых колах настаўніцтва набыць сабе папулярнасьць „тэарэтыка" і нават зрабіцца кіраўніком цэлай „лявацкай" групы пэдагогаў.

Бліжэйшым спадвіжнікам Шульгіна па лініі філёзофскага абгрунтаваньня яго пэдагагічнай пляцформы выступіла т. Крупеніна і часткова С. В. Трахтэнбэрг. Што-ж датычыцца Ваганяна, дык ён займае некалькі самастойную пазыцыю, якая, аднак, у асноўным супадае з пазыцыяй Шульгіна. Зусім невыпадкова тая абставіна, што Ваганян лічыць сваім пасьлядоўцам Шульгіна па пытаньню аб школе вытворчасьці.

Агульным аб'яднаючым момантам у поглядах Ваганяна і Шульгіна зьяўляецца трацкісцкая ўстаноўка. Калі і былі як ія-небудзь спрэчкі паміж Ваганянам і Шульгіным, дык гэтыя спрэчкі зусім не датычыліся прынцыповых бакоў іх агульнай пэдагагічнай пляцформы, а закраналі прыватныя пытаньні, па якіх заўсёды магчымы пэўныя адценьні думак унутры аднэй і тэй жа групы.

Што зьяўляецца найбольш характэрным у пазыцыі Шульгіна-Крупенінай?— Ігнараваньне клясавай барацьбы пралетарыяту.

На першы раз гэта здаецца страшэнным для чалавека, які прэтэндуе быць марксыстам. На самой справе гэта іменна так. Шульгін і Крупеніна даволі часта гавораць аб клясавай барацьбе. Аднак, гэтыя гутаркі аб клясавай барацьбе зьяўляюцца зьнешнім прывескам да іх антыленінскіх разважаньняў.

Наіўныя людзі думаюць, што Шульгін і Крупеніна ўнесьлі нешта новае ў пэдагагічную дыскусію, а іменна: марксысцкую трактоўку аб пэдагогіцы пераходнага пэрыяду. Мы думаем іншае. Яны сказілі Ленінскае вучэньне аб школе і разьвілі буржуазную тэорыю аб пэдагогіцы пераходнага пэрыяду, недаацэньваючы дыктатуру пралетарыяту і кіруючую ролю нашай партыі ў пралетарскай рэвалюцыі. Гэта тэорыя нагадвае вельмі многія моманты выказваньня Троцкага адносна эпохі дыктатуры пралетарыяту. Як вядома, трацкісты не разглядаюць нашу дзяржаву пралетарскай і нашу

буйную прамысловасьць сацыялістычнай. Яны ня вераць у магчымасьць пабудовы сацыялізму ў аднэй краіне і тым самым выяўляюць нявер'е ў рэволюцыйныя сілы пралетарыяту. Яны пагаварваюць аб тэрмідоры, сьцьвярджаючы без усякай падставы аб буржуазным перараджэньні партыі і нашага палітычнага ладу.

Як характарызуе пераходны пэрыяд Шульгін? Ён проста даказвае, што наш лад не зьяўляецца ладам дыктатуры пралетарыяту, што ў нашай краіне пануе анархія капіталістычных адносін, што ў нас нібы-та навокал хаос, характэрны для буржуазнага грамадзтва.

„Хаос у нас ня зьнік,—многазначна сьцьвяржае Шульгін, мы яго яшчэ не перадолелі. Але ён будзе ўсё больш і больш уходзіць у мінулае, зьмяншацца па меры таго, як мы падыходзім да камунізму" [1])

„Гэты хаос, няўхільны ў буржуазным грамадзтве, тармазіць разьвіцьцё дзіцяці, стварае хаос у яго сазнаньні, нэрвуе яго." [2]) Такім чына Шульгін адкрыта заяўляе, што хаос, аб якім ён гаворыць, няўхілен у буржуазным грамадзтве і што гэты хаос наглядаецца ў нашай краіне. Адсюль выходзіць, што наша краіна, краіна дыктатуры пралетарыяту, перажывае такі-ж хаос, як і ўсякае буржуазнае грамадзтва. Так разважае Шульгін у 1927 г. у артыкуле „Педагогика переходной эпохи". Але Шульгін ня кідае сваіх паўанархічных поглядаў і ў 1931 г. у артыкуле „О школе", імкнучыся пераканаць чытача, што „дыктатура пралетарыяту ўжо не зьяўляецца дзяржавай ва ўласным сэнсе слова" [3])

Тут Шульгін адмаўляе кіруючую ролю рэвалюцыйнага пралетарыату ў нашай краіне і разам з тым адмаўляецца прызнаць пануючы ўплыў пралетарскай ідэолёгіі. Гэтаму анархіствуючаму інтэлігэнту здаецца, нібы-та ў нашай краіне пануе буржуазная стыхія і існуе „анархія ўплыву" „Наша дзіця разьдзёргана, супярэчліва, як разьдзёргана і супярэчліва яшчэ ў значнай ступені жыцьцё", дэкламатарскі паўтарае Шульгін. Роскаш і галеча ў наяўнасьці. Горад і вёска яшчэ існуюць. Супярэчнасьці ёсьць. Адначасова гудуць царкоўныя званы і радыё і аб адным і тым жа яны апавядаюць рознае. Барацьба клясаў ідзе. Розныя ідэолёгіі, розная мараль факт. Яны змагаюцца. Што гэтаму хаосу можа супроцьставіць дзіця? У яго няма ведаў, няма вопыту. Не разьвіта здольнасьць суджэньня. Ён гатоў многае прыняць на веру. І прымае. А потым пераконваецца, што зрабіў памылку. І зноў шукае. І зноў памыляецца. І яму не дапамагаюць, або вярней, кожны дапамагае па свойму, кожны блытае, і гэта зразумела, бо няма адзінства ўзьдзеяньняў, бо супярэчнасьці абкружаючага блытаюць, зьбіваюць са шляху". [1]). Шульгін малюе нашу сапраўднасьць так, быццам дзіця зусім бездапаможна перад стыхіяй уплываў, быццам яно само на сваім уласным вопыце вучыцца і шукае правільных шляхоў вырашэньня жыцьцёвых праблем, быццам у нас няма ўплыву школы, няма пануючага ідэйнага ўплыву пралетарыяту, няма камуністычнага выхаваньня. Шульгін даходзіць да жудаснага сьцьверджаньня, быццам і пралетарыят захоплен стыхіяй: ён разглядае клясавую барацьбу пралетарыяту як стыхійны працэс. Супярэчачы правым апартуністам з пункту гледжаньня трацкісцкіх сьцьверджаньняў, Шульгін пісаў: „Якая ім справа да стыхійнага, неарганізаванага" працэсу, які ахоплівае мільёны, які ўсюды аднак стварае рабочая кляса, які дапамагае ёй выкаваць стройны сьветапогляд, якая ім да гэтага справа"...[2])

Такім чынам Шульгін выразна падкрэсьлівае, што „Стыхійны, неарганізаваны" працэс ахапляе сабой мільёны, што гэты працэс ствараецца рабочай клясай і што, нарэшце, пры дапамозе стыхійнага, неарганізаванага працэсу быццам-бы пралетарыят выкоўвае сабе адзіны стройны сьветапогляд. Тут Шульгін высту-

---

[1]) „На путях к новой школе", № 9 за 1927г., стр 7 Падкрэсьлена намі П. П.

[2]) Там-жа № 3 за 1931 г., стр., 37.

[3]) Там-жа № 3 за 1931 г., стр. 37.

[1]) „На пуцях к новой школе" №9 за 1927 г., стр. 7

[2]) „Крупеніна і Шульгін в борьбе за марксистцкую пэдагогику. Работник Просвещения" 1929 г., стр. 7.

пае ў якасьці заядлага апартуніста з рэакцыйнай спробай адкінуць да часоў эканамізму, трактуючы клясавую барацьбу пралетарыяту, як стыхійны працэс, і даказваючы неабходнасьць разьвіцьця пралетарскай ідэолёгіі ў працэсе стыхійнага ўплыву. Прakланяючыся перад стыхіяй, Шульгін пракланяецца перад буржуазнай ідэолёгіяй, штучна разрывае эканоміку і палітыку, не разумее кіруючай ролі рэвалюцыйнай тэорыі для рэвалюцыйнага руху, не даацэньвае або проста адмаўляе кіруючую ролю партыі ў клясавай барацьбе пралетарыяту. Змагаючыся з эканамізмам і пазьней з ліквідатарамі і ўсякага роду іншымі апартуністамі, як правага крыла, так і левага, Ленін неаднакроць падкрэсьліваў неабходнасьць кіраваць клясавай барацьбой пралетарыяту і „Праз арганізацыю рабочых, прапаганду і агітацыю паміж імі ператварыць іх стыхійную барацьбу супроць прыгнятацеляў у барацьбу ўсёй клясы, у барацьбу пэўнай палітычнай партыі за вядомія палітычныя і сацыялістычныя ідэалы“. [1]) Гаворачы аб задачах рабочай партыі яшэ ў канцы XIX стагодзьдзя, Ленін пісаў: „Сацыял-дэмакраты (тут ідзе гутарка аб рэвалюцыйнай сацыял-дэмакратыі канца XIX стагодзьдзя. П. П.) ня зводзіцца да простага служэньня рабочаму руху, яна ёсьць „злучэньне сацыялізму з рабочым рухам“; яе задача „унесьці ў стыхійны рабочы рух вядомыя сацыялістычныя ідэалы, зьвязаць яго з сацыялістычнымі перакананьнямі, якія павінны стаяць на ўзроўні сучаснай навукі, зьвязаць яго з сыстэматычнай, палітычнай барацьбой за дэмакратыю, як сродак ажыцьцяўленьня сацыялізму, адным словам, злучыць гэты стыхійны рух у адно непарыўнае цэлае з дзейнасьцю рэвалюцыйнай партыі“[2]).

Ленін адзначае, што марксызм вырас ня з стыхійнага руху пралетарыяту, а ён быў прыўнесен у рабочы рух зьне, вырасшы „з тых філёзофскіх, гістарычных эканамічных тэорый, якія распрацоўваліся адукаванымі прадстаўнікамі багатых клясаў, інтэлігэнцыяй“. Тут Ленін мае на ўвазе Маркса і Энгэльса.

[1]) Ленін. Збор твораў, т. II. стр. 496

[2]) Там-жа стар. 497.

У працэсе пераходу да плянамернай барацьбы пралетарыят разьвіваецца, вучыцца, арганізоўваецца, выхоўваецца. Разьвіцьцё, выхаваньне і арганізацыя пралетарыяту разумеецца Ленінparam, як пераход „ад стыхійнасьці да плянамернасьці, ад кіраўніцтва адным настроем да кіраўніцтва аб'ектыўным станам усіх клясаў, ад парываў да вытрыманай барацьбы.“ [1]) Клясавая барацьба пралетарыяту ня ёсьць стыхійны рух, а ёсьць плянамерная сьвядомая барацьба, якая праводзіцца пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі (бальшавікоў). Недаацэнка сьвядомасьці рабочага руху на сучасным этапе і пракланеньне перад стыхійнасьцю ёсьць ня што іншае, як недаацэнка кіруючай ролі партыі, як стварэньне прадпасылак для ўзмацненьня ўплыву буржуазнай ідэалёгіі на рабочых. Ленін указвае, што „ўсякае пракланеньне перад стыхійнасьцю рабочага руху, усякае ўмаленьне ролі „сьвядомага элемэнту“, ролі сацыял-дэмакратыі (ідзе гутарка аб бальшавіках П. П.) азначае тым самым,—зусім незалежна ад таго, ці хоча гэтага ўмаляючы ці не — узмацненьне ўплыву буржуазнай ідэалёгіі на рабочых“ [2]).

„Таму,—яшчэ раз падкрэсьлівае Ленін— усякае ўмаленьне сацыялістычнай ідэалёгіі, усякае ўхіленьне ад яе азначае тым самым узмацненьне ідэалёгіі буржуазнай, Гаворачь аб стыхійнасьці. Але стыхійнае разьвіцьцё рабочага руху ідзе іменна да падпарадкаваньня яго буржуазнай ідэалёгіі, ідзе іменна па праграме „credo“, бо стыхійны рабочы рух ёсьць трэд-юніянізм, ёсьць Nur Gewerkstaftlerej а трэд-юніянізм адзначае якраз ідэйнае прыгнечаньне рабочых буржуазіяй. Таму наша задача, задача сацыял-дэмакратыі заключаецца ў барацьбе са стыхійнасьцю, заключаецца ў тым, каб сьцягнуць рабочы рух з гэтага стыхійнага імкненьня трэд-юніянізму пад крылышка буржуазіі і прыцягнуць яго пад крылышка сацыял-дэмакратыі [3])

Такім чынам падкрэсьлівае адну з важнейшых задач партыі—змагацца са сты-

[1]) Ленін. Збор. твораў т. X, стар. 184.

[2]) Ленін. Т. IV, стар. 390

[3]) Там-жа, стар. 391-392.

хійнасьцю, для чаго сама партыя павінна быць прапітана глыбокай рэвалюцыйнай сьвядомасьцю

Таксама рашуча выкрывае апартуністычную сутнасьць тэорыі стыхійнасьці і т. Сталін: „Тэорыя стыхійнасьці,—піша ён, ёсьць тэорыя апартунізму, тэорыя праклaненьня перад стыхійнасьцю рабочага руху, тэорыя фактычнага адмаўленьня кіруючай ролі авангарду рабочае клясы, партыі рабочае клясы. Тэорыя праклaненьня перад стыхійнасьцю рашуча супроць рэвалюцыйнага характару рабочага руху, яна супроць таго, каб рух накіроўваўся па лініі барацьбы супроць асноў капіталізму, яна за тое, каб рух шоў выключна па лініі „выканальных", „прыемлемых" для капіталізму патрабаваньняў, яна цалкам „за лінію найменшага супраціўленьня" „Тэорыя стыхійнасьці ёсьць ідэалёгія трэд-юніянізму, Тэорыя праклaненьня перад стыхійнасьцю рашуча супроць таго, каб наддаць стыхійнаму руху сьвядомы, плянамерны характар, яна супроць таго, каб партыя шла ўперадзе рабочае клясы, каб партыя падымала масу да ўзроўня сьвядомасьці, каб партыя вяла за сабою рух, яна за тое, каб сьвядомыя элемэнты руху не перашкаджалі руху ісьці сваім шляхам, яна за тое, каб партыя толькі прыслухоўвалася да стыхійнага руху і цягнулася ў хвасьце за ім. Тэорыя стыхійнасьці ёсьць тэорыя пра ўмяншэньне ролі сьвядомага элементу ў руху, ідэалёгія „хвасьцізму", лёгічная аснова ўсякага апартунізму"[1])

Так характарызуе т. Сталін тэорыю стыхійнасьці. А ў нас цяпер зьяўляюцца людзі, якія клянуцца марксызмам і адначасова разглядаюць клясавую барацьбу пралетарыяту, як стыхійны працэс. Выказваньні Шульгіна аб хаосе ў пераходны пэрыяд, аб стыхійнасьці пры дыктатуры пралетарыяту і г, д. ёсьць па сутнасьці спроба падпарадкаваць рабочых уплыву буржуазна ідэалёгіі Але па гэтай спробе неабходна рашуча ўдарыць.

Шульгін і Крупеніна зьяўляюцца гарачымі пабарнікамі буржуазнай тэорыі стыхійнага выхаваньня. Выступаючы супроць пэдагогаў правага крыла, няправільна трактаваўшых сутнасьць школы як адзінага поўнага арганізаванага пэдагагічнага працэсу, Шульгін і Крупеніна ў працівагу ім адстайваюць сваю тэорыю стыхійнага выхаваньня, даказваючы, што ў нашай краіне пануе хаос уплываў, што выключна рашаючым фактарам выхаваньня ў нас зьяўляецца стыхійны працэс і што, нарэшце, так званы, арганізаваны пэдагагічны працэс выступае толькі мізэрным малазначным прыдаткам да стыхійнага ўплыву.

Пад арганізацыйным пэдагагічным працэсам яны сьледам за Калашнікавым і Пінкевічам разумеюць выхаваньне і адукацыю ў школе, да стыхійнага працэсу яны адносяць уплыў усяго абкружаючага асяродзьдзя. Пры гэтым у асьпекце стыхійнага выхаваньня яны разглядаюць партыю, прафсаюзы, саветы, вытворчасьць, каапэрацыю і г. д.

Шульгін і Крупеніна любяць часта паўтараць, што выхоўвае ня толькі школа, але і клясавая барацьба, будаўніцтва, усё жыцьцё, што выхоўвае дзяржава, партыя, прафсаюзы і г. д. Аказваецца, што партыя, прафсаюзы, саветы, каапэрацыя, як думаюць гэтыя пражжоныя левыя апартуніоты, зьяўляюцца фактарамі стыхійнага выхаваньня. Адсюль Шульгін-Крупеніна высоўваюць патрабаваньне стварыць новую пэдагогіку, якая павінна пашырыць свой прадмет, заняўшыся галоўным чынам вывучэньнем стыхійнага працэсу. Гаворачы аб стыхійных фактарах уплыву, Шульгін сьцьвярджае, што гэтыя фактары выхоўваюць куды надзейней і трывалей". Ён рашуча крытыкуе пэдагогіку, якая „не жадае прызнаць „стыхійнага" выхаваўчага працэсу, не жадае ўключыцца ў прадмет свайго вывучэньня, калі ён факт і калі роля яго калёсальная..."[1]) Шульгін чамусьці думае, што буржуазія неахвотна займаецца вывучэньнем стыхійнага выхаваньня, Але гэта няверна. Шульгін тут затушоўвае тое, што гэтае стыхійнае выхаваньне зьяўляецца па сваёй клясавай прыродзе не пралетарскім, а

[1]) Сталін. „Пытаньні ленінізму" 1926 г. 9091

[1]) Крупенина и Шульгин „В борьбе за марксистскую педагогику", стар. 8.

буржуазным. І па аднэй гэтай прычыне буржуазія ўжо ня можа ігнараваць стыхійнае выхаваньне.

„Стыхійнае выхаваньне“ ідзе, — заяўляе Шульгін, — і буржуазія ніколі ня была і зараз не зацікаўлена ў тым, каб дапамагчы рабочым, дапамагчы сялянам разабрацца ва ўроках жыцьця, дакладна і правільна зразумець тое, што ёсьць, чаму вучыць іх шматгадовы трудавы вопыт, вопыт барацьбы. Наадварот, яна зацікаўлена ў тым, каб сказіць вывады, якія напрашваюцца, замазаць іх, замарудзіць працэс асазнаньня. І калі яна тут і робіць адступленьне, калі яна і выхоўвае масу, калі і скарыстоўвае стыхійнае выхаваньне, дык толькі ў вузкіх галінах, далёкіх ад палітычных бязадоньняў і пажараў“ [1]). І зразумела, правільна тое, што „буржуазія ніколі ня была і зараз не зацікаўлена ў тым, каб дапамагчы рабочым і сялянам разабрацца ва ўроках жыцьця“. Аднак, адсюль ня трэба думаць, быццам стыхійнае выхаваньне не зьяўляецца буржуазным. Шульгін робіць буйную палітычную памылку, разглядаючы гэтае стыхійнае выхаваньне, як форму клясавай барацьбы пралетарыяту. Гэтым самым ён прыкрываючыся марксызмам, прападносіць нам сапраўдны буржуазны хлам.

Шульгін і Крупеніна перакананы, што яны закліканы стварыць новую пэдагогіку, пэдагогіку пераходнага пэрыяду. Пры гэтым яны старанна даказваюць неабходнасьць зрабіць прадметам гэтай новай пэдагогікі вывучэньне стыхійнага працэсу. Вось што мы чытаем у Шульгіна ў яго артыкулах яшчэ за 1927 г.: „У нас і да гэтага часу яшчэ многія, гаворачы аб пэдагогіцы, думаюць аб дзецях і толькі аб дзецях. У нас і да гэтага часу яшчэ многія гавораць аб выхаваньні і адукацыі, думаець аб школе. Цяпер другое. На вуліцах і дамах крычыць радыё, у кіно—Дуглас Фэрбэнкс, Чаплін і Вільлям Харт і там дзеці—мільёны дзяцей; дома, у чытальні—кнігі, газэты, часопісі. Іх многа—сотні, тысячы, мільёны. На вуліцы музыка, мітынгі, стракаты размоўны натоўп, аўто, уверсе шуміць аэраплян. Усё гэта вучыць, усё гэта выхоўвае. Раней, калі гэтага ня было, калі ня было трамвая, цягніка, вэлёсыпэда, калі жыцьцё было замкнута ў сьценах дому, царквы, школы, калі людзі перасоўваліся рэдка і мала, калі прасьцей, бядней была вуліца, калі жыцьцё разьвівалася архімарудна, калі жылі людзі ўражаньнямі акругі і казкамі, тады можна было гаварыць аб выхаваньні царквы, дома, школы. Бадай і толькі. Цяпер іншае. І мы вось гэтага новага якраз і ня бачым. А па ранейшаму цьвярдзім аб школьнай пэдагогіцы і не разумеем таго, што адносная вага яе ўжо ня тая, што працэс выхаваньня шырэй і глыбей, а значыць, і задачы пэдагогікі ня зводзяцца зусім да чагосьці школьнага. І яе прадмет—арганізацыя, праграма, мэтады ўсяго гэтага працэсу ў цэлым. Але вось такой-та пэдагогікі яшчэ няма. Мы павінны яе стварыць, нашу пэдагогіку пераходнай эпохі“. [1]) Цікава тое, што Шульгін, гаворачы аб стыхійным уплыве, не адзначае яго клясавай прыроды. У яго ўсё пераблыталася, ператварылася ў нейкі суцэльны хаос—пралетарскае радыё і буржуазны Дуглас Фэрбэнкс, газэты і казкі, мітынгі і стракаты размоўны натоўп, музыка і тэхніка, царква і школа. Ён ня бачыць у нас, у Савецкім Саюзе, пануючай ідэолёгіі, пануючай клясы — пралетарыяту, свайго фантастычнага хаоса, ён ня вылучае кіруючага значаньня і кіруючай ролі камуністычнае партыі, не адзначае савецкай школы, як правадніка камуністычнага выхаваньня. І партыя, і пралетарская дзяржава, і савецкая школа патанулі ў яго ў бясконцным моры буржуазнае стыхіі. Шульгін хоча ўнушыць чытачу, што ў нашай краіне адносная вага школы ўжо стала нязначная ў сыстэме пэдагагічнага ўплыву абкружаючага асяродзьдзя і што нібы-та ўжо нельга гаварыць аб выхаваньні царквы і дому.

Тут мы маем ня толькі недаацэнку выхаваўчае ролі савецкай школы, але і імкненьне затушаваць арганізаванае ўзьдзеяньне клясавага ворага праз такія ўстановы, як царква. Буржуазнае нутро новай пэдагогікі Шульгіна і Крупенінай

[1]) Крупенина и Шульгин. „В борьбе за марксистскую педагогику, стар. 8.

[1]) „На путях к новой школе“ № 9 за 1927 г. стар. 5—6.

тут раскрываецца цалкам. Адносячы партыю, саветы і прафсаюзы да фактараў стыхійнага ўплыву, Шульгін і Крупеніна разглядаюць камуністычнае выхаваньне, як стыхійны працэс,, які нібы-та разгортваецца бяз пэўных мэт, пастаўленых рэвалюцыйным пралетарыятам, і без кіраўніцтва з боку камуністычнай партыі. „І так,—піша Крупеніна,—калі выхоўваюцца і перавыхоўваюцца ня толькі дзеці, але і дарослыя, калі выхоўвае ня толькі школа (арганізаваны пэдагагічны працэс), але і стыхійныя фактары (вытворчасьць, вуліца і г. д.), калі выхоўваюцца і перарабляюць сваю прыроду, сваю сутнасьць ня толькі ў працэсе навучаньня, або ўзьдзеяньня аднаго чалавека на другога, а ў парадку свайго ўзьдзеяньня на абкружаючае асяродзьдзе (і можа быць, галоўным чынам, у гэтым парадку), калі выхаваўчай работай займаюцца прафсаюзы, партыя, і гэтага як быццам ніхто ня зьбіраецца адмаўляць, калі пэдагагічны працэс дыялектычна разьвіваецца ў розныя гістарычныя эпохі па рознаму складаюцца суадносіны гэтых частак стыхіі і арганізаванасьці, даючы якасна розны зьмест і арганізацыю пэдагагічнага працэсу на такіх гістарычных ступенях, як капіталістычная і пераходная эпоха, а гэта іменна так, дык гэта абавязвае нас да значнага расшырэньня прадмету пэдагогікі і да іншых мэтадалёгічных прадпасылак“ [1]). Далей Крупеніна яшчэ раз паўтарае наступнае: „Калі ня толькі арганізаваны пэдагагічны працэс выхоўвае, калі элементы пэдагогікі маюцца ў дзейнасьці прафсаюзаў, партыі, дзяржаўных органаў савецкае ўлады (ці не праводзіць вялізарную выхаваўчую работу, напрыклад, НК аховы здароўя і Наркамзем), дык відавочна, што тэарытычная пэдагогіка ня можа прайсьці міма гэтых зьяў, яна абавязана заняцца іх дасьледваньнем, уключыць іх у аб'ект свайго вывучэньня“ [2]). Гэтыя дзьве вытрымкі славутыя тым, што ў сьціслай форме раскрываюць леваапартуністычную сутнасьць пэдагагічнай пляцформы Шульгіна і Крупенінай. Тут пасьлядоўна школа разглядаецца як арганізаваны пэдагагічны працэс, і супрацьпастаўляюцца партыі, дзяржаве і прафсаюзам, якія залічваюцца па разраду ступеняў фактараў. Адсюль Крупеніна робіць вывад аб неабходнасьці расшырыць прадмет пэдагогікі і перайсьці нават да новых мэтадалёгічных прадпасылак.

Разглядаць камуністычную партыю, пралетарскую дзяржаву і прафсаюзы як фактары стыхійнага выхаваньня, значыць па сутнасьці тварыць справу, угодную буржуазіі, прапагандаваць тэорыю самацёку ў палітыцы, адмаўляць кіруючую ролю партыі ў пралетарскай рэвалюцыі і сацыялістычнае будаўніцтва,—словам, значыць разьвіваць самыя што ні на ёсьць рэакцыйныя погляды, хоць бы і пад маскай марксызму. Тут левыя апартуністы змыкаюцца з правымі. Характарызуючы правы ўхіл, тав. Кагановіч гаворыць: „Сутнасьць яго памылак—адмауленьне рэвалюцыйнай пертвараючай ролі пралетарскай дыктатуры, стаўка на самацёк Таму эканамістаў, і тут—у правых у аснове разрыў палітыкі і эканомікі. супроцьстаўленьне іх“. („Правда“ 12/XII-1931 г.). Гэты жа разрыў палітыкі і эканомікі, супроцьстаўленьне іх мы наглядаем і ў Шульгіна з Крупенінай. Гэтыя апошнія не разумеюць, што камуністычнае выхаваньне ёсьць форма клясавай барацьбы пралетарыяту і што клясавая барацьба пралетарыяту, а таксама і сацыялістычнае будаўніцтва ў нашай краіне разгортваецца пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі.

Мы лічым, што такія паняцьці, як „стыхійнае выхаваньне“ і „арганізаваны пэдагагічны працэс“ зьяўляюцца бяссэнснымі тэрмінамі, якія, аднак, выкарыстоўваюцца правымі і левымі апартуністамі ў мэтах прапаганды ўсялякіх буржуазных тэорый выхаваньня. Калі мы гаворым аб выхаваньні, дык мы маем на ўвазе арганізаваны ўплыў, які праводзіцца пэўнай клясай. Выхаваньне мае пэўную мэту, арганізацыйныя формы, сродкі і мэтады дыктуемыя тэй клясай, якая і выступае ў якасьці суб'-

---

[1]) „В борьбе за марксистскую педагогику“, стр. 888. Падкрэсьлена намі П. П.

[2]) Там-жа.

екта гэтага выхаваньня. Пэдагагічны працэс ёсьць там, дзе ёсьць клясавыя мэты і арганізаваны ідэйны ўплыў. Бяз мэты ня можа быць і выхаваньня. Гэта нават разумелі француския матэрыялісты XVIII стагодзьдзя. Гэльвецы так і заяўляе: „Ніякае выхаваньне немагчыма бяз пэўнай мэты“. А вось гэтага ніяк ня могуць зразумець нашы шульгінцы, сьцьвярджаючы, што мэта не зьяўляецца адным з важнейшых момантаў пэдагагічнага працэсу. Адмаўленьне выхаваўчых мэт у Шульгіна і Крупенінай поўнасьцю адпавядае і буржуазнай тэорыі стыхійнага выхаваньня. Пры гэтым, яны забываюць, што ў праграме нашай партыі зусім чотка фармулявана мэта камуністычнага выхаваньня, якая адказвае інтарэсам рэвалюцыйнага пралетарыяту. Стыхійнае выхаваньне немагчыма, бо выхаваньне ёсьць плянамернае арганізаванае ўзьдзеяньне з боку вядомай грамадзкай клясы. Мы разглядаем камуністычнае выхаваньне, як адну з форм клясавай барацьбы пралетарыяту. А клясавая барацьба пралетарыяту разьвіваецца на сучасным этапе не стыхійна, а арганізавана і плянамерна пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі. Значыць і выхаваньне, як форма гэтай барацьбы таксама разьвіваецца не стыхійна, а арганізавана і плянамерна пад кіраўніцтвам партыі, праз яе і пры дапамозе яе. Шульгін і Крупеніна памылкова ўтоесамляюць стыхійны ўплыў у грамадзтве з выхаваньнем, тады як выхаваньне бывае толькі арганізаваным уплывам, хоць пры вядомых умовах яно і можа дзейнічаць у тым ці іншым напрамку на разьвіцьцё чалавека. Таксама няправільна ўжываць выраз—„арганізаванае выхаваньне“, або „арганізаваны пэдагагічны працэс“, бо ў такім выпадку ўзьнікае повад думаць, што ёсьць і неарганізаванае выхаваньне або неарганізаваны пэдагагічны працэс. На самай справе выхаваньне, як паказана вышэй, заўсёды ёсьць арганізаваны ўплыў.

Ленін ужывае паняцьце „выхаваньне“ у сэнсе ідэйнага і арганізацыйнага ўплыву партыі на масы. Ён часта гаворыць аб неабходнасьці разьвіцьця палітычнага выхаваньня пралетарыяту. „Мы павінны актыўна ўзяцца за палітычнае выхаваньне рабочае клясы, за разьвіцьцё палітычнага сазнаньня“—настойліва патрабуе ён ад членаў партыі. Для разьвіцьця палітычнай сьвядомасьці рабочых, для распаўсюджваньня сярод іх марксыцка-ленінскага вучэньня сама партыя павінна стаяць на вышыні палітычнай сьвядомасьці і займацца агітацыйна-прапагандысцкай дзейнасьцю сыстэматычна, арганізавана і плянамерна. Ленін разглядаў палітычнае выхаваньне не як стыхійны пэдагагічны працэс, а як плянамерны, сьвядомы, арганізаваны ўплыў партыі на масы. Ён піша: „Партыя сьвядома ставіць сваёй задачай дапамагчы пралетарыяту выканаць ролю яго выхаваўцеля, арганізатара і кіраўніка, тую ролю, без якой распад капіталізму немагчым“ [1]) У артыкуле „О смешении политики с педагогикой“ Ленін падкрэсьлівае неабходнасьць „паглыбленьня і пашырэньня“, пашырэньня і паглыбленьня ўплыву партыі на масы, неабходнасьць разьвіцьця „строга марксысцкай прапаганды“, называючы гэты ўплыў „элемэнтамі пэдагогікі і палітычнай дзейнасьці партыі“. „Для работнікаў асьветы і для камуністычнай партыі як авангарду ў барацьбе,—гаворыць Ленін,—павінна быць асноўнай задачай—дапамагчы выхаваньню і адукацыі працоўных мас, каб перадолець старыя прывычкі, старыя навыкі, якія асталіся нам у спадчыну ад старога ладу, навыкі і прывычкі ўласьніцкія, якія наскрозь прапітваюць тоўшчу мас“ [2]).

„Мы жывем у гістарычны момант барацьбы з сусьветнай буржуазіяй, якая значна мацней за нас,—працягвае Ленін. У гэты момант барацьбы мы павінны адстайваць рэвалюцыйнае будаўніцтва, змагацца супроць буржуазіі і ваенным шляхам і яшчэ больш шляхам ідэйным, шляхам выхаваньня, каб прывычкі, навыкі, пераконаньні, якія рабочая кляса выпрацоўвала сабе на працягу многіх дзесяцігодзьдзяў у барацьбе за палітычную свабоду, каб уся сума гэтых прывычак, навыкаў і ідэй зрабілася зброяй выхаваньня ўсіх працоўных, а задачы вырашэньня пытаньня як іменна выхоўваць, кладзецца на пралетарыят [3]).

[1]) Ленін, збор твораў, т. XXV, стар. 451.
[2]) Там-жа, стар. 449—450.
[3]) Там-жа стар. 450

Адсюль відаць, што Ленін разглядае выхаваньне як ідэйны ўплыў партыі на масы, пры якім уся сума прывычак, навыкаў і пераконаньняў, выпрацаваных пралетарыятам на працягу многіх дзесяцігодзьдзяў клясавай барацьбы, зрабілася-б набыткам працоўных мас. Ідэйны ўплыў партыі на масы быў бы немагчымы бяз пэўнай дысцыплінаванасьці і арганізаванасьці пралетарыяту, таксама як дысцыплінаванасьць і арганізаванасьць пралетарыяту становяцца магчымымі дзякуючы ідэйнаму ўплыву партыі. „Адзінства дзеяньняў, свабода абмеркаваньняў і крытыкі—вось наша азначэньне",—пісаў Ленін у 1906 г. Толькі такая дысцыпліна годна дэмакратычнай партыі передавой клясы. Сіла рабочай клясы—арганізацыя. Без арганізацыі мас пралетарыят—нішто. Арганізаваны, ён—усё.

Арганізаванасьць ёсьць адзінства дзеяньняў, адзінства практычнага выступленьня. Але, зразумела, усякія дзеяньні і ўсякія выступленьні цэнны толькі таму і пастолькі, паколькі яны рухаюць наперад, а не назад,—паколькі яны ідэйна згуртоўваюць пралетарыят, падымаючы яго, а не прыніжаючы, не разбэшчваючы не расслабляючы. Безыдэйная арганізаванасьць—бяссэнсіца, якая напрактыцы ператварае рабочых у жалкіх прыхвасьняў уладу маючай буржуазіі" [1]. Сьвядомая дысцыпліна, арганізаванасьць, згуртаванасьць навакол партыі, адзінства дзеяньняў і выступленьняў—вось у чым заключаецца сіла арганізаванага пралетарыяту. Арганізаваны пралетарыят—усё, а неарганізаваны, ён—нічога. Бязыдэйная арганізаванасьць—бяссэнсіца. Гэта асабліва неабходна помніць тым, хто абараняе тэорыю стыхійнага выхаваньня і хто, значыць, адстайвае прынцып неарганізаванай ідэйнасьці, або бязыдэйнай арганізаванасьці. Камуністычнае выхаваньне ёсьць адзінства ідэйнага і арганізацыйнага ўплыву партыі на масы.

„Бо сацыял-дэмакратыя ёсьць ня толькі ідэйнае, але і арганізацыйнае адзінства. Забываць могуць гэта толькі ліквідатары" [2]), пісаў Ленін аб партыі, рабочай клясе, маючы на ўвазе бальшавікоў.

[1]) Ленін, збор твораў, т. X, стар. 166.
[2]) Ленін, збор твораў, т. XVII стар. 50.

У другім месцы ён гаварыў, што: „Задачай перадавых рабочых зьяўляецца—сваёй работай, агітацыяй і асьветай паскорыць згуртаваньне пралетарыяту пад рэвалюцыйнымі лёзунгамі эпохі". „Палітыку ў сур'ёзным сэнсе слова могуць рабіць толькі масы,—працягвае Ленін,—а маса беспартыйная і ня ідучая за моцнай партыяй—ёсьць маса распыленая, бесьсьвядомая, няздольная да вытрымкі і ператвараючаяся ў цацку „лоўкіх палітыканаў", якія зьяўляюцца сваячасова з пануючай клясай для выкарыстоўваньня „падыходзячых" выпадкаў".

Прыведзеныя вытрымкі паказваюць, якое выключнае значэньне надаваў Ленін кіруючай ролі партыі ў справе камуністычнага выхаваньня мас (і ня толькі ў гэтай справе). Шульгін і Крупеніна ўжылі ўсе сілы для таго, каб даказаць, што выхаваньне мас, адбываецца стыхійна, без кіраўніцтва з боку партыі і пралетарскай дзяржавы. Яны настойліва падтрымліваюць анархa-сындыкалісцкую ідэю, нібыта можна арганізаваць стыхію ўплываў праз пэдагогіку. У гэтым сэнсе яны і ставяць перад сабою задачу стварэньня новай пэдагогікі пераходнага пэрыяду. Само сабой зразумела, што гэтая шульгінская пэдагогіка пераходнага пэрыяду нічога агульнага ня мае з ленінізмам.

У Шульгіна мы чытаем: „І выхоўваюць ня толькі настаўнікі і газэты, але партыя, саветы, прафсаюзы, і выхоўваюць ня ў школах, а ў жыцьці.

Практыка, вопыт, жыцьцё вучаць яны разумець, але ня толькі разумець, але і перабудоўваць, перарабляць на новы лад. Але калі гэта так, дык трэба падумаць аб тым, каб гэты выхаваўчы працэс ішоў хутчэй, плянамерней, лепш. Каб ён даў лепшы эфэкт, а для гэтага трэба прыдумаць мэтодыку. Гэта павінна даць пэдагогіка. Гэта—наша, спэцыфічна наша. Гэта—то новае, міма чаго нельга прайсьці. Сэкцыі саветаў ёсьць школа, прафсаюз—школа, у кожнай частцы дзяржаўнага органу ёсьць выхаваўчы момант, і ён расьце, і ён будзе расьці ўсё больш і больш па меры набліжэньня да камуністычнага грамадзтва. Усё больш і больш ад прымусу кіраваньня мы будзем пераходзіць да выха-

ваньня, да пераконаньняў. Але і зараз гэты бок трэба палепшыць. Трэба ўлічыць прароблены вопыт. Ён ужо вялікі. Трэба яго вывучыць. Трэба ставіць гэтую работу ўсё лепш і лепш. Тут павінна дапамагчы, тут можа дапамагчы пэдагогіка, ня школьная, а тая новая, якую мы яшчэ павінны стварыць, але яе трэба стварыць. Яна ствараецца ўжо жыцьцём, — гэта тое спэцыфічна новае, што прыносіць пераходны пэрыяд. Так вырастае пэдагогіка пераходнага пэрыяду“ [1]). Тое, што выхоўваюць прафсаюзы, саветы, партыя—гэта бясспрэчна. Хоць Шульгін аб гэтым вельмі шмат гаворыць, але ён не разумее паленінску сутнасьці выхаваньня ў партыі, саветах і прафсаюзах. Ён патрабуе стварыць новую пэдагогіку, забываючы тое, што аснова пэдагогікі пераходнага пэрыяду ўжо закладзена вучэньнем Леніна і знайшла сваё выражэньне ў выхаваўчым баку дзейнасьці камуністычнае партыі. Ён ня хоча прызнаць таго, што задача заключаецца не ў стварэньні новай пэдагогікі, а ў распрацоўцы ленінскай спадчыны ў галіне тэорыі выхаваньня і што на гэтай аснове неабходна абагульняць вопыт камуністычнага выхаваньня працоўных мас эпохі дыктатуры пралетарыяту. Шульгін сьвядома адмаўляецца прызнаць вучэньне Леніна аб выхаваньні, і таму настайвае на стварэньні нейкай новай, яшчэ ня існуючай пэдагогікі пераходнага пэрыяду. Хто-ж павінен стварыць гэтую новую пэдагогіку? Канечна, Шульгін і Крупеніна маюць на ўвазе сябе і сваіх аднадумцаў. Партыя-ж імі ўпарта ігнаруецца. Яны ня ставяць перад сабой задачу весьці барацьбу за партыйнасьць пэдагогікі. Пэдагогіка, якую яны зьбіраюцца стварыць, павінна ўмешвацца, па іх думцы, у стыхійны працэс і арганізаваць яго. Тут пэдагогіка ператвараецца ва ўнівэрсальную навуку, якая паглынае сабой і палітыку, і эканоміку, і гісторыю, і псыхалёгію і іншыя навукі. Роля пэдагогікі павялічваецца з адміраньнем дзяржаўнай ўлады, а разам з тым будзе ўсё больш і больш зьнікаць хаос, анархія ўплываў. Шульгін так і піша: „Калі ў сувязі з пачаўшымся адміраньнем дзяржаўнай улады расьце адносная вага пэдагогікі, дык памірае і хаос, супярэчлівасьць пэдагагічных узьдзеяньняў, анархія ўплываў“ [1]). І далей мы чытаем наступнае: „Але ён (хаос—П. П.) будзе ўсё больш і больш уходзіць у мінулае, памяншацца па меры таго, як мы падыходзім да камунізму. Але і зараз мы павінны зрабіць усё магчымае, каб паменшыць яго. Гэта адна з задач пераходнага пэрыяду. Адна з задач пэдагогікі і пераходнай эпохі. Вывучыць гэта, прадумаць сыстэму пэдагагічнага ўзьдзеяньня, арганізаваць, дабіцца большай плянавасьці, большага адзінства—гэта наша чарговая задача“ [2]) Шульгін уяўляе сабе пэдагогіку, як нейкую арганізацыйную навуку, пры дапамозе якой можна ліквідаваць хаос, арганізаваць выхаваўчыя ўплывы, унесьці плянавасьць у сацыяльныя адносіны. Тут Шульгін заметна аддае багданаўшчынай.

Тут мы маем пераацэнку ролі ідэалізму ў зьмяненьні сацыяльных адносін. Замест таго, каб выразна падкрэсьліць клясавую барацьбу, як рашучую і рухаючую сілу гістарычнага працэсу, праводзіцца думка аб тым, быццам дэміўргам зьмяненьня сацыяльных адносін зьяўляецца пэдагогіка. А гэта і ёсьць адзін з варыянтаў меншавіствуючага ідэалізму. Тое-ж па сутнасьці гаворыць і Крупеніна: „Так, мы мяркуем,—сьцьвярджае яна,— што прадметам вывучэньня пэдагогікі павінна стаць дасьледваньне ўсяго працэсу сацыяльнага фармаваньня чалавека, вывучэньне арганізацыі, мэтадаў і форм, у якіх ён разгортваецца ва ўмовах данай канкрэтнай гістарычнай эпохі і данага клясавага асяродзьдзя, дасьледваньне ўсёй сумы фактараў, якія яго вызначаюць, заканамернасьцяй, якім ён падпарадкаван.“. [3])

Сацыяльнае фармаваньне чалавека адбываецца ня толькі пад уплывам выхаваньня, але і пад уплывам усяго акружаючага асяродзьдзя. Сюды-ж уваходзяць і стыхійныя працэсы. Усё гэта, па дум-

[1]) „На путях к новой школе“ № 9 за 1927 г., стар. 7.

[1]) „На путях к новой школе“ № 9 за 1927 г., стар. 7

[2]) Там-жа.

[3]) В борьбе за марксистскую педагогику, стар. 89.

цы Крупенінай, зьяўляецца прадметам пэдагогікі, якая павінна вывучаць „усю суму грамадзкіх адносін і іх узаемаадносін з фактарамі біолёгічнага парадку.“ Разумеючы так шырока прадмет пэдагогікі, сама Крупеніна прадбачыць супярэчаньні і ставіць перад сабой цэлы рад пытаньняў. „Так, але тады вы губляеце ўсе граніцы, яны зьнікаюць, губляюцца,— разважае яна. Выхоўвае палітычная і грамадзкая дзейнасьць, выхоўвае вытворчая работа, выхоўвае геаграфічна асяродзьдзе (няверна, што выхоўвае геаграфічнае асяродзьдзе, — П. П.), дзе-ж грані? Ці неператворыцца пэдагогіка ў нейкую агульную навуку аб жыцьці і прыродзе, аб грамадзкім і прыродным асяродзьдзі, у якой зьмешваецца і канчаткова губляецца прадмет іменна пэдагогікі, як навукі. Вы хочаце замяніць пэдагогікай гісторыю клясавай барацьбы, палітычную эканомію, гістарычны матэрыялізм, вы ўпадаеце ў пэдагагічны сындыкалізм, вы падмяняеце палітыку пэдагогікай“ [1]). Крупеніна гэтыя супярэчаньні не адводзіць, праяўляючы тэндэнцыю сапраўды ператварыць пэдагогіку „у нейкую агульную навуку аб жыцьці і прыродзе, аб грамадзкім і прыродным асяродзьдзі“. Вось гэта і нагадвае ідэалістычная філёсофія Багданава, які імкнецца стварыць агульную арганізацыйную навуку на падставе вучэньня Маха і Авенарыуса.

Аналізуючы ўмовы сацыяльнага фармаваньня чалавека, Крупеніна прыходзіць да новай тэорыі „аб шырокай сацыяльнай пэдагогіцы асяродзьдзя“. Яна ўстанаўлівае тры паказчыкі „шырокага пэдагагічнага асяродзьдзя“: 1) узровень разьвіцьця прадукцыйных сіл у частцы, якая характарызуецца ўжываньнем тых ці іншых прылад; 2) той-жа ўзровень прадукцыйных сіл у частцы, якая характарызуецца разьвіцьцём культуры ў больш вузкім сэнсе гэтага слова (пісьменнасьць, навука і інш.) і 3) сацыяльна-клясавая структура асяродзьдзя. Такім чынам Крупеніна лічыць, што клясавая структура асяродзьдзя зьяўляецца не важнейшым прызнакам, а толькі адным з трох паказчыкаў. Тут у на яўнасьці тэндэнцыя затушаваць клясавую барацьбу, як адзіна важны, галоўны фактар сацыяльнага фармаваньня чалавека. Вось гэтае ігнараваньне клясавай барацьбы Крупеніна называе чытаньнем новых мэтадалёгічных прадпасылак для пэдагогікі. Цікава тая абставіна, што шульгінцы для „навуковага“ абгрунтаваньня сваёй тэорыі пэдагогікі асяродзьдзя зьвяртаюцца да вывучэньня буржуазных пэдагагічных тэорый з тым, каб апраўдаць сваю пазыцыю адносна прадмету пэдагогікі. Е. Ліўшыц у артыкуле „Вопрос о предмете педагогики в германской педагогической литературе“ проста заяўляе, што: „частка буржуазных пэдагогаў пад уплывам жорсткіх законаў клясавай барацьбы прышлі да раду правільных тэарытычных вывадаў аб прадмеце пэдагогікі“ [1]). Пры гэтым Ліўшыц умаўчвае аб тым, што ўказаныя пэдагогі— Крык, Дзіту, Кауту, Фішар і інш. стаяць на пазыцыях ідэалістычнай філёсофіі і што абгрунтаваньне прадмету пэдагогікі ў іх ідзе з пункту погляду ідэалізму. Калі Ліўшыц лічыць, што гэтыя буржуазныя пэдагогі „прышлі да раду правільных тэарытычных вывадаў“, дык гэта значыць, што Ліўшыц згодна з гэтымі тэарытычнымі вывадамі, выцякаючымі з ідэалістычнай філёсофіі. А гэта ў сваю чаргу азначае, што Ліўшыц у нашых умовах выступае праваднікам ідэй меншавіствуючага ідэалізму. Ітак, Шульгін і Крупеніна з сваімі аднадумцамі настойліва патрабуюць стварэньня новай пэдагогікі пераходнага часу, прадметам якой зьяўляецца стыхійны працэс сацыяльнага фармаваньня чалавека і якая апіраецца на мэтадалёгічныя прадпасылкі меншавіствуючага ідэалізму. Зыходзячы-ж з гэтых прадпасылак, шульгінцы аб'яўляюць пэдагогіку, як агульную навуку аб жыцьці і прыродзе, пры дапамозе якой можна нібыта зьнішчыць хаос уплываў і рэгуляваць сацыяльныя адносіны.

[1]) В борьбе за марксистскую педагогику, стар. 88-89.

[1]) Зборнік „Проблемы научной педагогики“ № 3, стар. 106. Падкрэсьслена намі,—П. П.

(*Працяг будзе*).



Алісіевіч І. А.

# Да работы школ па новых праграмах

Аб'ектыўныя паказчыкі нашых вялізарных, гістарычна-нябачаных дасягненьняў у будаўніцтве сацыялізму ў СССР сталі агульна-прызнанай ісьцінай ня толькі працоўных мас Савецкага саюзу, рэвалюцыйных мас капіталістычных краін. Загаварылі аб нашых дасягненьнях, сьціснуўшы зубы ад шалёнай злобы магнаты капіталу, соцыял фашысты, рэнегаты марксызму, рознага колеру прыхвосьцні капіталу. У той час, як у нас адбываецца бурны рост прамысловасьці, уступаюць у строй новыя „518“ і „1040“ гігантаў індустрыі, валавая прадукцыя прырастае за год на 79% (БССР-1931 г.); звыш 60% бядняцка-серадняцкіх гаспадарак аб'яднаны ў буйныя калектыўныя гаспадаркі, ліквідуецца апошняя апора капіталізму у СССР кулацтва на базе суцэльнай калектывізацыі; разгортваецца нацыянальна культурнае будаўніцтва народаў СССР,—капіталістычны сьвет ахоплен крызісам: застанаўліваюцца прадпрыемствы, утвараюцца новыя і новыя мільёны беспрацоўных, голад, галеча, крывая выпуску прадукцыі коціцца ўніз; канчаткова разбураецца дробная аднаасобная сялянская гаспадарка; узмацняецца эксплёатацыя і нацыянальна-культурны ўціск народаў калёній і залежных краін. Набліжаецца пара, калі „сацыяльная рэвалюцыя пралетарыяту зьнішчыць падзел грамады на клясы і гэтым вызваліць усё прыгнечанае чалавецтва, так як пакладзе канец усім відам эксплёатацыі аднэй часткі грамады другой“ (праграма Усе КП(б). XVII канфэрэнцыя УсеКП(б) паставіла ў якасьці палітычнай задачы другой пяцігодкі: „канчатковую ліквідацыю капіталістычных элемэнтаў і клясаў наогул, поўнае зьнішчэньне прычын раджаючых клясавыя разьлічны і эксплёатацыю“, і „ператварэньне ўсяго працоўнага насельніцтва краіны ў сьвядомых і актыўных будаўнікоў бясклясавае сацыялістычнае грамады“:

„У пэрыяд дыктатуры пралетарыяту, г. з. у пэрыяд падрыхтоўкі ўмоў, ствараючых мажлівасьць поўнага ажыцьцяўленьня камунізму, школа павінна быць ня толькі праваднікам прынцыпаў камунізму наогул, але і праваднікам ідэйнага, арганізацыйнага, выхаваўчага ўплыву пралетарыяту на паўпралетарскія і непралетарскія пласты працоўных мас у мэтах выхаваньня пакаленьня, здольнага канчаткова ўстанавіць камунізм“ (Праграма Усе КП(б).

Падводзячы вынікі работы школы ў разьвязваньні пастаўленых перад ёю праграмай партыі задач, ЦК УсеКП(б) у сваёй пастанове аб школе ад 5/IX-31 г. канстатаваў значныя дасягненьні ў рабоце пачатковай і сярэдняй школы за апошнія гады. Пралетарская дзяржава дабілася аграмадных посьпехаў у справе пашырэньня школьнай сеткі і перабудовы школы і, што, прынцыпова іншым стаў зьмест усёй работы школы. Разам з гэтым ЦК ускрыў у рабоце школы карэнны недахоп, „які ў даны момант заключаецца ў тым, што навучаньне ў школе не дае дастатковага аб'ёму агульнаадукацыйных ведаў і нездавальняюча вырашае задачу падрыхтоўкі для тэхнікумаў і вышэйшай школы зусім пісьменных людзей, добра ўладаючых асновамі навук (фізыка, хэмія, матэматыка, родная мова, географія і інш.)“

Адгэтуль выцякае і тое, што агульнаадукацыйная палітэхнічная школа не забясьпечвала падрыхтоўку ўсебакова разьвітых членаў камуністычнага грамадзтва, людзей, якія-б на базе атрыманай імі адукацыі маглі-б з посьпехам атрымліваць спэцыяльную падрыхтоўку ў тэхнікумах, ВНУ і ВТНУ. Недастатковы аб ём агульна-адукацыйных ведаў нашых школ, недастатковая падрыхтаванасьць па асновах навук, прыводзіла да таго, што палітэхнізацыя ў радзе школ набывала фармальны характар і не падрыхтоўвала дзяцей, як усебакова разьвітых будаўнікоў сацыялізму, увязваючых тэорыю з практыкай і ўладаючых тэхнікай.

ЦК у сваёй пастанове падкрэсьлівае і задачу забясьпячэньня вытрыманага камуністычнага выхаваньня ў школе.

„У пэрыяд сацыялізму, калі пролетарыят ажыцьцяўляе канчатковае зьнішчэньне клясаў ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы, выключна важнае значэньне набывае вытрыманае камуністычнае выхаваньне ў савецкай школе і ўзмацненьне барацьбы супроць усялякіх спроб прывіць дзецям савецкай школы элемэнты антыпролетарскай ідэолёгіі.“ (Пастанова ЦК стар. 8)

Нельга ні на мінуту забываць пра астаткі капіталістычных элемэнтаў, якія ва ўмовах разгорнутага наступленьня пралетарыяту аказваюць шалёнае супраціўленьне сацыялістычнаму наступленьню. Нельга забывацца аб месцы і ролі аднаасобнага сэктару вёскі, які складае каля 40% сялянскіх гаспадарак. Нельга забывацца і аб элемэнтах клясавай барацьбы ў калгасах, нельга забывацца і аб дробна-буржуазных пластох гораду, якія, ня гледзячы на хуткае выцясьненьне іх, спрабуюць несьці свой уплыў у шэрагі рабочае клясы, у нашу школу.

Увесь пэрыяд дыктатуры пралетарыяту ёсьць пэрыяд абвостранай клясавай барацьбы, якая мяняе толькі свае формы ў адпаведнасьці са зьмяніўшайся абстаноўкай. „Дыктатура пралетарыяту ёсьць праця́г клясавай барацьбы пралетарыяту ў новых формах. У гэтым сэнс, гэтага не разумеюць“. (Ленін). „У будаўніцтве нашай школы мы сустракаем на кожным кроку спробы клясава-варожых элемэнтаў прасунуць сваю ідэалёгію ў нашу школу. Акрэсьленае выражэньне ў будаўніцтве палітэхнічнай школы, пад націскам дробнабуржуазных элемэнтаў, атрымала тэорыя адміраньня школы. „Лявацкая“ тэорыя адміраньня школы выводзілася шляхам мэханічнага пераняясеньня ленінскага вучэньня аб адміраньні дзяржавы на школу. На практыцы гэта тэорыя разбурала школу, у той час, калі асабліва востра стаіць пытаньне аб кадрах, здольных аўладаць тэхнікай, калі мы канцэнтруем увагу на якасьці школьнай работы, на ідэалёгічна вытрыманым камуністычным выхаваньні моладзі, а ў зьвязку з гэтым, на ўмацаваньні школы, як дзяржаўнай арганізацыі камуністычнага выхаваньня „Левакі“ адмаўлялі рашаючую ролю тэорыі, імкнуліся падпарадкаваць яе штодзённай выпадковай практыцы, прапагандавалі ломку праграм, навучальных плянаў і раскладу, падпарадкоўваючы іх адзінаму ўнівэрсальнаму „мэтаду праектаў“, някрытычна запазычанаму з практыкі буржуазных школ. Падобныя ўстаноўкі скажалі ідэю палітэхнічнае адукацыі Маркса-Леніна, адмаўлялі выхаваўчую ролю школьных майстэрняў і рабочых пакояў, прадстаўлялі палітэхнізацыю выключна, як работу на фабрыцы, заводзе, ці калгасе, імкнуліся ператварыць школу ў „цэх завода“-„цэх дэпо“, цягнулі да зьніжэньня тэарытычнай вучобы дзяцей, да раньняй іх спэцыялізацыі. Калі да гэтага дадаць высунутыя „левакамі“ погляды, што „школа арганізацыя дзіцячай актыўнасьці“, што роля настаўніка ня істотна, мы атрымаем поўны малюнак шкоднай, дробнабуржуазнай тэорыі, разбураючай нашу школу, і якая адначасова з гэтым узмацняе пазыцыі правага ўхілу ў пэдагогіцы галоўнай небясьпекі на даным этапе, які цягне нас назад, да старой схолястычнай школы з яе вэрбальным мэтадам адрывам тэорыі ад практыкі, рэвалюцыйнай барацьбы і сацыялістычнага будаўніцтва, з яе адмаўленьнем ад палітэхнізацыі школы. Толькі безнадзейны сьляпы апартуніст ня можа бачыць дасягненьняў нашае школы, ня бачыць клясавай барацьбы, якая разгортваецца па ўсіх вучастках нашага сацыялістычнага будаўніцтва, у тым ліку і па лініі школы. Руйнуючы адпор павінна атрымоўваць пэдагагічная палітыка правых апартуністых і іх памочнікаў „левых“ апартуністаў у пэдагогіцы. Клясава-варожыя элемэнты пушчаюць свае шчупальцы ў нашу школу, спрабуюць рознымі спосабамі і формамі ўплываць на дзяцей, дызарыентаваць моладзь, накіраваць яе актыўнасьць супроць палітыкі партыі; як жа можна назваць інакш, як ня спробай буржуазных элемэнтаў паланіць вучняў прапагандуемым такім „удасканаленьнем“ мовы: „кулак—заможны працалюбівы селянін“, „ударнік-уцяльнік“, „міліцыянэр-гарадавы“, „савецкае кофэ“ і інш. З усімі клясава варожымі ідэямі ў школе патрэбна весьці бязьлітасную барацьбу. Ня можа быць апалітычнасьці, палітычнай бясьпечнасьці, гнілога лібэралізму ў рабоце нашае школы, у

рабоце настаўніка. Тут трэба з усёй рашучасьцю падкрэсьліць словы Леніна: „наша справа ў галіне школьнай ёсьць таксама барацьба за зьвяржэньне буржуазіі; мы адчынена заяўляем, што школа ўне жыцьця, уне палітыкі мана і ліцамер'е“.

Пастанова ЦК ад 5/IX-31 г. адзначае новы гістарычны этап у будаўніцтве савецкай палітэхнічнай школы. У пастанове з усёй акрэсьленасьцю сфармуляваны асноўныя задачы школы: забясьпечыць вучням набыцьцё вызначанага праграмамі аб'ёму сыстэматызаваных агульнаадукацыйных ведаў, засваеньне асноў навук, злучаць навучаньне з грамадзка-вытворчай працай на такой аснове, каб уся грамадзка-вытворчая праца вучняў была падпарадкавана вучэбным і выхаваўчым мэтам школы; узмацніць барацьбу супроць усякіх спроб прывіць дзецям савецкай школы элемэнты антыпралетарскай ідэалёгіі і тым самым забясьпечыць вытрыманае камуністычнае выхаваньне ў савецкай школе; выкладаньне паставіць на аснове строга акрэсьленых і пунктуальна распрацаваных праграм, навучальных плянаў і праводзіць па строга ўстаноўленаму раскладу; разгортваючы рашучую барацьбу супроць лёгкадумнага мэтодычнага пражэкцёрства, насаджэньня ў масавым маштабе мэтадаў, загадзя неправераных на практыцы, што асабліва ярка выявілася ў ужываньні так званага „мэтаду праектаў“, забясьпечыць ужываньне новых мэтадаў работы, якія садзейнічаюць выхаваньню ініцыятыўных і дзейных удзельнікаў сацыялістычнага будаўніцтва. Справіцца з гэтымі задачамі немагчыма без карэннай перабудовы ўсяе работы школы, без пераўзбраеньня ў першую чаргу арганізатара пэдагагічнага працэсу-настаўніка. Тав. Сталін, гаворачы аб камандных інжынэрна-тэхнічных кадрах, казаў: „Нам патрэбны такія камандныя і інжынэрна-тэхнічныя сілы, якія здольны зразумець палітыку рабочае клясы нашай краіны, здольны засвоіць гэту палітыку і гатовы сумленна яе ажыцьцяўляць“. Гэта паказаньне т. Сталіна ў аднолькавай ступені датычыцца і настаўнікаў. Толькі зразумеўшы і засвоіўшы палітыку партыі ў школьным будаўніцтве, настаўнік зможа па новаму працаваць, па новаму кіраваць выхаваньнем дзяцей.

---

Кіруючыся пастановай ЦК Наркамасьветы БССР, распрацаваны праект праграмы для 1-4 груп ФЗС, ШКМ і пачатковай школы, выпушчаны 20/I-32 г. У праекце праграм маюцца распрацоўкі праграм па роднай мове, рускай мове, матэматыцы, грамадазнаўству, геаграфіі, прыродазнаўству і палітэхнічнай працы. У паясьняльнай запісцы асноўныя рысы праграм фармулююцца наступным чынам: 1) Новыя праграмы для ўсіх гадоў навучаньня... пабудаваны па прадметах і забясьпечваюць па кожнай з вучэбных дысцыплін ясна акрэсьлены круг сыстэматызаваных ведаў.

2) Новыя праграмы прадугледжваюць строгую пасьлядоўнасьць у нарастаньні ступені складанасьці тэарытычных ведаў і навыкаў па кожнай дысцыпліне, улічваючы ўзростныя асаблівасьці вучняў.

3) Новыя праграмы ўстанаўліваюць сувязь тэорыі і практыкі з вытворчай работай, з грамадзка-карыснай работай вучняў і ўдзелам вучняў у сацыялістычным будаўніцтве. Гэта сувязь праводзіцца на аснове ўказаньняў ЦК аб тым, каб уся грамадзка-вытворчая работа вучняў была падпарадкавана навучальным і выхаваўчым мэтам школы.“(Праграмы, стр. 4).

Такой сьціслай характарыстыкі новых праграм дастаткова для ўяўленьня ўсёй глыбіні розьніцы іх ад ранейшых комплексных праграм. Замест усеаб'ядноўваючых комплексных тэм, у новых праграмах мы маем дыфэрэнцыяваныя, па асобных разьдзелах, сыстэматычныя веды ў выглядзе асобных прадметаў, у якіх захавана строгая пасьлядоўнасьць і сыстэматычнасьць. Замест падпарадкаваньня навучальнай работы штодзённай выпадковай практыцы, у большасьці фармулюемай, як удзел дзяцей у сацыялістычным будаўніцтве і клясавай барацьбе, уласьцівых комплекснай сыстэме і „мэтаду праектаў“, новыя праграмы прадугледжваюць вытворчую працу і грамадзка-карысную работу вучняў, але гэта праца падпарадкавана вучэбным і выхаваўчым мэтам школы. Правільная ўстаноўка ЦК

у гэтым пытаньні прымушае настаўніка перагледзець часта ўстанавіўшыяся памылковыя прынцыпы, выцякаючыя з антыленінскай тэорыі адміраньня школы аб падпарадкаваньні адукацыі вытворчай працы. Наша школа павінна падрыхтаваць усебакова-разьвітых членаў камуністычнага грамадзтва, умеючых увязваць тэорыю з практыкай і ўладаючых тэхнікай. Замест абрыўкаў ведаў, набываемых у зьвязку з тэй або іншай комплекснай тэмай, новыя праграмы, пачынаючы з першае групы, даюць сыстэматызаваныя веды і звычкі па асобных дысцыплінах.

Пры пераходзе школы на новыя праграмы нельга дапусьціць лёгкадумнага атаесамленьня новых праграм па прадметах з прадметнай сыстэмай дарэвалюцыйнай школы. Ня іначай, як шкоднай, клясава-варожай, контррэвалюцыйнай была-б работа настаўніка, які-б зразумеў наш паварот у школьным будаўніцтве, як паварот да старой школы, які палез бы на вышкі за дарэвалюцыйнымі падручнікамі для работы ў школе па новых праграмах. Калі ўтварыць хаця-б беглы аналіз нашых прадметаў і прадметаў у дарэвалюцыйнай школе, то мы адразу будзем канстатаваць, што між імі няма нічога агульнага. Зьмест нашых прадметаў кардынальнейшым чынам адрозьніваецца ад зьместу прадметаў дарэвалюцыйнай школы. Прадметныя праграмы нашае школы цалкам і поўнасьцю падпарадкаваны мэтам камуністычнага выхаваньня, адбіваюць волю і імкненьне пралетарыяту ў яго клясавай барацьбе з буржуазіяй і будаўніцтве сацыялізму. Наша сыстэма ведаў грунтуецца на базе матэрыялістычнай дыялектыкі, а не на фармальных ідэалістычных і містычных прынцыпах, уласьцівых дарэвалюцыйнай школе. Прадметныя праграмы нашае школы насычаны жыцьцёвым матар'ялам, узятым з прыродных, грамадзкіх і працоўных зьяў, які раскрывае сутнасьць гэтых зьяў і працэсаў. У праграмах старой школы зьмест вызначаўся мэтафізычна, упор рабіўся на фармальнае засваеньне ведаў, назвы, вызначэньні, трэніроўку. Возьмем прыклад з геаграфіі. Вучань 2-х кляснае школы міністэрства асьветы атрымліваў ад настаўніка „отлично“ (5), таму што ён як папугай аднаўляў зазубраны параграф падручніка, або складзены настаўнікам канспэкт, напр. па Паўночнаму краю. За аднаўляемымі сказамі ў вучняў ня было ніякіх канкрэтных уяўленьняў. Замест сьвядомага аналізу малюнкаў, прыроды і заняткаў насельніцтва Паўночнага краю, на падставе якіх у вучня павінна скласьціся цэльнае ўражаньне, яму давалася заданьне зазубрыць указаны настаўнікам тэкст.

Аналізуючы зьмест сыстэматызаваных ведаў у кожным прадмеце нашых праграм, мы павінны цьвёрда памятаць аб тым, што сыстэма ведаў у школьным прадмеце грунтоўна адрозьніваецца ад сыстэмы ведаў у навуцы. У той час, як сыстэма ведаў у навуцы распалагаецца ў нісхадзячым парадку ад агульна-прынятых сфармуляваных палажэньняў, вывадаў да ўяўленьня канкрэтных аб'ектаў, зьяў і працэсаў, сыстэма ведаў у школьным прадмеце мае адваротны шлях. У той час, калі ў навуцы вызначаючым мэтадам будзе дэдукцыйны мэтад, у школьным прадмеце будзе індукцыйны мэтад. У школьным прадмеце для нас будзе рашаючым накапленьне вучнямі такіх фактаў, якія дадуць ім магчымасьць сфармуляваць вывады, дадуць ім магчымасьць пазнаць заканамернасьці вытворчых, сацыяльных зьяў і працэсаў. Тое, што ў пачатковай школе і, нават, у сямігодцы называецца прадметам, губляе свой сэнс у тэхнікуме і вышэйшай школе. Напрыклад, прыродазнаўства як прадмет мы знаходзім у пачатковай школе і сямігодцы; у тэхнікуме і вышэйшай школе мы такой дысцыпліны ня знойдзем. Там мы сустрэнемся з батанікай, заолёгіяй, анатоміяй, фізыолёгіяй, біолёгіяй і г. д. У працэсе паглыбленьня ў навуковую галіну мы будзем канстатаваць дыфэрэнцыяцыю ведаў, інтэграцыю ў новы закончаны сыстэматычны курс, навуковую дысцыпліну.

Да апошняга часу сыстэма пабудовы навуковых дысцыплін зусім недастаткова перабудавалася ў адпаведнасьці з вучэньнем Маркса-Леніна, у адпаведнасьці з мэтадам дыялектычнага матэрыялізму. У рабоце над школьнымі прадметамі і ў сыстэме навуковых ведаў трэба кіравацца ўказаньнем Маркса ў пасьляслоўі

да II выданьня „Капіталу“: „Напэўна спосаб укладаньня навукі ня можа з фармальнага боку не адрозьнівацца ад спосабу дасьледваньня. Дасьледваньне павінна дэтальна асвоіцца з матар‘ялам, прааналізаваць розныя формы яго разьвіцьця, прасачыць іх унутраную сувязь. Толькі пасьля таго, як гэта работа закончана, можа быць належным чынам укладзен сапраўдны рух“. Работа ў школе па прадметах павінна ісьці шляхам дасьледваньня, а не шляхам канстатаваньня ўкладзеных сыстэм ведаў. Гэтага ў асноўным не разумела дарэвалюцыйная школа, а таму і будавала вучэбныя прадметы па прынцыпах сыстэмы навукі, даючы спачатку вызначэньні, вывады, не прадпасылаючы ім фактаў. У распрацаваным у НКА праекце праграмы для I канцэнтру ФЗС, ШКМ і пачатковай школы ўлічан апошні момант. У школьным прадмеце даецца такі дыдактычны матар‘ял, які пасілен дзіцячаму ўзросту, блізак яму, які дае магчымасьць дзіцяці рабіць адпаведныя вывады, умазаключэньні. Немагчыма, напрыклад, з вучнямі пачынаць працу па прыродазнаўству з таго, што такое прыродазнаўства, з адзначэньняў анатоміі, фізыолёгіі і г. д. Дзеці гэтых вызначэньняў не змогуць зразумець. Толькі паступовым арганізаваным накапленьнем прыродазнаўчых фактаў у іх разьвіцьці і ўзаемасувязі вучні ўскрыюць асноўныя законамернасьці прыродных зьяў і сьвядома пачнуць фармуляваць вывады, зразумеюць клясыфікацыю прыродазнаўчых навук. Зразумела, гэтым праца па прыродазнаўству не акрэсьліваецца. У рабоце па прыродазнаўству павінны ставіцца і задачы ўскрыцьця фактаў узьдзейнічаньня чалавека на прыроду, перадзелкі яе ў інтарэсах працоўных мас, факты скарыстаньня прыроднай стыхіі ў сацыялістычным будаўніцтве.

У працы па прадметах у нашай школе нельга дапушчаць упрашчэнства, а разам з ім вульгарызацыі, скажэньняў асноўных палажэньняў навукі.

Недапушчальным фактам у I канцэнтры школы было-б вывучэньне жыцьця расьлін па прынцыпах курсу батанікі, з пасьлядоўна разьмежаванымі разьдзеламі: хэмічны склад расьлін, унутраная будова расьлін, ліст, як орган сынтэзу арганічных матэрый, корань і яго праца; сьцябло і яго праца і г. д.

Сыстэматызаваныя веды па гэтаму прынцыпу, як яны прыстаўлены ў дадзенай сыстэме батанікі, ні ў якім разе ня могуць знаходзіць сабе месца ня толькі ў I, але і ў II канцэнтры ФЗС, ШКМ. Характэрны ў даным выпадку мэханістычны, фармалістычны падзел вучэбнай дысцыпліны ні ў якай ступені не раскрывае вучням прасьцейшыя дыялектыка матэрыялістычныя заканамернасьці разьвіцьця ў прыродзе, не ўзбуджае цікавасьці да ўладаньня стыхійнымі сіламі прыроды на карысьць сац. грамады, зусім мала дасьць для выхаваньня дзяцей, як ваяўнічых бязбожнікаў.

Замест гэтага шлях да разуменьня жыцьця расьлін, прыкладна, можна вызначыць наступны: уяўленьне малюнкаў сэзонных зьмен у жыцьці расьлін, сувязь паміж пагодай і зьменамі ў жыцьці расьлін, расьліны поўначы, поўдню, пустыні; жыцьцё расьлін ад пасеву да сьпеласьці, асноўныя шляхі да ўздыму ўраджайнасьці ў калгасах, саўгасах і г. д.

Трэба даваць дзецям такі навуковы матар‘ял, які адпавядае пэдалёгічным асаблівасьцям дзіцячага ўзросту, які ўзбуджае канкрэтнае мысьленьне і стымулюе да дзеяньня.

Распрацаваныя праграмы трэба разглядаць як прыбліжэньне да разьвязваньня складанейшай задачы пабудовы ўсяго навучальнага матар‘ялу школы на аснове марксысцка ленінскай мэтадалёгіі. Выпушчаны праект праграм ня вычэрпвае ўсяго навучальнага пляну. Неадкладнай задачай бліжэйшага часу зьяўляецца ў сьвеце рашэньня ЦК аб школе распрацоўка праграмы па гісторыі для 4-й групы, праграм па фізвыхаваньню, маляваньню, сьпевах і літаратуры для 3 і 4-й груп. Гістарычная частка маецца ў грамадазнаўстве на 3-м годзе навучаньня. Задача гэтай часткі курсу грамадазнаўства паказаць на канкрэтных гістарычных падзеях ролю і неабходнасьць кіраўніцтва барацьбой рабочых і сялян камуністычнай партыі; пры гэтым у рабоце над гістарычным матар‘ялам у 3-й групе на першае месца выступае эмоцыяльны момант, яскравы малюнак, літа-

ратурна-вобразны твор, якія стымулююць вучняў да высьвятленьня гістарычнага эпізоду рэвалюцыйна-клясавай барацьбы пралетарыяту, падымаюць яго клясавую пільнасьць і гатоўнасьць да барацьбы ў новых зьмяніўшыхся ўмовах як унутры СССР, так і барацьбе міжнароднага пралетарыяту. Пачынаючы з 4-й групы, навучальны плян прадбачыць асобны ад грамадазнаўства курс гісторыі. Распрацоўка праграмы гэтага курсу патрабуе максымальнай ўвагі. Не дапушчаючы ўпрашчэнства, скажэньняў гістарычных фактаў, праграму па ўводзінах у гісторыю трэба пабудаваць у поўнай адпаведнасьці з разьвіцьцём вучняў 4-й групы, з патрабаваньнямі пастановы ЦК аб усваеньні вучнямі нашае школы асноў навук, у даным выпадку асноў вучэньня аб грамадзе ў разуменьні Маркса-Леніна і задач нашае школы. Схэматычна праграму гэтага курсу можна акрэсьліць наступным:

1. Роля працы ў працэсе вызваленьня чалавека з-пад улады прыроды (першабытны чалавек і малпа, ўладаньне арудзьдзямі вытворства і г. д.).

2. Формы няпрыкрытага фізычнага закабаленьня чалавека чалавекам (патрыярхальна-радавы строй, рабаўласьніцтва, фэўдалізм).

3. Залежнасьць эканамічнага і сацыяльна-палітычнага строю ад арганізацыі вытворства (фэўдалізм, мануфактура, прамысловы капіталізм).

4. Разьвіцьцё характару і форм клясавае барацьбы ў сувязі з сацыяльна-эканамічнымі зьменамі ў грамадзе.

Лічу, што такую гістарычную прадпасылку трэба даць вучням у I канцэнтры сямігодкі. Яна, з аднаго боку, дасьць магчымасьць вучню, скончыўшаму пачатковую школу, больш сьвядома разумець гістарычныя заканамернасьці, а з другога боку, зьявіцца базай пры далейшым вывучэньні гісторыі ў 5, 6, і 7 групах ФЗС, ШКМ (прамысловы капіталізм, фінансавы капітал і імпэрыялізм, эпоха пралетарскіх рэвалюцый).

З пункту погляду неабходнасьці палітэхнічнае адукацыі навучаючыхся дзяцей ў нашай школе, падрыхтоўкі ўсебакова разьвітых, палітычна вытрыманых будаўнікоў сацыялізму, павінна быць прадугледжана праграма па фізвыхаваньню, сьпевах і маляваньню.

Мастацкая літаратура зьяўляецца магутным фактарам камуністычнага выхаваньня. Абмяжоўвацца толькі дзелавой мовай ў І-м канцэнтры ШКМ і ФЗС немагчыма. Чытаньне вершаў, апавяданьняў значна пашырае прыстаўленьні дзяцей; вытрыманая мастацкая клясава пралетарская літаратура падымае настрой вучня, захапляе яго гэроікай сацыялістычнага будаўніцтва. Літаратурная, вусная і пісьмовая мова зьяўляецца надзейнай зброяй мабілізацыі мас на справу далейшых перамог, калі яна знаходзіцца ў руках пралетарыяту. Перад савецкай школай пастаўлена задача даць гэту зброю нашым вучням, даць элемэнтарнае ўменьне ў клясавым аналізе твору пісьменьніка, а таму падбор мастацкіх твораў для чытаньня вучням, мэтодыка арганізацыі чытаньня і аналізу прачытанага павінна зьявіцца неадкладнай чарговай работай над праграмамі нашае школы і мэтадамі камуністычнага выхаваньня.

Пераходзячы да аналізу пэдагагічнага працэсу, да суадносін асобных прадметаў у пэдпрацэсе, мы павінны канстатаваць глыбокую розьніцу паміж арганізацыяй пэдагагічнага працэсу па новых праграмах і арганізацыяй пэдпрацэсу, меўшай месца пры комлекснай сыстэме, мэтадзе праектаў, а таксама і паміж арганізацыяй пэдпрацэсу па прадметнай сыстэме дарэвалюцыйнай школы.

Пры комплекснай сыстэме арганізацыі пэдпрацэсу, сыстэматызаваныя веды па асобных дысцыплінах не існавалі; у вядомы адрэзак часу вывучаўся той ці іншы аб'ект, грамадзка-прыродная зьява ці працэс; з сыстэмы прыродазнаўчых, матэматычных, грамадазнаўчых, мовазнаўчых і г. д. ведаў браліся абрыўкі, ласкуты ведаў, якія штучна зьвязваліся з вывучаемым, комплексным аб'ектам; пры комплекснай сыстэме школа не займалася падрыхтоўкай вучня да разуменьня вытворчых, сацыяльных і прыродных зьяў і працэсаў, да сьвядомага ўдзелу ў грамадзкім жыцьці, да зьмены існуючых вытворчых і сацыяльных адносін. Атрымлівалася гэта, ня гледзячы на тое, хацелі гэтага ці не хацелі аўтары і прыхільнікі комплекснай сыстэмы арганізацыі пэд-

працэсу. Разгляд комплекснікамі работы настаўніка ў школе, выключна як работы арганізатара ўдзелу дзяцей ў вытворчай працы і грамадзка-карыснай рабоце, якой падпарадкуюцца вучэбныя і выхаваўчыя мэты школы, натуральна, цягнуў да ўтварэньня карэннага недахопу школы, адзначанага ў пастанове ЦК ад 5/IX-31 г. Пры комплекснай сыстэме веды з асноў навук прысьцёгваліся да комплексу, змазвалася асноўная задача школы, узбраеньне вучняў асновамі навук, а разам з гэтым ня вырашалася задача падрыхтоўкі ініцыятыўных і дзейных удзельнікаў сацыялістычнага будаўніцтва.

Арганізацыя пэдагагічнага працэсу па новых прадметных праграмах не ігнаруе сувязі і ўзаемапранікненьня паміж асобнымі адначасова выкладаемымі дысцыплінамі ў школе і практычным удзелам вучняў у социялістычным будаўніцтве. Карэнная розьніца тут у тым, што школа сваю выхаваўчую і адукацыйную работу не падначальвае штодзённым выпадковым аб'ектам-комлексам, штодзённаму ўдзелу дзяцей у вытворчай працы і грамадзкай рабоце, а падначальвае сыстэматычна арганізаванаму працяжнаму, выхаваўча-адукацыйнаму, палітэхнічнаму ўзьдзеяньню ў мэтах падрыхтоўкі людзей, добра ўладаючых асновамі навук, умеючых увязваць тэорыю з практыкай і ўладаючых тэхнікай.

Асваеньне функцый барацьбіта за ідэалы рабочае клясы і будаўніка сацыялізму немагчыма без сыстэматычнага і сталага ўсваеньня навук. „Камуністым можна стаць толькі тады, калі абагаціш сваю памяць веданьнем усіх тых багацьцяў, якія выпрацавала чалавецтва“ (Ленін).

Дыялістычнае адзінства пазнаньня і дзеяньня ўтвараецца ў выніку разгалінаванай пазнавацельнай работы, над асобнымі разьдзеламі навуковых ведаў, над асобнымі прадметамі. У рабоце па асобных дысцыплінах неабходна забясьпечваць натуральную сувязь паміж выкладаемымі дысцыплінамі. Матар'ял для замацаваньня ведаў па матэматыцы, роднай мове, для практыкаваньняў павінен брацца па магчымасьці з прыродазнаўства, грамадазнаўства, і тэхнікі, але ні ў якім выпадку ва ўгоду гэтай сувязі нельга дазволіць ломкі сыстэматызаваных ведаў, ведаў той альбо іншай школьнай дысцыпліны. Праца па сувязі і ўзаемапранікненьні не павінна абмяжоўвацца дысцыплінамі навучальнага пляну. Павінна быць глыбока прадумана сувязь паміж злучанасьцю набытых на тым ці іншым адрэзку часу ведаў і разьдзеламі праграмы па вытворчаму навучаньню і грамадзка-карыснай працы. Такую сувязь можна назваць комплекснай сувязьзю, альбо комплекснасьцю, разумеючы пад гэтым мэтад сувязі тэарытычнага навучаньня паміж паасобнымі дысцыплінамі; мэтад і сувязь тэарытычнага навучаньня цалкам са зьявамі прыроды і грамадзкага жыцьця, як мэтад распрацоўкі тэарытычнага матар'ялу ў сувязі з удзелам дзяцей у грамадзка-прадукцыйнай працы, як мэтад, які садзейнічае сувязі паміж тэорыяй і практыкай і ўзбройвае вучняў звычкамі грамадзкай працы. Такое разуменьне і правядзеньне ў жыцьцё комплекснасьці ня мае нічога супольнага з „лявацкімі“ тэорыямі аб комплекснасьці і праектах і павіннна дапамагчы пасьпяховай барацьбе з правымі спробамі рэстаўрыраваць слоўную схалястычную школу, з яе ізаляванымі адна ад другой школьнымі дысцыплінамі, з яе імкненьнем абмежаваць засваеньне тэарытычных ведаў выключна па кніжцы, адарвана ад жыцьця, ад практыкі.

---

Правільная арганізацыя пэдпрацэсу патрабуе ад настаўніка вялікай падрыхтоўчай работы, без якой такая складаная работа, як выхаваньне людзей, здольных канчаткова ўстанавіць камунізм, немагчыма. Наколькі пытаньне падрыхтоўкі настаўніка зьяўляецца важным, дастаткова зрабіць элемэнтарнейшае параўнаньне работы настаўніка і століяра. Аб'екты іх работы: першага камуністычнае выхаваньне дзяцей, другога, паложым, выраб табурэтак. Не закранаючы пытаньня аб аб'еме, характары і патрэбных звычках, неабходных для дадзеных прафэсій, улічваючы іх наяўнымі ў адзначаных работнікаў, прасачым за патрабаваньнямі, якія неабходны кожнаму з адзначаных работнікаў пры падыходзе да канкрэтнага акту сваёй работы—сталяра пабудаваць табурэтку, настаўніка-правесьці лекцыю. Століяр ня можа выканаць свайго заданьня

ня, наперад ня склаўшы пляну, не прадумаўшы наперад ад пачатку да канца вытворчага працэсу. Перад ім да пачатку работы павінен быць відавочны рэзультат работы ў прыстаўленьнях—абект цалкам, асобныя часткі—крышка, ножкі, злучэньні, іх разьмеры. Перад ім павінен быць працэс вытворства ў прыстаўленьні, матар'ялы, інструманты, абстаноўка і ўмовы працы. Толькі пры адпаведнай падрыхтоўцы, складзеным (хаця бы ў прыстаўленьні) праекце, падрыхтаваным матар'яле, арудзьдзях вытворства вызначаецца самы працэс вытворства, і можа быць распачата работа.

Непараўнаўча больш складанай будзе падрыхтоўка настаўніка да лекцыі, ня кажучы аб рабоце на больш працяжны адрэзак часу—дзень, дэкада, квартал, навучальны год. Тут і рэзультат работы лекцыі больш спэцыфычны, тут розьніца ня толькі ў большай рознастайнасьці вынікаў вытворчай працы настаўніка, але і ў якаснай адзнацы гэтых рознастайнасьцяй. Тут мы маем справу з чалавецкім арганізмам, з яго псыхікай і не з адным якім-небудзь арганізмам, а з рознастайным калектывам, які не пасыўна ўспрыймае ўзьдзеяньне настаўніка, а актыўна рэагуе на выхаваўчы ўплыў настаўніка; яго органы, псыхіка ў вышэйшай ступені рухомы, непастаянны ў успрыманьні ўзьдзеяньняў; адны і тыя ўзьдзеяньні, адзін і той жа арганізм у розныя моманты пэдпрацэсу ўспрымае ў рознай ступені, не гаворачы аб рознастайнасьці дзіцячага калектыву групы. Усё гэта ўскладняе працэс уяўленьня настаўнікам прадукцыі сваёй лекцыі. Гэтая важная частка ў канцы канцоў, зводзіцца да мэты лекцыі, да канкрэтнага ўяўленьня настаўнікам мэты выхаваўча-адукацыйнага працэсу, але, ў большай ступені важным зьявіцца арганізацыя працэсу, самы працэс для дасягненьня гэтай мэты.

Выходзячы з складанасьці задачы, працяжнасьці працэсу, рознастайнасьці сродкаў, якія прыходзіцца ўжываць у сваёй вытворчай працы, неабходнасьць пляну на ўвесь выхаваўч-адукацыйны пэрыяд, на год, дэкаду, дзень, гадзіну відавочна.

ЦК у сваёй пастанове на гэтаму поваду запісаў, што „выкладаньне павінна быць пастаўлена на падставе строга вызначаных і дэтальна распрацаваных праграм, навучальных плянаў і правадзіцца па строга ўстаноўленых раскладах“.

На важнасьць пляну, на необходнасьць канкрэтызацыі школьнай работы, на апэрацыйнае прэпарыраваньне школьных праграм часта ўказваў і У. І. Ленін. Так, у сваіх нататках на тэзісы Н. К. Крупскай аб палітэхнічнай адукацыі, т. Ленін патрабуе дэтальна распрацаваных інструкцый, указаньня на неабходнасьць канкрэтызацыі („указаць точна якіх“, „точна ўказаць, што павінен знаць“) і г. д. таго, што павінны ведаць вучні, што павінны для гэтага зрабіць. Вырашэньне адказьнейшых задач, якія пастаўлены праграмай партыі і пастановай ЦК перад школай па ажыцьцяўленьню сувязі адукацыі з вытворчай працай, засваеньне вучнямі асноў навук у арганічнай сувязі з палітэхнізацыяй, падпарадкаваньне вытворчай працы і грамадзка-карыснай работы выхаваўчым і адукацыйным мэтам школы, падрыхтоўка камуністычна вытрыманых, ініцыятыўных і дзейных удзельнікаў сацыялістычнага будаўніцтва немагчыма без дэтальна распрацаваных, усебакова прадуманых вытворчых плянаў.

Нельга складаць агульнага пляну для ўсіх школ Савецкага Саюзу, плян павінен быць канкрэтным для данай школы, для данай групы. Узорам для складаньня пляну ня могуць зьяўляцца ранейшыя пляніроўкі пры комплекснай сыстэме выкладаньня, якія фактычна давалі настаўніку поўнае самавольства таму, што ён сваю працу павінен быў будаваць на выпадковых зьявах грамадзкага жыцьця, падначальваючы выхаваўчыя і адукацыйныя мэты школы гэтым выпадковасьцям. Натуральна, што існаваўшыя схэмы плянаваньня школьнай работы пачыналі з характарыстыкі прыродных, гаспадарчых і культурна-бытавых умоў раёну школы, бралі аснову для работы школы з чарговых мерапрыемстваў мясцовых арганізацый для палепшаньня гаспадаркі і жыцьця раёну, вёскі і патрэб мясцовага насельніцтва. Падобная ўстаноўка ў плянаваньні для нас ні ў якай ступені ня можа быць

узорнай. Мясцовы матар'ял павінен знаходзіць сабе месца ў вытворчым пляне школы, групы; ён павінен пранізаць работу групы, але ён не павінен вызначаць работу школы цалкам, кожнай групы паасобку.

Для складаньня вытворчага пляну школы патрэбна:

1) Грунтоўна з усёй падрабязнасьцю вывучыць пастанову ЦК УсеКП(б) ад 5/IX-31г. аб пачатковай і сярэдняй школе, кіруючыся навучальнымі плянамі і вызначаным у іх часам.

2) Вывучыць праграмы і паясьняльныя запіскі да праграм так, каб ніводнага моманту, як у праграмах, так і ў паясьняльных запісках да іх, не засталося не прааналізаваным і не зразумелым для настаўніка.

3) Улічыць рэзультаты работы школы (веды, звычкі вучняў), работы школьных арганізацый за папярэдні год (квартал), умовы жыцьця і працы вучняў.

4) Азнаёміцца з вытворча-эканамічным, палітычным і культурна-бытавым профілем раёну школы па матар'ялах, якія маюцца ў савецкіх, грамадзкіх і прафсаюзных арганізацыях.

5) Вытварыць палітэхнічны аналіз прадпрыемстваў, дзе школа будзе праводзіць палітэхнізацыю.

Толькі пасьля такой папярэдняй работы можна будзе прыступаць да канкрэтызацыі работы школы, да складаньня вытворчага пляну школы цалкам, груп паасобку, асобных дысцыплін у прыватнасьці.

Якія-ж асноўныя ўстаноўкі для складаньня пляну школы, для мабілізацыі сіл школы на выкананьне пастаўленых перад школай задач, выцякаюць з пастановы ЦК УсеКП(б), указаньняў т. Сталіна?

Гэтыя ўстаноўкі могуць быць зьведзены ў асноўным да наступных палажэньняў: а) так арганізаваць работу ў школе, каб забясьпечыць поўны аб'ём сыстэматызаваных ведаў, акрэсьленых у новых праграмах 1932г.;

б) забясьпечыць клясавую сутнасьць і палітэхнічны зьмест праграм—канкрэтызаваць на мясцовым матар'яле, забясьпечваючы вытрыманае камуністычнае выхаваньне;

в) арганізаваць работу школы на аснове забясьпячэньня цеснай сувязі навучаньня з практыкай сацыялістычнага будаўніцтва (грамадзка-вытворчай працы, грамадзка-карыснай работы) на аснове падпарадкаваньня грамадзка-вытворчай працы вучэбна-выхаваўчым мэтам школы, і забесьпячэньня сувязі паміж блізкімі дысцыплінамі;

г) так расставіць сілы ў школе, каб ня было месца абязьлічцы, каб настаўнік адказваў за работу;

д) арганізаваць навучальную работу так, каб адначасова прапрацоўваліся ўсе дысцыпліны і гэтым забясьпечвалася пасьлядоўная работа па кожнай дысцыпліне;

е) вызначыць акрэсьленыя паказчыкі для разгортваньня сацспаборніцтва і ўдарніцтва;

ж) зьвярнуць асаблівую ўвагу на арганізацыю кожнай канкрэтнай работы ў школе ў мэтах якасна высокага выкананьня праграмы;

з) ужываць новыя актыўныя мэтады работы, рашуча змагацца як са спробамі вярнуць школу да старых мэтадаў буржуазнай школы, так і з мэтадычным пражэкцёрствам;

і) правесьці точны разьлік на распрацоўку праграм паасобных дысцыплін, кіруючыся навучальным плянам НКА.

Важнейшым адпраўным пунктам для складаньня вытворчага пляну школы зьяўляецца вучот. Нельга прадставіць сабе рэальнага пляну работы без папярэдняга вучоту ведаў, звычак, умоў работы і жыцьця вучняў. Пры адсутнасьці дакумантальнага вучоту, такі вучот патрэбна правесьці настаўніку, раней чым прыступіць да складаньня вытворчага пляну.

Азнаямленьне з вытворча-эканамічным, палітычным і культурна-бытавым профілем раёну школы патрэбна настаўніку для таго, каб школа ня была адарвана ад жыцьця, каб была забясьпечана сувязь тэорыі з практыкай, каб у рабоце па кожнай дысцыпліне быў выкарыстан мясцовы матар'ял пры яго дыдактычнай прыгоднасьці.

Вучэбна-вытворчы плян школы павінен складацца з 3-х паступова разгортваючыхся плянаў:

а) агульна-гадавога вучэбна-вытворчага пляну школы;

б) каляндарных плянаў груп на квартал;

в) раскладу чарговых работ на дэкаду;

Схэма агульна-гадавога вытворчага пляну можна быць прыкладна наступнай:

1) Навучальныя і выхаваўчыя задачы школы, якія выцякаюць з пастаноў кіруючых партыйных і савецкіх арганізацый, праграмы школы, папярэдняга аб'ёму ведаў і звычак вучняў, вытворчага і сацыяльнага профілю раёну школы ў разрэзах: а) засваеньня вучнямі асноў навук; б) палітэхнічнай падрыхтоўкі вучняў і в) камуністычнага выхаваньня.

2) Характарыстыка ўмоў работы школы, задачы і мерапрыемствы па іх палепшаньню:

а) памяшканьне і абсталяваньне; б) бюджэтныя сродкі і сродкі грамадзкасьці; в) комплектаваньне груп вучнямі; г) арганізацыя гарачых сьняданьняў; д) пэдагагічны калектыў і яго работы; е) рабочы час і правілы ўнутранага распарадку; ж) мэтадычная работа школы,

3) Мерапрыемствы па падвышэньні кваліфікацыі і ўдасканаленьню тэхнікай пэдпрацэсу настаўнікамі і культармейцамі.

3) Гадавыя вучэбна-вытворчыя пляны груп.

5. Пляны працы школьных арганізацый: а) школьнага савету, б) вучнёўскага самакіраваньня, в) фарпосту, г) камсоду д) грамадзкіх арганіаацый.

Гэта нескладаная схэма ў асноўным ахапляе ўсю работу школы, вызначае напрамак работы школы; пры глыбока прадуманым падыходзе да складаньня гадавога вучэбна-вытворчага пляну зьявіцца важнейшым рычагом перабудовы школы на барацьбу за рэалізацыю новых праграм, за сыстэматызаваныя веды, за злучэньне навучаньня з грамадзка-вытворчай працай, за вытрыманае камуністычнае выхаваньне,

Дэталізуючы першы разьдзел у частцы спэцыфічнасьці працы кожнае школы, патрэбна ўказаць, што ў частцы засваеньня вучнямі асноў навук абавязкова вызначыць шляхі і сродкі, якія будуць ужыты для таго, каб вучні аўладалі асновамі навук, матэматыкі, роднай мовы, прыродазнауства, гэаграфіі і гісторыі і іны. Пры гэтым конкрэтызацыю трэба давесьці да кожнай групы, абавязкова ўказваючы на асаблівыя задачы ў галіне засваеньня асноў навук у кожнай групе.

У частцы палітэхнічнай падрыхтоўкі вучняў указваючы прадпрыемствы (фабрыка, завод, саўгас, калгас, МТС) да якога прымацоўваецца школа, з характарыстыкай дагавору, які будзе заключацца, ці перазаключацца паміж школай і прадпрыемствам. Канкрэтна фармулююцца задачы, якія павінны быць вырашаны на прадпрыемстве ў галіне палітэхнізацыі. Адзначаецца работа школьнай майстэрні, ці рабочага пакою ў вырашэньні задач праграмы палітэхнічнага навучаньня. Вызначаюцца шляхі і сродкі сувязі паміж працай майстэрні ці рабочага пакою і іх працай на прадпрыемстве, паміж вытворчай працай і засваеньнем вучнямі асноў навук, паміж тэхнічным і грамадзкім падзелам арацы. Асноўныя ўстаноўкі ў адзначаных разрэзах павінны быць даведзены да кожнае групы.

Канкрэтызацыя ў напрамку камуністычнага выхаваньня павінна пайсьці па шляху вызначэньня як асноўных задач для ўсяе школы, так і спэцыфічных задач па камуністычнаму выхаваньню ў паасобных групах. Неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу на канкрэтныя праявы клясава-варожай ідэолёгіі, антысэмітызм, шавінізм розных колераў, вылазкі кулацкай ідэалёгіі, рэлігійныя настроі сярод вучняў школы за мінулы год, так і ў асяродзьдзі школьнага раёну, указаць шляхі і сродкі мабілізацыі школы на барацьбу з клясава-варожымі праявамі як у калектыве школы, так і па-за школай.

У другім разьдзеле гадавога вучэбна-вытварчага пляну, улічваючы асыгнаваныя сродкі і іншыя магчымасьці, якія школа зможа падшукаць, пляніруецца работа па рамонту памяшканьня школы, інвэнтару, набыцьцю падручнікаў і вучэбных прылад, папаўненьне бібліятэкі. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на арганізацыю, папаўненьне рабочага пакою ці

мі майстэрні пры школе прыладамі і інструмэнтамі. Задачы ўсеагульнага навучаньня, барацьба з адсевам і другагодніцтвам патрабуюць вялікай падрыхтоўчай работы да сваячасовага ўкамплектаваньня школы вучнямі, сыстэматычнай дапамогі адстаючым вучням. Адным з сродкаў барацьбы з адсевам, адставаньнем, другагодніцтвам, сродкам забясьпечваючым нармальную работу школы зьяўляецца арганізацыя гарачых сьняданьняў у школе, дапамога бяднейшым вучням вопраткай, абуткам падручнікамі і прыладамі. Гадавы вытворчы плян павінен прадугледжваць усе гэтыя мерапрыемствы.

Забота раённага аддзелу асьветы аб укамплектаваньні школы настаўнікамі не здымае з загадчыка школы адказнасьці за нармальную работу школы, за ўкамплектаваньне школы настаўніцкім складам, за работу кожнага настаўніка. У вытворчым пляне павінна быць характарыстыка складу настаўнікаў, які будзе працаваць у наступаючым навучальным годзе, акрэсьлена работа кожнага настаўніка па вучэбнай рабоце і пэдагагічнай прапагандзе сярод насельніцтва, дапамога настаўніцтва культармейцам у ліквідацыі няпісьменнасьці і малапісьменнасьці.

Вельмі часта перабоі ў рабоце школы ўтвараюцца ад таго, што адсутнічае сталы парадак унутранага распарадку; плянам павінна быць прадугледжана работа абслугоўваючага пэрсаналу, фіксацыя актаў пэдагагічнага працэсу, належны вучот вучняў, інвэнтару, матар'ялаў, работы вучэбнага дню, квартала, пачатак і канец навучальнага году, перапынкі, адпачынак для абслугоўваючага пэрсаналу, настаўнікаў і самога загадчыка школы. Належная пастаноўка выхаваўча-адукацыйнай работы ў палітэхнічнай школе патрабуе сур'ёзнай мэтадычнай работы настаўніцкага калектыву школы. Формы гэтай работы, пытаньні мэтадычнай работы неабходна вызначыць у вытворчым пляне школы на год. Шэраг мэтадычных пытаньняў будзе распрацоўвацца у мэтадычных аб'яднаньнях сельсавету, раймэтбюро. Школа павінна высунуць і свае прапановы для работы адзначных мэтадаб'яднаньняў.

У арганічнай сувязі з апошнім пытаньнем стаіць і трэці разьдзел гадавога вытворчага пляну — мерапрыемства па падвышэньню кваліфікацыі настаўніцтва і аўладаньню тэхнікай пэдпрацэсу. Плян павінен прадугледжваць неабходнасьць адзначанай работы настаўніка праз сыстэму завочпае адукацыі, праз курсавую работу, а таксама, праз абмен вопытам работы з другімі школамі, праз сыстэму ўзорных лекцый.

Чацьвёрты разьдзел гадавога вучэбна-вытворчага пляну школы складаецца з плянаў паасобных груп. Перапісваць праграмы паасобных дысцыплін непатрэбна; неабходна так прапарываць праграмы групы, каб у вытворчым пляне групы, у асобных дысцыплінах была паказана тэматыка, ці разьдзелы праграмы і паступовасьць іх распрацоўкі, адзначаючы грунтоўна абаснаваныя зьмены ў навучальнай сетцы, калі гэта выклікаецца спэцыфічнымі асаблівасьцямі работы групы. У пляне групы больш дэтальна і больш канкрэтна павінны быць акрэсьлены задачы палітэхнічнай падрыхтоўкі вучняў і камуністычнага выхаваньня, указан матар'ял, які будзе ўзяты для кожнай дысцыпліны з навакольнага, прыроднага, вытворчага і сацыяльнага асяродзьдзя, у чым выразіцца сувязь тэарытычнага навучаньня з вытворчай працай і грамадзка-карыснай работай, як гэта апошняя будзе падначалена вучэбным і выхаваўчым мэтам школы. У гэтых жа плянах павінны быць указаны і асноўныя падручнікі і дапаможнікі, якія неабходны для працы і якія патрэбна загадзя набыць.

У разьдзеле пятым — пляны працы школьных арганізацый, павінна быць прадугледжана асноўнае—уся іх праца ў асноўным павінна быць накіравана на выпрацоўку пастаўленых перад школай выхаваўчых і адукацыйных задач. Праца гэтых арганізацый павінна праводзіцца ў пазавучэбны час, павінна быць строга рэглямэнтавана і разьмечана ў часе. Кожная з школьных і грамадзкіх арганізацый школы павінна мець яскравы плян работы, узгоднены з агульным плянам работы школы, так і з плянамі кіруючых савецкіх, партыйных, камсамольскіх, прафсаюзных і грамадзкіх ар-

ганізацый (МОПР, Асаавіахім, Бязбожнік і інш.). Школьныя і грамадзкія арганізацыі школы ўсю сваю працу праводзяць мэтадам сацыялістычната спаборніцтва і ўдарніцтва, кіруюць соцспаборніцтвам і ўдарніцтвам і ва ўсей выхаваўча-адукацыйнай рабоце школы, скарыстоўваючы для гэтай мэты школьны друк (насьценгазэта, грамадзкі буксір), а таксама асьвятляюць работу школы ў раёным і цэнтральным друку.

На цадставе гадавога вытворчага пляну школы і дагавору паміж школай і прадпрыемствам, калгасам, саўгасам, МТС складаецца каляндарны плян працы групы на квартал, чвэрць, навучалнага году. Прыкладная схэма каляндарнага пляну групы.

| Вучэб. дысцыпліны | Тэмы дысцыпліны Разьдзелы праграмы | Патрэбны на работу час | Календар працы | Вытворч. праца і грамад. работа | Выхаваўчыя моманты | Педагагічныя заўвагі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Грамадазнаўства | Камсамол і піанэры. | | | | | |
| | а) камсамол . . . . | 4 гадзін | 1/II—12/II | Распаўсюдж. білетаў лётарэі ТСА Авіахім | Законы і звычаі піанэраў | Лічбовы матар'ял скарыстаць для задач |
| | б) піанэры . . . . . | 4 „ | 13/II—28/II | | | |
| | Саветы: | | | | | |
| | а) Саветы — органы улады рабочых . | 3 „ | 1/III—10/III | Збор сродкаў у карысьць палітзьняволеных | | Шляхам эксурсіі азнаёміцца з сельсаветам |
| | б) Задачы саветаў . | 6 „ | 10/III—1/V | | | |
| | в) Улада саветаў у раёне . . . . . | 3 „ | 1/IV — 10/IV | | | |

У першай калёнцы ў паступовым парадку пералічваюцца дысцыпліны навучальнага пляну: родная мова, руская мова, матэматыка, грамадазнаўства, гісторыя, геаграфія, прыродазнаўства, палітэхнічная праца, фізвыхаваньне, маляваньне, сьпевы.

У другой калёнцы супроць адпаведных дысцыплін у паступовым парадку вызначаюцца тэмы дысцыплін, альбо разьдзелы праграмы. Возьмем, напр. грамадазнаўства для 2 групы на трэцюю чвэрць навучальнага году. Супроць грамадазнаўства ў першай калёнцы пішуцца тэмы: „Камсамол і піанэры“, 2 „Саветы“.

У трэцяй калёнцы адзначаецца час патрэбны на працу па данай тэме ці разьдзелу. Напр. у нашым прыкладзе „8 гадзін“ і „12 гадзін“.

У чацьвёртай графе вызначаецца календар працы для данай тэмы ці разьдзелу праграмы. Напр. а) „камсамол“ з 1/II—12/II; „піанэры“—13/II—28/II і г. д.

У пятай графе запісваецца вытворчая праца і грамадзкакарысная работа вучняў, як непасрэдна зьвязаная з тэмамі, ці разьдзеламі праграмы, так і не зьвязаная непасрэдна з імі, але падпарадкаваная выхаваўчым мэтам школы; напр. „Распаўсюджваньне білетаў выйгрышнай лётарэі ТСА Авіахім“ (грамадзкая работа падпарадкаваная мэце выхаваньня актыўных удзельнікаў ўзмацненьня абароназдольнасьці СССР) і „Збор сродкаў у карысьць палітзьняволеных“ (грамадзкая праца падпарадкавана мэтам інтэрнацыянальнага выхаваньня).

У 6-й графе даюцца паказаньні аб выхаваўчых момантах у зьвязку з распрацоўкай указаных тэм ці разьдзелаў праграмы, напр. засваеньне і ўжываньне ў што дзённым жыцьці, працы і вучобы законаў і звычаяў піанэраў.

У 7-й графе адзначаюцца пэдагагічныя заўвагі і думкі настаўніка аб сувязі паміж асобнымі дысцыплінамі, сувязі тэорыі з практыкай і ўдзелам дзяцей ў сацыялістычным будаўніцтве, указаны формы арганізацыі пэдпрацэсу і мэтады работы, напр. „Лічбовы матар'ял скарыстаць для складаньня задач па матэматыцы“, „Шляхам экскурсіі ў сельсавет азнаёміцца з работай саветаў“

І, нарэшце, ў 8 й графе ўказваецца літаратура, якой будуць карыстацца вучні пры прапрацоўцы адпаведных тэм ці разьдзелаў праграмы, напр. „Чырвоныя

ўсходы“ ч. II 1929 г. стар. 259—270, „Чырвоная Зьмена“ II г. 1929 г. стар. 102—103; 205—210; 385—386. „Чырвоная Беларусь“ III г. нав. 1929 г. стар. 416—469.

На падставе календарнага пляну групы складаецца расклад заняткаў на дэкаду. Калі настаўнік мае дзьве альбо тры групы, папярэдня намячаецца расклад заняткаў на дэкаду па кожнай групе асобна і толькі пасьля гэтага складаецца расклад для ўсіх груп (зводны).

Схэма раскладу на дэкаду можа мець наступны выгляд.

| Месяц і число | Лекцыі | Зьмест і мэтады работы | Колькі мінут патрацiцца на работу | Адзнакі аб выкананьні |
|---|---|---|---|---|
| 21/II | 1 | Гутарка: як піянэры дапамагаюць партыі палепшыць жыцьцё дзяцей. Чытаньне арт (Чыр. З.) „Узаемная Дапамога“ ч. II 1929 г. стар 218 | 20 м. 25 „ | |
| | 2 | Складаньне і адыманьне ў межах 1000 і разьвязваньне задач. Вуснае лічэньне | 35 „ | |
| | і г. д. | і г. д. | 10 „ | |

Графа „адзнакі аб выкананьні“ запаўняецца пасьля праведзенай працы, уключэньне яе ў расклад, які вывешваецца не абавязкова. У дзеньніку работы настаўніка гэтая графа ўважліва запаўняецца пасьля праведзенай лекцыі неадкладна.

У раскладзе заняткаў на дэкаду ўказваецца, што будзе праводзіцца на працягу вучэбнай гадзіны таго альбо іншага прадмету, калі і што вучні будуць чытаць, пісаць, якія будуць разьвязваць задачы, якія будуць арганізаваны досьледы і назіраньні, куды будуць зроблены экскурсіі, што будуць рабіць у рабочым пакоі і г. д.

Расклад заняткаў на дэкаду, альбо дэкадны рабочы плян павінен знаходзіцца ў справах групы. На падставе яго ўлічваецца выкананьне вучэбнага пляну на квартал (1/4 года) і гадавога вытворчага пляну.

Правільна пабудаваць расклад заняткаў на дэкаду немагчыма без сталага вывучэньня пляну працы на чвэрць году, г. зн. бяз уважлівага прагляду календарнага пляну, немагчыма бяз ведаў аб асноўных прынцыпах пабудовы вучэбнага дню асобнай гадзіны. Паясьняльная запіска да навучальнага пляну па пытаньню аб прынцыпах будовы рабочага дню дае наступныя паказаньні: „У межах вучэбнага дню асобныя віды заняткаў павінны разьмяркоўвацца такім чынам, каб была забясьпечана рознастайнасьць у рабоце і правільнае чаргаваньне цяжкіх заняткаў, патрабуючых усідчывай работы з заняткамі, якія носяць рухомы характар, чаргаваньне разумовай працы з фізычнай. Як правіла, больш цяжкія віды работы павінны адносіцца на пачатак, ці сярэдзіну вучэбнага дня; напр., заняткі па матэматыцы мэтазгодна ставіць на другую або трэцюю лекцыю, а сьпевы, маляваньне, гульні правільней адносіць на канец дню і г. д. Да гэтага можна дабавіць толькі тое, што, калі настаўнік працуе з дзьвюма, або з трымя групамі, там прыдзецца ўнасіць карэктывы да адзначаных палажэньняў у напрамку падбору матар'ялу для самастойнай працы вучняў аднае групы, калі настаўнік заняты бесьперапынным кіраўніцтвам другой групы, але гэта ў асноўным не парушае вышэйпаказанага прынцыпу пабудовы рабочага дню.

Некалькі заўваг адносна правядзеньня асобных лекцый. Папершае, настаўнік да кожнай лекцыі павінен належным чынам падрыхтавацца. Нельга дапусьціць даволі шырока распаўсюджанай думкі— матар'ял мне знаёмы, рыхтавацца ня трэба. У якой бы ступені матар'ял лекцыі ні быў бы знаёмы настаўніку, ён павінен яго прааналізаваць пад кутом

погляду разьвіцьця дадзенай групы, іх установак, пад кутом погляду ўстанаўленьня сувязі дадзенай лекцыі і з папярэдняй работай па гэтай дысцыпліне, пад кутом устанаўленьня канкрэтнай сувязі паміж дысцыплінамі і вывадамі лекцый з практыкай і наадварот.

Падругое павінен быць загадзя падабраны матар'ял для лекцыі, каб у працэсе работы ўсё неабходнае было пад рукамі: падручнікі, пісьмовыя прылады, навочныя прылады, інструманты, абсталяваньне для досьледаў, назіраньня і г. д.

Патрэцяе, папярэдняй работай у вучняў да чарговай работы-лекцыі павінен быць складзен адпаведны настрой, зацікаўленасьць, установка на працу, каб у часе лекцый скараціць час на ўстаноўку да работы.

Не аналізуючы ўсяго працэсу правядзеньня лекцыі настаўнікам, неабходна з усёй рашучасьцю падкрэсьліць неабходнасьць аўладаньня тэхнікай пэдагагічнага працэсу, дыдактыкай. Агульная дыдактыка і мэтодыка асобных дысцыплін павінна быць нанава пераапрацавана настаўніцтвам у сьвятле рашэньня ЦК аб школе, установак правадыра партыі т. Сталіна аб задачах аўладаньня тэхнікай сваёй вытворчасьці, па бальшавіцку аўладаць сваім рабочым месцам у станка. Толькі ў выніку гэтага работа настаўніка будзе высока прадукцыйнай, адпавядаючай запатрабаваньням, якія пастаўлены перад школай у пэрыяд завяршэньня пабудовы сацыялізму, у пэрыяд абвостранай клясавай барацьбы, у працэсе поўнага зьнішчэньня падзелу грамады на клясы.

---

Алісіевіч, Равін.

# Да пытаньня мэтадаў навучаньня ў школе.

ЦК УсеКП(б) сваёю пастановаю аб пачатковай і сярэдняй школе паставіў ува ўсю шырыню задачу камуністычнага выхаваньня ў палітэхнічнай школе.

Асноўным і галоўным у рашэньні ЦК зьяўляецца ўказаньне, што „школа не дае дастатковага аб'ёму агульна-адукацыйных ведаў і нездавальняюча вырашае задачу падрыхтоўкі для тэхнікумаў і вышэйшай школы зусім пісьменных людзей, якія добра ўладаюць асновамі навука (фізыка, хэмія, матэматыка, родная мова, геаграфія і інш.). Дзякуючы гэтаму палітэхнізацыя ў радзе выпадкаў набывае фармальны характар і ня рыхтуе дзяцей, як усебакова разьвітых будаўнікоў сацыялізму."

Перад нашай школай ставіцца такім чынам важнейшая задача ліквідацыі ўказанага карэннага недахопу ў будаўніцтве сапраўдна-палітэхнічнай школы. „Камуністам можна стаць толькі тады, калі абагаціш сваю памяць веданьнем усіх тых багацьцяў, якія выпрацоўвала чалавецтва." (Ленін).

Пастанова ЦК паказвае шляхі да ажыцьцяўленьня вучэньня Маркса і Леніна аб школе ў пэрыяд дыктатуры пралетарыяту. Яна дае нам правільнае рашэньне задачы ўвязкі рэвалюцыйнай тэорыі з практыкай.

У тэорыі і практыцы нашай школы мы маем рад скажэньняў марксыцка-ленінскага вучэньня. У той час, калі правыя імкнуцца абмежавацца чыстай тэорыяй, „даваць веды" чыста абстрактная, схалястычна, адрываюць тэорыю ад практыкі сацыялістычнага будаўніцтва, раюць школу зуброжкі і муштры; „левыя" дакаціліся да мэханістычнага зьліяньня тэорыі з практыкай, якая зводзіцца да расчыненьня тэорыі ў практыцы, да прыніжэньня ролі рэвалюцыйнай тэорыі, прыкрываючы свой паўзучы эмпірызм рэвалюцыйнай фразай аб удзеле ў сацыялістычным будаўніцтве.

Наша палітэхнічная школа павінна выхаваць усебакова разьвітых людзей, узброеных марксыцка-ленінскай тэорыяй, асновамі навук, умеючых прымяняць

свае веды, практычна ўдзельнічаючы ў пабудове сацыялізму. Толькі такая школа можа выхаваць пакаленьне, здольнае канчаткова ўстанавіць камунізм.

У сувязі з пастановаю ЦК Наркамасьветы БССР распрацаваны новыя праграмы, якія вызначаюць яскрава акрэсьлены аб'ём сыстэматычных ведаў па ўсіх прадметах, вызначаюць характар вытворчай працы і грамадзка-карыснай работы на базе падпарадкаваньня іх вучэбным і выхаваўчым мэтам школы і забясьпечваюць вытрыманае камуністычнае выхаваньне падрастаючага пакаленьня ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы. Перад намі стаіць цяпер канкрэтная задача, каб гэты аб'ём ведаў і звычак, каб марксыцка-ленінская тэорыя была засвоена дзяцьмі.

Пытаньне аб мэтадах працы ў школе становіцца ў цэнтры ўвагі.

Укараненьне выпрабаваных на практыцы актыўных мэтадаў выкладаньня адначасова патрабуе рашучай барацьбы з тымі скажэньнямі, якія мелі і маюць месца ў тэорыі і на практыцы нашай школы.

„Неабходна разгарнуць барацьбу супроць лёгкадумнага мэтадычнага пражакцёрства, насаджэньня ў масавым маштабе мэтадаў, на практыцы неправераных, што асабліва яскрава, у апошні час, выявілася ў прымяненьні так званага мэтаду праектаў. Выцякаўшы з антыленінскай тэорыі „адміраньня школы", спробы пакласьці ў аснову ўсёй школьнай работы так званы мэтад праектаў, вялі фактычна да разбурэньня школы.„

„Левакі" высунулі галоўным адзіным унівэрсальным мэтадам школьнай работы мэтад праектаў, які яны запазычылі ў амэрыканскай буржуазнай школы і некрытычна перанесьлі яго ў практыку савецкай школы; гэта на справе азначала правядзеньне буржуазнай ідэолёгіі ў пэдагогіцы, аслабленьне клясавай пільнасьці на пэдагагічным фронце, што грала на руку клясаваму ворагу. Мэтад праектаў і комплексная сыстэма, якія падпарадкавалі вучэбныя і выхаваўчыя мэты школы практыцы, ігнаравалі сыстэматычныя веды, не давалі дзецям асноў навук і такім чынам аслаблялі, ці зусім зьнішчалі ролю школы, як дзяржаўнай арганізацыі камуністычнага выхаваньня.

Адначасова падобнае мэтадычнае пражэкцёрства з тэорыяй адміраньня школы ўзмацняе пазыцыі правых у пэдагогіцы, якія цягнуць нашу школу назад да схалястычнай школы, адарванай ад жыцьця з яго дагматычным і вербальным мэтадам выкладаньня.

Мы павінны пакончыць як з мэтадычным пражэкцёрствам, так і з мэтодыкай старой схалястычнай школы. Наша школа павінна ўжываць „розныя новыя мэтады навучаньня, якія садзейнічаюць выхаваньню ініцыятыўных і ідзейных удзельнікаў сац.будаўніцтва."

Выхаваньне ідзейных ініцыятыўных удзельнікаў сац. будаўніцтва патрабуе ад нас ужываньня ў выкладаньні актыўных мэтадаў.

Пад актыўнымі мэтадамі мы разумеем такія мэтады выкладаньня, пры якіх дзеці пад кіраўніцтвам настаўніка прымаюць актыўны ўдзел пры ўспрыйманьні тых ведаў, якія яны набываюць, сьвядома фармiруюць умазаключэньні і набываюць уменьне прымяняць атрыманыя веды на практыцы.

Правільнае разуменьне прынцыпу актыўнасьці ў нашай школе адкідвае з аднаго боку мэханічнае засваеньне ведаў, вэрбалізм у выкладаньні, а з другога боку выступае супроць устаноўкі, што актыўнасьць ёсьць выключна самастойнае шуканьне ісьціны, самастойнае фармуґаваньне паняцьцяў і вывадаў.

Гэта апошняе разуменьне актыўнасьці прыніжае ролю настаўніка, адмаўляе арганізаванасьць пэдагагічнага працэсу, супярэчыць задачам нашае школы.

Нельга стаць на шлях шуканьня унівэрсальнага „найактыўнейшага мэтаду". Палітэхнічная школа павінна ўжываць усе актыўныя мэтады, праверанып на практыцы і садзейнічаючыя зьнішчэньню карэннага недахопу школы.

Правільнай, мэтадычна абаснаванай будзе такая праца настаўніка, калі ён у розных момантах пэдагагічнага працэсу будзе ўжываць розныя актыўныя мэтады, якія найлепш садзейнічаюць вырашэньню задач камуністычнага выхаваньня.

Галоўнай задачай настаўніка на даным этапе будзе аўладаць тэхнікай выкладаньня, зразумець і засвоіць праверанvarious актыўныя мэтады выкладаньня; толькі тады ён зможа працаваць па-новаму.

Падыходзячы да мэтадаў выкладаньня з апэрацыйнага пункту гледжаньня, мы можам вызначыць наступныя сем мэтадаў школьнай работы: 1) гутарка 2) чытаньне, 3) расказ. 4) дэманстрацыя, 5) ілюстрацыя, 6) нагляданьне і 7) досьлед.

Гутарка вельмі часта на практыцы не дае належных вынікаў. Справа ў тым, што часта гутарка даецца вэрбальна: дзеці ня прымаюць актыўнага ўдзелу ў аналізе зьместу, што і прыводзіць да фармальнага засваеньня матар'ялу; у вучняў застаюцца абрыўкі ведаў, якія лёгка забываюцца; такая гутарка нам непатрэбна.

Возьмем прыклад з матэматыкі: настаўнік тлумачыць вылічэньне плошчы простакутніка




Ён кажа: трэба зьмерыць даўжыню 8 см., потым вышыню (4 см.), памножыць даўжыню на шырыню; будзе мець 32 кв см. Пасьля гэтага кажа запамятаць правілы вылічэньня плошчы простакутніка.

Што тут маем: ад такога тлумачэньня дзеці не атрымліваюць прадстаўленьня аб квадратовых адзінках. Замест гэтага настаўнік павінен правесьці прыклад на такую гутарку:

1) Вырэжце з паперы квадратовы сантымэтр, будзем ім вымяраць простакутнік: колькі квадратовых сантымэтраў укладаецца ў даным простакутніку? колькі квадратыкаў укладаецца ў адным радзе даўжыні?

Дзеці адказваюць: 8 квадратовых сансымэтраў.

2. Ці ўсё вымерана?

Дзеці: Не, толькі адзін рад вымераны.

3. Будзем вымяраць другі рад: колькі ў ім укладваецца квадратыкаў?

Дзеці: Вядома, таксама 8 квадратовых сантымэтраў.

4 Колькі ўсяго радоў у простакутніку

Дзеці: 4 рады.

5. Колькі квадратовых сантымэтраў будзе ўсяго ў простакутніку.

Дзеці: У кожным радзе 8 квадратовых сантымэтраў; такіх радоў 4; усяго 8 кв. сантымэтраў$\times$4=32 квадрат. см.

У гэтай гутарцы мае актыўны ўдзел дзяцей ў аналізе зьместу і сьвядомае вывядзеньне правіла вылічэньня плошчы. Тут вучні атрымліваюць не адарваныя веды аб нейкіх 32 адзінках, але аб канкрэтнай плошчы, складаючайся з 4-х радоў па 8 канкрэтных квадратовых см.

Зразумела, калі вучні далей практыкуюцца, яны працуюць скарочаным шляхам вылічэньня, але ўсё-ж будуць працаваць не абстрактна, а сьвядома, на канкрэтных прадстаўленьнях аб квадратовай плошчы.

Такім чынам правільна пабудаваная гутарка павінна адпавядаць наступным запатрабаваньням:

1) Настаўнік павінен мець чоткую мэтавую ўстаноўку гутаркі.

2) Настаўнік, павінен разьбіць матар'ял на этапы, якія пасільны вучням і падводзяць іх да ўразуменьня кожнага этапу і ўсяго зьместу.

3) Пытаньні настаўніка павінны быць простыя, зразумелыя вучням, так, каб яны маглі лёгка адказваць.

4) У пытаньні настаўніка не павінна быць гатовага адказу, які зводзіць работу вучня да адказу: „да“, „не“, а наадварот пытаньне настаўніка павінна штурхаць думку вучня.

5) Настаўнік павінен улічваць запас маючыхся прадстаўленьняў у дзяцей і, скарыстоўваючы наяўныя прадстаўленьні, весьці да новых паняцьцяў.

Чытаньне. Паясьняльнае чытаньне, калі абмяжоўваецца мэханічным чытаньнем паасобных сказаў з адарванымі тлумачэньнямі слоў або сказаў не дае вучню цэльнага ўяўленьня зьместу; вынікам будуць ласкуткі ведаў, якія хутка забудуцца.

Замест гэтага добра пастаўленае чытаньне ў клясе павінна даць дзецям

устаноўку для данага зьместу, падрыхтавываць вучняў да ўразуменьня яго, цэльнае ўражаньне апавяданьня і зразуменьня паасобных частак, сказаў і, нават слоў, у сувязі з гэтым цэльным. Толькі такім чынам дзеці сумеюць утвараць самастойны аналіз зьместу, што і адпавядае актыўнаму мэтаду.

Расказ таксама не павінен пасыўна ўспрымацца з боку дзяцей. Такі расказ нічога не дае дзецям: яны ня слухаюць, не ўлаўліваюць сэнсу і хутка забываюць.

Актыўна праведзены расказ павінен:

1) Захапляць вучняў фабулай: асабліва для гэтага трэба браць сюжэты дзейнасьці з будаўніцтва сацыялізму і клясавай барацьбы.

2) Узбуджаць у вучняў стымулы і зацікаўленасьць да атрыманьня новых ведаў і прадстаўленьняў.

3) Павінен утвараць эмацыянальныя перажываньні і гатоўнасьць да дзейнасьці, напрыклад, узьняць нянавісьць да буржуяў і гатоўнасьць змагацца за савецкую ўладу, або гатоўнасьць аддаць усе сілы на сацыялістычнае будаўніцтва.

Такім чынам, актыўна праведзены расказ зьяўляецца крыніцай далейшага разгортваньня творчай работы вучня.

Увага. Расказ можа быць перададзены самім настаўнікам у вуснай форме, а таксама можа быць у відзе галоснага мастацкага чытаньня настаўнікам перад дзяцьмі.

Пісьмо як актыўны мэтад працы. Тут ідзе справа не аб сьпісваньні, што зьяўляецца формай працы па замацаваньні ведаў, але аб пісьме, пры якім вучань фармулюе свае думкі.

Формы аткыўнага пісьма: самастойны пераказ, складаньне пляну, укладаньне, складаньне анкеты, пісаньне артыкулу, фармуліроўка вывадаў пры досьледзе, экскурсіі і г. д.

Дрэнна пастаўленая работа па пісьму заключаецца ў тым, што настаўнік сам фармулюе тэкст, запісвае на дошцы, а дзеці пасыўна сьпісваюць, творчасьць, і актыўнасьць дзяцей адсутнічае ; такое пісьмо зводзіцца да практыкаваньня ў фармальных навыках пісьма.

Актыўное пісьмо, наадварот, выцякае з папярэдняй гутаркі, досьледу, экскурсіі і г. д. Яно павінна насіць характар самастойнай творчай работы вучняў, самастойнай фармуліроўкі вывадаў, палажэньняў, лёгічнага распалажэньня матар'ялу па пункта, заданьня пляну і г. д.

Возьмем прыклад: пасьля досьледу дзеці павінны фармуляваць вывады: іх пісьмовая праца зьяўляецца прадуктам абмеркаваньня ў часе самога пісьма; можна проста даць фармуліроўку выводу і такім чынам зьнішчыць каштоўнасьць данага пэдагагічнага працэсу. Абавязкам кожнага настаўніка зьяўляецца падрыхтоўка дзяцей да самастойнага пісьма,

Пад дэманстрацыйным мэтадам разумеем паказ настаўнікам малюнку, карты, прадмету, зьявы, графічных вобразаў на клясной дошцы (напр. у матэматыцы, геаграфіі) і г. д.

Кожная школа павінна мець у дастатковай колькасьці навочныя прылады. Роля навочных прылад часта недаацэньвалася. Каштоўнасьць дэманстрацыйнага мэтаду ў тым, што лёгкім спосабам дае магчымасьць пазнаёміцца з цэлым шэрагам зьяў, прадметаў, трудных да ўяўленьня іншым шляхам. Пры паказе настаўнік не павінен даваць вучням механічна пералічваць усе моманты малюнку, таксама не павінен сам раскрываць зьмест; паказ павінен злучацца з гутаркай, пры якой дзеці самастойна, пры дапамозе настаўніка, разьбіраюцца ў паасобных частках паказанага прыладу, устанаўліваюць значэньне кожнага элемэнту і сувязь паміж імі.

Пад ілюстрацыяй мы разумеем дадатковае афармленьне ўжо ўспрынятага матар'ялу праз рысунак, прадмет, слоўныя вобразы. Значэньне ілюстрацыі вызначаецца ў паглыбленьні раней успрынятых ведаў, устанаўленьні сувязі паміж паасобнымі элемэнтамі зьместу, затрыманьні перажываньня ў вучняў у сувязі са зьместам. Возьмем прыклад: праведзена гутарка аб лісьце: форме, колеру, пабудове; потым вучні ілюструюць яго малюнкам; у часе маляваньня дзеці аднаўляюць, дэталізуюць і паглыбляюць свае веды аб лісьце. Ясна, што вучань можа глядзець часта на ліст, і ўсё-ж яскравыя

веды аб форме, пабудове ліста атрымае тады, калі возьмецца за маляваньне вырэзваньне, аплікацыю. Такім чынам ілюстрацыя зьяўляецца актыўным мэтадам атрыманьня ведаў.

Пад нагляданьнем разумеецца большменш працяжнаеназіраньне якога-небудзь прадмету, зьявы, якія падлягаюць вывучэньню. Нагляданьне маем у часе экскурсіі, у жывым кутку, у майстэрнях, на фабрыцы і ў калгасе, ў часе вытворчай працы і інш. Нагляданьню большай часткай падлягаюць прыродныя сацыяльныя зьявы і працэсы.

Для нагляданьня вучнямі падрыхтаванымі папярэдняй працай таксама павінен быць чоткі інструктаж, як правесьці нагляданьне зьявы і фіксацыю зьмен зьявы. Правільна пастаўленае нагляданьне мае вялікую каштоўнасць, таму што прывучае вучняў да ўяўленьня зьмен у зьяў, пасьлядоўнасьці і законамернасьці зьмен і прывучае іх да самастойнай (з дапамогаю настаўніка) фармуліроўкі вывадаў і ўмазаключэньняў. Прыкладам нагляданьня прыродных зьяў можа быць нагляданьне за зьменай тэмпэратуры, ціску паветра, ападкаў на працягу доўгага часу; такое назіраньне пры належнай падрыхтоўцы і інструктажы падводзіць вучняў да разуменьня зьмен і законамернасьці клімату.

Пад досьледам рамзумеецца пастаноўка штучных нагляданьняў з мэтаю выяўленьня сувязі і законамернасьці зьяў. Вучэбны досьлед нельга атоесамліваць з досьледам навуковым. У вучэбным досьледзе шлях і мэтады пастаноўкі вопыту вызначаны і запісаны, ў гатовай форме, якой карыстаюцца вучні.

1. Пры досьледзе настаўнік павінен ухіляцца ад прадрашоных вывадаў. Прыклад:

Настаўнік дае заданьне па досьледу:

а) бярэце прабірку, налейце крыху вады;

б) закаркуйце прабірку так, каб ня было шчылін;

в) нагрэйце прабірку з вадой, пакуль вада не закіпіць.

г) адкажэце, чаму пробка вылецела.

Такое заданьне ёсьць прыклад скажэньня ідэі досьледу, таму што настаўнік наперад вызначыў вывад.

Правільна было-б, калі -б у заданьні дамагаўся адказу на пытаньне.

г) наглядайце, што адбудзецца пры кіпеньні вады, зрабеце вывад.

2. Досьлед не павінен быць складаным, каб дзецям быў яскравым самы эфэкт, і каб ім было пасільна зрабіць вывады.

3. Кожны досьлед павінен быць уважліва замацаван праз малюнак, запіс, гутарку.

4. Досьлед павінен быць добра падрыхтован і з тэхнічнага боку: плянава падрыхтаваны ўсе прылады, увесь матар'ял, усё павінна быць пад рукою, таксама працэс досьледу павінен быць абавязкова загадзя праверан. Правільна пастаўлены досьлед мае вельмі вялікую каштоўнасьць у пэдпрацэсе: ён прадугледжваевялікую. актыўнасьць вучняў у атрыманьні ведаў

Падыходзячы да пэдагагічнага працэсу з пункту гледжаньня формы арганізацыі вучэбнай працы, мы канстатуем, што нараду з лекцыяй, як найбольш распаўсюджанайформай, мы павінны ўжываць лябараторную работу і экскурсію. Лябараторная работа прымае форму заданьня: заданьне можа быць як кароткі акт, напрыклад, вырашэньне матэматычнага матар'ялу (самастойна вымераць плошчу двара), або ў форме працяжнага пэдагагічнага працэсу, які ў пэдагагічнай практыцы акрэсьліўся як лябараторнае заданьне.

Лябараторнае заданьне ахапляе некаторую частку праграмнага матар'ялу; распрацоўка заданьня прадугледжвае:

1) уступную гутарку настаўніка;

2) самастойную работу вучня (пад наглядам і кіраўніцтвам настаўніка) над матар'ялам з мэтаю засваеньня яго і фармуліроўкі вывадаў.

3) заключную канфэрэнцыю з мэтаю падвядзеньня вынікаў, распрацоўкі канчатковай фармуліроўкі вывадаў і паглыбленьня матар'ялу.

Настаўнік павінен добра прадумаць праграмны матар'ял. Выходзячы з матар'лу, які дзеці павінны самастойна

прапрацаваць і засвоіць вывады, настаўнік будуе ўступную гутарку, каб скласьці установку да працы, вызначыць асноўныя пытаньні данае тэмы, не даючы гатовых вывадаў, якія прадстаўляецца зрабіць самім вучням Матар'ял для самастойнай працы павінен быць пасільным, невялікім прыстасаваным да ўзросту і суправаджацца чоткім, выразна напісаным заданьнем, дзе указваецца точна, якія старонкі вучні павінны чытаць, якія другія работы павінны выканаць і якія вывады і фармуліроўкі зрабіць. Пры самастойнай працы роля настаўніка ня здымаецца, настаўнік увесь час кіруе працай, дапамагае вучням шляхам кансультацыі, не падаўляючы ініцыятывы, сваім кіраўніцтвам; ён, асабліва, падцягвае слабейшыя брыгады, каб не дапусьціць з іх боку вялікага адставаньня. Да заключнай канфэрэнцыі ў настаўніка павінна быць ясна прадстаўленьне аб прапрацоўцы кожным вучням заданьня, каб выходзячы з гэтага заключную конфэрэнцыю выкарыстаць:

1) для падагульненьня тых вывадаў, якія зроблены дзяцьмі і паглыбленьня іх;

2) высьветліць тыя пытаньні, якія засталіся ня зусім зразумелымі.

У лябараторнай працы мы маем шэраг відаў кляснай працы, якія акрэсьлены ў папярэдніх тэзісах: гутарка, чытаньне, пісьмо, дэманстрацыя і г. д. Толькі тады, калі пералічаныя мэтады працы будуць пастаўлены мэтадычна правільна, лябараторнае заданьне будзе даваць належны эфэкт.

Экскурсія ў пэдагагічным працэсе адыгрывае вялізарную ролю. Экскурсіі могуць быць вытворчага, грамадазнаўчага, прыродазнаўчага і краязнаўчага зьместу. Некаторыя экскурсіі могуць вырашаць і задачы ня толькі аднэй дысцыпліны. Экскурсія так сама, як і лябараторная праца, ахапляе шэраг мэтадаў з апэрацыйнага пункту гледжаньня; тут маюць месца гутарка, нагляданьне, дэманстрацыя, ілюстрацыя і г. д.

Экскурсія арганічна выцякае з папярэдняга пэдпрацэсу і дае матар'ял для далейшай работы групы. Экскурсія абавязкова служыць для набыцьця ведаў, якія сыстэматычна пазьней будуць засвайвацца і ў гэтым яе розьніца ад простай прагулкі. У залежнасьці ад зьместу і месца экскурсіі групуецца кляса: вытворчая экскурсія патрабуе невялічкіх груп, экскурсіі ў прыроду можна правесьці цэлай групай.

Экскурсія павінна быць добра падрыхтаванай з боку настаўніка. Ён раней сам добра знаёміцца з аб'ектам экскурсіі і складае чоткі плян, што павінны дзеці даведацца ад гэтай экскурсіі; потым плян дасканальна прапрацоўваецца дзецьмі. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на арганізацыю дзяцей пры экскурсіі, чоткае разьмеркаваньне заданьняў, збор матар'ялаў.

Кожная экскурсія будзе даваць належны эфэкт толькі тады, калі кожны момант экскурсіі будзе прапрацован гутаркай, пісьмом, ілюстрацыяй (калекцыя) і інш. формамі працы.

Пры ўжываньні ўсіх пералічаных мэтадаў настаўнік павінен лічыцца з узростам дзяцей. Тыя самыя мэтады і формы арганізацыі пэдпрацэсу прымаюць іншы характар у залежнасьці ад групы, дзе ён ўжываецца. Лябараторная праца ў другой, напрыклад, групе павінна быць элемэнтарнай, абмежаванай у часе і мець на мэце разьвязваньне зусім прымітыўных задач; таксама інструктаж і кіраўніцтва настаўніка павінны быць больш дэталёвымі.

Іншы характар прымае лябараторная праца, напрыклад у IV групе, дзе ставяцца больш складаныя задачы, вызначаюцца заданьні на даволі значны час і дзе вучні атрымліваюць больш самастойнасьці ў сваёй рабоце.

Апрача таго, удзельная вага лябараторнай працы ў старэйшых групах большая, чым у малодшых.

Наадварот, гутарка займае большае месца і мае большае значэньне ў рабоце малодшых груп, чым у старэйшых; таксама і характар гутаркі другі, больш элемэнтарны зьместам з больш жывой формай, чым у старэйшых групах.

На гэтых прыкладах мы бачым неабходнасьць дыфэнрэнцыяванага падыходу

пры ўжываньні кожнага мэтаду і формы працы ў адпаведнасьці са ўзростам і разьвіцьцём дзяцей.

Апрача задачы асазнаньня вучнямі праграмнага матар'ялу, перад палітэхнічнай школай стаіць важнейшая задача замацаваньня ўспрынятых ведаў і жыцьцёвага прымяненьня засвоенага, што зьяўляецца арганічнай часткай пэдагагічнага працэсу. Толькі тады будзе выканана пастанова ЦК у напрамку ліквідацыі карэнната недахопу палітэхнічнай школы і задач нашай школы.

Найважнейшым мэтадам замацаваньня зьяўляюцца практыкаваньні. Практыкаваньнямі трэба карыстацца і ў клясе, і дома ў межах акрэсьленага навучальным плянам часу. Большай часткай практыкаваньне ўжываецца ў тых прадметах, якія вымагаюць папярэдняга аўладаньня тэхнічнымі звычкамі, асабліва ў матэматыцы і мове. Але, хаця ў меншай меры,практыкаваньні павінны знаходзіць сваё месца і ва ўсіх іншых дысцыплінах. Практыкаваньне ў клясе трэба ўжываць як папярэднюю падставу для далейшага самастойнага замацаваньня і аднаўленьня ў хаце. Самаўразуменьне ведаў і звычак яшчэ не дае належнай падставы для самастойнага практыкаваньня дома, напрыклад: вучань зразумеў са слоў настаўніка, як трэба множыць $^3/_4$ на $^2/_3$; гэта яшчэ ня значыць, што ён можа выканаць дадзенае яму да дому практыкаваньне па множаньні. Ён будзе блытацца, альбо не выканае, альбо другі выканае заданьне замест яго. Настаўнік павінен гэта ўлічваць і даваць самастойнае практыкаваньне ў клясе пад непасрэдным кіраўніцтвам і толькі тады, калі вучань ужо дастаткова аўладаў тэхнікай множаньня дробаў, настаўнік можа даць самастойную працу да хаты і быць упэўненым, што вучань з посьпехам выканае заданьне.

З другога боку, настаўнік не павінен аддаць надта вялікую частку свайго вучэбнага часу на практыкаваньне ў клясе, што абмяжоўвае час на ўжываньне актыўных мэтадаў для азнаямленьня з новым праграмным матар'ялам.

Возьмем прыклад: настаўнік бярэ правапіс і кажа: адчыніце такія-та старонкі, сьпісвайце столькі-то практыкаваньняў і прыстаўляйце прапушчаныя літары. Такія прыклады маюць месца і ў працы па чытаньні і ў матэматыцы. У выніку такой працы настаўнік займае шмат часу на такую работу, якую сьмела зрабілі-б вучні дома. Так робіць настаўнік часта таму, што не вымагае большай падрыхтоўкі да заняткаў, каб заняць дзяцей, каб ціха было ў клясе. Гэта—шлях найменшага супраціўленьня. Такая работа звужвае прымяненьне актыўных мэтадаў у выкладаньні і штурхае настаўніка на вэрбальнае прыпаднясеньне праграмнага матар'ялу.

У камуністычным выхаваньні і набыцьці ведаў вялікую ролю адыгрывае пазашкольнае чытаньне. Вельмі важна, каб настаўнік кіраваў па-зашкольным чытаньнем, праз рэкамэндацыю кніжак, арганізацыю выставак і г. д., асабліва настаўнік павінен у сваёй вучэбнай працы зацікавіць вучняў тымі або іншымі пытаньнямі, якія яны могуць знайсьці ў газэце, літаратуры мастацкай і навукова-папулярнай. Настаўнік павінен цікавіцца, што вучні чытаюць, як яны ўспрымаюць матар'ял і праз гэта кантраляваць і кіраваць па-за школьным пытаньнем.

Уся праца нашай палітэхнічнай школы павінна быць прасякнута сацыялістычнымі формамі працы—сацспаборніцтвам і ўдарніцтвам. Таму ўсе ўказаныя актыўныя мэтады працы атрымаюць поўнае сваё выяўленьне, калі яны будуць ужывацца пад кутом гледжаньня сацспаборніцтва і ўдарніцтва. І чытаньне, і пісьмо, і досьлед, і лябараторная праца, і экскурсія дадуць належныя, вучэбныя і выхаваўчыя вынікі толькі тады, калі яны будуць праходзіць у арганічнай сувязі з мэтадам сацспаборніцтва і ўдарніцтва. Толькі такім чынам школа зможа вырашыць задачу выхаваньня ініцыятыўных і дзейных удзельнікаў будаўніцтва сацыялізму.

Мэтады вытворчай працы вучняў намі закрануты ў агульных рысах. Дэталёвая іх распрацоўка—задача бліжэйшага часу.

Васілёнак С. І.

# Аб вучоце работы вучняў ў школе[1].

Адным з надзвычайна вялікіх недахопаў у школьнай справе зьяўляецца вучот працы. Працаваць бяз сталага штодзённага вучоту, як гэта робіцца часам у нас, гэта значыць працаваць у пацёмках, без усялякага сталага пляну, пэрспэктывы, без адказнасьці за даручаную працу. Тая форма вучоту, якою большасьць навучальных устаноў карыстаюцца і на сёньняшні дзень (гэта запіс выкладчыкамі ў сваёй запісной кніжцы посьпехаў вучняў), гэта вельмі ўстарэўшая форма вучоту, якая даўно адстала ад сучаснасьці і патрабуе безадкладных каранных зьмен. Як вядома, кожны выкладчык запісвае аб посьпехах вучня ў свае блёкноты агульныя адзнакі. Што даюць такія адзнакі, як, напрыклад, „ведае слаба“, „ведае сярэдня“, „ведае“, „ведае добра“ і г. д.? У канцы году, калі пачынаецца падагульваньне працы, калі кожны з выкладчыкаў прынясе свае запіскі з гэтымі шматступеннымі адзнакамі прыходзіцца, папершае: шмат меркаваць і спрачацца, каго з вучняў перавесьці на другі курс, або выпусьціць; як быць з тымі, хто па аднаму прадмету „ведае слаба“, па другому проста „ведае“ а па трэцяму—зусім нічога „ня ведае“, бо ён ня здаў і паловы заданьняў; падругое, пры такім вучоце вучні ўвесь год знаходзяцца ў цяньку без вучотнасьці: слабыя адстаюць па меры слабасьці, некаторыя мала працуюць; іншыя зусім не працуюць у меры іх жаданьня і толькі ў канцы года, калі ў „цёмнае царства“ бяз вучотнасьці прабіваецца луч сьвету—аднаразовага ў гаду падагульваньня працы вучняў, пачынаецца сумяціца: настаўнікі недаўмеваюць, чаму па паасобных прадметах столькі „хвастоў“, столькі непасьпяваючых, а непасьпяваючыя, прыкрываючыся „аб“ектыўнымі прычынамі“, пачынаюць насядаць на пэдсавет і, нарэшце, пасьля доўгіх гарачых спрэчак выпускаюць, або пераводзяць усіх і „слаба ведаючых“ і проста „ведаючых“ і „добра ведаючых“. Тут іх „ураўніваюць“. Зразумела, што гэта ня вучот, а перашкода ў падрыхтоўцы кадраў, якая выцякае з абязьлічкі ў галіне вучоту, з нядбайнасьці і халатнасьці некаторых адміністратараў і выкладчыкаў да гэтае працы. Было-б вельмі неправільным, калі-б адносіць усё гэта да ўсіх школ нашых, у той час, як мы маем у шэрагу школ вельмі добра арганізаваную, наладжаную мэтадычную працу ў тым ліку і вучот працы, але-ж аб асобных праявах такой абязьлічкі ў мэтадычнай працы, асабліва па „вучоту працы“, у некаторых школах і сёньня яшчэ магчыма гаварыць.

У якасьці прапановы для ліквідацыі гэтага недахопу, у галіне вучоту працы, прапаную на шырокае абгаварэньне настаўнікаў выпрацаваную і крыху праверанную на практыцы мною форму графічнага вучоту выкананьня гадавога навучальнага пляну.

Форма графічнага вучоту складаецца з вэртыкальных і гарызантальных граф. У пэршай вэртыкальнай графе пад назвай „прадметы“ указваюцца тыя прадметы і адведзены на іх час, у які яны будуць праходзіцца на працягу году ці паўгодзьдзя. У мэтах карэляцыі прадметы патрэбна распалагаць па цыклях, скажам спачатку можна паставіць грамадазнаўчы цыкл (грамадазнаўства, літаратура, мова, потым агульна-тэхнічны і прыродазнаўчы цыкль і, нарэшце, спэцыяльны цыкль. Важна, каб прадметы, якія патрэбна ўвязваць адзін з другім стаялі разам. У другой графе зьмяшчаецца адведзеная колькасьць гадзін і арыентыровачны час прапрацоўкі тэмы; у трэцяй графе „назва тэмы“ пішуцца ўсе тэмы па кожнаму прадмету. Такім чынам, першыя тры графы—гэта фактычна распрацаваны гадавы (ці паўгадавы) навучальны плян, які раней чым заносіць у графы вучоту, павінен быць з пачатку навучальнага году (ці паўгодзьдзя) строга на строга абгавораны, абмяркованы, як на пасяджэньнях выкладчыкаў, так і на агульных сходах вучняў і выкладчыкаў,

[1]) У парадку абгаварэньня.

# Графічны вучот (прыкладны)

## выкананьня гадавога навучальнага пляну вучнямі першай групы (назва Ф.З.С. ці інш. навучальных установ) на 1932 г.

| ПАДРУЧНІКІ колькасьць гадзін, адведзеных на іх па навучальнаму пляну | Колькі гадзін адведзена на тэму, і калі яна будзе прапрацавана | НАЗВА ТЭМ | ВУЧОТ ПРАЦЫ ВУЧНЯЎ: Атрошчанка | | Бібіло | | Васільлева | | Гінзбург | | Данільчык | | Езупчык | | Жаўнерчык | | Агафонцаў | | Ханін | | Зарубіцкі | | Іванова | | Хэйфэц | | Ціханава | | ПАДРУЧНІКІ (з паказаньнем старонак, §§ па кожнай тэме) | | Мэтад прапрацоўкі тэм | АГУЛЬНЫЯ ЗАЎВАГІ |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Мін. | Макс. | Мін. | Макс. | Мін. | Макс. | Мін. | Макс. | Мін. | Макс. | Мін. | Макс. | Мін. | Макс. | Мін. | Макс. | Мін. | Макс. | Мін. | Макс. | Мін. | Макс. | Мін. | Макс. | Мінімум | Макс. | | |
| Палітграмата 60 гадзін | 1/I-32 г. 2 г. | Уступ. У іх і ў нас | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | Лэкцыйна | 1) вых. дні выкладчыка: 2, 7, 12, 17, 22, 27. 2) дні мэтад. канс. веч. з 18-20г. 1, 6, 11, 20, 26 кожн. мес. |
| | 6/I—20/I 10 г. | Савецкая улада—дзяржава рабочая | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | Уст. 2 г. сам. 6 г. закл. 2 г. лабор. | |
| | 28/I—16/II 10 г. | Сацыяліст. фабрыка | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | Таксама | |
| | 20/II—16/III 26 г. | СССР уступіў у пэр. сацыял. | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | Уст. 4 г. сам. 10 г. брыг. 6 г. закл. 4. | |
| | 20/III—1/IV 12 г. | Кіруючая роля партыі ў сацыялістычным будаўніцтве | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | Таксама | |
| Геаграфія 40 гадзін | 1/I-31 г. 6 г | Карта сьвету | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | 10/I—15/I 6 г. | Сусьветная гаспадарка | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | 18/I—12/II 16 г. | СССР | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | 15/II—1/III 12 г. | Галоўныя дзяржавы капіталістычнага сьвету | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Мастацкая літаратура і мова | | Сац. будаўн. у горадзе і вёсцы ў асьвятленьні літаратуры | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | Камун. парт. і яе кіруюч. роля ў сац. буд. у асьв. прал. літ. | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | Правапіс, зад. № 1 | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | Правапіс, зад. № 2 | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | І г. далей | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Матэматыка | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Фізыка | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| г. д. | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |

каб тэмы, якія будуць зьмешчаны ў графы вучоту не патрэбна было-б мяняць на працягу намечанага тэрміну на некалькі разоў, акрамя таго, каб ня прышлося мяняць і колькасьць самых тэм, бо гэта будзе ламаць вучот, паколькі па кожнаму прадмету адводзіцца строга столькі гарызантальных граф у вучоце, колькі маецца тэм за год ці паўгодзьдзе. У далейшых графах—5—6 павінны быць паказаны падручнікі, старонкі і графы ў падручніках па кожнай тэме, з падразьдзелам усяго матар"ялу на „мінімум" для ўсіх вучняў абавязковы матар"ял і „максымум", які будзе распрацоўвацца па заданьню самых больш пасьцяваючых вучняў. У графе кожнай тэмы павінна быць паказана, якім мэтадам будзе прапрацавана тэма, колькі гадзін адводзіцца на ўступ, на самастойную прапрацоўку, брыгадную, канфэрэнцыі.

Пры выкананьні гэтага ліквідуецца абязьлічка ў працы выкладчыкаў, бо кожнаму выкладчыку прыдзецца працаваць не над тым, над чым ён пажадае, і ня так, як ён уздумае, а так, як гэта будзе прадугледжана плянам, які будзе вядом і распрацаван ня толькі выкладчыкам, а і кожным вучням. Але-ж гэта яшчэ нічога не дае для штодзённага жывога вучоту працы вучняў, для ліквідацыі абязьлічкі ў працы вучняў, а бяз гэтага нямысьліма поўная ліквідацыя тых перашкод у школьнай працы, аб якіх гаварылася ніжэй. Вось чаму ў гэтых-жа гарызантальных графах маецца графа „вучот працы вучняў", якая падзелена на столькі вэртыкальных граф, колькі ў групе ці клясе маецца вучняў. Адведзеная графа для вучоту працы кожнага вучня ў сваю чаргу пунктырам падзеляна на дзьве часткі, з разьлікам, каб у аднэй частцы чырвоным алоўкам адзначыць прапрацаваны і ўсвоены вучнем мінімальны матар'ял, а ў другой сінім алоўкам адзначыць прапрацаваны і ўсвоены вучнем максымальны матар"ял.

Як гэта тэхнічна робіцца? Вучот павінен зьмяшчацца ў спэцыяльным шкляным футляры, ключ ад якога можа знахадзіцца ў старшыні групы ці клясы.

Пасьля таго, як першая тэма па таму ці іншаму прадмету будзе прапрацавана, усвоена і праверана настаўнікам, настаўнік адзначае ня толькі для сябе, што скажам, Атрошчанка, Бібла, Васільлева і інш. працу выканалі, а разам з старшынёю групы і ў графічным вучоце адзначае ў графах памянёных вучняў чырвоным алоўкам, калі яны выканалі толькі мінімальны матар'ял, і сінім—калі яны выканалі максымальны матар'ял. Рысы пракрэсьліваюцца праз усё адведзенае месца для прапрацаванай тэмы. Калі вучань Агафонцьцеў (гл. вучот) працу ня выканаў, дык яго графа застаецца пустой. На працягу ўсёй працы ў любы момант кожнаму выкладчыку, кожнаму вучню бачна, як і хто з вучняў пасьпявае. Прапрацаваўшы месяц, другі па меры здачы заданьняў у адных вучняў будуць узьнікаць усё даўжэйшыя чырвоныя і сінія рысы па кожнаму прадмету, а ў другіх непасьпяваючых будуць заставацца пустыя графы. Зразумела, што кожнаму вучню ня будзе жадацца, каб яго адставаньне мазоліла вочы ўсім у школе, і ён будзе імкнуцца даганяць сваіх таварышоў, акрамя таго, і з боку настаўнікаў і ўсяго вучнёўскага калектыву сваячасова будзе аказвацца дапамога адстаючым вучням.

Такім чынам, графічны вучот зьяўляецца адным з сродкам ліквідацыі абязьлічкі, стыхійнасьці у школьнай працы, адначасова будзе спрыяць разьвіцьцю ўдарніцтва і спаборніцтва паміж вучнямі і выкладчыкамі, бо кожны будзе імкнуцца ісьці ўперад, паколькі кожны крок працы будзе ўлічвацца, знаходзіцца пад грамадзкім кантролем.

Патрэбна толькі раз назаўсёды пакласьці канец шматступенным адзнакам аб працы вучняў. Адзнака аб выкананьні „мінімуму" павінна ставіцца толькі пасьля таго, як вучань не фармальна выканаў плян, а калі ён глыбока ўсвоіў, поўнасьцю аўладаў матар'ялам, каб чырвоная рыса адзначала ня толькі колькасная выкананьне мінімальнай працы, а і добраякасны бок гэтай працы. Мінімальны матар'ял павінен давацца такі, каб, выконваючы яго магчыма было выканаць праграму па таму ці іншаму прадмету. Максымальны матар'ял патрэб-

на разьлічваць на больш пасьпяваючых вучняў, і па-гэтаму ён павінен быць большым і па глыбіні і па шырыні і аб'ёму кожнай тэмы, а сьледна і праграмы, карацей кажучы, каб пры выкананьні максымальнага матар'ялу, вучань мог ня толькі хутчэй скончыць прапрацоўку паасобных тэм і праграм, а прапрацоўваючы максымальны матар'ял, атрымаць больш шырокія, больш глыбокія веды ў галіне тэй ці іншай навукі. Рад высунутых тут пытаньняў носяць характар праблематычны, і пагэтаму іх непатрэбна браць як нейкі, ужо прызнаны жыцьцём вопыт, іх патрэбна ўважліва шырока абгаварваць, праверыць на практыцы.

Толькі пасьля шырокай крытыкі і праверкі на практыцы прапанаванага вучоту выкананьня навучальнага пляну, магчыма, і пацьвердзяцца мае ўласныя меркаваньні і вывады, што пры такой форме вучоту працы ў нашых навучальных установах мы дапаможам зьнішчэньню абязьлічкі, ураўнілаўкі і стыхійнасьці ў арганізацыі педагагічнай працы, што дасьць умовы і пэўны стымул для пасьпяховага вырашэньня праблемы кадраў.

**І. Шапіро.**

# Да пытаньня далейшых задач работы часопісі „Іскры Ільліча“ [1]

Па пастанове ЦБ ДКО ЦК ЛКСМБ у сакавіку месяцы будзе праводзіцца шырокая нарада акцябрацкіх работнікаў педагогаў малодшых груп першага концэнтру 7-годак і дашкольных установ пісьменьнікаў і мастакоў па пытаньні аб далейшай працы адзінай у Беларусі часопісі для дзяцей акцябрацкага ўзросту „Іскры Ільліча“.

Правядзеньне гэтае шырокае нарады выклікана неабходнасьцю вырашэньня раду пытаньняў практычнай працы дзіцячай часопісі.

Пытаньне дзіцячай літаратуры ў свой час было шырока пастаўлена перад грамадзкасьцю, было шмат абяцаньняў, і ўжо ня менш было напісана, аб нявыкананьні ўзятых абавязкаў у галіне дзіцячай літаратуры.

Вось гэта асабліва адчуваецца ў штодзённай працы дзіцячай часопісі.

Часопісь за два гады свайго існаваньня дала шмат каштоўных матар'ялаў, значна вырасла па якасьці матар'ялаў у параўнаньні з першымі гадамі свайго існаваньня. Адзін пералік тэм, якія закранаціся ў часопісі ўжо сьведчыць аб правільнай установцы, аб тым, што „Іскры Ільліча“ зьяўляюцца актыўным удзельнікам камуністычнага выхаваньня пакаленьня, у практычнай працы акцябрацкіх груп дашкольных установ і „0“, 1-й і 2-й кляс 7-годкі.

Чаму-ж, узьнікае пытаньне, часопісь вельмі мала скарыстоўваецца ў акцябрацкіх групах?

Дзе асноўныя недахопы часопісі, якія значна абмяжоўваюць кола яе дзеяньня?

Вось тыя пытаньні, якія ставяцца перад нарадай.

Паспрабуем зараз вызначыць асноўныя недахопы часопісі.

---

[1]) Па пастанове ЦБ ДКО ЦК ЛКСМБ у сакавіку м-цы 1932 г. пры рэдакцыі часопісі „Іскры Ільліча“ будзе праведзена шырокая нарада па пытаньню аб далейшай працы адзінай у БССР дзіцячай часопісі „Іскры Ільліча“.

Гэты артыкул друкуецца як падрыхтоўчы матар'ял да нарады.

I

„Выхаваць пакаленьне, здольнае канчаткова ўстанавіць камунізм“, вялікая і адказная задача. Гэтую справу мы робім штодзень усёй працай па камуністычнаму выхаваньню падрастаючага пакаленьня.

Мы выхоўваем пакаленьне, на вачох якога Савецкі саюз уступіў у першую пяцігодку, пасьпяхова выканаў плян першых трох год і ўступіў у чацьверты, заключны год, пяцігодкі, калі „лёзунг выкананьня пяцігодкі ў чатыры гады становіцца фактам“ (Кагановіч), на вачох якога індывідуальная дробнабуржуазная вёскаператвараецца ў сацыялістычную.

Мы выхоўваем пакаленьне, якое бачыць і больш таго, удзельнічае ў пераплаве людзей, якое зьяўляецца сьведкай нябачнага ўздыму гэраізму працоўных мас.

Мы павінны зрабіць усё гэта для яго зразумелым.

Чаму, што падштурхнула камсамольскую ўдарную брыгаду Магнітабуду задуць да тэрміну камсамольскую домну, чаму рабочы Бабруйскага дрэваапрацоўчага камбінату тав. Мадорскі, рызыкуючы жыцьцём палез у магістральную трубу, каб знайсьці месца аварыі і гэтым скараціць час вымушанага прастою ўсяго камбінату; чаму сотні тысяч ударных брыгад па ўсім Савецкім саюзе аддана змагаюцца за выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады.

І на гэтых жывых прыкладах таго, што мы ўступілі ў той пэрыяд, аб якім Уладзімір Ільліч пісаў:

„Камунізм пачынаецца там, дзе зьяўляецца самаадданы, перамагаючы цяжкую працу, клопат радавых рабочых аб павялічэньні вытворчасьці працы, аб ахове кожнага пуда хлеба, вугалю, жалеза і інш. прадуктаў, якія дастаюцца не працуючым асабіста і не іх „блізкім“, а „дальнім“, гэта значыць усяму грамадзтву ў цэлым і сотням мільёнаў людзей“ выхоўваць адданых, стойкіх барацьбітоў, выхаваць пакалельне, якое будзе здольна канчаткова ўстанавіць камунізм.

Гэткага пэдагагічнага матар'ялу ня мае і ня можа мець пэдагогіка ніводнай капіталістычнай краіны, якая мае на мэце выхаваньне паслухмяных паднявольнікаў капіталу.

Задача ў тым, каб растлумачыць дзецям усе гэта і зрабіць іх удзельнікамі гэтай вялікай будоўлі. У тым, каб выходзячы ад знаёмага дзецям, таго, што іх звычайна акружае падайсьці да глыбокага разуменьня таго, што адбываецца ў краіне будуючага сацыялізму. Прывучыць дзіця да лёгічнага мышленьня, выхаваць у ім упартыя жаданьні пазнаць рэч ня толькі звонку, але дакапвацца да больш складаных момантаў зьявішча, разважаючы па пэўнаму лёгічнаму ланцугу.

Выхававаць запытлівасьць і навучыць разьбірацца ў пытаньні па пэўнай сыстэме, падкрэсьліваючы сыстэматычнасьць самых звычайных зьявішч, пэўны парадак, па якому ўсё адбываецца.

Падкрэсьліваючы сыстэму ва ўсім звычайным, зусім зразумелым для дзяцей зьявішчы, у якім яны непадазраваюць ніякага пэўнага парадку. Паказаць падкрэсьліць у чым сувязь папярэдняга зьвяна гэтае сыстэмы з наступным, каб прывучыць дзяцей шукаць лёгічнага ланцугу, сыстэмы, пэўнага парадку ў новых для яго, дагэтуль незразумелых зьявішчах і па гэтай сыстэме, па гэтаму лёгічнаму ланцугу іх пазнаваць.

Нам трэба разьвіць мышленьне дзяцей у тым напрамку, каб пытаньне ўзьнікала ў пэўнай лёгічнай сувязі, калі адно пытаньне выклікае другое, а высьвятленьне ўсіх пытаньняў дасьць (з пункту погляду дзяцей) поўны малюнак гэтага зьявішча.

Калі яны чулі, або чыталі аб руднікудык у іх узьнікнуць пытаньні, зьвязаныя з здабычай руды, жалеза ў напрамку паглыбленьня свайго знаёмства з гэтым працэсам. Для іх малюнак будзе зусім ясным, поўным і бяз хэмічных формаў выплаўкі чыгуну і г. д.

У гэтым лёгічным ланцугу пытаньняў будуць гэткія, на якія яны адразу не атрымаюць адказу, такія, якія з-за адсутнасьці пэўных ведаў у дзяцей застануцца незразумелымі. Яны будуць шукаць адказу. Гэта выкліча імкненьне

даведацца; дзіця будзе шукаць тых ведаў, якія яму недастаюць, каб атрымаць адказ на ўзьнікшае пытаньне.

Ня важна тое, што яно ня так хутка атрымае адказ, ня так хутка зразумее сутнасьць заданнага пытаньня, а толькі праз год-два.

Важна, што гэтыя гады будуць праведзены ў пошуках, мэтаімкнённа. Гэта шлях выхаваньня дыялектычна-матэрыялістычных адносін да асяродзьдзя ўжо з першых крокаў, калі дзеці сутыкаюцца з асяродзьдзем.

У напрамку выкананьня вось гэтай задачы вызначаецца асноўны недахоп часопісі.

Зусім акрэсьлена вызначаецца небясьпека фармальнага выкананьня раду пастаўленых задач.

Часопісь шмат месца адводзіць актуальным пытаньням нашай сучаснасьці. Тэматычна часопісь у асноўным выконвае задачу, але значная колькасьць матар'ялу распрацавана так, што яна фактычна выпадае для чытачоў часопісі—дзяцей 7-8-9-10 год, не даходзіць да яго і таму ня дасягае асноўнай сваёй мэты.

Часопісь схэматызуе, даводзіць расказ аб тым ці іншым зьявішчы, аб тым ці іншым пытаньні да пэўнай мяжы, расказвае аб асобных элемэнтах гэтае зьявы, якія, па думцы аўтара, будуць зусім зразумелы дзецям і ня выклічуць ніякіх запытаньняў, пазьбягаючы ўсебаковага глыбокага, пераканаўчага паказу гэтае зьявы.

З мэтай дасягненьня зразумеласьці матар'ялу аўтары, а за імі і часопісь, ідзе па лініі спрашчэньня зьявішча, па лініі падачы толькі асобных элемэнтаў яго заместа ўсебаковага паказу гэтага зьявішча на блізкім, зразумелым для дзяцей матар'яле. А гэтага можна дасягнуць толькі пры пэдагагічна-пісьменна пабудаваным і мастацка добра апрацаваным матар'яле.

Вось прыкладна як „растлумачваецца" ўзьнікненьне і значэньне міжнароднага пралетарскага сьвята 1 мая:

„А ведаеце дзеці чаму мы сьвяткуем 1 мая?

Было гэта даўно. Рабочыя пачалі патрабаваць ад капіталістых сабе палёгкі, бо праца на фабрыках і заводах была пакутная. Рабочага прымушалі працаваць па 15-18 гадзін на суткі. Плацілі зусім мала, нават на ежу не хапала. Чалавек ня мог вытрымліваць такой цяжкай працы.

Рабочыя пачалі змагацца з капіталістымі, дамагацца сабе правоў.

Але адзін чалавек нічога ня можа зрабіць, нічога не даб'ецца. Яго адразу закуюць у кайданы ды пасодзяць у турму. Змагацца аднаму цяжка. Куды лягчэй і лепш рабочым змагацца з уладарамі фабрык за свае справы гуртам, арганізавана. Тады сіла рабочых робіцца магутнай і непераможнай.

**І вось для арганізаванай барацьбы з буржуазіяй рабочыя ўсяго сьвету выбралі ў годзе адзін пэўны дзень—1 мая.** (падкрэсьлена намі) (№ 4—31 г.).

Вось якую спрошчаную і няправільную схэму сьвята 1 мая пабудаваў аўтар для таго, каб растлумачыць дзецям гэтае пытаньне.

Шмат месца часопісь адводзіць пытаньням калектывізацыі сельскай гаспадаркі. Трактар, камбайн, малацілка займае пачэснае месца на старонках часопісі. Але і тут старана зьбягаецца паглыбленьне паказу.

„Што такое МТС?

...будуюцца машыны-трактарныя станцыі для таго, каб дапамагчы вёсцы перайсьці ад ручной працы на полі да машыннай, **каб перайсьці ад дробнай гаспадаркі да буйнае гаспадаркі—калгасу**". (Падкрэсьлена намі).

У чым сувязь пераходу вёскі ад ручной працы да машыны з пераходам ад дробнай гаспадаркі да калгасу. Аб гэтым тут не гаворыцца.

На другой старонцы ў гэтым-жа нумару часопісі ў нарысе аб саўгасе „Гігант" мы чытаем:

„Чым жа лепш буйныя сацыялісычныя гаспадаркі?

Тым, што ў іх могуць працаваць вялікія сельскагаспадарчыя машыны. У буй-

н
сых сацыялістычных гаспадарках ня сустрэнеш сахі, сярпа, цэпа. Іх зьмянілі машыны. Аруць трактарам, жнуць жняяркай, малоцяць вялікай малатарняй. А ёсьць такая машына—камбайн, якая жне, малоціць і зерня ачышчае. Цягне яе трактар".

І зноў выпушчана асноўнае, выпушчана сапраўднае значэньне камбайна, трактара для сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі. І ўсё гэта з мэтай спрашчэньня матар'ялу з тым, каб зрабіць яго зразумелым для дзяцей.

Вось яшчэ прыклад, як часопіс растлумачвае стварэньне чырвоннай коньніцы:

„Ленін ведаў, што бяз коньніцы не абыйсьціся. Ён сказаў:

„Пралетары на каня!"

Пачалі адусюль зьбіраць коняй."

Пішучы аб малатарні спыняюцца толькі на вонкавых зьявішчах: грукоча, пыліць і г. д. Гавораць аб тых вонкавых зьявішчах, якія дзеці ўспрымаюць самастойна і на гэтым часопіс ставіць кропку, не ідучы да растлумачэньня незразумелага, ня імкнучыся адчыніць перад дзяцьмі малатарню.

Вывад ясны. Часопіс не ідзе па шляху глыбокага паказу рачаіснасьці ў зразумелай для чытачоў форме, ня выходзіць за рамкі вонкавага ўжо знаёмага дзецям матар'ялу, і таму часопіс у значнай частцы сваіх матар'ялаў не паглыбляе ведаў сваіх чытачоў.

Задача ў тым, каб у зразумелай для дзяцей форме, будуючы ўсё на блізкім матар'яле падаць, растлумачыць зьявы ўва ўсёй іх глыбіні, бо паказаць працэс калектывізацыі няглыбока, павярхоўна, ня ўлічваючы ўсіх момантаў гэтага зьявішча, гэта значыць гаварыць няправільна аб ім. Зразумець толькі частку працэсу сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі гэта значыць не зразумець нічога.

Расказ М. Ільліна аб аднэй з прычын капіталістычнага крызісу, аднэй з супярэчнасьцей капіталізму—анархіі вытворчасьці на зразумелым для дзяцей матар'яле зьяўляецца яскравым прыкладам, больш таго довадам, правільнай пастаноўкі такой задачы перад дзіцячай літаратурай і ў данным выпадку перад часопісьсю „Іскры Ільліча" і магчымасьці яе выкананьня.

Вось як піша М. Ільлін „па-дзіцячаму" аб сур'ёзных справах.

„У амэрыканскага буржуя Фокса завяліся грошы—мільён даляраў. Але грошы не павінны ляжаць без работы. Фокс наймае агентаў, раіцца з сябрамі, якую-б даць работу яго мільёну. Агенты з ранку да вечара бегаюць па гораду, выглядаюць, выпытваюць, куды дзяваць грошы буржуя Фокса.

І, нарэшце, работа для іх знойдзена. Капялюшы. Вось, што трэба рабіць. Капялюшы разыходзяцца добра, людзі багацеюць.

Думаць няма калі. Буржуй Фокс будуе фабрыку капялюшоў.

Тая-ж самая думка ў той-жа самы час прыходзіць у галаву і буржую Поксу, і Кроксу, і Ноксу. І ўсе яны ў адзін час пачынаюць будаваць фабрыкі капялюшоў.

Праз поўгода ў краіне выраста калькі новых капялюшных фабрык. Магазыны трашчаць ад капялюшоў. Усюды абвесткі, плякаты: капялюшы. Капялюшоў зроблена больш, чым трэба, у два разы больш, у тры, у чатыры. А фабрыкі працуюць на поўным ходу.

І тут адбываецца тое, чаго не чакалі ні Фокс, ні Нокс, ні Крокс. Людзі ня купляюць капялюшоў. Нікому яны больш непатрэбны. Што рабіць буржуям? Яны збаўляюць цану, а потым прадаюць іх з тратай для сябе, абы адчапіцца ад капялюшоў. Але і гэта іх не выратоўвае. Буржуй Фокс зьніжае зарплату рабочым на даляр на тыдзень. Буржуй Крокс зьніжае зарплату на два даляры на тыдзень.

А справы капялюшныя ўсё горшаюць і горшаюць. І раптам—стой! Буржуй Фокс спыніў фабрыку. Рабочыя могуць ісьці, куды хочуць. На другі, трэці дзень гэта-ж зрабілі і Нокс і Крокс. Праз нейкі час стаяць амаль што ўсе фабрыкі капялюшоў. Тысяча рабочых бяз працы

Машыны іржавеюць. Будынкі прадаюцца задарма, каб не займалі толькі месца.

Мінае год, другі. Капялюшы, купленыя ў Фокса, Крокса, Нокса знасіліся. Людзі зноў пачынаюць купляць капялюшы. Цана на іх расьце.

І тады ўжо ня Фокс, а які-небудзь Дубль стараецца пагрэць рукі на капялюшох і будуе капялюшную фабрыку. Але такая-ж думка прыходзіць у галаву і другім разумным дзелавым буржуям—Будлю, Фудлю і Пудлю. І ўся гісторыя пачынаецца спачатку.

Тое, што адбываецца з капялюшамі, адбываецца і з цукрам, і з ботамі, і з чыгуном, і з вуглём, і з газаю і г. д. Фабрыкі растуць і разбураюцца. Можна падумаць, што людзі страцілі розум. І сапраўды так выходзіць. („Рассказ о великом плане").

Другі недахоп—слабае пранікненьне часопісі ў штодзённую працу акцябрацкіх груп тлумачыцца, акрамя наяўнай недаацэнкі кіраўнікамі акцябрацкіх груп часопісі (ня толькі „Іскры Ільліча") у выхаваньні, яшчэ і тым, што часопісь стаіць зараз надзвычайна далёка ад працы і жыцьця акцябрацкай арганізацыі. Часопісь дагэтуль ня ўлічвала тых пытаньняў, над якімі працавалі акцябрацкія групы. Гэты адрыў ад працы акцябрацкай арганізацый выявіўся нават і ў самай мастацкай апрацоўцы матар'ялу. Апавяданьні, нарысы, вершы не будаваліся на матар'яле працы акцябрацкіх груп.

Часопісь павінна ўключыцца ў штодзённую працу арганізацыі. Задача ня лёгкая. Яна значна ўскладняецца тым, што часопісь павінна ўзьнімаць усе пытаньні не перад кіраўнікамі, а перад самімі акцябратамі. Матар'ял часопісі павінен падрыхтоўваць акцябрат да прапрацоўкі таго ці іншага пытаньня і гэтым узьнімаць актыўнасьць дзяцей.

І толькі пры выкананьні гэтага часопісь стане неадрыўнай ад працы арганізацыі.

Гэтая задача, якая стаіць перад часопісам ставіцца ня толькі перад рэдакцыяй, гэта справа ўсіх акцябрацкіх работнікаў, пэдагогаў.

Падобнае становішча мы маем і ў сувязі часопісі з школай. Часопісь разлічваецца і на дзяцей „0", 1-й і 2-й клясы 7-мігодак. Дагэтуль надзвычайна дрэнна ўлічваліся тыя патрабаваньні, якія высоўваюцца плянам працы школ. Часопісь давала і дае матар'ялы, якія могуць быць скарыстаны і часткова скарыстоўваюцца і школай, але без арганічнай сувязі з вытворчым плянам школы. Ня было матар'ялаў, якія-б арганізоўвалі дзяцей навокал пытаньняў школьнае вучобы, матар'ялаў, якія-б арганізоўвалі адпачынак вучня так, што пазашкольнае чытаньне, пазашкольная праца вучня мобілізоўвала яго навокал тых задач, якія прапрацоўваюцца ў клясе настаўнікам у гэты час.

Пры выкананьні гэтай умовы часопісь значна дапаможа настаўніку ў яго штодзённай працы.

Выкананьне гэтае задачы магчыма толькі пры актыўным удзеле настаўніцтва ў працы часопісі. А без выкананьня гэтай задачы нельга і гаварыць аб часопісі як дапаможніку ў тэй вучобе, „якая павінна даць вучням асновы навук".

Рашаючым у выкананьні пастаўленых перад часопісам задач, у пасьпяховай прапрацоўцы таго ці іншага пытаньня зьяўляецца пэдагагічная пісьменнасьць і мастацкая апрацоўка матар'ялаў.

Часта каштоўныя матар'ялы, якія часопісь распрацоўвае на сваіх старонках, не даходзяць да чытача, дзяцей таго ўзросту, на якія яны разьлічваліся (звычайна 7-8-9-10 год) таму, што ня ўлічаны пэдагагічныя запатрабаваньні з-за дрэннае мастацкай апрацоўкі матар'ялу.

Азнаёміўшыся з ілюстрацыйным матар'ялам за часопісі 1931 г. відаць, што ў гэтым напрамку ёсьць шмат недахопаў.

Асноўныя недахопы ілюстрацыйнага матар'ялу, які па праву займае значнае месца ўсёй часопісі, за гэта тое, што значная частка ілюстрацый не дапамагаюць успрыняцьцю тэксту, надзвычайная ўмоўнасьць малюнку, незразумеласьць, нячоткасьць выяўленьня ўкладзенай у малюнак думкі.

Мастакі, выконваючы тое ці іншае заданьне па ілюстрацыі матар'ялу, выхо-

дзяць выключна з фармальна-мастацкіх установак, зусім ігнаруючы пэдагагічную мэту ілюстрацыі.

Перад мастакамі, якія супрацоўнічаюць у часопісі, дагэтуль ставілася ва ўсю шыр пытаньне стварэньня дзіцячага малюнку, вярней малюнка для дзяцей.

Справа ня ў тым, як гэта зразумелі некаторыя таварышы, каб мастак, малюючы для дзяцей, адмовіўся ад сваіх прыёмаў працы. Нельга разумець задачу стварэньня дзіцячага малюнку як патрабаваньні зьвярнуцца да цалкам рэалістычнага малюнка, „малюнка-фото“, „як малявалі 20 год назад“.

Пытаньне значна складаней. Задача стварэньня дзіцячага малюнка ня можа застацца справай выключна мастакоў. Гэтую задачу трэба вырашаць агульнымі сіламі і мастакоў, і пэдагогаў і пісьменьнікаў.

Перад часопісьсю стаяць надзвычайна сур'ёзныя задачы, задачы надзвычайна складаныя, якія патрабуюць сур'ёзнай прапрацоўкі раду агульных пытаньняў дзіцячай літаратуры. Таму да падрыхтоўчай працы павінны быць прыцягнуты ўсе таварышы, якія працуюць у дзіцячай літаратуры.

## Да агляду часопісі „Іскры Ільліча“.

Часопісь „Іскры Ільліча“ разьлічана на дзяцей акцябрацкага ўзросту-7-10 год (старшая група дашкольных устаноў і 0,1,2-я група школ).

„Іскры Ільліча“ адзіная на БССР часопісь для дзяцей гэтага ўзросту, і таму на ёй ляжаць вялікія задачы і вялікая адказнасьць у справе камуністычнага выхаваньня нашай дзетвары. Паглядзім, наколькі часопісі ўдаецца выканаць пастаўленыя перад ёй задачы. Трэба адзначыць, што з боку тэматыкі часопісі ў дастатковай меры адбівае сучаснасьць: наша сацбудаўніцтва ў горадзе і вёсцы, клясавая барацьба, пабудова новага быту—усё гэта знаходзіць свой яскравы адбітак на старонках часопісі. Жыцьцё і змаганьне дзяцей і дзіцячы камуністычны рух у капіталістычных старонках, моманты інтэрнацыянальнага выхаваньня асьвятляюць на старонках часопісі шырока. Так, напрыклад, артыкул „Арэлэ“ Каганоўскай, „Кармараны-рыбакі“, „Пераможцы“, „Цылюлёідны таварыш“, „Гершэнке“ Родзевіча, „Замест сям'і“ і шмат інш.

Недахопам з боку тэматыкі трэба лічыць недастатковасьць антырэлігійнага і вайсковага матар'ялу. За апошні 1931 г. вайсковы матар'ял дадзен толькі кампанейскага характару ў лютым м-цы, ды ў канцы году артыкул „Газы“. Гэта, бязумоўна, мала. У антырэлігійных пытаньнях нават сьнежаньскі нумар, дзе неабходна было ўзьняць антыкалядную кампанію, ня даў ніякага антырэлігійнага матар'ялу, ды і на працягу ўсяго году гэта галіна работы знаходзіцца ў заняпадзе.

Матар'ял, зьмешчаны ў часопісі, прызначаецца для самастойнага чытаньня і для прапрацоўкі ў школе, сумесна з настаўнікамі. Апошняе накладае значныя абавязкі. У гэтым напрамку часопісь павінна стаць вядучым зьвяном у справе камуністычнага выхаваньня. Часопісі трэба больш цікавіцца праграмай, плянамі і нагогул усім жыцьцём школы, каб пасьпець у дапамогу настаўніку і ў дадатак да падручніка даць сьвежы, новы, цікавы матар'ял. У данным выпадку часопісь не заўсёды бывае чуткай. Напрыклад, ленінскі нумар за 1931 г. павінен быў зьвязываць усе пытаньні, якія ўздымае, з асноўным матывам гэтага нумару—выкананьне заветаў Леніна, а бачым мы наступнае: вокладка зусім не адпаведная, увесь матар'ял, апроч уступнага артыкулу, „7 год бяз Леніна“ дан зусім адарваным ад гэтай галоўнай думкі. Нават такі артыкул, як „Пачаўся 3-ці год пяцігодкі, не падкрэсьлівае выкананьне пляну, як выкананьне заветаў Леніна.

Кампанійскі матар'ял падаецца са спазьненьнем, або зусім не ў пару. Напрыклад, вельмі ўдалы верш Якімовіча „Сэрца горада“, калі-б быў зьмешчан хутка пасьля

паводкі, зьявіўся бы вельмі ўдалым матар'ялам для працы ў клясы, а ў восень ён ужо траціць сваё значэньне. Артыкул „Расьце новы Менск"-надзвычайна ўдалы артыкул для прапрацоўкі ў школе, меў-бы яшчэ большую вартасьць, каб быў зьмешчаны да дню вызваленьня Менску ад белапалякаў. Такія апавяданьні, як „Замест сям'і", „Кармараны-рыбакі" для першага нумару зьяўляюцца выпадковасьцю, тады, як да дню МОПР'у былі-б неабходнай ілюстрацыяй. Можна было-б шмат прывесьці прыкладаў у гэтым напрамку. На жаль іх шмат. Наогул адчуваецца, што часопісь складалася выпадкова, насьпех. Зьмяшчаўся матар'ял, які трапляўся пад рукі. Ня было сталага пляну на падставе праграм. А сыстэматычна падабраны і прадуманы матар'ял надзвычайна патрэбен нашай школе, прымаючы пад увагу, што падручнікі заўсёды зьяўляюцца крыху ўстарэўшымі і ня могуць часта пасьпець за тэмпамі і даць адказ на актуальныя пытаньні. Такім чынам, справа падбору матар'ялу па праграмах, уцягненьня ў гэту працу шырокіх мас настаўніцтва зьяўляецца першай неадкладнай задачай часопісі.

З боку формы ўкладаньня неабходна адзначыць, што мова ў артыкулах, прызначаных для працы ў клясе, часта не адпавядае дзіцячаму ўспрыйманьню, цяжкая і віціеватая. Мы маем такія звароты: „Год таму назад ЦВК і СНК СССР выдалі закон аб усеагульным пачатковым навучаньні на базе 4-годкі" („Прэч няпісьменнасьць з краіны Саветаў" № 9). І яшчэ ў артыкуле „Працоўныя мазалі" Чарняўскай „Ударніцтва і спаборніцтва павышаюць прадукцыйнасьць працы, паляпшаюць якасьць прадукцыі, сьніжаюць сабекошт". У нумары 1-м за 1932 г. „Мы пераможна будуем сацыялізм" дадзена столькі лічб і так няўдала, што дзецям няма за што ўхапіцца, каб зацікавіцца імі Такой мовай нельга перакапаць дзіця ў значэньні соцспаборніцтва і ўдарніцтва. Фактычны матар'ял павінна прападносіць дзецям у такой форме, якаябы эмоцыянальна ўзбуджала, захапляла дзяцей.

Было-б няправільна не адзначыць, што шмат матар'ялу, які падаецца для кляснай прапрацоўкі, зьўляецца вельмі каштоўным і даступным і ўяўляе сабой неабходны матар'ял для прапрацоўкі ў клясе. Напр., артыкулы: „Малатарня", „Камбайн", „3-ці год пяцігодкі" (№ 1), „На варце краіны Саветаў" (№ 2), „Дапаможам чысьціць насеньне" (№ 3 ), „Газы" (№ 8), „Донбас" (№ 6), „Гомсельмаш", „3 велікана", „Уралокузбас", і інш.

Цяпер затрымаемся на матар'ялах для самастойнага чытаньня. Тут трэба адзначыць, што поруч з артыкуламі з цікавай фабулай, напісаных жывой яскравай мовай, напр.: Каганоўская „Арэлэ", „Зямельныя цяглынкі",- Аўсьлендэр-„Вялікія і малыя", „Роўна ў чатыры", „Здалі ў тэрмін": Шатэрніка-Зінох, „Чырвонасьцяжніца" „За рэвалюцыю", „Сьнежнай, „Ударнікі", Каганоўскай „Увесь век на паравозе" нарысы Паляноўскага, „Гершэнке", Родзевіча і шмат іншых Маюцца апавяданьні, у якіх гавораць аб дзеяньні, але ня дзейнічаюць: напр., „Мы ўдарнікі" Дзьмітравай, „Працоўныя мазалі" Чарняўскай, „Добры пачатак" Шатэрніка, „Зьдзельшчына" Шыдлоўскага, „Свой куток" Дзьмітрыевай, „Лубін" Цітавай, „Вольчына радасьць" Пайчэўскага і г. д. Задача артыкулаў, разьлічаных на самастойнае чытаньне дзяцей, выклікаць эмоцыі, сугучныя задачам камумістычнага выхаваньня, на аснове якіх злажыліся-б пэўныя і сталыя адносіны дзяцей да акружаючага: адмоўныя да варожых праяў і дадатныя да нашага сацыялістычнага будаўніцтва, да гэрояў і правадыроў гэтага будаўніцтва. Выклікаць імкненьне пераймаць, уключыцца ў гэту вялікую плынь. І вось ў часопісі матар'ял, бязумоўна, адпавядаючы па тэматыцы, не дасягае свае мэты па форме ўкладаньня. Сухі пратакольны апісальны матар'ял ня можа глыбока закрануць эмоцый дзяцей, а эмоцыя ў гэтым узросьце зьяўляецца найбольш яркім зьвяном у псыхалёгіі дзіцяці. Слабы твор у гэтым напрамку адаб'е ахвоту, „наб'е аскоміну", і дзеці проста не захочуць чытаць. А разам з гэтым маем нават такі твор, як „Вогненая зьмяя" Сказбуша, мэта якой разьвеяць пачуцьці страху, але напісана яна так, што раней іменна выкліча эмоцыі страху, якія пасьля ня так проста разьвеяць. Лепш у гэтым напрамку справа абстаіць з вершамі.

Часопісь за час свайго існаваньня дала багата матар'ялу. Напр.: Акімовіча „Сэрца гораду“, „За пяцігодку ў чатыры гады“, „Акцябраты“, „Паравоз“, „Жніво ў калгасе“ і інш., „Астапенка“ Машыністы Тансык“ „Алі“ і інш., Ульянкова „Сёньня сьвята“. Комара „Сілас“, „Трактар“, дзяткора Хацкевіча „Сьвята перамог“, Пімогі „У дзіцячым садзе“

Вершы Александровіча „Фабрыка сьмерці“ зацяжкія для дзяцей акцябрацкага узросту. Якуба Коласа „Чырвонаармейцы“ мае шмат незразумелых дзецям слоў, як напр:, шквал, зграі, сьвістапляс шпегі, стратэгі.

„Тры браты“—вершы Зак—дрэнна напісаны, і, апрача таго, даецца неправільная установка. У нас хутчэй школа або дзіцячы сад зьвернуць увагу на слабых дзяцей і ўвядуць фізкультуру, чымся дапусьцяць насьмешку дзяцей над слабейшымі.

Удалым момантам трэба адзначыць зьмяшчэньне твораў дзяткораў і самых дзяцей. Але ў часопісі не адчуваецца кіраўніцтва дзецьмі у гэтым напрамку. Часопісь не гаворыць з дзецьмі. Яна глухая—няма заданьняў, няма лістоў да дзяцей, няма агляду дзіцячай творчасьці. Уся маса дзяцей ня ведае, якім чынам трапілі у часопісь вершы дзяткораў. Часопісь павінна згуртаваць каля сябе і рыхтаваць літаратурныя кадры. Чаму не зьмяшчаць такіх заданьняў, як кароткія артыкулы з прапушчанымі словамі, вершы без канцовых слоў або канцовыя рытмоўкі, да якіх дзеці павінны дапісаць тэкст вершу. Зьмясьціць малюнак, каб дзеці яго апісалі, пазьней зьмяшчаць малюнкі каб дзеці прыдумвалі з чаго пачаўся і чым закончыўся той эпізод, які пададзен у малюнку. Зьмяшчаць артыкул без апошняй заключнай часткі і даваць заданьні, каб дзеці закончылі. Даваць артыкулы з „недарэчнасьцямі“—заданьне знайсьці і выправіць „памылкі“. Ды можна, прадумаўшы гэтае пытаньне, знайсьці шмат момантаў жывой сувязі з чытачом, кіраўніцтва яго літаратурнай працай. Трэба, каб чытач бачыў, што часопісь яго слухае, чуе і разумее. Варта-б даваць дзецям заданьні, напісаць, як яны зразумелі тое або іншае пытаньне, якое асьвятляецца на старонках часопісі. Даць заданьне прачытаць кніжку і даць водзыў па пэўных пытаньнях. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на такія аддзелы часопісу, як „Куток адпачынку“ і „Падумай“. Гэтыя аддзелы у заняпадзе. Першае, ня у кожным нумары зьмяшчаўся даны матар'ял (№ 3, 5, 10, 11—зусім ня маюць гэтых аддзелаў). Другое, гэтыя аддзелы бедныя і аднастайныя, і, што самае галоўнае, яны разлічаны на пасыўнае успрыяцьце. Трэба дадаць і пашырыць такія моманты, як загадковыя малюнкі, малюнкі з „недарэчнасьцямі“. Неабходна разгарнуць сэрыю пытаньняў па тыпу „Віктарына“.

Аддзел мастацтва вельмі нязначны. Трэба яго пашырыць і зьмяшчаць у ім больш песень, гульняў, інсцэніровак. Завесьці агляд кіно, тэатру, зьмяшчаць рэпрадукцыі добрых малюнкаў.

Да аддзелу „Зрабі сам“ часопісі трэба падыйсьці асабліва сур'ёзна, у сувязі з палітэхнічным выхаваньнем нашай дзетвары. Такія малюнкі і апісаньні, як „што можна зрабіць з адкіднога матар'ялу“ (шпуляк, каробак і інш.), што можна зрабіць з прыроднага матар'ялу (шышак, каштаноў і г. д.) павінны заняць сталае месца ў часопісі. Трэба лічыць надзвычайна каштоўным такі дадатак, які мы маем у нумары 1-м за 1932 г. (выкройка маўзалея). Такія дадаткі трэба зьмяшчаць часьцей. Паказ і апісаньне-як зрабіць аўтамабіль-у гэтым-жа нумары таксама вельмі каштоўнае пачынаньне. Адно трэба было даць для першага разу менш складаны прыклад і паступова ускладняць іх, каб дзеці аказаліся здольнымі выканаць. Тут-жа трэба даць сьпіс прылад і інструмантаў, якія неабходны для выкананьня заданьня.

Цяпер затрымаемся на пытаньнях афармленьня часопісу. Першае, што кідаецца у вочы, гэта дрэнная папера, якая псуе афарбоўкі ілюстрацый і шрыфт.

Шрыфт увесь час аднастайны. Ці нельга было-б выдзяляць альбо падкрэсьліваць месцы з апавяданьняў, уносячы рознастайны шрыфт.

Занадта часта трапляецца тэхнічны недагляд, калі фарбы ня роўна пакладзены на контуры. (Напр., №2-22-я старонка, №8-17-ая старонка).

Каляровыя пляны на малюнках няўдалыя і часта незразумелыя дзецям. Вось, што самі дзеці гавораць аб іх: у апавяданьне „Жук" (№11, ст. 13-я) на малюнак, які павінен паказаць расстрэл партызана белапалякамі, дзеці кажуць-„чырвонаармейцы б'юць мядзьведзя". №9, 12-я стар. малюнак да апавяданьня-„Працоўныя мазалі" дзеці сказалі-„змываюць сажу". №9, старонка 13-ая—„Стаяць у вадзе" і г. д.

Малюнкі, якія даны на тэксьце, часта зацямняюць словы і не даюць магчымасьці чытаць. Напр., №11, стар. 15-я.

Схэматычнасьць некаторых малюнкаў даведзена да абсурду (гл., як намалёваны ногі чырвонасьцяжніка, №6, ст.6-ая). У арт. „Расьце Савецкая краіна" (№12, ст. 7) на ілюстрацыю дзеці кажуць „Елачка з неба валіцца".

Заслугоўвае ўвагі малюнак да арт. „Як зьвяроў лавілі" (№7, ст. 25-я), на які дзеці ўпорна кажуць, што „каля вялікана гарбуза чэрці ў карагод скачуць", а малюнак на 15-й стр. унізе, №1 за 1932 г. зусім незразумелы ні дзяцям, ні дарослым. Такія заўвагі дзяцей аб малюнках зьяўляюцца вельмі каштоўным матар'ялам для таго, каб сказаць, што справа малюнку для дзяцей ў нас не стаіць на належнай вышыні, а ў некаторых выпадках зьяўляецца нават шкоднай.

Трэба адзначыць, што фота-здымкі ў гэтым напрамку шмат больш здавальняюць нашага маладога чытача.

У гэтым напрамку мы адзначылі толькі асабліва кідаючыяся ў вочы недахопы, не закранаючы пытаньня стылю малюнкаў. Лічым, што гэта спэцыяльнае пытаньне якое ў хуткім часе трэба разгледзець.

Вокладкі ў большасьці сваёй здавальняючыя, а да нумараў 2, 7, 8, 9 вельмі ўдалыя. Трэба лічыць няўдалай вокладку да №1, якая зусім не адпавядае зьместу нумару. У вокладцы да №4 дзеці маюць выгляд „галавасьцікаў", а не тыпічных савецкіх дзяцей. Наогул-жа трэба было-б часьцей даваць вокладку на цёмным фоне.

Нарэшце, трэба адзначыць, што, прызнаючы цэлы шэраг недахопаў (якія рэдакцыя павінна прыняць пад увагу), мы лічым, што часопісь зьяўляецца каштоўным дапаможнікам у працы школы і дашкольных установ, і многія настаўнікі і дашкольныя працаўнікі шырока карыстаюцца ім у сваёй працы як для чытаньня, так і для гутарак з дзецьмі. Трэба, каб наша акцябрацкая часопісь заняла сталае месца ў палітэхнічнай школе і зьяўлялася-б адным з неабходных дапаможнікаў у выхаваўчай адукацыйнай працы. Кожная кляса павінна ў дастатковай колькасьці мець і шырока выкарыстоўваць часопісь.

Для таго, каб зрабіць „Іскры Ільліча" больш блізкай і цікавай ў нашай працы, трэба, каб маса асьветнікаў, сумесна з пісьменьнікамі, прынялі ўдзел у палепшаньні і пашырэньні дзіцячага часопісу.

Брыгада настаўнікаў: *Савенак, Шафаловіч, Луцэвіч, Ліхачова, Пінус*

**Н. А. Канстантынаў і Э. Б. Гвініева.**

## Становішча сельскага настаўніка ў Англіі.

Англія прадстаўляе сабою ярка выражаны тып індустрыяльнай краіны; прадукцыя сельскае гаспадаркі складае ня больш 10 проц. агульнага нацыянальнага даходу; палова ўсяго самадзейнага насельніцтва прыпадае на апрацоўваючую і горную прамысловасьць, і толькі каля 1/3 на сельскую гаспадарку.

Ня гледзячы на такую параўнаўча нязначную ўдзельную вагу сельскае гаспадаркі ў агульнай эканоміцы краіны у апошнія гады аддаецца параўнаўча большая ўвага пастаноўцы школьнае справы на вёсцы. І гэта зразумела: усё-ж звыш 1/3 самастойнага насельніцтва жыве па-за горадам і павінна быць адпаведным

чынам падрыхтавана для выкананьня абавязкаў „вялікабрытанскага грамадзяніна“.

У параўнаўча нядаўнім мінулым становішча пэдагогаў ангельскай вясковай школы было наўрад ці лепш настаўніка старой расійскай земскай школы.

Ня гледзячы на тое, што яшчэ згодна законам 1862—1870 гг. у кожнай вёсцы павінна быць адкрыта школа, настаўнікаў не маглі нават забясьпечыць памяшканьнем, гадавая пэнсія настаўніка складала ледзь 25 фунтаў (250 р.). Афіцыйны пункт гледжаньня катэгарычна абвяргаў неабходнасьць якіх-бы та ні было паляпшэньняў на падставе тых меркаваньняў, што „настаўнік не павінен знаходзіцца ў лепшых умовах, чым яго вучні, ён павінен на сваім прыкладзе паказаць ім, як трэба мірыцца з недастачамі“.

Зусім ясна, што пры такой устаноўцы не шмат знаходзілася людзей, якія жадалі пайсьці па шляху вясковага настаўніка, вельмі часта на гэтую работу ішлі або няўдачнікі, або выпадковыя людзі. Толькі ўжо ў апошні час, калі лёзунг „назад да зямлі“ стаў паўтарацца ўсё часьцей і часьцей прадстаўнікамі асобных груп ангельскай буржуазіі ўрад і грамадзкія арганізацыі заняліся рэформай сельскіх школ і пытаньнем падрыхтоўкі пэдагагічных кадраў для іх.

Афіцыйныя матар'ялы надаюць асаблівае значэньне самой асобе настаўніка, бо „толькі дысцыплінаваны і дзейны чалавек можа зразумець фізычныя і разумовыя патрэбы дзяцей“. У сувязі з падвышэньнем сваёй соцыяльнай значымасьці, настаўнік натуральна атрымаў і некаторы грашовы эквівалент, у сярэднім заработная плата яго ў параўнаньні з XIX стагодзьдзем узрасла на 10—15 фунтаў (100—115 р.) у год; паўафыцыйная крыніца канстатуе, што „падвышэньне пэнсіі пэдагогам вызваліла яго да вядомай ступені ад беднасьці“. Адсюль вывад: „энэргія настаўніка вызвалілася, палепшаньне матар'яльнага становішча ўліло новы струмень бадзёрасьці ў работу“... Канечна, мы не староньнікі афіцыйнага аптымізму і павінны канстатаваць, што ня гледзячы на прыгожыя словы, матар'яльнае становішча сельскага настаўніка ў Англіі дрэннае.

Сучасныя кадры настаўнікаў у большасьці выпадкаў атрымалі падрыхтоўку ў парадку так званага „вучнёўства“, пачаўшы з 13 гадовага ўзросту сваю кар'еру. Рабочы дзень гэтых „пэдагогаў“ пачынаўся з 7 гадзін 30 хвіл. раніцы лекцыямі, якія вёў загадчык школы, ад 9 гадзін да 4 гадз. 30 хвілін дня, яны прымалі ўдзел у агульных занятках, па вечарох-жа ім ледзь хапала часу на тое, каб як-небудзь падрыхтавацца да наступнага дню. Судзячы па дзеньніках і асабістых запісках, дзьве думкі заўсёды прасьледвалі гэтых юных пэдагогаў: ці ўдасца ім здаць ім здаць суровыя дзяржаўныя экзамены для атрыманьня настаўніцкага званьня і ці здолеюць яны падрыхтавацца да наступнай лекцыі.

Па свайму сацыяльнаму складу гэтыя юныя настаўнікі [1]) былі дзецьмі дробных фэрмэраў, гандляроў, рамесьнікаў. Далёка незаўсёды, канечна, іх спакушала ў будучым бязрадасная кар'ера пэдагога вельмі многія выбіралі сабе іншыя, больш хлебныя прафэсіі, напрыклад, пасады прычэтнікаў і інш. „служыцеляў“ царквы.

Частка настаўнікаў па лініі праходжаньня „вучнёўства“ атрымала дадатковую адукацыю ў каледжах, або цэнтральных навучальных установах. Умовы вучобы там былі значна лепшыя, кіраўнікі мелі спэцыяльную падрыхтоўку, таму кваліфікацыя скончыўшых гэтыя навучальныя ўстановы значна вышэй, у большасьці выпадкаў яны займаюць пасады загадчыкаў школамі 1-й ступені.

Згодна існуючага палажэньня, атрымаўшых лепшую падрыхтоўку выкладчыкаў прыцягваюць да работ на летніх курсах, лекцыях і г. д. Ад іх таксама патрабуецца цяпер правядзеньне актыўных мэтадаў выкладаньня, кіраўніцтва ўсім пэдагагічным калектывам і г. д. Між патрабаваньнем і магчымасьцю іх выкананьня атрымліваецца вялікі разрыў. Вельмі часта ў мэтах выкананьня намечанага звыш пляну радавая школа пера-

[1]) Гэта былі і дзяўчыны і юнакі.

ходзіць на становішча павышанага тыпу; выкладчыкі і кіруючы склад застаецца ранейшым.

У рэзультаце атрымліваецца толькі фармальная зьмена назвы, якая дае падвышэньне заработнае платы настаўнікам, па сутнасьці-ж усё застаецца па старому, бо пэдагагічныя кадры ня могуць і ня ўмеюць справіцца са справай.

Для атрыманьня найлепшых рэзультатаў камітэты па асьвеце графстваў у цэлым радзе выпадкаў вымушаны назначаць новых кіраўнікоў школ, але гэтага, канечна, мала; мясцовыя камітэты арганізуюць спэцыяльныя дыскусійныя курсы па найбольш вострых пэдагагічных пытаньнях, наладжваюць лекцыі, выдаюць брашуры; усе навучальныя пляны, складзеныя загадчыкам школы, абмяркоўваюцца сумесна з інструктарамі і экспэртам і зацьвярджаюцца камітэтам па асьвеце.

Новыя кадры выкладчыкаў у большасьці сваёй папаўняюцца з асяродзьдзя гарадзкой дробнай буржуазіі, а таксама з асяродзьдзя серадняцкага вясковага насельніцтва. Вучні з вёскі праводзяць рад лет у горадзе і амаль зусім забываюць сваю радзіму. Тым больш, што большасьць настаўніцкіх каледжаў накіроўваюць слухачоў на практыку толькі ў гарадзкія школы.

Цікава адзначыць, што адзін з тэарэтыкаў школьнай справы ў Англіі (Эжбі) лічыць адмоўным момантам тое, што „матацыклеткі і аўтамібілі даюць магчымачьць пакідаць вёску ў пошуках забаў, і таму многім з выкладчыкаў не ўдаецца пазнаць прыгожасьці вясковага жыцьця“.

Найменш кваліфікаванай групай у сельскай школе зьяўляецца так званы дапаможны пэдагагічны пэрсанал, якога налічваецца па ўсёй Англіі прыблізна каля 8 тысяч (з якіх 7 тысяч ці каля таго працуюць у сельскіх школах). Асноўная падрыхтоўка, якую маюць гэтыя асобы, дае ім права праводзіць прышчапленьне воспы дзецям і наглядаць за іх фізычным разьвіцьцём. У цяперашні час лічыцца, што на работу дапаможнага пэдагагічнага пэрсаналу неабходна накіроўваць дзяўчын, якія фактычна выконваюць абавязкі нянек пры маленькіх рабятах пад наглядам настаўнікаў. Заработная плата такой памочніцы настаўніка выключна нізкая і значна ніжэй пражытачнага мінімума дарослага чалавека.

У Англійскай пэдагагічнай прэсе адзначаюць, што supplementary Teacher [1]) зарабляюць звычайна менш простай хатняй работніцы, а таму яны павінны або весьці жабрацкае жыцьцё, або шукаць дадатковага прыработку.

У большасьці выпадкаў пасады supplementary Teacher займаюць дзяўчыны да 30 гадовага ўзросту. Лічыцца амаль што недапушчальным, каб яны, будучы на службе, маглі выйсьці замуж, бо калі, гэта і ня прызнана не маральным з англійскага пункту гледжаньня, дык ва ўсякім выпадку ўстаноўлена, што брак перашкаджае рабоце. Калі наогул становішча пэдагагічнага пэрсаналу ў сельскіх школах у Англіі няважнае, дык становішча supplementary Teacher нават па афіцыйных крыніцах жахлівае. Натуральна, што на гэтыя пасады ідуць асобы без падрыхтоўкі, а буржуазныя пэдагогі з вышыні сваёй велічы так ацэньваюць гэтых працаўніц: „даволі цяжка патрабаваць ад жанчыны, якая па прычыне галечы ня можа падтрымліваць чыстаты і парадку ва ўласным доме, каб яна прышчэплівала дзецям адпаведныя навыкі“.

Афіцыйныя колы лічаць, штонеабходна паставіць на чале кожнае школы асобу з вышэйшай асьветай, або скончыўшую пэдагагічныя 3-гадовыя курсы, якая спэцыялізавалася па філёсофіі і псыхолёгіі і вывучала, галоўным чынам, псыхолёгію дзіцячага ўзросту. Загадчык школай з такой кваліфікацыяй павінен весьці заняткі па суботах з неатрымаўшымі дыплёму выкладчыкамі сваёй школы па псыхолёгіі і англійскай мове, прычым асобы, прайшоўшыя на працягу некаторага часу суботнія курсы, павінны выяжджаць у іншыя школы для паведамленьня там таго, што яны вынесьлі з сваіх заняткаў. Трэба, аднак, заўважыць,

---

[1]) Памочніцы настаўніка.

што суботнія курсы ня носяць абавязковага характару. Найбольш уязьвімым месцам у рабоце не атрымаўшых дыплёму настаўніц зьяўляецца іх недастатковая падрыхтаванасьць па прыродазнаўству.

З урадавага пункту гледжаньня гэта тлумачыцца тым, што „дзяўчына ня так рана вызваляецца ад хатніх абавязкаў, як мужчыны, і дзяўчына, якая блукае па лясох і палёх, зьяўляецца выключэньнем“. Існуючая школа 2-й ступені ніякай дапамогі аказаць ня можа. Лічыцца, што галоўная перавага выкладчыкаў, якія не атрымалі дыплёму,—гэта іх маладасьць, але афіцыйныя крыніцы скардзяцца на тое, што няма большых цяжкасьцяй для загадчыка школай, чым работа з „неадукаванымі і нявопытнымі, не атрымаўшымі дыплёмаў выкладчыкамі“. Ён павінен затрачваць вялізарную энэргію як на вывучаньне іх асновам пэдагагічнага працэсу, так і на выпраўленьне іх памылак. Лічыцца, аднак, што з гэтага кадру настаўнікаў могуць быць выпрацаваны добрыя пэдагогі, калі яны ня зьвяжуць сябе шлюбам. Для працягу заняткаў гэта катэгорыя настаўнікаў паступае ў Training College [1]) і па сканчэньні атрымліваюць дыплём. Трэба канстатаваць, што папасьці ў College справа далёка ня лёгкая, бо туды імкнуцца асобы з непараўнальна больш высокай падрыхтоўкай, чым настаўнікі, якія не атрымалі дыплёму; апрача таго, як мы гэта адзначылі вышэй, матар'яльнае становішча пэдагогаў выключна дрэннае, а таму ў іх няма магчымасьці падрыхтавацца, як належыць, да экзамэнаў.

У некаторых каледжах практыкуецца нават даволі адкрыты (адзначаны ў літаратуры) пратэкцыянізм: загадчыкі часта пакідаюць некалькі вакансій, якія запаўняюць толькі па рэкамэндацыі аўтарытэтных асоб.

Павялічэньне сеткі сельскіх школ за апошнія гады патрабуе большай колькасьці пэдагогаў сярэдняй кваліфікацыі для загадваньня пачатковымі школамі. У гэтых адносінах Training College ня могуць даць патрэбных кадраў. Трэба адзначыць, што, ня гледзячы на тое, што імпэрыялістычная вайна і недахоп мужчын высунулі жанчыну-выкладчыцу амаль на адзін узровень з мужчынай, усё-ж традыцыйны пункт гледжаньня англійскай буржуазіі ў цэлым радзе выпадкаў перамагае: у спэцыяльных работах гаворыцца, што „жанчыны не зьяўляюцца найбольш рашучымі і сьмелымі індывідуумамі ў пэдагагічным працэсе. Тып мужчыны-выкладчыка, які прызначае сябе на работу на вёсцы, цальней (?!) Для жанчын паўстае пытаньне аб адзіноцтве“.

Гэта традыцыя яшчэ ў большай ступені абцяжае падбор кантынгэнту вучняў з асяродзьдзя сельскіх настаўнікаў для Training College, хоць такіх каледжаў у Англіі пакуль толькі два.

З 1913-14 году было ўведзена асобае палажэньне аб падрыхтоўцы настаўнікаў з дзіцячага ўзросту Pupil-Teacher System [1]).

Па гэтым палажэньні rural pupil-Teacher [2]) атрымлівае перавагу перад сваімі аднагодкамі для працягваньня адукацыі. Толькі палову свайго рабочага часу ён траціць на заняткі з вучнямі, у астатні час ён інструктуецца загадчыкам школы. Departamental Commitee [3]) правёў спэцыяльную анкету аб мэтазгоднасьці такога способу падрыхтоўкі. З гэтай анкетай атрымліваўся вывад, што, ня гледзячы на тое, што часам з асяродзьдзя pupil-Teacher'аў выходзяць добрыя выкладчыкі, усё-ж гэты спосаб не зьяўляецца здавальняючым, бо надзвычайна цяжка бывае спалучаць праходжаньне вельмі грамозкай праграмы з інтэнсыўнай работай у якасьці выкладчыка; з другога боку, гэтыя дзеці-настаўнікі зьяўляюцца па свайму сацыяльнаму складу дзецьмі дрэнна забясьпечаных фэрмэраў, якія ня могуць адмовіцца ад дапамогі сваіх сыноў і дачок у гаспадарцы.

Мэтадычная падрыхтоўка, pupil-Teacher'а таксама недастаткова здавальняючая, загадчыкі школ заўсёды аддаюць перавагу асобам, скончыўшым „Second

[1]) Каледж па падрыхтоўцы пэдкадраў.

[1]) Пэдагагічнае вучнёўства.

[2]) Праходзячы пэдагагічнае вучнёўства для сельскай школы.

[3]) Урадавы Камітэт.

School Education [2]), якія апрача агульных і спэцыяльных пэдагагічных прадметаў, праходзяць маляваньне, сьпевы і гульні.

Прайшоўшы курс pupil-Teacher пасьля здачы спэцыяльных экзамэнаў, атрымлівае права на заняцьце пасады дапаможнага пэдагагічнага пэрсаналу і на далейшае паступленьне ў Training College, прычым у экзамэнацыйных праграмах зьвяртаецца асаблівая ўвага на рамествы і садоўніцтва.

Наогул кажучы, можна лічыць, што правядзеньне ў жыцьцё Pupil-Teacher-System не ўдалася. Новых кадраў гэтая сыстэма не дала, і ў цяперашні час яна ўжо амаль не практыкуецца.

Апошні час афіцыйныя інстанцыі паставілі перад сабою задачу падрыхтаваць спэцыяльны тып сельскага пэдагога для школ усіх ступеняў. Такі выкладчык павінен быць добра знаём з умовамі жыцьця ўсёй акругі, павінен мець асноўныя зьвесткі па сельскай гаспадарцы і ў мэтах дэталёвага вывучэньня мясцовасьці, дзе ён будзе працаваць, быць знаёмым з архэалёгіяй і геаграфіяй, адным словам, мець краязнаўчую падрыхтоўку.

У асноўным вясковыя настаўнікі падрыхтоўваюцца згодна апошняму праекту па двух лініях: першая—навучальна-мэтадычная і другая—сацыяльна-эканамічная. Найбольш буйныя цэнтральныя школы 2-й ступені павінны мець у сваім складзе выкладчыкаў, прайшоўшых навукі па абодвых гэтых разьдзелах. Як чатырохгадовыя курсы па падрыхтоўцы, так і кароткатэрміновыя курсы па падрыхтоўцы павінны будавацца таксама па гэтых спэцыяльнасьцях. Найбольшы інтарэс прадстаўляе схэма праграмы па сацыяльна-эканамічных разьдзелах, якую мы ніжэй падаем.

I. Гісторыя вёскі (rural history): а) агульны курс з 1066 году па 1750 г.; гісторыя вёскі і сельскае гаспадаркі, гісторыя закону аб бедных; б) падрабязнае вывучэньне пэрыяду з 1750 г. па 1914 г.; асаблівая ўвага павінна быць аддана сучаснаму спосабу вядзеньня і арганізацыі гаспадаркі; в) гісторыя народнай асьветы вёскі, пачынаючы з сярэднявякоўя; асьвета ў сярэднія вякі, у эпоху рэфармацыі і пасьля рэфармацыі, царква і школьны настаўнік, XVIII стагодзьдзе—дабрачынныя школы, прыватныя школы, школы нацыянальна-брытанскіх і замежных таварыстваў; мэтады і праграмы заняткаў з 1870 г. па 1927 г.; пастаноўка ў сельскіх школах Англіі, пастаноўка выкладаньня за граніцай; мэтодыка заняткаў з вясковымі падлеткамі.

II. Эканамічныя асновы сельскае гаспадаркі (rural economics) разьвіцьцё і сучасны стан сельскае гаспадаркі; тыпы гаспадаркі; буйнае ўладаньне, уладаньне ў сямейнай уласнасьці, дробнае земляўладаньне; даходнае гароднцтва, заканадаўства аб дробных земляўладаньнях; хлебныя законы; камеры па нармаваньню заработнае платы ў сельскай гаспадарцы саматужная вытворчасьць; с.-г. каапэрацыя ў Англіі і за граніцай; вясковыя пабудовы; бюджэт зямляроба.

III. Мясцовае самакіраўніцтва, кампэтэнцыя царкоўных саветаў, кампэтэнцыя раённых сельскіх саветаў.

IV. Сацыяльныя навукі. Спэцыяльнае вывучэньне асобных вёсак, або якога-небудзь раёну, разьмешчанага блізка ад гандлёвага цэнтру. Вывучэньне ідзе па наступных лініях: будаўніцтва, разьмеры ўладаньня, сады, дробнае земляўладаньне, дзейнасьць рэлігійных вобшчын, жаночых арганізацый, брытанскага легіёну, спартыўных клюбаў, вясковага вобшчынага савету, клюбу маладых фэрмэраў і г. д. Вывучэньне шляхоў зносін і транспарту, вясковых забаў, бюджэту зямляробаў, фізычнае выхаваньне дзяцей ў школе. Гісторыя вёскі: біяграфія найбольш выдатных дзеячоў данага раёну.

V. Практычнае навучаньне такарнаму рамяству і гародніцтву. Практыка ўлетку на фэрме, або ў дробнай гаспадарцы. Практычныя заняткі па батаніцы, або прыродазнаўству.

Ацэньваючы ўвогуле гэтую праграм у трэба сказаць, што яе асноўная задача зводзіцца да наступнага: падрыхтаваць

[1]) Спэцыяльныя пэдагагічныя школы падвышанага тыпу.

выкладчыка, добра знаёмага з умовамі жыцьця капіталістычнай вёскі і ў той жа час праваднікa палітычнай лініі пануючай клясы—буржуазіі.

Трэба адзначыць, што па гэтай праграме выкладчыкі толькі яшчэ рыхтуюцца і прыступяць да пэдагагічнай работы не раней чым праз год-два. Кадры існуючых зараз выкладчыкаў, ня гледзячы на тое, што афіцыйныя крыніцы імі ганарацца, наўрад ці можна прызнаць здавальняючымі нават з пункту гледжаньня англійскіх умоў.

Паміж выкладчыкамі заўважаюцца дзьве рэзкія групоўкі па іх маёмасным становішчы. З аднаго боку, частка выкладчыкаў, якая мае некаторыя пабочныя даходы ад сваёй гаспадаркі, або іншых крыніц і дзякуючы гэтаму можа падвышаць сваю кваліфікацыю, наведваць вячэрнія курсы, клюбы і г. д.; другая група выкладчыкаў існуе толькі на пэнсію, загружана цяжкімі штодзённымі работамі і па сваёй кваліфікацыі, у лепшым выпадку, астаецца прыкладна ў тым жа становішчы, у якім яна была па сканчэньні сваёй адукацыі год 20-30 таму назад.

Ня гледзячы ні на якія цыркуляры і распараджэньні, гэтыя выкладчыкі ўжываюць мэтодыку і спосабы навучаньня ледзь не з сярэднявечча. Ёсьць школы, у якіх вучні 3-х клясаў адразу ў адзін голас чытаюць цяжкія словы па складах, або завучваюць нараспеў табліцу множаньня. Ёсьць школы, дзе для лепшага запамінаньня вучнем цяжкіх месц, настаўнік б'е яго лінейкай па ілбу.

Апошні час ужыты спробы арганізаваць групавыя лекцыі для падвышэньня кваліфікацыі сельскіх настаўнікаў, гэтыя лекцыі вядуцца іншымі выкладчыкамі, больш высокай кваліфікацыі.

У плян заняткаў уключаны наступныя прадметы: англійская мова, арытмэтыка мясцовая гісторыя, мясцовая геаграфія, асновы сельгаснавук, рамествы, гародніцтва, становішча жанчын на вёсцы. Апрача гэтага, афіцыйныя арганізацыі імкнуцца дабіцца таго, каб кожная мясцовая вобшчына мела сваю выкладчыцкую асацыяцыю, якая магла-б выдаваць свой орган.

Усе гэтыя спробы і мерапрыемствы канечна, могуць даць станоўчыя рэзультаты, калі яны будуць праводзіцца плянава і калі пад усё гэта будзе падведзена шырокая матар'яльная база. Пакуль гэта няма, усё застаецца толькі на паперы.

Заканчваючы наш кароткі агляд становішча пэдагагічных кадраў у англійскай вёсцы, мы павінны канстатаваць наступнае: 1) матар'яльнае становішча вясковага настаўніка—дрэннае: 2) пэдагагічная падрыхтоўка яго нездавальняючая.

Лёзунг „назад да зямлі", абвешчаны асобнымі групамі англійскай буржуазіі пасьля імпэрыялістычнай вайны ня меў у Англіі такога значэньня, як у іншых краінах Заходняй Эўропы. Для буржуазіі наскрозь індустрыяльнай краіны асноўнае быў горад і фабрыка, а ня вёска.

Лендлорду, аматару паркаў і добрага паляваньня на аленяў, у дастатковай меры абыякае пытаньне адукацыі дзяцей 2-3 сямей яго фэрмэраў, але ён павінен быць пераконаны ў тым, што настаўнік палітычна надзейны, што на лекцыях ён будзе ўнушаць страх да караля, царквы, законаў і лорда. А падрыхтоўка пэдагогаў ідзе якраз у гэтым напрамку, таму „шчасьлівая старая Англія і задаволена імі. „Жыцьцё поўнае інтарэсу, адкрываецца перад вясковым настаўнікам, калі ён толькі захоча выкарыстаць усе магчымасьці, якія забясьпечваюць гэты інтарэс", такая афіцыйная сэнтэнцыя, якая рэзка разыходзіцца з сапраўднасьцю.

С. Д. Губэр.

# Аб неабходнасьці спрашчэньня польскага правапісу

Усё шырэй разьвіваючаяся культурная рэвалюцыя высоўвае перад пралетарыятам СССР усё новыя задачы.

Культурнае будаўніцтва польскіх працоўных мас ідзе нага ў нагу з агульным разьвіцьцём пралетарскай культуры ў СССР, стварае ў супроцьлегласьць фашыстоўская Польшча новую польскую культуру—сацыялістычную па зьместу і нацыянальную по форме.

Адным з чарговых заданьняў, якое высоўвае наша пралетарская культура, зьяўляецца неабходнасяць спрашчэньня польскага правапісу, які мае шмат налётаў, уласьцівых капіталістычнаму ладу і яго навуцы. Спадчына гэта, атрыманая пасьля капіталістычнага ладу і выкрасьленая з расійскага правапісу пасьля Кастрычнікавай рэвалюцыі, павінна быць з коранем вырвана з польскага правапісу

Рэформа правапісу, ідучая ў напрамку яго спрашчэньня, сустракаецца з шалёным супраціўленьнем буржуазнае клясы, якая прэтэндуе на становішча манапаліста ў галіне навукі, у прыватнасьці ў галіне аўладаньня мастацтвам мовы і правапісу.

Рэформа правапісу—гэта ня толькі справа скарачэньня часу, неабходнага для аўладаньня тэхнікай пісаньня,—гэта справа і палітычнага значэньня. Рэформа правапісу—гэта справа хутчэйшага ўцягненьня працоўнага насельніцтва да актыўнага грамадзка-палітычнага жыцьця, уцягненьня яго да актыўнага ўдзелу ў будаўніцтве сацыялізму.

Рэформа правапісу мае таксама эканамічнае значэньне, яна зэканоміць паліграфічнай прамысьловаесьці сродкі і упросьціць друкарскую работу.

Мы ведаем, што рэакцыйныя элемэнты, на чале з кулацтвам і ксяндзамі, уздымуць шалёнае выцьцё супроць рэформы польскага правапісу, як гэта яны робяць заўсёды, калі справа ідзе аб абароне буржуазнай культуры і ўсяго таго, што ёй спрыяе, у барацьбе супроць інтарэсаў пралетарскай культуры, супроць інтарэсаў пралетарыяту.

Яны будуць гаварыць аб барбарызацыі польскай культуры, аб калечаньні шляхетнай польскае мовы і г. д, але аб тым, што з году ў год тысячы сялянскіх і рабочых дзяцей, тысячы рабочых і калгасьнікаў у школах для няпісьменных і малапісьменных, у рабфаках і г. д. калечаць сябе зусім непатрэбным чынам памятаць на нікому напатрэбныя o-u,vz-z, ch-h і г. д., аб тым гэтыя „прыяцелі" народу прамаўчаць, маючы такую думку, што навука наогул для простанародзьдзя зьяўляецца залішнім роскашам.

Аднак, маючы на ўвазе інтарэсы польскіх працоўных мас у СССР, мы павінны пасьлядоўна імкнуцца да спрашчэньня польскага правапісу. Мы ўпэўнены таксама ў тым, што гэтае мерапрыемства завяюе нам шырокія сымпатыі польскага пралетарыяту фашысцкай Польшчы, які пад ўціскам польскага капіталу, у пагоні за кавалкам хлеба, ня мае магчымасьці аўладаць арыстакратычным польскім правапісам, якога прытрымліваецца буржуазная Польшча.

Чым больш правапіс набліжаны да мовы—тым лепш. Чым больш мы яго спрасьцім, чым больш мы прыстасуем яго да патрэб рабочага і працоўнага селяніна, тым большая будзе наша заслуга для пралетарскай культуры.

Спрашчэньне правапісу бясспрэчна скароціць пэрыяд ліквідацыі няпісьменасьці і малапісьменнасьці, чым значна паскорыцца актыўны ўдзел польскага працоўнага насельніцтва ў будаўніцтве сацыялізму. З вышэйсказанага відаць, што гэта праблема перастае быць вузка-цэхавай акадэмічнай праблемай *і набывае* клясава-палітычнае значэньне. Праблема гэта дыктуецца новымі сацыяльна-эканамічнымі адносінамі сёньняшняга дню.

Кастрычнікавая рэвалюцыя шырока адчыніла шырокі шлях ўсім народам Савецкага саюзу да аўладаньня навукай, адчыніла ім дзьверы школ, фабзавучаў,

рабфакаў, тэхнікумаў, універсыстэтаў. Тысячы працоўных палякаў — дзяцей, падлеткаў з году ў год вучацца па старому правапісу. Рэформа правапісу ў значнай ступені палегчыць засваеньне навукі і адчыніць шырокія магчымасьці хуткага культурнага разьвіцьця польскага працоўнага насельніцтва.

У эпоху сацыялістычнай рэканструкцыі нашае гаспадаркі, у эпоху вялікага ўздыму энтузыязму рабочых мас, справа эканамічнага рацыянальнага скарыстаньня часу, які затрачваецца на тэхнічныя навыкі (правапіс) набывае ўжо не тэхнічнае, а палітычнае значэньне.

З вышэйпаданага вынікае, што справа спрашчэньня правапісу—гэта справа паскарэньня ліквідацыі няпісьменасьці і малапісьменнасьці

Дыскусія над спрашчэньнем польскага правапісу ўзьнікла ў нас ужо даўно. У мінулым годзе яна зноў аднавілася.

У жніўні мессцы 1931 г. Усесаюзны зьезд польскіх пралетарскіх пісьменьнікаў у Менску прыняў пастанову, ідучую ў напрамку зьнішчэньня ó-u, rz-z у графіцы у польскім правапісу. Але, на жаль, далейшых вінікаў пастановы зьезду ня было. Неабходна паставіць гэтую справу на парадку дню.

Праблема зьмены правапісу з тэмы дыскусіі паміж вузкім кругам некаторых асоб павінна перарасьці ў актуальную праблему сёньняшняга дню. Вядучы барацьбу з „лявацкімі“ заскокамі некаторых таварышоў ў гэтым пытаньні, а таксама выкрываючы нацыянальных—апартуністаў, выходзілі з трацкістскай устаноўкі, што пралетарская культура на польскім вучастку СССР можа быць пабудавана толькі пасьля пралетарскай рэвалюцыі Польшчы, лічычых, што спрашчэньне правапісу можа быць праведзена толькі пасьля рэвалюцыі ў Польшчы, па-бальшавіцку прыступім да рэалізацыі гэтае справы.

Справа спрашчэньня польскага правапісу павінна знайсьці шырокі водгук сярод камсамолу, пралетарскага студэнцтва настаўніцтва, рабочых друкароў і ўсёй пралетарскай грамадзкасьці. Школьная моладзь павінна таксама прыняць удзел у гэтай справе.

Справа гэта павінна быць шырока абгаворана ва ўсіх польскіх навуковых установах, школах, школах для малапісьменых, настаўніцкіх калектывах, пэдтэхнікумах і г. д. як Беларусі, так і ўсіх асяродзьдзяў польскага насельніцтва СССР Масквы, Ленінграда, Украіны і г.д.

Справа спрашчэньня польскага правапісу павінна стаць на парадку дню Наркамасьветы БССР. Польсэктар Беларускай акадэміі навук павінен заняцца навуковай апрацоўкай гэтага пытаньня. Гэта пытаньне павінна быць вырашана бальшавіцімі тэмпамі.

**Пецольд.**

# Тэмп вывучэньня замежных моў у інстытутах асьпірантуры.

Цыркуляр Наркамасьветы РСФСР за №601/3011 ад 30 лістападу 1930 г. прадстаўляе запатрабаваньні ня толькі якаснага, але і колькаснага характару да выкладаньня замежных моў у інстытутах асьпірантуры. Калі названы цыркуляр ставіць канчатковаю мэтаю выкладаньня замежных моў прачытаньне 6 старонак спэцыяльнага тэксту за адну гадзіну (запатрабаваньне, між іншым, вельмі высокае), дык прыйдзецца строга вызначыць і нармаваць работы, пачынаючы з першых крокаў засваеньня мовы асьпірантамі. Гэтая нататка і займаецца пытаньнем: якім тэмпам павінна праходзіць работа з самага яе пачатку для таго, каб па магчымасьці бліжэй падыйсьці да вызначанай у цыркуляры мэты.

Пакідаючы тыя тры этапы, якія вызначае цыркуляр і дапасоўваючы іх да навучальных гадоў [1]) вызначым спачатку тэмп працы па засваеньню мэханічнага чытаньня замежнага тэксту.

## Тэмп ауладаньня мэханічным чытаньнем

Асноўная перадумова для дасягненьня канчатковай пасьпяховасьці — дастатковая хуткасьць мэханічнага чытаньня.

У пачатку працы па замежнай мове вызначаецца колькасьць складоў, якая прачытваецца асьпірантам у сэкунду [2]).

Тут вызначаецца выключна мэханічная хуткасьць чытаньня, а не разуменьне тэксту. Для дакладнасьці праверкі можна ацаніць ступень яснасьці вымаўленьня ці ў крайнім выпадку адзначыць паніжаную дакладнасьць, асабліва пры вялікай хуткасьці. Гэткія праверкі праводзяцца ў вызначаных адрэзках часу, прычым для ўнікненьня выпадковасьці можна зрабіць некалькі праверак і ўзяць сярэдні паказчык, які пры нармальным ходзе агульнае працы па мове павінен заўсёды ўзрастаць. У канцы першага году заняткаў хуткасьць дакладнага мэханічнага чытаньня павінна дайсьці да трох складоў у сэкунду [3]). Гэты паказчык гарантуе пасьпяховае далейшае разьвіцьцё хуткасьці чытаньня на наступных ступенях вывучэньня замежнай мовы.

---

[1]) а) Талковае чытаньне ў межах падручніка, пераклад бяз слоўніку прапрацаванага тэксту, адказы ма пытаньні і кантрольны пераклад з расійскай новы на замежную.

б) Пераклад з дапамогаю слоўніка спэцыяльнага тэксту сярэдняй цяжкасьці. Адказы вусныя і пісьмовыя з прачытанага

с) Дасягнуць зазначанай хуткасьці ў чытаньні і разуменьні навуковай кнігі.

[2]) Падлічаецца сярэдняя колькасьць складоў у радку і прапануецца асьпіранту чытаць дакладна адну хвіліну. Потым вылічаецца колькасьць складоў, якая прыпадае на адну сэкунду. Трэба выбраць тэкст незнаёмы, але лёгкі.

[3]) Паданыя ў артыкуле лічбовыя паказчыкі лічацца ў інстытуце асьпірантуры пры БАН абавязковымі і для нямецкае мовы.

## Тэмп працы над слоўнікам.

Тут таксама ў пачатку вызначаецца аб'ём лексікону, якім асьпірант уладае ў пачатку заняткаў. Для гэтай мэты, ці складаецца сьпіс слоў, прыкладна ў 2 тысячы, ці бярэцца запас слоў першапачатковага падручніка, які гарантуе сваім зьместам выгадны для далейшае працы аб'ём і падбор лексікону і азначаецца ў процантах той запас слоў, які мае даны асьпірант. [1])

Надалей пэрыядычна гэтыя праверкі паўтараюцца, і фіксуецца сярэдні процант веданьня слоў. Калі меркаваць, што асьпірант зьяўлецца ў інстытут з багажом прыблізна ў 1000 слоў, дык колькасьць вакабул да канца першага году навучаньня трэба давесьці да двух, двух с паловай тысяч слоў, што забясьпечвае набыцьцё гэткага веданьня слоў, які дазваляе з невялікай затратай часу на слоўнікавыя даведкі чытаць з патрабуемай цыркулярам хуткасьцю замежны тэкст.

Дакладнае веданьне слова, вызванае з сувязі вуснае ці пісьмовае мовы, бясспрэчна дапамагае хуткасьці чытаньня перакладу замежнага тэксту. Сапраўды, у вуснай мове і ў тэксьце вельмі часта патрабуецца абсалютнае веданьне значэньня слова. Пры вусных практыкаваньнях з гэтай прычыны і лічыцца мэтазгодным задаваць шэраг пытаньняў, якія лёгічна між сабою ня зьвязаны. Паралельна з гэтым і трэба, зразумела разьвіваць камбінуючыя здольнасьці, гэта значыць устанаўленьне значэньня слова з кантэксту ці з сувязнай вуснай мовы.

## Тэмп засваеньня граматычных форм і конструкцыйных частак мовы.

Да пачатку працы па замежнай мове высьвятляецца таксама з лічбоваю дакладнасьцю запас граматычных форм і кон-

---

[1]) Ляпей за ўсё скласьці групы вакабул, прыкладна ў 10, прапанаваць вусна ці пісьмова адну ці некалькі груп, у выглядзе падрыхтоўчай працы можна карыстацца наводзячымі пытаньнямі ці паўтарэньнямі слоў у сувязнай мове, ці ў кантэксьце, але для канчатковага зафіксаваньня ведаў вакабул у процантах патрабуецца дакладна вельмі хуткі пераклад даных вакабул.

струкцыйных частак мовы, якімі ўладае асьпірант. Часьць граматычных форм зьяўляецца таксама і канструкцыйнымі часткамі мовы [1]). Для гэтай мэты складаюцца табліцы граматычных форм, якія датычацца спражэньня дзеяслова, скланеньня назоўнікаў, прыметнікаў, займеньнікаў. Сюды таксама адносяцца і асноўныя формы моцных дзеясловаў (па нямецкай ці ангельскай мовах) і няправільных дзеясловаў (па ўсіх трох новых мовах).

Да канца першага году заняткаў трэба лічыць абавязковым 100-проц. азначэньне ўсіх форм назоўнікаў, прымет, займеньнікаў і ўсіх дзеяслоўных форм. Пэрыядычныя праверкі павінны выявіць заўсёды прырост ведаў граматычных форм у процантах.

## Тэмп перакладу.

На першай ступені трэба з самага пачатку зьвярнуць увагу таксама і на колькасны бок. Захоўваючы дакладнасьць працы) яснае і правільнае вымаўленьня, дасканальнасьць перакладу), трэба імкнуцца да максымальнага аб'ёму чытаньня і перакладу перапрацаванага і падрыхтаванага тэксту пры пэрыядычных паўтарэньнях цэльных разьдзелаў падручніка.

Пасьля ўводзін у працу пры карыстаньні агульным лексіконам пераходзяць да перакладу незнаёмага тэксту, спачатку лёгкага, з дакладным зафіксаваньнем патрачанага на падрыхтоўку данага матар'ялу часу. Далейшая вусная праверка, якая ня ідзе ў лік часу, павінна выявіць якасьць перакладу. Калі пры гэтым высьвятляецца яўнае неразуменьне ці істотныя няправільнасьці ў перакладзе, тады, зразумела, атрыманы паказчык часу зьяўляецца нерэальным Наогул для атрыманьня паказчыка тэмпу перакладу на даным этапе вывучэньня мовы рэкамэндуецца рабіць некалькі праверак для атрыманьня сярэдняга паказчыка. У канцы другой ступені (другога году заняткаў) хуткасьць перакладу тэксту сярэдняй цяжкасьці павінна дасягнуць 2-х старонак у гадзіну.

Гэтая праца і прарабляецца над тэкстам па спэцыяльнасьці з гэткім разьлікам, каб асьпірант у канцы курсу (на 3-м годзе) наблізіўся да вызначанай ў цыркуляры нормы. Аўтар гэтай заметкі лічыць, што чытаньні шасьці старонак тэксту па спэцыяльнасьці зьяўляецца максымумам, які можа быць дасягнуты толькі ў выключна спрыяючых выпадках. Правядзеньне адпаведных праверак лёгка зьдзейсьняецца на апошняй ступені працы, якая носіць кансультацыйны характар.

Для дакладнасьці і яснасьці працы было-б пажадана апрацваць слоўнікавыя сьпісы па спэц яльнасьці, веданьне якога лічылася-б абавязковым для асьпіранта данае спэцыяльнасьці, Гэтае заданьне ня лёгкае, але пры супрацоўніцтве спэцыяліста з выкладчыкам новых моў яно можа быць вырашана, каб унесьці яснасьць і дакладнасьць у працу асьпіранта пры засваеньні вызначанага запасу слоў.

Калі пакінуць у баку разьвіцьцё вуснае мовы, дзя чаго трэба адпрацаваць спэспэцыяльнага плян заняткаў, дык атрымаецца наступная схэма, згодна якой і павінна пры захоўваньні тэмпаў праводзіцца праца асьпіранта.

## Нормы для пераходу.

а) З малодшага курсу на сярэдні. хуткасьць чытаньня 3 склады ў сэкунду, уменьне азначыць усе формы назоўнікаў, прыйметнікаў, займеньнікаў, усіх дзеяслоўных форм (за выключэньнем запасу слоў прыблізна 2-2 $^{1}/_{2}$ тыс. хуткасьць перакладу незнаёмага тэксту сярэдняй цяжкасьці—дзьве старонкі ў гадзіну.

б) З сярэдняга курсу на старэйшы; хуткасьць чытаньня 4-6 складоў у сэкунду, закончанае ўладаньне ўсімі

[1]) Граматычныя формы зьяўляюцца, зразумела, і канструкцыйнымі часткамі мовы. Да канструкцыйных частак трэба аднесьці таксама ўсе займеньнік! прыназоўнікі, злучнікі. Гл. Л. В. Шчэрба. „Як трэба вывучаць замежныя мовы", стар. 54. (Хто павінен шукаць у слоўніку ці ў граматыцы розныя элемэнты, той ня можа самастойна чытаць кнігі).

конструкцыйнымі часткам мовы. Лексіскон прыблізна 4 тыс. слоў. Хуткасьць перакладу—3-4 стар. у гадзіну.

в) Пры заканчэньні курсу: веданьне асноўнага лексыкону па спэцыяльнасьці. Мінімальная хуткасьць пераводу твораў па спэцыяльнасьці—4 старонкі.

Дакладнае цыфравое азначэньне прасоўваньня асьпіранта ў галіне замежнае мовы, якое фіксуецца ў спэцыяльна для гэтае мэты складзенай асабовай картцы асьпіранта па вывучэньні замежнае мовы павінна быць агалошана ці на адпаведных нарадах, ці ў насьценгазэце, ці ў габінэце замежных моў,—гэткія лічбовыя азначэньні зьяўляюцца магутным стымулам, як для самога асьпіранта, таксама і для выкладчыка. Тады зьнікае хісткасьць, якая да гэтага часу была вельмі характэрнай для працы па замежных мовах, і атрымаецца рэальная база для зьдзейсьненьня сацспаборніцтва пры вывучэньні замежных моў.

# ХРОНІКА

## РЭЗАЛЮЦЫЯ IX ЗЬЕЗДУ ПРАЦАЎНІКОЎ АСЬВЕТЫ.

### Рэзалюцыя па справаздачнаму дакладу тав. Эстрына аб працы ЦК працасьветы.

Заслухаўшы і абмеркаваўшы справаздачу аб працы ЦК Саюзу. Працасьветы, IX Усебеларускі зьезд Саюзу працаўнікоў асьветы знаходзіць палітычную лінію ЦК Саюзу правільнай і адабрае праробленую ім работу за справаздачны час.

1. Пралетарыят СССР, пад кіраўніцтвам УсеКП(б), у абвостранай барацьбе з клясавымі ворагамі і іх агентурай правым, прадстаўляючым галоўную небясьпеку на даным этапе, і „левым" апартунізмам, а таксама з прымірэнцтвам да іх, дасягнуў вялізарнейшых посьпехаў у справе сацыялістычнай індустрыялізацыі краіны і калектывізацыі с. г., у справе ліквідацыі на аснове суцэльнай калектывізацыі, кулацтва як клясы і выкарчоўваньня карэньняў капіталізму. У выніку гэтых посьпехаў, на аснове выкананьня дырэктыў XVI партзьезду і пасьледуючых рашэньняў партыі, пытаньне „хто каго" ужо вырашана ў карысьць сацыялізму, як у прамысловасьці, гэтак і ў с/г, адбываецца ўсё большае палепшаньне ўмоў жыцьця рабочай клясы і ўсіх працоўных СССР. На гэтай аснове буйнымі тэмпамі разьвіваецца ў краіне Саветаў культурная рэвалюцыя, і ўтвараецца на базе правільнага ажыцьцяўленьня ленінскай нацыянальнай палітыкі, у працэсе абвостранай барацьбы з праяўленьнямі вялікадзяржаўнага шавінізму, як галоўнай небясьпекі, і мясцовага нацыяналізму, росквіт нацыянальных па форме і сацыялістычных па зьместу культур народаў СССР.

Вялізарнейшыя пабеды сацыялізму ў СССР асабліва адзначаюцца тым фактам, што ў краінах капіталізму, ва ўмовах загніваньня пачаўшагася ўсеагульнага крызісу ўсёй капіталістычнай сыстэмы нябачаны эканамічны крызіс прывёў к страшэннаму беспрацоўю, якім ахоплена ўжо звыш 40-мільёнаў пралетарыяту; самыя шырокая масы рабочае клясы і ўсіх працоўных перажываюць у краінах капіталізму вялізарнейшыя зьдзекі і жабрацтва і зьяўляюцца ахвярамі з боку ўсё больш фашызуючагася капіталістычнага рэжыму, які, падтрымліваемы сацыял-фашыстамі, рыхтуецца да новай міравой бойкі, рыхтуецца к ваеннаму нападу супроць СССР. У гэтых умовах масы рабочае клясы і працоўнага насельніцтва ўсё больш пераконваюцца ў здрадніцкай ролі сацыял-фашысцкага 2-га інтэрнацыяналу, ўсё больш яднаюцца пад чырвоным Ленінскім сьцягам Камінтэрну, і ў умовах назраваючага рэвалюцыйнага крызісу мабілізуюць свае сілы на абарону СССР, на барацьбу з усей сыстэмай капіталістычнай эксплёатацыі, на барацьбу за пралетарскую рэвалюцыю ва ўсім сьвеце.

2. Працуючы пад кіраўніцтвам ЦК УсеКП(б), цьвёрда і рашуча праводзячы генэральную лінію партыі, ЦК Саюзу мабілізоўваў шырокія масы асьветнікаў, іх энэргію і ініцыятыву на барацьбу за культурную рэвалюцыю, за усеагульнае навучаньне, за палітэхнізацыю школы, на аснове гістарычнай пастановы ЦК УсеКП(б) аб пачатковай і сярэдняй школе.

3. Упаўне пасьпяховае выкананьне пляну ўсеагульнага навучаньня па СССР,

з ахватам начальнай і сярэдняй школай 20 мільёнаў дзяцей, ліквідацыі няпісьменнасьці ў 1931 г. сярод 18 мільёнаў чал., у тым ліку ў значнай частцы, у парадку грамадзкай работы членаў саюзу, актыўная барацьба саюзу за падрыхтоўку пэдкадраў, за палітэхнізм і камуністычнае выхаваньне (вылучэньне з 2000 актыву ўдарнікаў па складаньню новых падручнікаў, актыўная праверка падрыхтоўкі да навучальнага году і г. д.)— сьведчаць аб значных зрухах у працы саюзу тварам да вытворчасьці. ЦК саюзу, дапусьціўшы раней асобныя памылкі „лявацкага“ тыпу („школа-цэх завода“— у рэзалюцыі V пленуму ЦК па дакладу НКА РСФСР), прыняў актыўны ўдзел у барацьбе за перабудову праграм на аснове пастаноў ЦК УсеКП(б) аб школе і мае пэўныя заслугі ў справе барацьбы з „лявацкім“ лёгкадумным мэтадычным пражэкцерствам і перш за ўсе з спробамі пакласьці ў аснову школьнай работы мэтад праектаў, выцякаючы з антыленінскай тэорыі адміраньня школы.

Зараз ЦК саюзу і ўсяму саюзу цалнам неабходна сасрадаточыць увагу на хутчэйшым сканчэньні распрацоўкі новых праграм і іх поўным правядзеньні ў выкладаньне, узмацніць работу па арганізацыі рабочых пакояў і майстэрань пры школах, па наладжваньню работы паказальных школ, па садзейнічаньню органам НКАсьветы ў падборы інструктарскага складу з лепшых настаўнікаў ударнікаў і па забесьпячэньню шырокай мэтадычнай дапамогі настаўніку, па палепшаньню якасьці падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі пэдкадраў, каб такім шляхам дабіцца рашучага падвышэньня якасьці работы школы ў адпаведнасьці з пастановай ЦК УсеКП(б) аб школе.

4. Праводзячы барацьбу за пэдагагічныя кадры, ЦК саюзу завострываў увагу на пытаньні падвышэньня кваліфікацыі пэдагагічнага пэрсаналу, аднак ЦК саюзу не дастаткова правёў работу, каб дабіцца значных зрухаў у справе складаньня належных умоў для работы асьветнікаў па падвышэньню свае кваліфікацыі і ў справе наладжваньня і падвышэньня якасьці завочнай пэдадукацыі, маючай вялізарнейшае значэньне з пункту гледжаньня вырашэньня задачы ўладаньня ўсім настаўніцтвам СССР марксысцка-ленінскай тэорыяй у пэдагогіцы, на аснове ўладаньня мэтадалёгіяй марксызму-ленінізму дыялектычнага матэрыялізму.

Высоўваючы гэту задачу перад ЦК саюзу, зьезд падкрэсьлівае неабходнасьць узмацненьня барьцьбы за чыстату марксысцка-ленінскай тэорыі як у пэдагогіцы, гэтак ў і іншых галінах тэарытычнага фронту і зьявішчамі гнілога лібэралізму ў адносінах контррэвалюцыйнага трацкізму і інш. антыленінскімі тэорыямі, на аснове паказаньняў у гістарычным пісьме тав. Сталіна ў рэдакцыю часопісу „Пралетарская рэвалюцыя“.

5. У адлічча ад старога апартуністычнага кіраўніцтва ЦК саюзу да VII зьезду Саюзу, кіраўніцтва саюзу пасьля VII зьезду перабудоўвае працу саюзу ў адпаведнасьці з задачамі разгорнутага сацыялістычнага наступу, што выразілася ў разгортваньні сацспаборніцтва і ўдарніцтва, арганізацыі культпаходаў, згрупаваньні ўвагі і актыўнасьці саюзу навакол пытаньняў сацыялістычнай перабудовы вёскі і ліквідацыі кулацтва як класы на аснове суцэльнай калектывізацыі. Перабудова саюзнай работы на аснове яшчэ больш шырокага ўцягненьня дабраахвотнага актыву і перанясеньня цэнтра цяжкасьці ўсей прафсаюзнай работы ў нізавое зьвяно, павінна зараз мець асноўнай сваей задачай і асноўным зьместам барацьбу за шэсьць умоў т. Сталіна, якія яшчэ не дастаткова поўна і актыўна рэалізуюцца на фронце народнай асьветы і падрыхтоўкі кадраў.

6. Зьезд адзначае вялікую работу, праведзеную газэтай „ЗКП“ у барацьбе з усякімі выкрыўленьнямі ў галіне школьнай палітыкі, работу па мабілізацыі мас асьветнікаў на выкананьне гістарычнай пастановы ЦК УсеКП(б) аб пачатковай і сярэдняй школе, работу па выпраўленьню дапушчаных раней газэтай „лявацкіх“ загібаў, у той жа час лічыць неабходным у далейшым узмацніць сваю працу па асьвятленьню ўсей практычнай работы працаўнікоў асьветы на старонках газэты, большай папулярызацыі работы лепшых культасьветных устаноў, лепшых арганізацый саюзу, пастаноўкі належнага абмену вопытам,

разгортваючы крытыку і самакрытыку ў шэрагах саюзу, мабілізуючы масы асьветнікаў на барацьбу з усякімі адхіленьнямі ад генэральнай лініі партыі пытаньняў сацбудаўніцтва.

7. Адзначаюы шэраг дасягненьняў ЦК саюзу ў справе барацьбы за ленінскія адносіны к настаўніку, а таксама па палепшаньню матар'яльна-бытавога становішча членаў саюзу, зьезд падкрэсьлівае, што дырэктыва партыі і ўраду аб матар'яльна-бытавым абслугоўваньні настаўніцтва і. у асаблівасьці, аб забесьпячэньні, далёка яшчэ ня поўнасьцю рэалізавана на мясцох і што рашучая барацьба з усімі выпадкамі парушэньняў гэтых дырэктыў зьяўляецца важнейшай баявой задачай кожнай арганізацыі саюзу, ад ЦК саюзу да нізавога зьвяна.

Зьезд поўнасьцю адабрае мерапрыемства Цэкпроса па ўвядзенью дыфэрэнцыраванай аплаты ў масавай школе і лічыць неабходным распаўсюджваньне дыфэрэнцыраванай сыстэмы зарплаты на ўсе катэгорыі і групы працаўнікоў асьветы.

Зьезд адзначае, што ЦК саюзу ня сумеў дабіцца дастатковага паляпшэньня матар'яльна-бытавых умоў групы тэхнічных працаўнікоў. Цэкпрос у далейшым павінен разгарнуць работу па палепшаньню матар'яльна-бытавых умоў і гэтай групы асьветнікаў, роўна як і працаўнікоў дашкольных і палітасьвет працаўнікоў.

Адзначая рост дамоў адпачынку і санаторна-курортнага абслугоўваньня, зьезд лічыць неабходным далейшае паскарэньне гэтага росту, шляхам павялічэньня колькасьці месц для асьветнікаў у дамох адпачынку і санаторыях Соцстраха, павялічэньня колькасьці месц у Д/А Цэкпроса, арганізацыі новага будаўніцтва Д/А і санаторый. Зьезд прапануе Цэкпросу зьвярнуць увагу на арганізацыю дзіцячых пляцовак і на ўсямернае палепшаньне матар'яльнага бытавога становішча настаўніцы-мацеры, шляхам арганізацыі дзіцячых ясьляў, ачагоў і інш.

8. Зьезд з здавальненьнем адзначае разгортваньне работы Цэкпроса па дапамозе арганізацыям нацрэспублікі і абласьцей (пасылка брыгад, практыка шэфства, нарады на мясцох і г. д.), у той-жа час зьезд лічыць, што работа саюзу ў справе барацьбы за ленінскую нацпалітыку павінна быць значна ўзмоцнена. Зьезд падкрэсьлівае, што работа па інтэрнацыянальнаму выхаваньню масы членаў саюзу разгорнута далёка не дастаткова.

9. Адзначаючы работу Цэкпроса ўнутры Саюзу па барацьбе на два франты, з праваапартуністычнымі адхіленьнямі, як з галоўнай небясьпекай і з „лявацкімі" заскокамі, выразіўшуюся ў прыватнасьці ў роспуску шэрагаў саюзных органаў за праваапартуністычную практыку, зьезд лічыць, што, ва ўмовах перажываемага моманту, неабходна яшчэ большае ўзмацненьне бальшавіцкай пільнасьці і яшчэ больш рашучая барацьба як з усякага роду праявамі правага апартунізму, зьяўляючыміся галоўнай небясьпекай, так і з „лева"-апартуністычнымі выкрыўленьнямі. Саюз павінен мабілізаваць на гэтую барацьбу увесь свой актыў і ўсю масу асьветнікаў.

Зьезд адзначае як ненармальнае зьявішча—скарачэньне сеткі ДПА і ліквідацыю інтэрнатаў пры ДПА і лічыць неабходным далейшае павялічэньне ўвагі к рабоце ДПА, ператварэньне іх у цэнтры падвышэньня вытворчай кваліфікацыі асьветнікаў, у цэнтры палітасьветпрацы і прапаганды марксысцка-ленінскай тэорыі сярод асьветніцкіх мас.

Адначасова зьезд ставіць задачу сыстэматычнай работы па падвышэньню культурнага і пэдагагічнага ўзроўня тэхнічнага пэрсаналу школ і культустаноў.

10. Зьезд высоўвае перад ЦК саюзу задачу большага разгортваньня і большай увагі да пытаньняў арганізацыі масавых экскурсій асьветнікаў.

Адзначаючы далёка недастатковыя вынікі работы Цэкпроса па лініі палітасьвет устаноў, зьезд прапануе дабіцца ў далейшым карэннага палепшаньня работы ўсей палітасьветсеткі, з узмацненьнем яе матар'яльнай базы, лічачы неабходным заваструць увагу на тым, каб палітасьветпрацаўнікі замацоўваліся на працы на больш працяглыя тэрміны.

11. Улічваючы задачы бягучага навучальнага году і выходзячы з адзначаных

недахопаў работы ЦК саюзу, зьезд лічыць неабходным правесьці наступныя мерапрыемствы:

У ажыцьцяўленьне шасьці ўмоў т. Сталіна і пастановы ЦК УсеКП(б) аб пачатковай і сярэдняй школе разгортваць далейшы паварот саюзу тварам да вытворчасьці, мабілізоўваючы масы асьветнікаў на палепшаньне якасьці работы, на выкананьне вучэбна-вытворчага пляну школы і палітасьвет-устаноў. У якасьці цэнтральнага пытаньня ўсей работы саюзу павінна разглядацца пытаньне аб хутчэйшым узмацненьні якасьці работы школ шляхам ліквідацыі іх карэннага недахопу, які месьціцца ў тым, што як сказана ў пастанове ЦК Усе КП(б) ад 5/IX-31 г., „обучение в школе не дает достаточного об'ема общеобразовательных знаний и неудовлетворительно разрешает задачи подготовки для техникумов и для высшей школы вполне грамотных людей, хорошо владеющих асновами наук (физика, химия, математика, родной язык, география и др.)“.

Выходзячы з гэтага, саюз павінен мабілізаваць усю масу асьветнікаў на рашучую барацьбу з правымі і „левымі“ загібамі ў справе культурнай рэвалюцыі, дабіваючыся сапраўдна ленінскай вучобы ў школе і ліквідуючы абязьлічку, разгортваючы шырокі рух на сацыялістычна-сьвядомыя адносіны к труду, замацоўвае форму працы вытворчых нарад ва ўсей сыстэме народнай асьветы, як асноўнае зьвяно ў павароце саюзных мас тварам да вытворчасьці.

12. На раду з разгортваньнем мэтадаў сацспаборніцтва і ўдарніцтва, дабіцца арганізацыі абмена вопытам для ўзьняцьця гэтых форм руху на вышэйшую ступень, арганізоўваючы зьлёт ударнікаў, абвяшчаючы ў друку, практыкуючы прэміраваньне і паказ работы лепшых ударнікаў ва усей краіне, дабіваючыся прадстаўленьня лепшых асьветнікаў-ударнікаў к вышэйшым формам пралетарскай узнагароды (ордэн Леніна, ордэн працоўнага Сьцягу), зьвяртаючы асаблівую ўвагу на работу новымі мэтадамі на навастройках.

13. Прасоўваючыся далей па шляху плянавай працы, па якому Цэкпрос мае пэўныя дасягненьні, і разгортваючы сваю работу па кіраўніцтву ўсімі арганізацыямі нашага саюзу, Цэкпрос павінен ажыцьцёвіць у гэтай сваей рабоце паказаньні т. Сталіна аб кіраўніцтве па-новаму, узмацніўшы сваё апэрацыйнае кіраўніцтва і жывую сувязь праз выезды на месцы, пасылку брыгад і інш. з рэспубліканскімі, краявымі, абласнымі і асобна-важнымі раённымі арганізацыямі, разам з гэтым паляпшаючы і пашыраючы працу па падрыхтоўцы профкадраў.

Асаблівая ўвага ў працы Цэкпроса і ўсіх арганізацый саюзу павінна быць удзелена праверцы выкананьню. Аднасова неабходна хутчэй прасоўваць на месцы ўсе дырэктыўныя і інструкцыйныя матар'ялы.

Павінна быць узмоцнена кіраўніцтва як Цэкпроса, так ЦП край і воблпроса, у адносінах работы існуючых у нашым саюзе сэкцый СНП, пралетстуд, сэкцый ФЗУ і дашкольнай сэкцыі.

У адносінах працы пралетстуда Цэкпрос павінен дабівацца паляпшэньня матар'яльна-бытавога становішча студэнцтва ПэдВНУ і П/Т. У той жа час неабходна цясьней зьвязацца з сэктарамі кадраў ведамств і гаспадарчых органаў па пытаньнях падрыхтоўкі кадраў і паляпшэньня матар'яльна-бытавога становішча студэнцтва.

Зьезд прапануе Цэкпросу прыняць усе мэры па паглыбленьню ў саюзныя масы шырокай пралетарскай самакрытыкі, рашуча змагаючыся з зажымшчыкамі самакрытыкі.

Зьезд упэўнен, што ЦК Саюзу Працасьветы ў сваей далейшай рабоце, пад кіраўніцтвам Ленінскага ЦК УсеКП(б), будзе цьвёрда па бальшавіцку кіраваць усей саюзнай арганізацыяй і падыме на вышэйшую ступень барацьбу мільённай арміі асьветнікаў за рэалізацыю пастановы ЦК УсеКП(б) аб пачатковай і сярэдняй школе.

# Рэзалюцыя па дакладу ЦП саюзу працасьветы БССР.

Заслухаўшы і абгаварыўшы справаздачны даклад аб працы ЦП за пэрыяд з 8-га па 9 Усебеларускі зьезд працаўнікоў асьветы 9 зьезд ухваляе агульна-палітычную лінію працы ЦП, якая выцякала з пастаноў XVI-га зьезду УсеКП(б) і XIII зьезду КПБ і практычную працу лічыць здавальняючай.

1. Рабочая кляса і працоўная маса савецкага саюзу пад выпрабаваным кіраўніцтвам Камуністычнай партыі і яе Ленінскага ЦК дабілася вялізарнейшых посьпехаў на ўсіх франтох сацыялістычнага будаўніцтва: індустрыялізацыі нашай краіны, рэканструкцыі сельскай гаспадаркі і ліквідацыі кулацтва як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі.

2. Нашы посьпехі сацыялістычнага будаўніцтва асабліва вызначаюцца на фоне адбываючыхся працэсаў у капіталістычных дзяржавах, якія характарызуюць упадак капіталістычнай экономікі. Капіталістычны сьвет перажывае нячувалы эканамічны крызіс: абанкрочваюцца банкі, скарочваецца вытворчасьць, з кожным днём пагоршваецца становішча рабочае клясы, расьце беспрацоўе. Сацыял-дэмакратыя стала прамой зброяй удушэньня рабочай клясы.

3. Посьпехі сацыялістычнага будаўніцтва ў БССР забесьпечылі шырокае разгортваньне будаўніцтва культуры нацыянальнай па форме і сацыялістычнай па зьместу; пэрыяд дыктатуры пралетарыяту і будаўніцтва сацыялізму ёсьць пэрыяд росквіту нацыянальных культур сацыялістычных па зьместу і нацыянальных па форме. Толькі пры ўмове разьвіцьця нацыянальных культур мажліва прыцягнуць пасапраўднаму адсталыя нацыянальнасьці да справы сацыялістычнага будаўніцтва, выхаваць масу ў духу інтэрнацыяналізму і ўзмацніць дыктатуру пралетарыяту“ (Сталін).

4. Посьпехаў сацыялістычнага будаўніцтва партыя, рабочая кляса дабілісяа ва ўмовах надзвычайна абвостранай клясавай барацьбы, даючы руйнуючы адпор шалёнаму змаганьню клясава-варожых нам элемэнтаў: кулаку, нэпману і яго агентуры, апартуністам усіх масьцей у радох партыі і прафсаюзах.

5. ЦП саюзу пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі мабілізоўвала асьветніцкую масу на барацьбу за ажыцьцяўленьне ленінскай нацыянальнай палітыкі, на барацьбу супроць праяў і вылазак вялікадзяржаўнага расейскага шавінізму, як галоўнай небясьпекі (Крукаў, Зосімава, Чудзін і інш.), беларускага контррэвалюцыйнага нацыянал-дэмакратызму (Баліцкі, Ігнатоўскі, Лёсік, Некрашэвіч і інш.), антысэмітызму і шавінізму ўсіх колераў, даючы руйнуючы адпор усякім адхіленьням ад палітыкі партыі ў нацыянальным пытаньні. Адначасова зьезд адзначае, што паасобныя саюзныя арганізацыі ня здолелі своечасова ўзьняць пытаньне барацьбы за ленінскую нацыянальную палітыку на прынцыпова-палітычную вышыню, не змагаліся з праявамі клясава-варожых нам элемэнтаў (МК БАН МК Койданава, МК НКА), за што былі распушчаны.

Зьезд патрабуе ад ЦП і ўсіх саюзных арганізацый яшчэ больш узмацніць працу па інтэрнацыянальнаму выхаваньню мас. мабілізуючы іх на поўнае ажыцьцяўленьне пастаноў партыі па нацыянальнаму пытаньню; яшчэ больш рашуча змагацца з усякімі спробамі падарваць пасьпяховае будаўніцтва культуры нацыянальнай па форме і сацыялістычнай па зьместу.

6. Гістарычны ліст тав. Сталіна ў часопісь „Пралетарская Рэвалюцыя“—„Аб некаторых пытаньнях гісторыі бальшавізму“ ставіць перад усімі саюзнымі арганізацыямі як надзвычайна палітычнай важнасьці задачу узмацненьня барацьбы з гнілым лібэралізмам на тэаратычным фронце, са ўсякімі спробамі прасоўваньня кантрабандай контррэвалюцыйных тэорый, якія адмаўляюць кіруючую ролю бальшавізму ў міжнародным рэвалюцыйным руху. Зьезд даручае ЦП і ўсім саюзным арганізацыям распрацаваць шэраг мерапрыемстваў па мабілізацыі асьветніцкай масы на рашучую барацьбу за генэральную лінію партыі ў тэорыі, за партыйнасьць навукі, за сапраўднае камуністычнае выхаваньне ўвасёй

сыстэме народнае асьветы, уздымаючы гэтую барацьбу на прынцыпова-палітычную вышыню.

7. ЦП саюзу мабілізоўвала 30-тысячную армію асьветнікаў на пасьпяховае ажыцьцяўленьне пастаўленых партыяй і ўрадам задач на фронце сацыялістычнага будаўніцтва, на барацьбу за культурную рэвалюцыю, за пасьпяховае ажыцьцяўленьне гістарычных пастаноў ЦК УсеКП(б) і ЦК КПБ аб пачатковай і сярэдняй школе.

Зьезд адзначае вялізарнейшыя посьпехі БССР у вырашэньні задач культурнай рэвалюцыі і асабліва падкрэсьлівае посьпехі па правядзеньню ўсеагульнага навучаньня, ліквідацыі няпісьменнасьці. (Усенавуч праводзіцца на базе 4-годкі з ахопам вучняў 98,2 проц. і ў буйных прамысловых цэнтрах і прымежных раёнах на базе 7-годкі з ахопам вучняў 99,8 проц.; да 1/V БССР павінна быць ператворана ў краіну суцэльнай пісьменнасьці).

Адзначыць, што ў справе правядзеньня ўсенавучу і ліквідацыі няпісьменнасьці арміяй асьветнікаў і асабліва настаўніцтвам праведзена вялізарнейшая праца, за што ўрадам БССР на 3 Усебеларускім настаўніцкім зьезьдзе апошняе ўзнагароджана Ордэнам Працоўнага Чырвонага Штандару.

8. Пастанова ЦК УсеКП(б) падагульвае вынікі дасягненьняў пралетарскай дзяржавы ў барацьбе за пабудову палітэхнічнай школы, якая „значна пасунулася па шляху злучэньня школьнага навучаньня з вытворчаю працаю і грамадзкай работаю, дзякуючы чаму закладзены асновы перабудовы школы на базе палітэхнізацыі“ і што дасягнутыя посьпёхі ў гэтай галіне „дапамагаюць разгортваць усе больш шырока і паскорана палітэхнізацыю школы“.

Ня гледзячы на маючыяся значныя посьпехі ў справе школьнага будаўніцтва ў БССР, работа школ далёка яшчэ не адпавядае вялізарнейшым запатрабаваньням сучаснага этапу сацбудаўніцтва. „ЦК лічыць, што карэнны недахоп школы ў даны момант заключаецца ў тым, што навучаньне ў школе не дае дастатковага аб'ёму агульнаадукацыйных ведаў і нездавальняюча вырашае задачу падрыхтоўкі для тэхнікумаў і для вышэйшай школы ўпаўне пісьменных людзей, добра аўладаючых асновамі навук“.

Зьезд падкрэсьлівае, што гэты недахоп зьяўляецца асноўным і ў рабоце школ БССР. Побач з гэтымі буйнейшымі недахопамі ў справе будаўніцтва палітэхнічнай школы зьяўляецца наяўнасьць фактаў фармальнага правядзеньня палітэхнізацыі, адрыў тэорыі ад практыкі, спробы пацягнуць назад да старой славеснай школы, непадпарадкаванасьць грамадзка-вытворчай працы вучняў вучэбна-выхаваўчым мэтам школы, дзякуючы чаму „палітэхнізацыя школы набывае ў шэрагу выпадкаў фармальны характар і не падрыхтоўвае дзяцей, як усебакова разьвітых будаўнікоў сацыялізму, якія ўвязваюць тэорыю з практыкай і ўладаюць тэхнікай“.

Зьезд канстатуе, што правільна мабілізуючы масы на барацьбу з правым апартунізмам, саюзныя арганізацыі і органы Нарасьветы не разгарнулі пасьлядоўнай барацьбы з „лева“-апартуністычнымі скажэньнямі ў тэорыі і практыцы будаўніцтва школы, і ў сувязі з гэтым *мелі* месца факты асобных „лявацкіх“ устанowak (школа—цэхзаводу, школа і прадпрыемства павінны стаць адным цэлым, падпарадкаваньне навучаньня прамфінпляну прадпрыемства, зьніжэньне ролі настаўніцтва, ліквідацыя школьнага вучнёўскага самакіраўніцтва і г. д.) і распаўсюджваньне легкадумнага мэтадычнага пражэкцерства „лявацкага“ тыпу („мэтад праектаў“—масавы перавод школ на працу па гэтаму мэтаду, мэтад праектаў—„ленінскі мэтад“ і г. д.), якія знайшлі адбітак у шэрагу дакумантаў (пастановы 1-га Усебеларускага зьезду па палітэхнічнай асьвеце, канфэрэнцыі па пэдасьвеце, у паясьняльных запісках да праграм, у артыкулах і прамовах асобных адказных працаўнікоў органаў Нарасьветы і прафсаюзных арганізацый)

Орган НКАсьветы і ЦП саюзу „Каманіст. Выхаваньне“ ня здолеў разгарнуць барацьбы з „лявацкімі“ скрыўленьнямі ў тэорыі і практыцы будаўніцтва палітэхнічнай школы і дапусьціў выкарыстоўваньне асобнымі „лявацкімі“ элемэнтамі часопісу для прапаганды сваіх антыленінскіх поглядаў.

Зезд абавязвае ўсе прафарганізацыі працасьветы яшчэ больш рашуча ўзмацніць барацьбу на два франты ў справе школьнага будаўніцтва, асабліва накіроўваючы гэту барацьбу з права апартуністычнымі скажэньнямі палітыкі партыі, якія вядуць да адмаўленьня ад палітэхнізацыі школы, да спроб захаваньня старой славеснай школы, да разрыву паміж тэарытычнам навучаньнем і практыкай. Адначасова з гэтым зьезд патрабуе ўзмацненьня барацьбы з „лева“ апартуністычнымі скажэньнямі ў тэорыі і практыцы школьнага будаўніцтва, тэорыяй „адміраньня школы“, зьніжэньня ролі настаўніка, а таксама з легкадумным мэтадычным пражэкцерствам.

Посьпехі барацьбы з галоўнай небясьпекай на шляху пабудовы палітэхн. школы—з праваапартуністычнымі скажэньнямі палітыкі партыі, вядучымі да адмаўленьня ад палітэхнізацыі школы, да спробаў захаваньня старой славеснай школы, да разрыву паміж тэарытычным навучаньнем і практыкай, прадпалагае ўзмацненьне барацьбы з „лева“-апартуністычнымі скажэньнямі, з тэорыямі „адміраньня школы і зьніжэньня ролі настаўніка“.

Прапанаваць НКА і ЦП саюзу праз часопіс „Камуністычнае Выхаваньне“ разгарнуць бальшавіцкую крытыку і самакрытыку дапушчаных памылак, вядучы сыстэматычную няўхільную барацьбу супроць апартуністычных антыленінскіх скажэньняў палітыкі партыі ў галіне культурнага будаўніцтва.

Адзначаючы наліччa фактаў перагружанасьці груп вучнямі (60-75 чала), што зьніжае якасьць працы і не дае магчымасьці ліквідаваць каранны недахоп у працы школ, прапанаваць ЦП Саюзу і НКАсьветы прыняць адпаведныя мерапрыемствы па разгрузцы груп вучнямі, давёўшы колькасьць іх да устаноўленых норм.

9. Фарсыраваныя тэмпы ажыцьцяўленьня задач культурнай рэвалюцыі стварылі вялікую напружанасьць у падрыхтоўцы кадраў, асабліва пэдагагічных кадраў, якія па колькаснаму і асабліва па якаснаму складу ня могуць у дастатковай ступені задаволіць заптрабаваньняў сучаснага этапу сацыялістычнага і культурнага будаўніцтва. Гэта ставіць перад органамі НКА і прафарганізацыяй цэнтральнай задачай узмацніць тэмпы па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы асьветніцкіх кадраў, як праз сыстэму стацыянарных навучальных устаноў, гэтак і праз завочне навучаньне і кароткатэрміновыя курсы па падвышэньню кваліфікацыі.

У адпаведнасьці з пастановай ЦК УсеКП(б)аб падрыхтоўцы кадраў, „забясьпечваючых поўнасьцю задавальненьне патрэб у настаўніках пачатковай і сярэдняй школы“, НКА, ЦП саюзу і ў другой пяцігодцы пэдкадраў вылучыць рашаючыя раёны прамысловасьці і с.г., устанавіўшы для іх больш высокія паказчыкі, як-та: павялічэньне тэрмінаў курсавой падрыхтоўкі, павялічэньне запатрабаваньняў кантынгентаў сярэдняй і вышэйшай пэдагагічнай школы і кароткатэрміновых курсаў.

У другой пяцігодцы пэдкадраў, асобна распрацаваць плян разьвіцьця сярэдняй і вышэйшай пэдагагічнай школы, выходзячы з устаноўкі, што да канца 2-й пяцігодкі пакрыцьцё патрэб у пэдкадрах для пачатковай і сярэдняй школы павінна ісьці за лік асоб, маючых закончаную сярэднюю і вышэйшую пэдагагічную асьвету.

Пры плянаваньні пакрыцьця патрэб у пэдкадрах для пачатковай і сярэдняй школы праз курсавую падрыхтоўку лічыць неабходным адчыненьне гэтых курсаў, як правіла, з аднагадовым тэрмінам навучаньня, дапускаючы толькі ў выключных выпадках памяншэньне гэтага тэрміну і то ня менш як да 6 месяцаў.

10. На аснове выкананьня дырэктыў XVI зьезду усе КП (б) XIII зьезду КПБ і V пленуму ўсеЦСПС нашы саюзныя арганізацыі дасягнулі значных посьпехаў у перабудове прафработы па павароту яе „тварам да вытворчасьці“, мабілізуючы асьветніцкія масы навакол задач выкананьня прамфінпляну, калектывізацыі с.г., мабілізацыі сродкаў, перабудовы работы культасьветных устаноў у справе падняцьця якасьці іх працы, укараняючы ў штодзённай сваёй рабоце камуныстычныя мэтады працы сацспаборніцтва, ударніцтва, вытворчыя культманэўры, культэстафэты і інш.

Аднак тэмпы па перабудове саюзнай работы па павароту яе „тварам да вытворчасьці“—не дастатковы. Яшчэ жывы элемэнты апартунізму ў практычнай працы паасобных зьвеньняў нашай саюзнай арганізацыі. Няўменьне зачастую ўзглавіць ініцыятыву асьветніцкіх мас на ажыцьцяўленьне нашай работы на рашаючых вучастках (Тураўскі, Ельскі раёны), калі асьветніцкія масы ў ажыцьцяўленьні задач культурнай рэвалюцыі і гаспадарча-палітычных кампаній, праводзімых партыяй і урадам, былі без належнага кіраўніцтва і дапамогі. Рашэньне ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб школе, задачы, выцякаючыя з 6 умоў т. Сталіна патрабуюць ад саюзных арганізацый хутчэйшага завяршэньня перабудовы практыкі саюзнай работы, павароту яе „тварам да вытворчасьці“, узьнімаючы на вышэйшую ступень сацспаборніцтва і ўдарніцтва за якасьць працы культасьветных установ, вытворчыя задачы з абслугоўваньнем патрэб і паляпшэньня матар'яльна і культбытавога становішча членаў саюзу.

11. Пастаўленыя задачы ў галіне культурнага будаўніцтва патрабуюць ад усіх нашых саюзных арганізацый узмацненьня барацьбы за паляпшэньне матар'яльна-прававога становішча асьветнікаў. Партыя і савецкі ўрад па ленінску вырашае пытаньне паляпшэньня матар'яльнага становішча працаўнікоў асьветы. Асноўная маса членаў нашага саюзу (настаўніцтва і навуковыя працаўнікі) пераведзены на рабочае забесьпячэньне, бязупынна расьце зарплата ўсіх катэгорый працаўнікоў асьветы. Але ня гледзячы на гэта, зьезд адзначае, што ня ўсе нашы саюзныя арганізацыі ў дастатковай ступені змагаліся за ажыцьцяўленьне дырэктыў партыі і ўраду, што прывяло к таму, што па шэрагу раёнаў мы мелі выпадкі не-выкананьня паказаных дырэктыў і парушэньня матар'яльна-прававых норм асьветнікаў, асабліва настаўніцтва, што выявілася ў несваячасовай выдачы зарплаты, не-выкананьні дырэктыў у галіне забесьпячэньня, беспадстаўных перакідках і звальненьні, жыльлёвых умовах і г. д. (Ельск, Дуброўна, Бярэзіна).

Зьезд ставіць як адну з асноўных задач у працы саюзных арганізацыи узмацніць барацьбу за выкананьне дырэктыў партыі і ўраду ў галіне палепшаньня матар'яльна-прававога становішча ўсіх груп асьветнікаў (настаўніцтва, дашкольных, тэхнічных, палітасьветных працаўнікоў), зварочваючы асаблівую ўвагу на паляпшэньне матар'яльна-прававога становішча ўдарнікаў, асьветніцы-мацеры.

Улічваючы, што курфонд аказаў значную дапамогу ў сэнсе курортна-санаторнага лячэньня членаў саюзу і накіраваньня ў дамы адпачынку, лічыць мэтазгодным захаваньне адлічэньняў у курфонд і на далейшы час.

Улічваючы, што касы узаемадапамогі адыгрываюць значную ролю ў палепшаньні матар,яльнага становішча асьветнікаў, зьезд даручае ЦП саюзу распрацаваць шэраг канкрэтных мерапрыемстваў па узмацненьні работы кас узаемадапамогі і большаму ўцягненьню ў іх асьветніцкай масы.

12. Ухваляючы мерапрыемствы IX пленуму ЦП па дыфэрэнцыяцыі заработнай платы настаўніцтва, зьезд абавязвае ЦП распрацаваць дыфэрэнцыраваную зарплату для ўсіх катэгорый працаўнікоў культурнага фронту.

13. Адзначаючы, што культмасавая праца перабудавана не дастаткова, што яна яшчэ не адпавядае патрэбам усёўзрастаючай палітычна-вытворчай актыўнасьці мас, і што зьмест яе слаба адбівае задачу саюзу у павароце „тварам да вытворчасьці“, абавязаць усе саюзныя арганізацыі паскорыць завяршэньне перабудовы ўсей культ. працы, працы ДПА, чырвоных куткоў для пераважнага абслугоўваньня ўдарніка, зрабіць ДПА сапраўдным цэнтрам падвышэньня вытворчай і палітычнай кваліфікацыі асьветнікаў, прапаганды марсысцка-ленінскай тэорыі, праз арганізацыю пэдгабінэтаў, гурткоў марксызму і ленінізму, „тэхніка ў масы“ і інш.

Разам з гэтым зьезд даручае ЦП саюзу разгарнуць работу па ваянізацыі асьветнікаў (наладжваньне работы вайсковых гурткоў, аказаньне дапамогі ячэйкам Асавіяхіму, ахоп ваянізацыяй усіх членаў саюзу, арганізацыя пры ДАсьветы вайсковых габінэтаў і г. д.)

Адзначаючы зусім дрэннае гаспадарча-матар'яльнае становішча дамоў асьветы, чырвоных куткоў, зьезд патрабуе ад ЦП паставіць пытаньне перад ЦК саюзу і ўрадавымі органамі аб вызначэньні фінансавых сродкаў для рамонту ДПА і чырвоных куткоў і ўзмацненя іх матар'яльнай базы. Паставіць пытаньне перад ЦК саюзу і ўраду БССР аб пабудове ў г. Менску Цэнтральнага дому асьветы.

14. Адзначаючы посьпехі ў разгортваньні сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцкага руху, асабліва узьняўшагася у сувязі з гістарычнай пастановай партыі аб школе, зьезд канстатуе, што сацспаборніцтва і ўдарніцтва слаба разгорнуты на барацьбу за ліквідацыю карэннага недахопу у школе, за лепшую арганізацыю пэдагагічнага працэсу і што сацспаборніцтвам і ўдарніцтвам саюзныя арганізацыі слаба кіруюць, і не наладжаны вучот гэтай галіны работы.

Выходзячы з гэтага,зьезд прапануе усім саюзным арганізацыям наладзіць канкрэтнае, апэрацыйнае кіраўніцтва і дапамогу асьветнікам-ударнікам у іх практычнай рабоце, наладжваньню вучоту гэтай працы, прэміраваньню лепшых ударнікаў, вядучы рашучую барацьбу з лжэўдарніцтвам.

15. Зьезд даручае новаму складу ЦП тэрмінова распрацаваць новае палажэньне аб вучэбна-вытворчых нарадах у адпаведнасьці з пастановай ЦК партыі аб школе, дыфэрэнцыруючы гэтае палажэньне прыстасоўваючы да асобных тыпаў культустаноў.

Пры выпрацоўцы палажэньня неабходна пакласьці ў аснову працы вучэбна-вытворчых нарад максымальнае разгортаваньне сацспаборніцтва і ударніцтва, арганізацыю на гэтай аснове працы асьветніка ў мэтах найбольшых дасягненьняў па колькаснаму і якаснаму выкананьню вытворчага пляну культустановы.

Усім нізавым саюзным арганізацыям неадкладна прыступіць да шырокага разгортваньня працы вучэбна-вытворчых нарад і перабудовы іх працы на падставе вышэйпаказаных прынцыпаў.

16. Канстатуючы слабае яшчэ разгортваньне крытыкі і самакрытыкі ў шэрагах асьветнікаў, слабае адлюстроўваньне работы культасьветных устаноў у друку (цэнтральны, раённы, насьценгазэты), даручыць новаму складу ЦП у сваей дзейнасьці прыняць усе належныя захады да разгортаваньня дзелавой бальшавіцкай самакрытыкі асабліва па барацьбе са скажэньнямі лініі партыі як у тэорыі, так і на практыцы.

17. Як асноўную задачу уся саюзнай арганізацыі зьезд ставіць неабходнасьць дабіцца поўнага выкананьня сацыялістычнага дагавору, заключанага з Воблпросам зах. вобласьці, мабілізацыі асьветніцкай арміі на выкананьне культпляну 1931-32 навучальнага году, на пасьпяховае выкананьне задач 4-га, заключнага, году пяцігодкі.

## Рэзалюцыя па дакладу Народнага камісарыяту асьветы.

У выніку разгорнутага пасьпяховага сацыялістычнага наступленьня па ўсяму фронту, на аснове правільнага правядзеньня генэральнай лініі партыі ў абвостранай барацьбе супроць клясавага ворага і яго агентуры, правага апартунізму, галоўнай небясьпекі на данным этапе, і „левых" загібаў, у барацьбе за пралетарскую культуру, навуку, тэхніку, за новыя сацыялістычныя формы працы,- пралетарыят БССР, як частка рабочае клясы ўсяго Савецкага саюзу, пад кіраўніцтвам КП(б)Б дасягнуў рашаючых перамог на ўсіх франтох гаспадарчага і культурнага будаўніцтва.

БССР на аснове пасьлядоўнага і няўхільнага ажыцьцяўленьня ленінскай нацыянальнай палітыкі, у барацьбе супроць вялікадзяржаўнага шавінізму, як галоўнай небясьпекі, супроць контррэвалюцыйнага, беларускага нацдэмакратызму і шавінізмаў розных колераў, пясьпяхова

будуе нацыянальную па форме і сацыялістычную па зьместу культуру.

У бягучым навучальным годзе заваршаецца ператварэньне БССР у краіну суцэльнай пісьменнасьці. Скончаны ўсенавуч на базе 4-годкі, разгортваецца ўсенавуч на базе 7-годкі. Школа перабудоўваецца ў сапраўды палітэхнічную; шпарка растуць навучальныя ўстановы па падрыхтоўцы пралетарскіх кадраў.

Усе гэтыя посьпехі ўтвараюць умовы для ўзьняцьця на больш высокую ступэнь праблемы культурнае рэвалюцыі, палепшаньне якасьці работы ўсіх зьвеньняў у сыстэме нарасьветы і паскарэньня тэмпаў культурнага будаўніцтва.

Зьезд канстатуе паварот культасьветных установаў да гаспадарча-палітычных задач сацыялістычнага будаўніцтва і актыўны ўдзел перавжанай большасьці культасьветных установаў у выкананьні прамфіпляну, гаспадарчым замацаваньні калгасаў, удзел у гаспадарчых кампаніях і г. д.

Разам з гэтым зьезд адзначае, што тэмпы культурнага будаўніцтва ўсё яшчэ адстаюць ад тэмпаў сацыялістычнага будаўніцтва, ад шпаркага росту культурных запатрабаваньняў шырачэйшых працоўных мас, якасьць працы ўсіх зьвеньняў і сыстэмы нарасьветы, асабліва школы,недастатковая.

Гістарычная пастанова ЦК УсеКП(б) і пастанова ЦК КП(б)Б аб пачатковай сярэдняй школе, якія зьяўляюцца баявой праграмай разгорнутага будаўніцтва савецкай палітэхнічнай школы ў пэрыяд уступленьня СССР у сацыялізм, адзначыўшы, што заложаны асновы перабудовы школы на базе палітэхнізму, што прынцыпова стаў іншым зьмест усяе працы школы, падкрэсьлівае, што, ня гледзячы на ўсё гэта, „карэнны недахоп школы ў дадзены момант заключаецца ў тым, што навучаньне ў школе не дае дастатковага аб'ёму агульна-адукацыйных ведаў і нездавальняюча вырашае задачу падрыхтоўкі кадраў для т-маў і вышэйшай школы ў поўнай мэры пісьменных людзей, добра аўладаючых асновамі навук (фізыка, хэмія, матэматыка, родная мова, геаграфія і інш.)“, у сілу гэтага, палітэхнізацыя школы набыла ў шэрагу выпадкаў фармальны характар і не падрыхтоўвае дзяцей, як усебакова разьвітых будаўнікоў сацыялізму, увязваючых тэорыю з практыкай і аўладаючых тэхнікай“.

Зьезд адзначае, што ў культурным будаўніцтве БССР мелі месца праявы як правага, так і „левага“ ухілаў ад генэральнае лініі нашае партыі: у шэрагу прац НДІ Кам. выхаваньня, паасобных дакумэнтах НКА і ў працы шэрагу ўстаноў усіх зьвеньняў сыстэмы нар. асьветы мелі месца гэтыя памылкі: падпарадкаваньне навучаньня вытворча-грамадзкай працы, школа цэх заводу, адмаўленьне арганізацыі майстэрняў пры школах, ліквідацыя самакіраўніцтва ў школах, мэтад праектаў, як асноўны, „дыялектычны“ унівэрсальны метад масавай сярэдняй і вячэрняй школы.

Пералічаныя памылкі выплывалі з антыленінскай тэорыі адміраньня школы і фактычна вялі да яе разбурэньня.

І да гэтага яшчэ часу недастаткова ўскрыты сацыяльныя і мэтадалёгічныя карэньні ўсіх гэтых памылак, зусім недастаткова разгорнута крытыка гэтых памылак у друку, ёсьць выпадкі нежаданьня некаторых носьбітаў гэтых памылак разброіцца да канца.

Ня гледзячы на вялікую працу НКА па ачыстцы праграм, падручнікаў, літаратуры, рэпэртуару ад контррэвалюцыйнага нацдэмакратызму, да гэтага часу яшчэ існуюць праявы гнілога лібэралізму ў адносінах да ўскрыцьця памылак у падручніках, праграмах, мэтадычных лістох і інш. дакумэнтах, маюцца адхіленьні, як правага так і „левага“ парадку, ад гэнеральнай лініі ў культурным будаўніцтве.

Недастаткова разгорнута праца па ўскрыцьцю мэтадалёгічных і сацыяльных карэньняў шкодных антыленінскіх тэорый у пэдагогіцы, у працах Калашнікава, Пінкевіча, Шульгіна, Крупенінай, Ваганяна, Панкевіча і шэрагу іншых „тэарэтыкаў“.

Зьезд канстатуе, што пастанова ЦК аб пачатковай і сярэдняй школе выклікала вялікі працоўны ўздым сярод асьветнікаў, рабочых і калгасных мас на перабудову школы і ўзьняцьце якасьці яе працы, аднак, ня гледзячы на гэта і на рад паказаньняў НКА і ЦП саюзу аб перабудове школы, рэалізацыя гэтых паказаньняў не атрымала ва ўсіх зьвеньнях

сыстэмы нарасьветы належнага размаху і таму школа, да гэтага часу, ня мае яшчэ належнага пералому ў рабоце.

Галоўнейшымі прычынамі адсутнічаньня неабходнага пералому ў рабоце культасьветных устаноў зьяўляюцца:

а) Пастанова ЦК, у значнай колькасьці выпадкаў, даведзена да школ і культасьветных устаноў фармальна.

б) Школы не мабілізаваны на барацьбу з перагібамі, якія мелі месца, як у арганізацыі вучэбнага працэсу, правядзеньні палітэхнізацыі гэтак і ва ўзаемаадносінах школы з прадпрынмствам, саўгасам, калгасам і г. д.

Шэраг раёнаў не паставіў барацьбу за якасьць, ня ўзяўся за ўзьняцьце агульна адукацыйных ведаў, што зьяўляецца цэнтральнай задачай у школе, не вядзе барацьбы за дыфэрэнцыраванае канкрэтнае кіраўніцтва сыстэмай нарасьветы.

г) Мэтадычнае кіраўніцтва па ўсёй сыстэме НКА—недастатковае. Інспэктары нарасьветы амаль зусім ня бываюць у школе і абмяжоўваюцца, па сутнасьці, папяровым кіраўніцтвам, не даючы належнага мэтадычнага кіраўніцтва.

д) Гаспадарчыя раённыя і грамадзкія арганізацыі ў большасьці раёнаў пастаноў ЦК аб школе не рэалізававалі. Некаторыя раённыя арганізацыі аднесьліся апартуністычна да рэалізацыі гэтых пастаноў.

е) Сярод часткі кіруючых раённых арганізацый маецца недаацэнка культурнага будаўніцтва ў раёне, адсутнічае рэальны аналіз працы школы, пануе недаацэнка сацспаборніцтва і ўдарніцтва сярод асьветніцкіх колаў, адсутнічае заключэньне дагавароў паміж школай і саўгасам, калгасам.

ж) Слаба ідзе асьвятленьне ў друку пытаньня культурнага будаўніцтва.

Зьезд адзначае, што камплектаваньне аднагадовых і каротка-тэрміновых пэдкурсаў праходзіць вельмі марудна, дзякуючы слабай зацікаўленасьці мясцовых органаў нарасьветы і саюзных арганізацый.

Вынікі прыёму ў 1931 годзе па пэд. навучальных установах, у шэрагу выпадкаў, прайшлі нездавальняюча, што значна затрымлівае працу пралетарызацыі пэд-ВНУ і пэд.т-маў і падрыхтоўкі кадраў.

Налічча вялікага адсеву студэнцтва пэд. устаноў, як па старэйшых курсах, так і прымёму 1931 году. Увага, якая ўдзялялася да гэтуль пытаньням якаснай падрыхтоўкі пэдагога (марксыстка-ленінскае выхаваньне ў школах і аўладаньне асновамі навук і зьліквідаваньня абязьлічкі ў працы навучальных устаноў і г. д.)—недастаткова з боку ўсяе пралетарскае грамадзкасьці.

Матэрыяльная база школ (будаўніцтва новых будынкаў, рамонт існуючых, вытвар вучэбнага абсталяваньня і вучэбных прылад)—зусім не дастатковая, што зьяўляецца аднэй з перашкод палепшаньня працы школ і не задавальняе тэмпаў буйнага росту сеткі школ і школьных кантынгэнтаў.

Зьезд адзначае, што да гэтага часу ў шэрагу месц маюцца няўважлівыя адносіны да захаваньня школьных будынкаў, скарыстаньне школьных будынкаў пад установы, прыватныя кватэры і інш., што, бязумоўна, цяжка адбіваецца на справе ўвядзеньня ўсеагульнага абавязковага навучаньня.

Зьезд пастанаўляе:

1. Для сапраўднага пасьпяховага ажыцьцяўленьня ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б у школе па ўсіх зьвеньнях сыстэмы нарасьветы неабходна ва ўсей тэарытычнай і практычнай працы з асаблівай пільнасьцю, як гэта паказана ў лісьце т. Сталіна ў часопісе „Пралетарская Рэвалюцыя“,—павесьці рашучую барацьбу за чыстату марксысцка-ленінскіх тэорый ва ўсіх галінах тэарытычнага фронту, асабліва ў пэдагогіцы, за партыйнасьць пэдагогікі, за ленінскі этап у пэдагогіцы.

Зьезд падкрэсьлівае неабходнасьць аўладаньня тэорыяй марксысцка-ленінскага вучэньня асьветнікамі, рабочымі, і калгаснымі масамі. Правесьці рашучую барацьбу ва ўсёй ідэалёгічнай і практычнай працы на два франты.

а) Галоўнай небясьпекай на пэдагагічным фронце, правым ухілам ад партыйнай лініі ў культурным будаўніцтве, які адбівае ўплыў буржуазнай пэдагогікі ідэалёгічна клясава варожых сіл, адрыў пэдагогікі ад палітыкі, задач культурнага будаўніцтва ад сацыялістычнага будаўніцтва, замядленьне тэмпаў куль-

турнага будаўніцтва, славеснай школы, замена палітэхнізацыі — саматужнніцтвам. У ґаліне мэтодыкі—зварот да старай славеснай школы. Падпарадкаваньне самакіраваньня заг. школы замест штодзённага кіраўніцтва.

б) Пасьпяховае правядзеньне барацьбы з правым ухілам, як галоўнай небясьпекай на данным этапе, прадпалагае і абавязвае ўсе арганізацыі ўзмацніць барацьбу супроць леваапартуністычных скажэньняў партыйнай лініі ў культурным будаўніцтве супроць антыленінскага разуменьня ролі школы ў пэрыяд сацыялістычнага будаўніцтва, растварэньня школы ў вытворчасьці, адмаўленьня ролі настаўніцтва ў арганізацыі пэдагагічнага працэсу, ліквідацыі самакіраўніцтва ў школе і зьліяньня яго з піянэрарганізацыяй, мэтадычнае пражэкцёрства (мэтад праектаў), зьмяшаньне пэдагогікі і палітыкі, што прыводзіць фактычна да разбурэньня школы і зьніжэньня яе акасьці і фактычна падтрымлівае правых у захаваньні старой славеснай школы.

2. Адзначаючы вялікія посьпехі ў галіне пасьлядоўнай і рашучай барацьбы ўсяе пралетарскае грамадзкасьці, пад кіраўніцтвам КП(б)Б, з адхіленьнямі і скрыўленьнемі ленінскай нацпалітыкі, як у тэорыі, так і на практыцы,—зьезд абавязвае ўсіх асьветнікаў і ў далейшым праводзіць рашучую барацьбу з вялікадзяржаўным шавінізмам, беларускім нацдэмакратызмам і шавінізмамі іншых колераў.

3. Зьезд лічыць правільным адмаўленьне ад комплекснай сыстэмы і пабудову праграм па прадметнай сыстэме, на новай аснове. Комплекс, як сыстэма арганізацыі ўсяго вучэбнага і выхаваўчага працэсу ў нашай школе, не забясьпечвае выкананьня пастановы ЦК аб школе:

а) палітэхнізм, які зьяўляецца асноўнай адзнакай нашай савецкай школы, быў комплексам даведзены да фармальнага яго правядзеньня.

б) роля асноў навук не даацэньвалася, змазвалася, падпарадкавалася вывучаемай тэме асобных дысцыплін.

в) няправільна разумелася сувязь паміж тэорыяй і практыкай,—у выніку замест сыстэмы атрымоўваліся клачкаватасьць і недаацэнка тэорыі. Адмаўленьне ад комплекснае сыстэмы дапаможа пасапраўднаму выканаць пастанову ЦК аб зьнішчэньні карэннага недахопу нашае школы і ўзьняць яе работу на вышэйшую якасную ступень.

4. Зьезд лічыць правільнымі асноўныя прынцыпы новых праграм:

а) забесьпячэньне сыстэматычнасьці ў раскладзе вучэбнага матэрыялу па асновах навук, у строгай паступовасьці.

б) устанаўленьне сувязі па кожнай дысцыпліне з практыкай сацыялістычнага будаўніцтва і клясавай барацьбой, з удзелам дзяцей у сацыялістычным будаўніцтве, праводзячы гэта на такой аснове, каб уся вытворчая і грамадзкая работа вучняў была падпарадкавана вучэбным і выхаваўчым мэтам школы. Сувязь родственных прадметаў паміж сабой.

5. Для скарэйшага пераходу да работы па новых праграмах зьезд лічыць неабходным наступнае:

а) Сваячасовае забесьпячэньне праграмамі школы і шырокае абгаварэньне іх на мясцох;

б) У час зімовага адпачынку арганізацыя курсаў, канфэрэнцый па раёнах для сталай прапрацоўкі праграм і навучальных плянаў;

в) Палепшаньне работы ўзорных школ, дача НКА разам з ДВС мэтадычных паказаньняў аб зьмесьце работы гэтых школ. Забесьпячэньне мясцовымі арганізацыямі ўсіх раёнаў інструктарамі-мэтадыстамі, якія-б сапраўды дапамаглі школе перабудаваць сваю работу.

Распрацаваць мэтадычныя паказаньні аб актыўных мэтадах у школе, аб плянавасьці і вучоце работы, аб школьным самакіраваньні.

г) Даручыць ДВС праводзіць далейшую прапрацоўку праграм разам з шырокімі коламі асьветнікаў і шырокай пралетарскай грамадзкасьці.

У далейшай прапрацоўцы праграм абавязкова ўлічыць узросныя асаблівасьці школьніка, далейшай чоткасьці ідэалёгічных і мэтадалёгічных установак.

д) Зараз жа распачаць працу па пераапрацоўцы і складаньню падручнікаў. У тэрміновым парадку выдаць статуты

аб школе; выдаць сэрыю брашур аб практычнай працы ў школе і па ўскрыцьцю памылак у школьным будаўніцтве; узмацніць мэтадычнае кіраўніцтва ўстановамі, якія знаходзяцца ў падпарадкаваньні іншых ведамстваў.

У мэтах наладжаньня работы школы зьезд лічыць патрэбным вывесьці разумова-адсталых і цяжка выхоўваемых дзяцей з нармальных школ і арганізаваць для іх спэцыяльныя школы і групы.

7. Ухваляючы, у асноўным, складзены НКА плян школьнага будаўніцтва на 2-ю 5-годку, зьезд лічыць патрэбным прапрацаваць яго на шырокіх сходах рабочых, калгасьнікаў і асьветнікаў з мэтай яго ўдасканаленьня і пасьпяховага ажыцьцяўленьня.

Пры разгортваньні школьнага будаўніцтва на другую 5-годку мець на ўвазе зьмяньшэньне двухзьменнасьці заняткаў у школе і забесьпьчэньня школ такімі будынкамі, якія-б адпавядалі асноўным запатрабаваньням палітэхнічнае школы (рабочыя пакоі, лябараторыі, майстэрні, фізкультурныя залі, сталовыя і інш.), а таксама забесьпячэньне кватэрамі настаўнікаў.

8. Дабіцца выкананьня пастаноў партыі і ўраду ў пытаньні забесьпячэньня настаўнікаў прамтаварамі і прадуктамі харчаваньня. Сачыць за своечасовай выплатай зарплаты, прыцягваючы да адказнасьці вінаватых у парушэньні прававога і матэрыяльнага становішча асьветнікаў.

9. Зьезд даручае НКА ўзмацніць кіраўніцтва школьным будаўніцтвам, падводзячы матэрыяльную базу пад школу, разгортваючы працу па нармальнаму забесьпячэньню вучняў вопраткай, абуткам, сьнеданьнямі, недапушчаючы адсеву вучняў са школ.

10. НКА ўжыць усе захады да звароту на пэдпрацу настаўнікаў і асоб, якія маюць пэдасьвету, але працуюць не па спэцыяльнасьці. Арганізаваць курсавую каротка-тэрміновую падрыхтоўку для пакрыцьця недахопаў у пэдкадрах.

Зьезд лічыць неабходным па баявому разгарнуць работу па адчыненьню ўсей сеткі пэдкурсаў і 100-проц. ахопу намечаных кантынгэнтаў з тым, каб цалкам забясьпечыць выкананьне плянаў усеагульнага навучаньня на 1932 год; зьезд ухваляе ўстаноўку НКА на большую адказнасьць мясцовых органаў за гэтую справу. Пры гэтым неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу на падрыхтоўку кадраў для ўстаноў нацменшасьцяй.

11. Арганізаваць і разгарнуць шэраг мерапрыемстваў па ўзмацненьню партыйна-камсамольскага, пралетарскага і і калгаснага ядра пэд. ВНУ і тэхнікамаў, а таксама павесьці рашучую барацьбу за спыненьне адсеву. Пры гэтым зьвярнуць асаблівую ўвагу на наступнае:

а) Павялічэньне набораў і выпускаў з пэдрабфакаў, трымаючы курс на тое, каб выпускамі рабфакаў забясьпечыць ад 50 проц. да 75 проц. патрэбных да прыёму ў пэд. ВНУ кантынгэнтаў і разгортваньне падрыхтоўчых курсаў.

б) Далейшае палепшаньне матэрыяльна-бытавых ўмоў студэнцтва.

12. Разгарнуць барацьбу за ажыцьцяўлэньне 6 ўмоў тав. Сталіна па пэдагагічных навучальных установах і рашуча зьліквідаваць абязьлічку ў ліку пасьпяховасьці студэнцтва; узьняць якасьць працы навучальных устаноў пад кутом погляду падрыхтоўкі пэдагога, аўладаючага добра асновамі навук, марксысцка-ленінскай мэтадалёгіяй і палітэхнічна падрыхтаванага.

13. Зьезд абавязвае саюзныя і пралетстудаўскія арганізацыі разам з кіраўніцтвам навучальных устаноў правесьці сыстэматычную работу па барацьбе з прагуламі, зрывамі заняткаў, спазьненьнямі, як з боку выкладчыцкага складу, гэтак вучняў і студэнцтва. Таксама неабходна рашуча выжыць практыку адрыву вучняў і студэнцтва ад вучобы для работ, не зьвязаных з вучобай і не падпарадкаваных вучэбна-выхаваўчаму працэсу.

14. Паставіць на належную вышыню вучот і вывучэньне кадраў Нарасьветы як у рэспубліканскім, гэтак і раённым маштабе. Абавязаць саюзныя арганізацыі аказаць органам Нарасьветы максымальную дапамогу і садзейнічаньне.

15. Прымаючы да ведама плян НКасьветы па падвышэньню кваліфікацыі пэд. кадраў, зьезд лічыць неабходным згуртаваць увагу РайАН і Райпраўленьня саюзу на поўнае яго выкананьне. У

прыватнасьці саюзныя арганізацыі павінны зьявіцца актыўнымі вярбоўшчыкамі завочнікаў, дабіўшыся таго, каб усе працуючыя ў школах, ня маючыя вышэйшай ці сярэдняй асьветы ў працэсе школьнае працы прайшлі ў бліжэйшыя гады, у практычнай працы, курс за вышэйшую і сярэднюю школу.

16. Зьезд вітае разгортваньне працы НКА па ўвядзеньню дашкольнага ўсенавучу і заклікае ўсю асьветніцкую масу, рабочых, калгасьнікаў і ўсіх працоўных на пасьпяховае ажыцьцяўленьне гэтага мерапрыемства.

17. Падкрэсьліваючы асаблівае значэньне масавай палітасьветработы сярод рабочых, калгасьнікаў і ўсіх працоўных на дадзеным этапе сацыялістычнага будаўніцтва, зьезд лічыць неабходным пашырэньне існуючай сеткі палітасьвет устаноў і накіраваньне іх на працу па мабілізацыі мас у пасьпяховым ажыцьцяўленьні плянаў сацыялістычнага будаўніцтва, ператварэньня БССР у краіну суцэльнай пісьменнасьці, аўладаньне ўсімі працоўнымі тэхнікай.

18. Зьезд заклікае ўсё настаўніцтва на далейшую ўпартую барацьбу за ператварэньне БССР у краіну суцэльнай пісьменнасьці, дзеля чаго неабходна дабіцца ў бліжэйшы тэрмін поўнага ахопу няпісьменных і малапісьменных лікпунктамі і школамі малапісьменных, разгортваючы масавую працу па хутчэйшай рэалізацыі пазыкі „за суцэльную пісьменнасьць БССР“.

19. Зьезд даручае НКА распрацаваць шэраг мерыпрыемстваў па ажыўленьню працы музэяў, бібліятэк, асаблівую ўвагу зьвярнуўшы на выданьне дзіц. літаратуры і вывучэньне вопыту працы дзіцячых бібліятэк.

Канстатуючы, што пасьпяховае вырашэньне задач культбудаўніцтва можа быць ажыцьцёўлена толькі пры шырокім удзеле пралетарскай грамадзкасьці, шырачайшай мабілізацыі рабочых, калгасных і бядняцка-серадняцкіх мас сялянства,—зьезд лічыць неабходным абавязаць усе мясцовыя арганізацыі павесьці рашучую барацьбу за мабілізацыю пралетарскай грамадзкасьці, за перабудову працы па адзінаму пляну, за разгортваньне сацспаборніцтва і ўдарніцтва паміж асобнымі раёнамі, інспэктарыятамі, культасьветнымі ўстановамі, для ажыцьцяўленьня пастаўленых задач па культурнаму будаўніцтву, за ажыцьцяўленьне перабудовы працы ўсіх зьвеньняў сыстэмы нарасьветы на падставе 6 ўмоў т. Сталіна.

# Пастанова

## Калегіі НКАсьветы ад 21/I-32 г. аб удзеле органаў нарасьветы, культасьветных устаноў у правядзеньні веснавой пасеўкампаніі.

1. Пасьпяховае правядзеньне вясновай пасеўнай кампаніі 1932 году зьявілася магутным сродкам пры выкананьні народна-гаспадарчага пляну 3-га рашаючага году пяцігодкі, завяршыўшым пабудову фундаманту сацыялістычнае эканомікі і вырашыўшым канчаткова пытаньнё „хто каго“ і ў сельскай гаспадарцы на карысьць сацыялізму.

Дасягнуты вялізарныя посьпехі ў галіне сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі: ахоплена калгасам звыш 50 % бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, „калгаснае сялянства ператварылася ў цэнтральную фігуру земляробства“, калгасьнік стаў моцнай і надзейнай апорай партыі і савецкай улады на вёсцы. Значна пашырылася пасеўплошча, асабліва пад тэхкультурамі, якая ў сацсэктары павялічылася ў тры разы, арганізавана 27 МТС.

Гэтыя вялізарныя посьпехі дасягнуты рабочай клясай пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі на аснове няўхільнага правядзеньня генэральнай лініі партыі ў барацьбе з кулацтвам—ліквідуючы яго, як клясу, на аснове суцэльнай калектывізацыі, у рашучым змаганьні супроць правага апартунізму і „левых“ загібаў і прымірэнчых адносін да іх.

Пастаўленыя ЦК КП(б)Б і СНК задачы правядзеньня веснавой кампаніі 1932 г.

маюць выключна важнае палітычна-гаспадарчае значэньне ў выкананьні 4-га заключнага, году пяцігодкі і ў арганізацыйна-гаспадарчым узмацненьні калгасаў, як цэнтральнай задачы і на гэтай аснове далейшае ўцягненьне працоўных аднаасобных гаспадарак у калгасы. Гэтыя задачы зьяўляюцца баявой праграмай работы ўсіх савецкіх, грамадзкіх арганізацый, усіх асьветніцкіх мас культпалітасьветных устаноў і органаў Нарасьветы.

2. Асноўнымі задачамі ва ўсёй працы культасьветных устаноў, усіх культсіл гораду і вёскі ў правядзеньні веснавой пасеўкампаніі 1932 г.—павінна быць:

а) Разгортваньне масавай палітвыхаваўчай работы і арганізацыі практычнае дапамогі калгасам у арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасаў, як цэнтральнай задачы, арганізацыя працы ў калгасах на аснове правядзеньня сапраўднай зьдзельшчыны, уліку працы, поўнай ліквідацыі ўраўнілаўкі і абязьлічкі, барацьба з кулацкімі спажывецкаірвацкімі тэндэнцыямі, барацьба за падвышэньне якасных паказчыкаў у працы, узьняцьцё прадукцыйнасьці працы і ўздым вытворчасьці.

б) Аўладаньне калгаснымі і працоўнымі масамі агратэхнікай, арганізацыяй працы, поўнае ажыцьцяўленьне шасьці ўказаньняў т. Сталін ва ўсіх працэсах сацыялістычнага зямляробства, масавай падрыхтоўкі кадраў.

в) Барацьба за поўнае выкананьне ўстаноўленых партыяй і ўрадам заданьняў: пашырэньне пасеўплошчы, асабліва тэхкультуры (лён, каноплі), „як вядучай паляводчай культуры рэспублікі“, падвышэньне ўраджайнасьці і росту прадукцыйнасьці жывёлагадоўлі; шырокае ажыцьцяўленьне агра-тэхнічных мерапрыемстваў; ачыстка насеньня, угнаеньне глебы, барацьба са шкоднікамі і г. д.

г) Разгортваньне шырокай масавай растлумачальнай палітвыхаваўчай работы навокал пастаўленых канкрэтных задач, вытворчых плянаў перад кожным раёнам, сельсаветам, саўгасам МТС, калгасамі і бядняцка-серадняцкімі аднаасобнікамі. Прыняць актыўны непасрэдны ўдзел у складаньні плянаў, давядзеньня іх да кожнага калгасу, да кожнай брыгады, калгасьніка і бядняцка-серадняцкага двара. Арганізаваць работу па папулярызацыі і перадачы лепшага вопыту перадавых калгасаў у арганізацыі працы, пераходу на зьдзельшчыну, уліку працы і г. д.

На аснове арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў, далейшае ўцягненьне аднаасобнікаў беднякоў і серадпякоў ў калгасы.

3. Прапанаваць раённым аддзелам Нарасьветы:

а) Разам з адпаведнымі арганізацыямі правесьці шырокія нарады кіраўнікоў культасьветных устаноў і школ па пытаньню аб падрыхтоўцы і ўдзелу ў правядзеньні вясновай пасеўкампаніі, распрацаваць і даць заданьні кожнай установе.

б) Да 10 лютага ва ўсіх сельсаветах правесьці шырокія канфэрэнцыі ўсяго культактыву, членаў культбытавых камісій калгасаў, сэкцыі с/с., рабачкомаў і культ-арганізатараў, на якіх распрацаваць адзінны плян масавай культпалітасьветнай работы ў правядзеньні пасеўкампаніі.

в) На працягу да 20 лютага ўсім культпалітасьветным установам і школам правесьці ў калгасах, саўгасах і вёсках шырокую прапрацоўку задач і плянаў веснавой пасеўкампаніі праз сходы, нарады брыгадзіраў, вытворчыя вечары, чыткі, прапрацоўкі плянаў, лекцыі і г. д.

г) Прымацаваным школам да саўгасаў, калгасаў, МТС, Дамом культуры ўзяць на сябе абавязак арганізацыі і сыстэматычнага выданьня насьценгазэт. Арганізаваць ва ўсіх калгасах кантрольныя дошкі ходу падрыхтоўкі да сяўбы.

д) Усім культасьветным працаўнікам прыняць актыўны ўдзел у рабоце вытворчых нарад, у падрыхтоўцы і распрацоўцы вытворчых плянаў, арганізацыі брыгад, падрыхтоўцы пытаньняў пераходу на зьдзельшчыну, збор прапаноў, ліквідацыі абязлічкі і пастаноўцы вучоту працы. Шырока распрацаваць гэтыя пытаньні на сходах, вытворчых нарадах.

е) Культасьветным установам і школам аказаць практычную дапамогу ў арганізацыі семянных і кармавых фондаў, 100-проц. ачысткі насеньня, правядзеньня рамонту с/гас. машын, асабліва інвэнтару, збруі. Арганізаваць масавы грамадзкі нагляд і праверку становішча машын, інвэнтару і збруі.

ж) На працягу да 15 лютага ва ўсіх пачатковых школах, ШКМ, ФЗС і вячэрніх школах прапрацаваць пытаньні ўдзелу ў правядзеньні вясновай пасеўкампаніі, увязаўшы і падпарадкаваўшы гэта праграмам і навучальным плянам.

4. Правесьці масавыя работы па ліквідацыі агра-тэхнічнай, калгаснай няпісьменнасьці, для чаго дапамагчы зямельным калгасным органам у ажыцьцяўленьні іх плянаў па арганізацыі розных курсаў па падрыхтоўцы масавых кадраў.

5. Даручыць палітасьветсэктару і РайАНА арганізаваць набыцьцё і перасоўваньне спэцыяльнай літаратуры аб пасеўнай кампаніі:

а) разам з гаспадарчымі, калгаснымі і грамадзкімі арганізацыямі арганізаваць плянавую закупку літаратуры;

б) усім тыпам раённых, гарадзкіх бібліятэк арганізаваць ня менш 750 бібліятэк-перасовак з кніжным фондам у 100.000 экз., палітасьветсэктару даць развёрстку;

в) даручыць БДВ распрацаваць плян выданьня спэцыяльнай літаратуры па пытаньнях пасеўкампаніі, гаспадарча-арганізацыйнага ўмацаваньня калгасаў, масавай п/а работы, арганізаваць работу па сваячасоваму і шырокаму прасоўваньню гэтай літаратуры. Адначасова БДВ выдаць шэраг плякатаў-лёзунгаў і др. матар'ялаў па пасеўкампаніі.

г) дзяржбібліятэцы распрацаваць плян і мэтадычны ліст аб арганізацыі і працы бібліятэк-перасовак;

6. Лічыць неабходным у лютым месяцы арганізаваць і правесьці масавы дэкаднік збору попелу. Даручыць школьнаму сэктару разам з піянэрарганізацыямі распрацаваць плян і мерапрыемствы яго правядзеньня.

7. Даручыць дашкольнаму сэктару разам з Калгасцэнтрам забясьпечыць арганізацыю дашкольных устаноў да выхаду ў поле, згодна намечаных плянаў.

8. Даручыць частцы Галоўмастацтва:

а) пераключыць работу вандроўных тэатраў на абслугоўваньне пасеўкампаніі;

б) падабраць і выдаць зборнік п'ес аб пасеўкампаніі, аб арганізацыйна гаспадарчым умацаваньні калгасаў;

в) арганізаваць работу і наладзіць кіраўніцтва гурткамі самадзейнага мастацтва, правесьці раённыя нарады, канфэрэнцыі кіраўнікоў гурткоў, пераключыць гарадзкія гурткі на дапамогу прыгарадным калгасам і саўгасам.

9). З 1 лютага абвясьціць спэцыяльны маршрут другога этапу культэстафэты па падрыхтоўцы і правядзеньні пасеўкампаніі, арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасаў. Даручыць палітасьветсэктару на працягу 5 дзён распрацаваць маршрут.

10. Правесьці разам з Калгасцэнтрам куставыя нарады інспэктароў палітасьветы і райкалгассаюзу па пытаньньням праверкі ходу падрыхтоўкі да пасеўкампаніі.

11. Прапанаваць гарадзкім АНА разам з шэфарганізацыямі арганізаваць практычную дапамогу раённым культасьветным установам, прыгарадным саўгасам і калгасам у правядзеньні пасеўкампаніі, шырока практыкаваць пасылку агіткультбрыгад, перасовачных бібліятэк, кіно, газэт і інш.

12. Даручыць рэдакцыі часопісу „Кам. Выхаваньне" арганізаваць напісаньне шэрагу артыкулаў аб пасеўкампаніі і ўдзеле культурных устаноў.

13. Палітасьветсэктару выдаць шэраг брашур па пытаньню ўдзелу культ. п/а устаноў у пасеўкампаніі.

14. На падставе гэтае пастановы даручыць сэктарам: палітасьветнаму, школьнаму, дашкольнаму, кадраў, галоўмастацтву і ДВС, распрацаваць практычныя мерапрыемствы ўдзелу ў пасеўкампаніі кожнаму тыпу культасьветустаноў па-асобку (ДК, бібліятэкі, вяч. асьвета, масавая школа, тэатры, сярэдн. і выш. навучальныя ўстановы).

Калегія НКА патрабуе ад органаў Нарасьветы, культасьветных устаноў і ўсіх асьветнікаў чоткага, пасьлядоўнага правядзеньня генэральнай лініі партыі, барацьбы за ленінскія партыйныя прынцыпы і формы арганізацыі калгаснага будаўніцтва, арганізацыйна гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў, як цэнтаральнай задачы, рашучай барацьбы з праявамі і вылазкамі кулака і яго агентуры, барацьбы супроць правых і „левых" ухілаў і прымірэнцтва да іх.

# Палажэньне аб узорнай ФЗС.

*(Зацьверджана Калегіяй НКА БССР ад 10/I-32 г.)*

## I. Агульная частка.

1. У адпаведнасьці з пастановай ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб пачатковай і сярэдняй школе ў гарадох і прамысловых цэнтрах БССР утвараюцца ўзорныя ФЗС, якія на практыцы сваёй працы даюць лепшыя прыклады аўладаньня асновамі навук, павышэньня якасьці і ўзроўню ведаў вучняў, пабудовы сапраўднай палітэхнічнай школы, на аснове падпарадкаваньня грамадзка-вытворчай работы вучняў вучэбным і выхаваўчым мэтам школы з тым, каб настаўніцкія масы, рабочыя, калгасьнікі і вучні маглі на практыцы вучыцца ў іх будаўніцтву палітэхнічнай школы.

2. Для органаў народнае асьветы ўзорныя ФЗС зьяўляюцца апорнай базай ў справе правядзеньня масавай мэтадычнай работы інструктажа настаўнікаў ФЗС, павышэньня кваліфікацыі пэдскладу і культармейцаў і абмену лепшым вопытам.

3. Узорныя ФЗС выдзяляюцца гарадзкім раённым аддзелам Народнае асьветы з удзеламорганаў саюзу працасьветы і шырокай пралетарскай грамадзкасьці і зацьвярджаюцца РВК або гарсаветам.

У буйных гарадох, дзе існуе гэтая ўзорная сетка ФЗС, утвараюцца некалькі ўзорных школ, якія прымацоўваюцца да галоўнейшых галін вытворчасьці (мэталь, дрэва, транспарт і г. д.)

Пры выдзяленьні ўзорных ФЗС улічваецца: а) вытворчае абкружэньне, якое забясьпечвае дастатковую палітэхнічную базу для школ (буйны завод, фабрыка), б) абсталяваньне школы, склад пэдагогаў пастаноўка ў ёй працы, в) тэрытарыяльнае распалажэньне школы, выгаднае для ажыцьцяўленьня цеснай сувязі з другімі масавымі школамі.

5. У сваёй дзейнасьці ўзорная школа кіруецца агульным статутам адзінай савецкай працоўнай палітэхнічнай школы дадатковымі палажэньнямі НКА.

## II. Умовы працы.

6. Узорная ФЗС павінна мець дастаткова абсталяваныя майстэрні для палітэхнічнай працы, рабочыя пакоі, лябараторыі і габінэты, палітэхнічны музэй вучнёўскую і пэдагагічную бібліятэку з належнай колькасьцю літаратуры палітэхнічнага зьместу, пэдагагічны і пэдалёгічны габінэты, кіно і радыёўстаноўкі.

Для лепшага правядзеньня мэтадычнай працы з др. школамі ўзорныя ФЗС пры сваіх бібліятэках, габінэтах і лябараторыях утвараюць перасовачны фонд кніг, наглядных дапаможнікаў, дыяпазытываў і экспанатаў па пэдагагічнай працы.

7. Настаўніцкі склад узорнае ФЗС камплектуецца з найбольш вопытных і палітычна-вытрыманых пэдагогаў гораду альбо раёну, якія вядомы як шчырыя ўдзельнікі ў справе будаўніцтва савецкай палітэхнічнай школы, як актыўныя грамадзкія працаўнікі, ударнікі і з адпаведнай асьветай.

8. Для палітэхнічнай перабудовы школы і дапамогі ў правядзеньні выхаваўчай працы прадпрыемствы выдзяляюць кваліфікаваных спэцыялістаў і рабочых, якія працуюць у школе на асновах заключанай з прадпрыемствам умовы.

9. Загадчык узорнае школы павінен быць вядомы як грамадзкі працаўнік, як арганізатар мэтадычнай работы, і павінен мець стаж па загадваньню школай ня менш 2 год.

10. У дапамогу загадчыку узорнае ФЗС назначаецца намесьнік па вучэбнай частцы.

11. Узорная ФЗС утрымліваецца на бюджэце гарсавету альбо РВК, усе яе працаўнікі атрымліваюць павышаную зарплату. У бюджэце школы павінны быць вызначаны сродкі на ўтрыманьне майстэрняў, рабочых пакояў, габінэтаў і інш.

12. Сталае і непасрэднае кіраўніцтва працай узорнае ФЗС ажыцьцяўляецца гарадзкімі і раённымі аддзеламі народнае асьветы.

13. Для непасрэднай сувязі і атрыманьня мэтадычнае дапамогі ў працы ўзорныя ФЗС прымацоўваюцца да вышэйшай пэдагагічнай школы або да пэдтэхнікуму, якія праводзяць сваю працу на аснове паказаньняў НКА.

## III. Зьмест і мэтады працы

14. Зьмест работы ўзорнае ФЗС вызначаецца вучэбнымі праграмамі НКА і задачамі паказаньняў лепшых узораў сваёй пэдагагічнай работы.

15. На падставе сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва ўсіх працаўнікоў узорная ФЗС у сваёй школьнай рабоце ўжывае мэтады, якія выверany на практыцы і якія садзейнічаюць ажыцьцяўленьню пастановы ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб школе.

16. Праводзячы сваю работу, узорная ФЗС павінна даць лепшыя прыклады, якія маглі б быць выкарыстаны другімі школамі па лініі:

а) грунтоўнага засваеньня вучнямі сыстэматычных ведаў, вызначаных праграмай НКА;

б) вытворча-палітэхнічная практыка вучняў на прадпрыемстве павінна даць лепшы ўзор сувязі навучаньня з вытворчай працай і грамадзка-палітычнай працай, на падставе падпарадкаваньня ўсёй грамадзка-вытворчай працы вучэбным і выхаваўчым мэтам школы;

в) правядзеньня інтэрнацыянальна-клясавага і антырэлігійнага выхаваньня вучняў, даючы рашучы адпор усякім спробам прышчапіць дзецям элемэнты антыпролетарскай ідэолёгіі;

г) дасканалага аўладаньня тэхнікай пэдпрацэсу і падпарадкаваньня ўсіх без выключэньня мэтадаў і прыёмаў школьнай працы задачам камуністычнага выхаваньня;

д) пастаноўкі сацспаборніцтва, як мэтаду камуністычнага выхаваньня;

е) плянаваньня, падліку і рацыяналізацыі ўсёй школьнай работы;

ж) работы органаў дзіцячага самакіраўніцтва, напраўленай галоўным чынам на павышэньне якасьці вучобы і ўмацаваньне сьвядомае дысцыпліны ў школе;

з) кіраваньня школай на аснове адзінаначальля і зьнішчэньня абязьлічкі ў школьнай рабоце.

17. Займацца ўпартай працай па аўладаньню тэхнікай пэдпрацэсу на падставе сацспаборніцтва і ўдарніцтва ўсіх працаўнікоў, узорная ФЗС у сваёй школьнай рабоце ўжывае новыя мэтады навучаньня, якія выверany на практыцы і якія дапамагаюць выхаваньню ініцыятыўных і актыўных удзельнікаў сацыялістычнага будаўніцтва.

## IV. Мэтадычная работа з настаўніцтвам і культармейцамі.

18. Узорная ФЗС зьяўляецца перадавым зьвяном і апорнай базай ў справе перабудовы школ на палітэхнічнай аснове, прымае актыўны ўдзел ува ўсіх мерапрыемствах, якія праводзяцца аддзеламі народнае асьветы з гэтай мэтай.

а) На падставе свайго вопыту выступае з дакладамі, мэтадычнымі распрацоўкамі, плянамі і др. матар'яламі на настаўніцкіх і культармейскіх канфэрэнцыях, вытворчых нарадах.

б) Дзеліцца лепшым вопытам сваёй работы праз выстаўкі, друк, узаемнае наведваньне школ, зьбіраньне і выкарыстоўваньне вопыту іншых школ гораду.

в) Праводзіць кансультацыі з настаўніцтвам па мэтадычных пытаньнях і арганізуе паказацельныя лекцыі ў прысутнасьці настаўніцтва масавых школ з належным абгаварэньнем гэтых лекцый.

д) Вывучае якасьць наглядных дапамог, вучэбнай літаратуры і абсталяваньня ў працэсе працы і дае аб іх водзывы праз друк і кансультацыі.

э) Прымае актыўны ўдзел у правядзэньні пэдпрапаганды сярод рабочых і калгасьнікаў.

Увага. Уся мэтадычная работа ўзорнай ФЗС праводзіцца па пляну, узгодненаму з агульным плянам мэтадычнай работы аддзелу народнае асьветы.

# Палажэньне аб узорнай ШКМ.

*(Зацьверджана Калегіяй НКА БССР ад 10/I-32 г.)*

1. У адпаведнасьці з пастановай ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб пачатковай і сярэдняй школе ў раёнах БССР утвараюцца ўзорныя ШКМ, якія на практыцы сваёй работы паказваюць лепшыя ўзоры аўладаньня асновамі навук, павышэньня якасьці і ўзроўню ведаў вучняў, пабудовы сапраўднай палітэхнічнай школы на аснове падпарадкаваньня грамадзка-вытворчай працы вучняў вучэбным і выхаваўчым мэтам школы з тым, каб настаўніцкія масы, рабочыя, калгасьнікі і вучні маглі на практыцы вучыцца ў такіх ШКМ будаўніцтву палітэхнічнай школы.

2. Для органаў Народнае асьветы ўзорныя ШКМ зьяўляюцца апорнай базай у справе ажыцьцяўленьня масавай мэтадычнай работы, інструктажу настаўнікаў масавай школы, павышэньня кваліфікацыі пэдскладу і культармейцаў, зьбіраньня і абмену лепшым вопытам.

3. Узорная ШКМ выдзяляецца гарадзкім або раённым адзелам народнае асьветы пры ўдзеле саюзу працасьветы і шырокай савецкай грамадзкасьці, зацьвярджаецца РВК або гарсаветам і пад сталым і непасрэдным кіраўніцтвам РАНА працуе па агульнаму статуту адзіннай працоўнай савецкай палітэхнічнай школы і дадатковымі палажэньнямі НКА.

4. Пры выдзяленьні ўзорнай ШКМ улічваецца:

а) вытворчае акружэньне, якое-б забясьпечыла дастатковую палітэхнічную базу для школы (саўгас, МТС, калгас); калгас і саўгас, да якога прымацавана ўзорная ШКМ, павінны адпавядаць вядучаму гаспадарчаму напрамку раёну ў галіне сельскай гаспадаркі (жывёлагадоўля, ільнаводзтва і г. д.);

б) лепшае абтсаляваньне школы, склад пэдагогаў і пастаноўка работы;

в) тэрытарыяльнае распалажэньне школы, выгаднае для ажыцьцяўленьня больш цеснай сувязі з другімі масавымі школамі.

## I. Умовы працы.

5. Узорная ШКМ павінна мець дастаткова абсталяваныя майстэрні палітэхнічнай працы, лябараторыі і габінэты (па паасобных прадметах), палітэхнічны музэй, пэдагагічны габінэт, дзіцячую і пэдагагічную бібліятэку з дастатковай колькасьцю палітэхнічнай літаратуры, вопытны с.-г. вучастак, кіно і радыёўстаноўкі. Пры лябараторыях, габінэтах і бібліятэцы ўтвараецца перасовачны фонд кніг, наглядных дапамог, дыяпазытаваў і экспанатаў па пэдагагічнай працы для лепшага ажыцьцяўленьня сваіх функцый па мэтадычнай працы з другімі школамі.

6. Камплектаваньне ўзорнай ШКМ настаўніцкімі кадрамі праводзіцца па складу найбольш вопытных і палітычна вытрыманых настаўнікаў раёну, якія вядомы сваёй добрай працай па палітэхнізацыі школы, вядомы як актыўныя грамадзкія працаўнікі, ударнікі, маюць вопыт і адпаведную асьвету. Загадчык школы павінен мець ня менш 2 год стажу па загадваньню ШКМ і быць вядомым, як грамадзкі працаўнік і арганізатар мэтадычнай работы.

7. У дапамогу загадчыку ўзорнай ШКМ назначаецца намесьнік па вучэбнай частцы.

8. Узорная ШКМ утрымліваецца на бюджэтах РВК. Працацаўнікі ўзорнай ШКМ атрымліваюць павышаную зарплату. У бюджэце школы павінны быць сродкі на ўтрыманьне майстэрняў, рабочых пакояў, габінэтаў і інш. (пералічаных у п. 5).

9. Для непасрэднай сувязі і атрыманьня мэтадычнай дапамогі ў працы кожная ўзорная ШКМ прымацоўваецца да пэдінстытуту ці пэдтэхнікуму.

10. Асноўнай вытворча-палітэхнічнай базай для ўзорнай ШКМ зьяўляецца саўгас, калгас, МТС.

Для сваіх вытворча-выхаваўчых мэт ШКМ арганізуе пры школе паказальныя вучасткі, вучэбна-вытворчыя майстэрні, лябараторыі, прадпрыемствы і раённыя

арганізацыі выдзяляюць неабходную колькасьць абсталяваньня.

11. Для палітэхнічнай перабудовы школы і дапамогі ў правядзеньні выхаваўчай працы раённыя арганізацыі, саўгасы, МТС і калгасы выдзяляюць кваліфікаваных спэцыялістаў, рабочых і калгасьнікаў, якія працуюць у школе на падставе заключанай ўмовы.

## II. Зьмест і мэтады работы.

12. Зьмест работы ўзорнай ШКМ вызначаецца вучэбнымі праграмамі НКА і задачамі паказаньня лепшых прыкладаў сваёй пэдагагічнай працы.

13. Праз прыкладную пастаноўку сваёй вучэбнай палітыка-выхаваўчай і грамадзка-вытворчай работы ўзорная ШКМ дабіваецца ліквідацыі асноўнага недахопу, адзначанага ў пастанове ЦК УсеКП(б) аб школе.

14. Праводзячы сваю работу, узорная ШКМ дае лепшыя прыклады для ўсіх школ у наступным:

а) грунтоўнае засваеньне вучнямі сыстэматычных ведаў, вызначаных праграмай НКА;

б) палітэхнізацыя школы, якая праводзіцца на прынцыпе арганічнай сувязі сыстэматычнага і грунтоўнага засваеньня асновы навук з грамадзка-вытворчай працай і забясьпечвае выхаваньне „ўсебакова-разьвітых будаўнікоў сацыялізму, увязваючых тэорыю з практыкай і аўладаючых тэхнікай“;

в) інтэрнацыянальна-клясавае і антырэлігійнае выхаваньне вучняў, даючы рашучы адпор усякім спробам прышчапіць вучням элемэнты антыпралетарскай ідэалёгіі;

г) дасканалае аўладаньне тэхнікай пэдпрацэсу і падпарадкаваньне ўсіх без выключэньня мэтадаў і прыёмаў школьнай працы задачам камуністчнага выхаваньня;

д) пастаноўка сацспаборніцтва, як мэтаду камуністычнага выхаваньня;

е) плянаваньне, падлік і рацыяналізацыя ўсёй школьнай работы;

ж) работа органаў дзіцячага самакіраваньня, накіраваная галоўным чынам на павышэньне якасьці вучобы і ўмацаваньне сьвядомай дысцыпліны;

з) кіраваньне школай на аснове адзінаначальля і зьнішчэньня абязьлічкі ў школьнай рабоце.

15. Займаючыся ўпартай працай па аўладаньню тэхнікай пэдпрацэсаў на падставе сацспаборніцтва і ўдарніцтва ўсіх працаўнікоў, узорная ШКМ у сваёй школьнай рабоце ўжывае новыя мэтады навучаньня, якія выверэны на практыцы і якія дапамагаюць выхаваньню ініцыятыўных і актыўных удзельнікаў сацыялістычнага будаўніцтва.

## III. Мэтадычная работа ўзорных ШКМ з настаўніцтвам і культармейцамі.

16. Зьяўляючыся перадавым плянам і апорнай базай у справе перабудовы школ на палітэхнічнай аснове, узорная ШКМ прымае актыўны ўдзел ува ўсіх мерапрыемствах раённага адзелу нарасьветы па мэтадычнай рабоце з настаўніцтвам:

а) на падставе свайго вопыту выступае з дадаткамі, мэтадычнымі распрацоўкамі, плянамі і другімі матар'ямі на настаўніцкіх і культармейскіх канфэрэнцыях, вытворчых нарадах;

б) дзеліцца лепшым вопытам сваёй работы праз друк, выстаўкі, узаемнае наведваньне школ, зьбіраньне і выкарыстоўваньне вопыту іншых школ раёну;

в) праводзіць сыстэматычныя кансультацыі з настаўніцтвам, калгасьнікамі, рабочымі; на канкрэтных прыкладах сваіх работ паказвае, як трэба працаваць па розных дысцыплінах школьнага курсу, якімі карыстацца мэтадамі і прыёмамі, каб мець найлепшыя вынікі;

г) праводзіць паказальныя заняткі з належным іх абгаварэньнем;

д) у працэсе работы вывучае якасьць школьных прылад, вучэбнай літаратуры і абсталяваньня і дае аб іх водзывы праз друк і кансультацыю;

е) прымае актыўны ўдзел у правядзеньні пэдпрапаганды сярод рабочых і калгасьнікаў.

Увага. Плян мэтадычнай работы з настаўніцтвам і культармейцамі ўзорная ШКМ складае на аснове агульнага пляну мэтадычнай работы пры РайАНА.

# Палажэньне аб раённых школьных інструктарох-мэтадыстах.

*(Зацьверджана Калегіяй НКА БССР і прэзыдыумам ЦП саюзу працасьветы ад 10/1 32 г.)*

## А. Агульная частка.

1) У мэтах аказаньня практычнай дапамогі настаўніку ў яго штодзённай рабоце па арганізацыі пэдпрацэсу і забесьпячэньня працы палітэхнічнай школы ў напрамку паказаным пастановамі ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб пачатковай і сярэдняй школе, пры раённых аддзелах народнае асьветы ўводзіцца інстытут школьных інструктароў-мэтадыстых.

2) Школьныя інструктары прызначаюцца РВК па прадстаўленьні загадчыкам раённага аддзелу народнае асьветы з ліку вопытных, маючых марксысцка-ленінскую падрыхтоўку, настаўнікаў ударнікаў, добра ведаючых працу школы і яе задачы, маючы стаж працы ў школе ня менш 3 год.

Увага. У выключных выпадках інструктар можа быць вылучан з асобна праявіўшых сябе на рабоце настаўнікаў і з меншым стажам пэдагагічнай работы, але ня менш аднаго году.

3) Інструктар павінен быць добра знаёмым з асноўнымі відамі вытворчасьці данага раёну, ведаць вытворчы профіль раёну, павінен мець падрыхтоўку ня менш пэдтэхнікуму, ведаць асноўныя прынцыпы, зьмест, арганізацыю і мэтады школьнай работы (мэтодыкі, праграмы школы сямігодкі).

4) У мэтах лепшага абслугоўваньня інструктажу школ і запатрабаваньня ад інструктара адказнасьці за пэўны вучастак работы, раён разьбіваецца на вучасткі (выходзячы з ліку школ і вытвор. экономічнага раёнаваньня) да якіх прымацоўваюцца інструктары.

5) Праца інструктара павінна забясьпечыць абслугоўваньне школ усіх нац. меншасьцяй.

## Б. Абавязкі інструктара.

1) Кіруючыся паказаньнямі НКАсьветы РайАНА і Мэтадбюро, школьны інструктар праводзіць інструктаж настаўнікаў па праграме НКА, дапамагае выкарыстоўваць мясцовы матар'ял пры прапрацоўцы праграм.

2) Інструктаваньне школы па выкананьню праграм кожнай групы стала акрэсьленага кола сыстэматызаваных ведаў па асноўных навуках (родная мова матэматыка, фізыка, хэмія, геаграфія, гісторыя і г. д.), непасрэдная праверка ведаў вучняў у гэтай галіне, забясьпечваючы сваёй работай ўзьняцьце агульна-адукацыйных ведаў вучняў.

3) Для мэтадычнага інструктажа, дапамогі школе і кантролю, інструктар вытварае сыстэматычныя выезды ў школы, дзе ён абавязан праверыць і вывучыць стан работы школы, даць практычныя ўказаньні. Асноўнымі аб'ектамі гэтага вывучэньня павінны быць:

а) грамадзка-палітычнае выхаваньне вучняў, пастаноўка інтэрнацыянальна-клясавага і антырэлігійнага выхаваньня;

б) палітэхнічная адукацыя і ўзровень сыстэматычных агульна-адукацыйных ведаў вучняў;

в) мэтады работы ў школе;

г) вучнёўскае самакіраўніцтва і яго работа ў напрамку ўзмацненьня сьвядомай дысцыпліны ў школе і ўзьняцьця якасьці вучобы;

д) ахоп школай вучняў, другагодніцтва сярод вучняў, іх прычыны (асабліва сярод дзяцей рабочых і калгасьнікаў);

е) наяўнасьць школьных арганізацый і іх праца (школьны савет, камсод, бацькоўскія сходы і г. д.)

ж) адказнасьць настаўніка за пастаноўку работы ў сваёй групе па сваёй дысцыпліне ў напрамку дачы патрэбнага аб'ёму агульна-адукацыйных ведаў вучням, пастаноўкі камуністычнага выхаваньня;

з) вучот і плянаваньне ў школе;

і) кіраўніцтва школай;

к) стан сацспаборніцтва і ўдарніцтва ў рабоце школы;

л) матар'яльна-гаспадарчае становішча школы.

4) Школьны інструктар праводзіць інструктаж настаўнікаў па мэтадах работы ў школе, па прымяненьню новых мэтадаў навучаньня, рэкамэндаваных НКА БССР.

5) Інструктаваньне школ па пастаноўцы вытворчага навучаньня ў школьных майстэрнях, рабочых пакоях, па ўвязцы работы майстэрань з прымацаваньнем школ да прадпрыемстваў, саўгасаў, калгасаў, МТС, па правядзеньню злучэньня навучаньня з вытворчай працай, на аснове падпарадкаваньня ўсёй вытворча-грамадзкай працы вучняў, навучальным і выхаваўчым мэтам школы.

6. Мэтадычная і практычная дапамога школам у арганізацыі рабочых пакояў майстэрань пры школах, у арганізацыі палітэхнічных бібліятэк, палітэхнічных музэяў, кіно, падбору палітэхнічных кіно-фільмаў для дзяцей і інш.

7) Для лепшага мэтадычнага абслугоўваньня школ у раёне і для прасоўваньня ў масы настаўніцтва лепшых прыкладаў школьнай работы, школьны інструктар:

а) абслугоўвае мэтадычным інструктажам склікаемыя РайАНА і саюзам працасьветы канфэрэнцыі, нарады і г. д.

б) праз узорныя школы арганізуе пэдкансультацыі настаўнікаў па пытаньнях школьнай працы, удзельнічае ў ёй асабіста, а таксама прыцягвае лепшых настаўнікаў-мэтадыстых раёну.

в) арганізоўвае пры школах паказацельныя лекцыі для настаўнікаў раёну з калектыўным абгаварэньнем іх.

г) мэтадычна дапамагае ў правядзеньні мэтадычных сэмінараў, курсаў і інш. мерапрыемстваў па падвышэньню кваліфікацыі настаўніцтва, праводзячы асобна работу з загадчыкамі школ, настаўнікамі - ударнікамі, новымі кадрамі настаўнікаў, вылучэнцамі і культ-армейцамі, апіраючыся ў гэтай рабоце на ўзорныя школы, а таксама арганізоўвае, аказвае патрэбную дапамогу настаўнікам па завочнаму навучаньню.

д) школьны інструктар сыстэматычна кансультуе грамадзкіх інструктароў па пытаньнях тэорыі і практыкі палітэхнічнай школы і кіруе іх работай па аказаньню мэтадычнай дапамогі настаўнікам і ў праверцы працы ўсёй школьнай сеткі; абслугоўвае мэтадычнай дапамогай склікаемыя ў раёне кароткатэрміновыя курсы грамадзкіх інструктароў; сумесна з прафэсійнымі і іншымі грамадзкімі арганізацыямі вярбуе грамадзкіх інструктароў з ліку лепшых *настаўнікаў-ударнікаў* раёну.

9) Інструктар мэтадыст уваходзіць у склад Раймэтадбюро, арганізоўвае вакол яго лепшыя мэтадычныя сілы настаўнікаў раёну для дапамогі ў сваёй рабоце па выкананьню заданьняў НКА па лініі мэтадычнай работы (прапрацоўка праграм, складаньне падручнікаў і інш.) і дапамогі ў рабоце школы; распрацоўвае мэтадычныя лісты па асобных пытаньнях мэтадаў работы *палітэхнічнай* школы.

10) Інструктар праводзіць работу ў цеснай сувязі з вытворчымі нарадамі, арганізуемымі па лініі саюзу працасьветы ставіць шэраг мэтадычных пытаньняў на абгаварэньне вытворчых нарад.

11) У мэтах палепшаньня мэтодыкі школьнае работы і падвышэньня якасьці работы інструктар арганізоўвае мэтадычную дапамогу настаўніку шляхам:

а) інструктажа асобных настаўнікаў па пытаньнях практыкі вучэбнай работы школ;

б) прапрацоўкі на нарадзе пэдкалектыву пытаньняў школьнай мэтодыкі ў цэлым і асобных мэтадычных пытаньняў, выплываючых з школьнай практыкі данай школы;

в) мэтадычных прапрацовак на пэд. калектыве пытаньняў правільнай арганізацыі грамадзка-вытворчай працы вучняў на прадпрыемствах (саўгасах, МТС, калгасах), у школьных майстэрнях і г. д.

г) арганізацыі сыстэматычнай мэтадычнай дапамогі маладым пэдагогам з боку вопытных настаўнікаў.

12) Інструктар прымае ўдзел у вылучэньні на больш адказную работу і для прэміраваньня лепшых, праявіўшых сябе на вытворчай працы, настаўнікаў і грамадзкіх інструктароў.

13) Інструктар нясе поўную адказнасьць перад РайАНА за становішча навучальна выхаваўчай работы ўсіх школ свайго вучастку.

14) Ніякіх адміністрацыйна-гаспадарчых і канцэлярскіх абавязкаў школьны інструктар не нясе.

## В. Правы школьнага інструктара.

1. Школьны інструктар мае права *даваць* ўказаньні па ўсіх пытаньнях навучальна-выхаваўчай работы школы (навучальны плян, мэтады працы, расклад, арганізацыя і кіраўніцтва школай і г. д.), якія зьяўляюцца абавязковымі як для загадчыкаў школамі, так і настаўнікаў. Інструктар на падставе вопыту сваёй працы прадстаўляе ў РайАНА свае меркаваньні адносна зьмен у навучальных плянах і праграмах.

2) У заведзеным кожнай школай спэцыяльным журнале школьны інструктар астаўляе ў пісьмовым выглядзе падрабязныя ўказаньні арганізацыйнага і мэтадычнага характару па пытаньнях палепшаньня якасьці ўсёй навучальна-выхаваўчай работы школы, арганізоўвае сыстэматычную праверку іх выкананьня і пры паўторным наведваньні школы асабіста правярае выкананьне гэтых паказаньняў.

3) Інструктар забясьпечваецца ўсімі кіруючымі матар'яламі і літаратурай для яго непасрэднай работы за кошт РайАНА, і складаюцца адпаведныя ўмовы для яго работы.

4) У адносінах матар'яльна-прававога становішча інструктары прыраўніваюцца да настаўнікаў данага раёну (забесьпячэньне прамтаварамі і прадуктамі харчаваньня, кватэрамі, адпачынкі, пэрыядычныя надбаўкі).

# Палажэньне аб грамадзкіх інструктарох пры гарадзкіх і раённых аддзелах народнае асьветы.

(*Зацьверджана Калегіяй НКА БССР і прэзыдыумам ЦП саюзу працасьветы*).

1. У мэтах уцягненьня шырокіх колаў пралетарскіх мас у справу культбудаўніцтва і забесьпячэньня працы школы ў напрамку, паказаным пастановай ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб пачатковай і сярэдняй школе, пры гарадзкіх і раённых аддзелах нарасьветы ўводзіцца інстытут грамадзкіх інструктароў, якія ставяць сваёй задачай практычную дапамогу школе і настаўніку, дашкольным і палітасьветным установам, дзіцячым дамам у наладжваньні якасьці работы гэтых устаноў.

2. Грамадзкія інструктары вылучаюцца з ліку вопытных маючых марксысцка-ленінскую падрыхтоўку, ведаючых добра школу, настаўнікаў, дашкольных працаўнікоў, працаўнікоў дзіцячых дамоў, палітасьветпрацаўнікоў, рабочых і калгасьнікаў з ліку культармейцаў, праявіўшых сябе на фронце культурнага будаўніцтва і ў барацьбе за новую палітэхнічную школу. Грамадзкія інструктары на основе добраахвотнасьці вылучаюцца прафэсыйнымі і грамадзкімі арганізацыямі і зацьвярджаюцца аддзелам народнае асьветы.

У раёнах, у якіх маецца насельніцтва нацменшасьцяй трэба мець на ўвазе, каб у склад грамадзкіх інструктароў быў вылучан адпаведны лік нацмен. інструктароў.

3. Пры стварэньні інстытуту грамадзкіх інструктароў у раёне, як прынцып, павінна быць ня менш аднаго інструктара на с-с., а ў гарадох 1 на 5—7 культ палітасьветустаноў аднаго тыпу (школьны, дашкольны, па дзіцяч. дамох, п/асьвет. установах, лікбезу і г. д.). Вылучаныя інструктары вядуць працу ў межах вызначанага ім пэўнага раёну, тэрыторыі па ліку прымацаваных культасьветных устаноў. Грамадзкія інструктары праводзяць работу ў шчыльнай сувязі з раённымі інспэктарамі асьветы, інструктарамі мэтадыстымі і прафарганізацыямі. Працай іх кіруе аддзел народнае асьветы.

Увага. Праца грамадзкага інструктара павінна быць пабудавана так, каб яна не адбівалася на іх непасрэднай рабоце ў культпалітасьветустановах.

4. У кола абавязкаў грамадзкіх інструктароў уваходзіць:

а) дапамога аддзелу нарасьветы ў правядзены мерапрыемстваў па культурнаму будаўніцтву і ўцягненьню шырокіх колаў

працоўных мас у справу культурнае рэвалюцыі.

б) Прыняцьце мер да поўнага ажыцьцяўленьня пастаноў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб школе, пастаноўцы камуністычнага выхаваньня дзяцей, ажыцьцяўленьне дырэктыў па ўсенавучу (100-проц. ахоп дзяцей, падлягаючых абавязковаму навучаньню, наведваньне вучняў, забесьпячэньне вопраткай і абуткам, арганізацыя гарачых сьнеданьняў пры школах, арганізацыя падвозу вучняў, забесьпячэньне школ падручнікамі і навуч. прыладамі, будаўніцтва і рамонт школ, абсталяваньне і г. д.)

в) Правядзеньне пад кіраўніцтвам інструктароў-мэтадыстаў агляду і інструктаваньня школ па выкананьню школьных праграм, маючы на ўвазе, каб кожная група згодна праграм НКА набыла пэўнае кола систэматычных ведаў па асноўных навуках (родная мова, матэматыка, фізыка, хэмія, геаграфія, гісторыя і г. д.)

г) Праверка і дапамога ў абсталяваньні рабочых пакояў і школьных майстэрняў неабходнымі прыладамі, прымацаваньне школ да прадпрыемства, фабрык, заводаў, калгасу, саўгасу, МТС і выкананьня імі абавязательства па вылучэньню школе інструмантаў, прылад для рабочых пакояў і майстэрань, а таксама вывучэньне, як праводзіцца злучэньне навучаньня з вытворчай працай вучняў на аснове падпарадкаваньня ўсёй грамадзка-вытворчай працы дзяцей навучальным і выхаваўчым мэтам школы.

д) Дапамога ў наладжваньні працы вучнёўскіх арганізацый у справе падняцьця якасьці работы і ўзмацненьня працдысцыпліны ў школе, а таксама працы школьных арганізацый—школьный савет, камсод, бацькоўскія сходы і г. д.

е) Дапамога ў разгортваньні камуністычных мэтадаў у працы культпалітасьвет устаноў—сацспаборніцтва і ўдарніцтва, прадстаўляючы сумесна з саюзам і РайАНА лепшых, праявіўшых сябе на вытворчай працы настаўнікаў для прэміраваньня і высоўваньня на больш адказную работу.

ж) Праверка якасьці работы дашкольных устаноў, дапамога ў разгортваньні сеткі па ахопу дзяцей дашкольнымі ўстановамі, у першую чаргу для дзяцей работніц і калгасьніц, забесьпячэньне дзяцей прадуктамі харчаваньня, *вопрат*кай і пасьцельнымі прыладамі, дапамога ў барацьбе з дзіцячай бяспрытульнасьцю і безнагляднасьцю, мэтадычная дапамога ў працы дашкольных устаноў.

з) Штодзённая праверка і дапамога ў рабоце сельскіх і раённых дамоў сацкультуры, чырвоных куткоў, перабудова іх працы на аснове дадзеных дырэктыў НКА. Правядзеньне кінафікацыі і радыёфікацыі культасьветных устаноў, калгасаў, саўгасаў.

і) Мэтадычная і арганізацыйная дапамога ў правядзеньні ліквідацыі няпісьменнасьці і малапісьменнасьці і пастаноўцы паліт-выхаваўчай работы на лікпунктах, забесьпячэньні лікпунктаў ліквідатарамі, навучальнымі прыладамі, асьвятленьнем, падшуканьнем памяшканьняў, вярбоўка культармейцаў і г. д.

5. Грамадзкія інструктары ўсю сваю працу праводзяць у цеснай сувязі з савецкімі, прафэсыйнымі і інш. грамадзкімі арганізацыямі.

6. Для абмену вопытам у рабоце і распаўсюджваньня вопыту працы пасобных культпалітасьветустаноў на астатнія РАЙАНА сумесна з РК саюзу працасьветы праводзяць нарады грамадзкіх інструктароў.

7. Грамадзкі інструктар праводзіць сваю работу на аснове пляну, складзенага ім на падставе пляну РайАНА, ужываючы ў сваёй рабоце мэтады сацспаборніцтва і ўдарніцтва.

8. Аб выніках свае працы грамадзкія інструктары складаюць акты і дасылаюць іх РайАНА. Прапановы грамадзкага інструктара зацьвярджаюцца РайАНА.

9. Інструктар ніякай тэхнічнай і канцэлярскай работы не нясе.

10. Уся праца грамадзкіх інструктароў лічыцца грамадзкай работай. Лепшыя інструктары-ударнікі прэміруюцца.

Увага. Работа грамадзкага інструктара зьяўляецца асноўнай грамадзкай нагрузкай.

11. Для павышэньня кваліфікацыі грамадзкіх інструктароў пэрыядычна праводзяцца кароткатэрміновыя раённыя, або куставыя курсы-канфэрэнцыі.

# БІБЛІОГРАФІЯ

**Р. П. Рак.**

## Памылкі, якія павінны быць выпраўлены.

**К. І. Шапілевіч—Рабочая кніга па беларускай мове для 3-га году навучаньня. Менск, 1931 г. Навукова мэтадалёгічным камітэтам пры НКА БССР дапушчана ў якасьці падручніка для 3-га году навучаньня.**

„Дзіцячая кніжка зьяўляецца адным з магутных сродкаў сацыялістычнага выхаваньня падрастаючага пакаленьня". (Крупская) Усё гэта цалкам адносіцца і да падручнікаў. Зусім зразумела, што Н. К. Крупская, гаворачы аб дзіцячай кніжцы, мела на увазе нашу кніжку, якая выхоўвае членаў сацыялістычнай грамады. Падручнік, як і ўсякая дзіцячая кніжка, дасягне свае мэты толькі ў тым выпадку, калі яго зьмест будзе цалкам камуністычным. Вось па гэтаму да зьместу кожнага падручніка мы павінны падыходзіць з асаблівымі запатрабаваньнямі З гэтага пункту погляду мы і будзем разглядаць падручнік К. І Шапілевіча. Даны падручнік ёсьць значны крок наперад. Яго зьяўленьне сьведчыць аб тым, што пара вядомых контррэвалюцыянэраў, якія імкнуліся узяць манаполію на падручнікі па белмове, Лёсікаў прайшла і больш да нас ня вернецца. Наша моладзь ужо больш ня будзе атручваць свае мазгі той контррэволюцыйнай атрутай, якую ў сваіх падручніках па мове падносілі Лёсікі і іх кампанія.

Аднак і „Рабочая кніга па беларускай мове для 3-га году навучаньня „не зьяўляецца цалкам вытрыманай. Яна мае шэраг памылак, на якіх мы і згортваем увагу савецкай грамадзкасьці і ў першую чаргу настаўнікаў. Да памылак у парадку лявацкіх заскокаў трэба аднесьці надзвычайную лёгкасьць, з якой Яська стаў піонэрам (гл. артыкул. „Як Яська стаў піонэрам"). Дастаткова Яську было прайсьці з рэшатам, каб праз некалькі гадзін вярнуцца дамоў піянэрам з чырвоным гальштукам. Каму гэта патрэбна падобнае спрашчэньне? Яно можа выклікаць толькі нясур'ёзныя адносіны да піянэр-арганізацыі. Аўтару, напэўна вядома, што не за гульню з рэшатам даецца званьне піянэра і чырвоны гальштук. Рабяты шэраг месяцаў і вельмі сур'ёзна рыхтуюцца да моманту здачы ўрачыстага абяцаньня і атрыманьня чырвонага гальштуку. Аўтар жа ў сваім артыкуле ўсё гэта недапушчальна змазаў.

Да гэтага-ж парадку памылак адносіцца і лёгкадумнае супроцьстаўленьне каня трактару і нарэшце закрэсьліваньне каня (стар. 51). Конь ня можа супроцьстаўляцца трактару, што, як з усёй яскравасьцю паказала практыка, ён зьяўляецца неабходным дадаткам да трактару. Зьмяшчэньне падобных малюнкаў ёсьць вынік недаацэнкі конскай цягавай сілы. Усё гэта лье ваду на кола кулацтва. Менавіта па гэтай лініі і досыць шырока ў апошнія часы разгортваецца контррэвалюцыйная дзейнасьць кулацтва і падкулачнікаў, накіраваная на зьнішчэньне каня. Гэта пытаньне для нас зьяўляецца надзвычайна важным. Пагэтаму зусім не выпадкова мы маем у пастанове ЦК КП(б)Б і СНК БССР аб правядзеньні веснавой с/г. кампаніі 1932 г. наступны параграф:

„ЦК КП(б)Б і СНК БССР патрабуе рашучай барацьбы з недаацэнкай конскай цягавай сілы і кулацкай агітацыяй з разбазарваньнем коняй, прыцягваючы да суровай адказнасьці вінаватых у разбазарваньні коняй".

Надзвычайна спрошчана, па апартуністычнаму, трактуецца клясавая барацьба навакол калгаснага будаўніцтва. У арт. „Калгас“ (стар. 26) напісана літаральна наступнае: „Першымі запісаліся ў калгас беднякі. За імі пайшлі серадднякі. Кулакі агітавалі супроць калектывізацыі. Іх раскулачылі і павысылалі з раёну. Зараз у нашым калгасе знаходзіцца 150 гаспадарак“. Вось і ўсё. Па сутнасьці гата ёсьць змазваньне клясавай барацьбы. Такой пастаноўкай пытаньня чытач дэзарыентуецца і не мабілізуецца на барацьбу з клясавым ворагам, кулацтвам, рэшткі якога, адчуваючы сваю пагібель, вядуць самае жорсткае змаганьне за сваё існаваньне. Вынікам гэтае барацьбы зьяўляюцца падпалы калгаснае маёмасьці, жывёлы, зрыў розных палітычных кампаній і наогул розная контррэволюцыйная агітацыя. Пастаноўка гэтага пытаньня аўтарам нічым не адрозьніваецца ад таго, што мы чуем ад ад'яўленых апартуністых, якія цалкам страцілі клясавае чуцьцё і ідуць на повадзе ў кулакоў ці іх агентаў і якія зазначаюць, што ў іх раёне, сельсавеце няма кулакоў, няма клясавай барацьбы.

Падобнага-ж парадку памылкі маюцца і ў арт. „Наша сяло“ (стар. 130), дзе аўтар, як ў казцы, малюе рост калгасаў. У яго ўсё ідзе надзвычайным лёгка, гладка і ня выклікае ніякіх клясавых супярэчнасьцяй. Батракі, бедната і серадднякі ідуць у калгасы, ліквідуюць кулацкія гаспадаркі, а кулакоў высяляюць і ні адным словам аб палітычным сэнсе ліквідацыі кулацтва, як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі. У кожнага чытача мімаволі ўзьнікае пытаньне, чаму і для чаго высылаюцца кулакі? На жаль трэба сказаць, што на гэтыя запытаньні чытач ня знойдзе адказу і ва ўсёй кнізе. Падобная трактоўка пытаньня калектывізацыі зьяўляецца зусім недапушчальнай таму, што яна толькі дапамагае нашым ворагам. Такім жа благадушшам аддае і ад рапарту калгасьнікаў (стар. 25). Зусім памылкова трактуецца шэфства (ст. 6-7, 24, 129), якое фактычна зводзіцца да сабесаўшчыны. Піянэр і рабочыя дапамагаюць калгасу ўласнай працаю і сродкамі і зусім не зьяўляюцца арганізатарамі калгаснай масы. Характэрным у гэтым сэнсе зьяўляецца артыкул на стар. 6-7. У гэтым артыкуле расказваецца аб тым, што калі на калгаснае поле і агароды напалі чарвякі, дык шэфы-піянэры, замест мабілізацыі ўсіх калгасьнікаў, мабілізацыі ўсіх сродкаў на барацьбу з чарвякамі капаюць самі навокал буракоў глыбокі роў, каб потым у працягу 2 тыдняў вартаваць каля рову і жменямі засыпаць чарвякоў. Гэта ў час разьвіцьця хэміі. Зусім не зразумела, чаму і для чаго патрэбен быў так памылкова надуманы артыкул.

На стар. 175 арт. „Няшчасьце Сьцёпкі“ напісан зусім непрадумана. Мараль артыкулу зводзіцца да таго, што ня трэба рабіць добрых учынкаў, таму што яны ўсёроўна кончацца дрэнна. Таксама зусім няўдалымі зьяўляюцца артыкулы „Як Язэп ехаў у горад на торг“ (стар. 50), „Паляваньне“ (стар. 66) „Цітмалацьбіт“(стар. 75) і інш.

На стар. 9 прыводзіцца расказ аб тым, як піянэры заўважылі ўзьлёт птушкі, сталі шукаць у траве і знайшлі гняздо з птушанятамі. Насабіралі чарвякоў і імі накармілі птушанят. Потым кожны дзень назіралі за гняздом. Падобны расказ можа даць толькі адмоўны эфэкт, бо ён фактычна прапагандуе разбурэньне птушыных гнёздаў.

У артыкуле „Як жывуць рабочыя ў Амэрыцы“ (стар. 20) слова „штрэйкбрэхер“ перакладзена амаль даслоўна— „ламацель забастоўкі“ і не дадзена ніякага тлумачэньня, чым зусім змазаны палітычны сэнс данага слова. У тэрмін „штрэйкбрэхер“ цяпер укладваецца зусім поўны клясавы зьмест, і аўтар ня мог гэтага ня знаць. Таксама недарэчным зьяўляецца пераклад „изобретение“— тэрмінам „выдумка“.

Нарэшце, трэба адзначыць, што калі аўтар у мэтах ілюстрацыі граматычнага матар'ялу яшчэ імкнуўся, хоць незаўсёды ўдала падабраць артыкулы, якія адбівалі-б сучаснасьць, то ён зусім гэтага ня робіць у аднасказных прыкладах. Тут мы бачым такія прыклады як „на дварэ хадзілі куры“. Трэба каня

запрагаць, а дугі няма. Ленаму цяжка ўцягнуцца ў работу. Ты зусім не гуляеш, і цераз сілу працуеш“ і інш. Зусім зразумела, што няма ніякай шкоды ад упамінаньня пра курэй, а падчас нават неабходна пра іх успамінаць,але калі чалавека гарне курiная сьляпата і ён губляе клясавую чуласьць, то тады зусім дрэнная справа. Аўтар упарта адхіляе прыклады якія характарызуюць спаборніцтва ударніцтва, барацьбу за прамфінплян, за якасьць прадукцыі, за гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў, за ператварэньне працы у справу гонару, справу гэройства і наогул сацыялістычнай перабудовы народнае гаспадаркі БССР.

Новае выданьне падручніка павінна быць сур'ёзна перапрацавана ў напрамку большага насычэньня яго камуністычным зьместам.

**Мік. Цыганоў і Я. Качур.**

## Не арганізацыя, а дэзарганізацыя працы.

*(Е. Кісялёў „Арганізацыя працы дзяцей і падлеткаў у калгасе“. Белдзяржвыдавецтва 1931 г.)*

Кніжка т. Кісялёва ёсьць пашыраны артыкул на тую-ж самую тэму, які надрукаваны ў часопісі „Шляхі калектывізацыі“ у №11 за 1930 г. і новых думак, якія-б дапамагалі вырашыць пытаньне арганізацыі дзіцячай працы ў калгасе, няма, наадварот, уей маецца шэраг недахопаў і няправільных установак, якія заблытваюць сутнасьць справы.

Пытаньне арганізацыі працы дзяцей і падлеткаў у калгасе—новае, а таму, каб меньш рабіць памылак у практыцы, неабходна ў тэорыі заняць марсысцка-ленінскую пазыцыю. Аднак, т. Кісялёў лічыць патрэбным гаварыць агульна, думкі свае фактамі не падмацоўваць, пытаньняў касацца павярхоўна, у выніку чаго перад чытачом пасьля чытаньня кніжкі паўстае пытаньне: „як арганізаваць працу дзяцей і падлеткаў у калгасе“?

Удзел дзяцей у вытворчай працы пастаўлен у асноўным палітэхнізацыяй школы; таму аўтар брашуры на гэтым застанаўліваецца. Аднак пытаньне вырашае нездавальняюча.

Наша задача ўцягнуць у вытворчую працу дзіцячую масу на падставе падпарадкаваньня яе вучэбна-выхаваўчым мэтам школы.

Уцягваючы дзяцей у вытворчасьць, трэба навукова падыйсьці да нагрузкі: улічваць узрост, фізычнае разьвіцьцё ды інш. для таго, каб выхаваць фізычна здаровага, з камуністычным сьветапоглядам, усебакова разьвітага чалавека, здольнага будаваць камунізм. Гэтага т. Кісялёў ня ўлічвае, наадварот, у шэрагу пытаньняў, напрыклад, нармаваньні дзіцячай працы, ідзе супроць асноўных палажэньняў марксысцка-ленінскай пэдагогікі.

Высунутае палажэньне аўтара аб тым, што асноўнай установкай павінна быць тое, „каб праца моладзі злучалася з падрыхтоўкай кадраў“ (стар. 17) і „асноўнай умовай для правільнага скарыстаньня дзіцячай працы ў злучэньні яе з вучобай“ (стар. 21), астаецца на паперы. Думка канкрэтнага выяўленьня не атрымала. Як зьвязаць? Мэта гэтай сувязі? Масаваму чытачу, калгасьніку, застаецца невядомай, а паміж іншым, вырашэньне гэтых пытаньняў дапамагло-б прасоўваньню ідэй палітэхнічнага выхаваньня ў масу, якая павінна ўдзельнічаць у палітэхнізацыі школы, і бяз удзелу якой справа адпаведнага размаху не атрымае.

Т. Кісялёў у брашуры піша спэцыяльны разьдзел „Школа і праца ў сельскай гаспадарцы“, з 22 радкоў і, па сутнасьці, ніяк не выяўляе ўдзелу школы ў працы калгасу, змазвае гэта пытаньне тымі некалькімі агульнымі сказамі, маючыміся там. Неабходна было-б у гэтым разьдзеле больш удзяліць увагі і стала застанавіцца на пытаньнях увязкі тэорыі з працай, на выяўленьні рабочых месц, бо пра іх не сказана ніводнага сказу, і нельга, нарэшце, устанавіць на якія працы трэба пасылаць дзяцей і падлеткаў, па ўдзел у якіх трэба забараняць. Аўтар брашуры гэтым пытаньнем, выразшэньне якога дапамагло-б правільнай арганізацыі працы і падпарадкавала-б апошнюю вучэбна-выхаваўчым мэтам школы, зусім не займаўся.

У брашуры не пастаўлена выразна пытаньне аб нармаваньні рабочага дню дзяцей і падлеткаў. На стар. 20 т. Кісялёў піша „Абмежаваньне рабочага дню ў калгасах зьяўляецца строга абавязковым“, а крыху далей: „для падлеткаў, якія ўваходзяць у школу сялянскай і калгаснай моладзі, а таксама наогул для ўсяго вучнёўства, у сельскагаспадарчай сыстэме вучнёўства, ня трэба вызначаць строгага ліку працоўных гадзін у суткі, а мэтазгодна рабіць так, каб узімку мела перавагу навучаньне, а ўлетку практыка,... каб агульная сума вучэбных і працоўных гадзін падлеткаў, узятая разам, не перавышала колькасьці нармальнага працоўнага дню рабочых“ (стр. 23—24) (курсіў наш Мік. Ц. і К.). Т. Кісялёў крыху ніжэй зноў вярнуўся да нармаваньня працы падлеткаў і піша ўжо наступнае: „Тэрмін працы ў гадзінах у суткі для падлеткаў па ўзростах вызначаць немэтазгодна, а ўсё павінна быць увязана з парою году“. (Стар. 26, курсіў наш).

З прыведзеных думак ня цяжка зрабіць вывад: працоўны дзень дзяцей і падлеткаў і ўсяго вучнёўства ў сельскай гаспадарцы зрабіць роўным дню дарослага калгасьніка, па-першае, а па другое, аўтар скаціўся ад строгага нармаваньня рабочага дню падлеткаў да немэтазгоднасьці „вызначаць строгі лік працоўных гадзін“. Захапіўшыся скарыстаньнем дзяцей і падлеткаў выключна як рабочую сілу ў калгасе, забыў аб падпарадкаваньні працы вучэбна-выхаваўчым задачам школы, сувязі тэарытычных ведаў з практычнай працай. Тав. Кісялёў лічыць мажлівым: „калі ў калгасе ідзе сьпешная сэзонная работа... вучні брыгады... могуць скарыстоўвацца на аднэй рабоце... ня больш як два тыдні адзін за адным“ (?) (стар. 27). Мы павінны падкрэсьліць, што пастанова ЦКУсеКП(б) жорстка ўдарыла па ўстаноўцы т. Кісялёва.

У брашуры адведзена месца пытаньню разьмеркаваньня моладзі на групы дзяцей і падлеткаў. Што пакладзена ў аснову падзелу? Невядома. Сам аўтар гаворыць аб гэтым наступнае: „Эканоміка сельскай гаспадаркі паступова настойліва патрабуе зьніжэньня практыкаваных адзначэньняў узроставых груп у сельскай гаспадарцы ў параўнаньні з прамысловаю гаспадаркаю. Калі ў прамысловасьці моладзь падзяляюць на ўзроставыя групы да 14 год—дзіцячая; ад 14 да 18 год—падлеткавая група, дык такая мерка (?) у сельскай гаспадарцы не падыходзіць,дзякуючы спэцыфічным асаблівасьцям сельскай гаспадаркі. У калгасах дзяцей- 12 гадовага ўзросту трэба лічыць дзіцячаю групаю, ад 12 да16 гадовага ўзросту—падлеткаваю. Такі падзел будзе больш адпавядаць для калгасу. Чаму гэта так, а не іначай, будзем гаварыць далей“ (стр. 17—18).

Што гэта за спэцыфічныя ўмовы, якія прымушаюць дзіцячыя і падлеткавыя групы будаваць гэтак, як гаворыць т. Кісялёў, а не іначай? Аўтар нічога не сказаў і абяцаньне, што „будзе гаварыць далей“, ня выканаў. Мы павінны адзначыць: падзел моладзі на групы павінен ісьці не па лініі мэханічнага падзелу па ўзросту. а на падставе дасягненьняў марксысцка-ленінскай пэдагогікі і пэдалёгіі.

У кніжцы некалькі разоў робіцца націск на тое, што пытаньне арганізацыі працы дзяцей і падлеткаў ня вывучана (стар. 14), справа зьяўляецца новай для нас (стар.32), але прыдзецца адзначыць, усё гэта ня можа зьяўляцца апраўданьнем памылак,

зробленых т. Кісялёвым у ягонай невялікай брашуры, якая не дапамагае арганізацыі працы дзяцей і падлеткаў, а дэзарганізуе яе.

Праца т. Кісялёва выяўляе дрэннае становішча справы арганізацыі працы дзяцей і падлеткаў у калгасе, працы, зьвязанай з тэарытычным навучаньнем і падпарадкаванай вучэбна- выхаваўчым мэтам школы. Неабходна асьветніцкай масе, разам з калгасьнікамі, узяцца за вывучэньне пытаньня, абагуліць вопыт працы ў гэтай галіне для лепшага і хутчэйшага вырашэньня пытаньня, для лепшае пастаноўкі палітэхнічнага выхаваньня дзяцей і падлеткаў.

*Рэдкалегія*—Брыгневіч, Вольфсон, Гайдук, Зарэміоўскі, Некрашэвіч, Панкевіч, Царт, Цмых.
*Адказны рэдактар* С. Гайдук.

